# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

# 7

**ДРАМАТЫЧНЫЯ ПАЭМЫ. П'ЕСЫ**

**Рэдактар тома**
**ВАСЮЧЭНКА П.В.**

**Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі**
**ЗОЛАВАЙ Э.А.**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
2001



# АДВЕЧНАЯ ПЕСНЯ

***У дванаццаці праявах***

ПРАЯВЫ

I. ХРЭСЬБІНЫ
II. НА СЛУЖБЕ
III. ВЯСЕЛЛЕ
IV. ВЯСНА
V. ЗА САХОЮ
VI. ЛЕТА
VII. КАСЬБА І ЖНІВО
VIII. ВОСЕНЬ
IX. СВЯТА
X. ЗІМА
XI. ХАЎТУРЫ
XII. НА МОГІЛКАХ

## I. Хрэсьбіны

**Вясковая ўбогая хата. Ноч. Усе спяць. У асінавых начоўках, аберчанае зрэбнымі пялёнкамі, ляжыць дзіцянё. Над ім з'яўляюцца цені і пяюць.**

Жыццё

Ўсясільнай рукою тварэння
Даю яму права існення,
На ўласнасць ваду і зямлю,
Душу яму такжа даю.

Пад ўладай сваёй будзе меці
Як ёсць усё чыста на свеце;

Ён будзе ўсіх чыста дужэй,
Ён будзе ўсіх чыста мудрэй.

І рэкі, і долы, і горы
Яго будуць слухаць з пакорай;
Там высуша, там правядзе,
Там зрые, а там узнясе.

Лясы ён аберне на поле,
Ўсялякія ўстроіць будоўлі:
Святыні пад неба зірнуць,
Цямніцы пабелай бліснуць.

Так будзе ён царам прыроды,
Сам найдасканальшага роду,
І будзе цар гэты навек
Названне насіць — чалавек.

### Доля

Яму буду я напяваці
Аб радасці, славе, багацці,
Дзе шчасця палае прасвет,
Як самага сонейка цвет.

Ён, чуючы гэтыя песні,
Не раз загалосіць балесне
І страшнай азвецца кляцьбой,
Бяссільны жыць вечна са мной.

І стане ганяцца за мною
Ён думкамі, сэрцам, душою,—
Я, песню прапеўшы, ўцяку
Ці ў поле, ці ў лес, ці ў раку.

І будзе так жыць і маліцца,
Сваёю няўдачай хваліцца
Стварэнне жыцця — чалавек,
Аж ляжа ў зямельку навек.

### Бяда

Во! тутка маё панаванне!
Са мной ён і ляжа, і ўстане.
Вясна, лета, восень, зіма —
Я з ім, як царыца сама.

Напрасна мяне будзе гнаці:
З ім буду за хатай, у хаце,
  І так ён зжывецца са мной,
  Што стану яго я душой.

На плечы ўзвалю горб вялікі,
Абую ў лазовыя лыкі,
  Як ночай, хай блудзе па дню,—
  Прасветласць я выдзеру ўсю.

Голад і холад
*(разам)*

Мы будзем хадзіць за ім парай,
Наводзіць балесці і хмары,
  Душой і хацінай трасці,
  Адвечныя казкі плясці.

Хай чуе і сілен, і молад,
Як страшан і голад, і холад,
  І рыне ў магільны пясок
  Праз сцюжу, праз хлеба кусок.

Хор

Гэй, спраўма над ім тут хрысціны
Слязы і крыві церушынай!
  Хай будзе ні мал, ні вялік,
  Няхай носіць імя: Мужык.

Дзіцянё заплакала; цені разбягаюцца і нікнуць.

## II. На службе

Дворны папар, лагі. Недалёка лес. Дзень хмуры; слата. Пасецца скаціна; каля яе снуе маленькі пастушок. Апратка ў яго паабрываная. Босы. У зазябнутых руках трымае бяроставую трубу. З лесу дарогай паказваецца кабеціна — яго матка.

Пастушок

  Ў сваёй хатцы і пры матцы
    Жыў не жыў,
  Бяда выпхнула бадзяцца,
    Ў свет пабрыў.

Кожны гоніць, папіхае,
Свой, не свой.
Ой ты, служба, ой, благая,
Божа мой!

Ой ты, доля пустасейна!
Рад, не рад;
Далі кут, і той не пэўна —
Да Каляд.

Нясуць хлеба ці да хлеба
І глядзяць:
Ведай, есці шмат не трэба...
Ўзяць?.. не ўзяць?

Воўк, ваўчыха за гарою
Завядзе...
Ні пристання, ні спакою,
Ой, нідзе.

Матка
*(падыходзячы)*

Што не весел так, сынулька
Мой жа ты?
Табе кланяўся татулька
І браты.

Гавары ж ты мне, мой мілы,
Родны мой,
Як там служба, як там сілы,
Як з ядой?

Ці кусочак калі ласы
Паднясуць?
Ці не крыўдзяць калі часам,
Ці не б'юць?

Калі ж прыйдзе тое святка
З ласкай тэй,
Не расстанешся ты з хаткай
Са сваей?

Пастушок

Як у службе сходзяць леты —
Ў пастуха,

Пытай, маці, птушкі гэтай —
Канюха.

Запытайся гэтай хмары —
Гэтых слёз,
Гэтай кветкі на папары —
Гэтых лоз,

Гэтай грушы сярод поля
І балот:
Яны ўсе аб маёй долі
Вядуць шчот.

Матка

Не хачу я іх пытаці,
Мой сынок,
Не пацешаць яны маці,
Сакалок.

Калыхала, гадавала,
Як магла,
А цяпер што дачакала?
Што найшла?

Пастушок

Не плач, маці, і не злуйся
На жыццё,
Як я ў сілачку ўбяруся,
Змагу ўсё.

Вечарэе. Пастушок гоніць скаціну дамоў. Маці, пахліпваючы, ідзе ўслед за ім.

## III. Вяселле

Хата ў маладога. Шмат народу. Стол повен гарэлкі і ўсялякай яды. За сталом сядзяць на лавах: сват, свацця, маладыя, закоснік, маршалак, дружкі і прыданыя; усе вясёлыя. Музыка, гульня.

Сват

Вось дзе, братцы, разгуляцца!
Вось пацешыцца калі!

Хоць бярыся распраніся
Ды упрысядкі валі!

Звоняць чаркі, трашчаць скваркі,
Лопат, гоман, смех і крык.
Во! сяло дзе ходам ходзіць,
Гора дзе забыў мужык!

Гасцей поўна, усё роўна,
Як дзе сходка ці кірмаш.
Ёсць Марыся, Дамініся,
Юрка, Саўка і Тамаш.

Як належа, ў скрыпку рэжа
Наш музыка, наш Аўлас;
За ім следам, як за дзедам,
Б'е у бубен Апанас.

Трылля! трылля! вось кадрыля,
Вось лявоніха ідзе,
Валяць проста, як бы з моста,
Як ніколі, як нідзе!..

Сваацця

Вось забава! вось так слава
Маладому, маладой!
Усё ладам і з парадам
І пастаўлена парой.

Кругом шчыра, сала, сыраў —
Хоць ты сліну палыкай,
Тоўста, густа хлеба лустаў —
А пірог! а каравай!

Дзеўкі з твары, як бы ў жары,
Як бы сонца каснікі,
Ну, а мальцы — ліжы пальцы!
Вось яны! вось дзецюкі!

Ненарокам, бокам-скокам,
Не гулялі так даўно.
Гоп-ля! сваце, паскакаці!
Ну вяселле! ну яно!

Малады

Хто вясёлы, хоць і ў горы,
Таму слава, таму чэсць.
Чым багата, рада хата,
Не жалейце піць і есць!
*(Да маладой.)*

Ты, сястрыца, дось смуціцца,
Уздыханне ў кут пашлі,
Еш, лябёдка, запі водкай,
Душу песняй весялі!

Кончым зараз гэты галас,
Гульня пойдзе за ніштo;
Зажывём мы па-сваёму,
Як ніколі, як ніхто.

Маладая

Гуляй, мілы, колькі сілы!
Не ўважай нуды маей:
Я паплачу, знамо, бачу
Чужу хату і людзей.

Чужа хатка, бацька, матка,
Сама тутка першы раз;
Ныюць грудзі, што то будзе?
Што чакае ў жыцці нас?

Хор

Рэдкі смехі і пацехі,
Часты слёзы і бяда!
Ё часіна, ё скрыпіна —
Весяліся, грамада!

**Сват вылазіць з-за стала і сыпле лявоніху са сваццяй; за ім малады з маладой і ўся дружына.**

## IV. Вясна

Раніца. Вясковая хата: выгляд непрытульны і ўбогі. Праз маленькае аконца прабіваецца бледнаваты бляск. Цемнавата. Мужык сядзіць на палу, звесіўшы ногі, курыць люльку і глыбока нешта думае. Уваходзіць Вясна: на галаве ў яе з кураслепу і пралесак вянок, у руках разарваны ланцуг.

Вясна
*(з рызыкай, тоненькім голасам)*

Ну, як дуж, мужычок?
К табе ў госці іду.
І каб жыва, набок!
І бяду, і нуду!

Пратры вочы са сну,
Марш к другому жыццю!
Ладзь саху, барану
І сявалку сваю!

Ўжо прасохла ралля,
Ўжо рунее трава,
К сабе кліча зямля —
Ты ў яе галава.

Табе рэчкі бурляць,
Табе кветкі цвітуць,
Табе пушчы шумяць
І зязюлі пяюць.

Ды і сонца, глядзі,
Гэтак свеціць не зра.
Ну ідзі! ну ідзі!
Араць, сеяць пара!

Мужык
*(штохвіля ўздыхаючы)*

Ўжо ўстаю, ўжо іду,
Ясна пані Вясна,
Толькі вось, на бяду,
Зерня [redacted] севу няма.

Трохі нешта было,
Што мне Восень дала,
Вось Зіму нанясло,
І ўсё чыста звяла.

Апаследні мяшок
К Калядам я змалоў,
Цяпер свіран і ток
Як хто махалам змёў.

І сам сеяць я рад,
Ды, як бачыш, з Каляд
Усё выбраў да дна.
Ой, Вясна! ой, Вясна!

Вясна

Што мармочаш ты там?
Няма часу чакаць,—
Табе раду я дам,
Як бяду ашукаць.

Асмель трохі сябе,
Пыху з сэрца зніміі
І насенне к сяўбе
З магазына вазьмі.

Брацъ не прыйдзецца шмат,
Які пудзік, другі,
Бо, як чула я, брат,
Шнур твой вельмі вузкі.

Мужык

Міла рада твая,
Ясна пані Вясна,
Дый, як свет пазнаў я,
Мне вядома яна.

Знаю я магазын,
Толькі з ім з году ў год
Адзін выхад, адзін:
Недарод, недарод.

Вясна

Бог з табой! — я іду
Падаць Лету наказ;
Адно скем: я ў гаду
Не бываю двух раз.

Адыходзіць. Мужык злазіць з пала, бярэ з калка хамут і дугу, выходзіць з хаты. Сонца прыветліва заглянула ў аконца.

## V. За сахою

Поле. Неба яснае. У недалёкай зялёнай дуброве кукуе зязюлька. Мужык арэ. Конік, малы і худы, штомінуту прыпыняецца. Над галавой аратага пяюць жаваранкі. Гасцінцам прыбліжаецца падарожны.

Араты
*(ходзячы за сахой)*

Гэй жа, баразною,
Косю мой маленькі,
Гэй жа, за сахою,
Селянін худзенькі!

Гэткае раздолле
На усе староны!
Выарам мы поле
Ў скібіны, ў загоны.

Зерне ў полі зложым
Жменяй спрацаванай;
Зарунейся збожжам,
Цьмяная паляна!

Пройдуць гэтта людзі,
Бедны і багаты.
Дзіўна, дзіўна будзе,
Што зрабіў араты?

Гэй жа, баразною,
Косю мой маленькі!
Гэй жа, за сахою,
Селянін худзенькі!

Падарожны
*(падбліжаючыся)*

Гэтак з песняй, гэтак,
З верай і надзеяй
Кожны свой палетак
Хай арэ і сее!

Ці дождж залівае,
Ці вецер бушуе,
Птушка ані дбае,
Гнёзды ўе, будуе.

Не пытаў араты
Свайго шчасця, долі,
Што дадуць зярняты,
Кінутыя ў полі.

Гэтак з песняй, гэтак,
З верай і надзеяй
Кожны свой палетак
Абарэ, засее!

Араты
*(як бы сам да сябе)*

Тупы штось нарогі,
Конь ісці не хоча,
Млеюць рукі, ногі,
Пыл засыпаў вочы.

Ліха чуць старое —
Ломіць косці, грудзі.
Жонка, як на тое,
З полуднем марудзіць.

Гэй, спачыньма, косю!
Люльку закуру я,
Можа, праца после
Лепш памашыруе.

Падарожны
*(мінаючыаратага,
кланяецца)*

Памажы вам Божа,
Спрацаваны браце!
Выараў прыгожа,—
Толькі засяваці.

Знаць, жывеш шчасліва,
Маеш хату, поле...
Дзе ж мой дом? дзе ніва?
Доля ж мая, доля!
*(Ідзе далей.)*

Араты

Ён ідзе і плача,
Я плачу парою...

Эй, ты, небарача,
А дзе шчасце тое?

Выпрагае каня.
Жонка ў спарышах прыносіць полудзень.

## VI. Лета

Поле. У далі кругом чарнеюцца лясы. На ўзмежку пад дзікай грушай сядзіць, задумаўшыся, Мужык, напроці яго вёска, далей гасцінец і двор, акружаны прысадамі і садамі. Налева залітая паводкай сенажаць, направа абсеяныя шнуры; ярыну ўсю пакрывае свірэпка, жыта напал з гірсой і званцом пагерсана градам. З усходу на небе падымаецца хмара — чуваць гром. К Мужыку падыходзіць Лета, трымаючы ў адной руцэ серп, а ў другой касу.

Лета

Што задумаўся так, Мужычок?
Варта глянуць крыху весялей!
На! касу, малаток і брусок,
І сярпок на! для жонкі тваей!

Званцом шастае ўжо сенажаць,
Цецярэе жытцо і ячмень;
Час на гвалт і касіці, і жаць:
Не на тое настаў Пятроў дзень.

Час такі: ад зары да зары...
Калі ўздумаеш сілы жалець,
Дачакаешся гэткай пары,
Што прыпомніць табе гэта клець,

Што прыпомняць і дзеткі тваe,
І скацінка прыпомніць твая,
А Зіма ж запяе, запяе,
Хоць памры — ні жыцця, ні пуцця!

Бяры ж, на! што табе я даю;
Спадкі мне адказала Вясна.
Ідзі працу збіраці сваю,
Сваё дзела даводзь да канца!

Мужык
*(водзячы блуднымі вачыма)*

Што? куды ты мне кажаш ісці,
Лета яснае, жаць і касіць?
Лёгка песні такія вясці,
Але спробуй на дзеле пажыць.

Свой лажок я падчысціў вясной;
Сеяў шнур — у доўг даў магазын,—
Цяпер, глянь! луг занесен вадой,
Колас, глянь! ці ёсць цэлы адзін.

Еў, не еў, ці адзет, не адзет,
Да ўсяго я ахвотны ў людзей;
З маёй сілаю лічыцца свет,
Чым жа, чым я на ніве сваей?

Не ўзнімаецца к працы рука:
Апрацівела гора, жыццё.
Эх ты, доля-бяда мужыка,
Ой ты, Лета, ой, Лета маё!

Лета

І не стыдна ж табе век-вяком,
Хоць і дуж, як той дуб векавы,
Вясці гутарку ўсё са плачом,
Ніжэй гнуцца павялай травы!

Нараканнем не зможаш бяды,
Хоць дзень, ноч наракай, небарак:
Шчасце ходзіць гады у рады,
Абмінаючы вёску ўсяляк.

Вось, як ведаеш, і ў цябе госць,
Не драмлі ж, як пад лавай тапор,
Заработкі ў дварэ, чула, ёсць,
Шнур збірай свой ды жыва у двор!

Мужык

Двор я знаю даўно, ой, даўно!
З году ў год я там сілу ўсю ўпёк;
Калі ж гляну, выходзіць адно:
Пуста хата, свіронак і ток.

Вынімала мне паншчына дух,
Зжыў яе — думаў, воля дасць хлеб,
І ці звёў, ці не звёў той ланцуг,
Як за паншчынай, бедзен і слеп.

Лета

І паехаў жа, братка ты мой...
Невялікі, знаць, толк выйдзе ў нас:
На! касу, серп — ваюй хоць з бядой!
Іду Восені выслаць наказ.

Кідае касу і серп Мужыку пад ногі і адыходзіць. Мужык вострыць касу, прабуе на ўзмежку і, мінаючы вёску, ідзе ў двор. Бура пачынаецца на добрае; бліскае маланка; штораз мацней грыміць гром. Б'е пярун. Пасыпаўся дождж з градам.

## VII. Касьба і жніво

Сенажаць і поле, што каля грушы. Гарачыня стаіць аднязносная. Мужык, расхрыстаўшыся, косіць. Жонка ў аднэй кашулі жне; пры ёй на козлах, абвешаных пасцілкай, вісіць у начоўках дзіцянё; двое меншых поўзае ўслед за маткай.

Мужык
*(абціраючы пот рукавом)*

Эх, труды, труды
Непазбытыя!
Эх, каса, каса,
Потам злітая!

І калі ж з табой
Мы, сталёвая,
Здабываць пайдзём
Шчасце новае?

Век звініш, свішчыш,
Адкляпаная,
Век плыве сляза
Неўніманая.

Там гудзе віхор,
Лес хістаецца;

Там пяе касец,
Пацяшаецца

Эх, труды, труды
Непазбытыя!
Эх, каса, каса,
Потам злітая!

Жонка
*(абкручваючы нагу, параненую аржоннем)*

Не палі агнём
Гэтак, сонейка!
Не калі мне ног
Так, аржонейка!

Трудна спіну гнуць
Спрацаваную,
Каласы збіраць
Паваляныя.

Дабрыцом-сцяной
Не пахвалішся,
Кроў і пот ліеш,
Заліваешся.

Ўсюды Бог гасціў
З сваёй ласкаю,
Толькі крыў, мінуў
Ніву хамскую.

Мужык

Ўжо каса мая
Прытупілася:
Не бярэ сіўца,
Замарылася.

Пакляпаць пайду
Там на межачцы
І бруском звяду,
Як належыцца.

Дый ў ход зноў пушчу
Пад песнь слёзную,

Хай зноў бачыць свет
Сілу грозную.

Жонка
*(выцягваючы стрэмку з пальца)*

Дзіцянё ў казлах
Адзываецца;
Пагляджу пайду,
Як там маецца.

Ох, каб так шнурок
Свой счырыкалі!
Ўжо за пашу ў двор
Адбыць клікалі.

Мужык і Жонка
*(разам)*

І жыццё ж, жыццё
Беспрасветнае!
Ці не лепей ты,
Апраметная!

Мужык садзіцца кляпаць касу, а жонка ідзе к козлам і корміць грудзёй дзіцянё.

## VIII. Восень

Досвітак. Ток. Бледна курыцца на сцяне газоўка. Мужык малоціць. Цэп гудзе. Яму, глуха заводзячы, падцінае вецер. Дзверы адчыняюцца, уваходзіць Восень. У адной руцэ трымае пук усялякіх павялых зёлак, у другой — пусты мех.

Восень

Я усюды хадзіла,
Я усюды была,
Як дзе што урадзіла,
Я рахунак вяла.

І к табе во зайшлася
Паглядзець, запытаць,

Як ты жыў, як спраўляўся,
Што відаць, што чуваць?

Вясна, Лета блудзілі
Па ўсёй чыста зямлі;
Ці ж пароўні дзялілі,
Роўна ўроду няслі?

Цябе з краю да краю
Было ўсюды ўдаволь:
Даказаў дзіваў, знаю,
Твой і пот, і мазоль.

Дык як з кормам? як жыта?
Двор то мае чым жыць:
Сенам пуня набіта,
З дабром ток аж трашчыць.

Мужык

Восень, ясная пані,
Глянь! я лгаць не хачу —
Да паўзімкі не стане,
Як лічу, не лічу.

Няма штосьці ўмалоту,
Ды і што малаціць?
Копкі дзве акалоту,
Грэчкі з возік ляжыць.

З копку яркі, ячменю,
Трохі сена, аўса...
Вось і хлеб, і насенне,
І за труд плата ўся!

Пры стале ж сядзе спора
Спажываці дары
Жонка, дзетак сямёра
Ды татуля стары.

Восень

Праўду вашэць гамоне:
Бог не вельмі ўспамог,
Але ты не сягоння
Так устаў, так і лёг.

Вось і сёлета трэба
Дацягнуць да канца,
Прыкупі з пудзік хлеба
Да пазыч з воз сянца.

Пудзік хлеба з мякінай,
Груцы, бобу крыху,
Якой бульбы асьміну —
Ці ж не дось мужыку?

Мужык

Ну і рада, ой рада!
Дакупіць, дакупіць!..
Дзе ж капейка у «гада»?
Дзе яго скарб ляжыць?

На насенне, на страву
Трос вясной кішанёй,
Летам штраф за «патраву»;
Воласць не за гарой.

Восень

Як гляджу, ўсё находжу
Недастаткі адны,
Будзь здароў! Я адходжу
Да суседкі Зімы.

Выходзіць. На дварэ вецер вые штораз мацней. Каплі сцюдзёнага дажджу шлёпаюць аб гнілыя сцены. Мужык набірае ў рэзгіны вязку саломы і ідзе даваць скаціне. Дзверы са скрыпам зачыняюцца.

## IX. Свята

Хата, што і вясной. На стале ляжыць стус грачаных бліноў. На палку ляжаць двое хворых дзяцей; другія босыя і ў адных кашулёнках поўзаюць каля маткі па хаце. На печы крэкча бацька стары. Мужык сядзіць на лаве і пад нос мармоча.

Мужык

Ну, ламака, ну, хамула!
Ці ж стагнаць не годзе?

Што мінула, то мінула,
Болей не прыходзіць.

Пёкся, пёкся вясну, лета,
Аж толькі дзяржыся,
А цяпер спачынь за гэта
Ды павесяліся.

Трохі жонка хваравіта,
Трохі хворы дзеці,
Выпі чарку! ну і квіта!
На што там глядзеці?

Юрку варта бы да школы,
З гора, пасылаці!
Не шлі: будзе, як ты, голы,
Хай сядзіць у хаце...

Насці трэба чаравікі,
Кажушок Сымонку,
Ну, на гэта час вялікі...
Пара ж і ў карчомку!

Жонка

Што ты там бурчыш пад носам?
Скрабеш каля вуха?
І ўдаеш паглядам косым
Вялікага зуха?

«Пагуляці... да карчомкі...»
Вось дык малайчына!
А дзе лапці ў тваёй жонкі?
Дзе дровы, лучына?

Трэба новае карыта,
Каптан Зосі трэба,
Просіць фельчара Мікіта —
Ўжо не есць і хлеба.

Не табе спачыць, хамуле,
Не табе спяваці,
Не да смеху, не да гуляў,
Калі бяда ў хаце.

Стараста
*(уваходзіць, трохі падпіўшы, з нейкай смешнай важнасцю і строгасцю)*

Вось і трапіў к вам нарэшце...
Ну рыхтуйся, братка!
Кішанёй мусіш патрэсці:
Трэба нам падаткаў.

Трэба чыншу, трэба «пені» —
Быў прыказ з павету,
Каб за тыдзень непраменне
Ўнесці дробязь гэту.

Дык спраўляйся ж і то лоўка!
Бо не жыць і ў хатцы,
І з апраткай, і з кароўкай
Прыйдзецца расстацца.

Магазыннік
*(уваходзіць таксама п'янаваты)*

Пахвалёны вам, суседзе!
Як дуж, як здароўе?
Ўжо і зімка да нас едзе —
За даўгом прыйшоў я.

Аўса бочку, чвэрць ячменю,
Са дзве чвэрці жыта
Аддаць мусіш непраменне —
Тады будзе квіта.

Мужык

Ну і што? і больш нічога?..
І дакуль так будзе?
Ані сэрца, ані Бога...
Ну жыццё, ну людзі!

Хватае за шапку і ўцякае са сваёй хаты. Жонка ўцірае хусткай слёзы. Стараста і магазыннік высоўваюцца на двор.

## X. Зіма

Лес. Унізе на дрэвах вісіць кругом шэрань. Мужык у палатаным кажуху, у лямцовай шапцы стаіць па калені ў снезе і сячэ таўстую хвойку. Здаля прыбліжаецца Зіма. У яе ў адной руцэ кавадла і молат, у другой жмут жалезных путаў. Як ідзе, молат ударае аб кавадла, а ланцугі бразгаюць.

Зіма

Як жыў, як дуж, як маешся?
Ці жыці не дакучыла?
Усюды я шатаюся
І да цябе во лучыла.

Кандалікамі звонячы,
Іду к табе — ўсясільная,
На долю тваю помнячы,
Іду к табе — магільная.

Над цэлай над старонкаю
Я паняй разгасцілася;
Мой снег ляжыць пялёнкаю,
Ў мой лёд рака пакрылася.

Гуляю я з марозамі,
Гуляю я са сцюжамі,
Смяюся я над слёзамі
І ўсіх, і ўсё я дужаю.

Кінь выгляд акалелага,
Прысядзь во на калодачцы!
Крапчэй ты свету цэлага,
Ну, што? Каб нам паходацца?

Мужык

Ой, Зімка, пані ясная!
Не варта наругацiся,
Прытыкі кінь напрасныя:
З кім тут за плечы брацiся?

Я з сілаю разлучаны:
Ў палях, лугах загінута...
Няўдачамі замучаны,
Пацехамі пакінуты.

Рукою чуць пакратаю;
Не муч жа абарванага!
Пад футры йдзі багатыя,
Ў палацы мураваныя!

Сям'я мая галодная,
Хаціна мая хіліцца.
Ідзі, Зіма нягодная!
Не дуж з табою сіліцца.

Зіма

Не дам ніколі веры я
Тваёй брахні ап'янчанай,
Што гора цябе мерае,
Што слёзамі ты няньчаны.

Каму ж тут хвойкі валяцца
Рукою мазалістаю?
І шуркі каму ставяцца
На пасеку на чыстую?

Ці ж хата з хвойкі зваленай
Не грэта, не пастаўлена?
Ці ж пасека не сеяна,
Сахой тваёй абнесена?

Мужык

Туды, ў краі далёкія,
Як дні мінуць кароткія,
Сасоначкі высокія
Плывуць ракой-паводкаю.

Гасцінцамі, дарогамі
У горад шуркі цягнуцца,—
Не за маймі парогамі
Скарб пасечны хаваецца.

Зіма

Табе жыццё, знаць, сцелецца,
Як бы сама нуда тая;
Пашлю ўдабаў мяцеліцу,
Няхай з бядой рассватае.

Адыходзіць. Пачынаецца мяцеліца. Цямнее. Хвойка, падсечаная, з трэскам і грукам валіцца і забівае Мужыка. Стада згаладалых ваўкоў прыбліжаецца к нябожчыку. Лес стогне.

## XI. Хаўтуры

Хата. Насупроць дзвярэй у белай дамавіне ляжыць Мужык. Сталяр раскідае палок, бярэ дошкі з яго і робіць века к дамавіне. За сталом суседзі пяюць па нябожчыку. Жонка галосіць і прыгаварвае. Дзеці хліпочуць. Стары бацька, крэкчучы, злазіць з печы. Мяцеліца шуміць. У коміне жаласліва вые вецер.

Жонка

А мой ты сакалочак!
А мой ты каралёчак!
Ляжыш, не ўстанеш болей...
О доля ж мая, доля!

Без часу смерць-магіла
Жыццё тваё скасіла;
Ў няшчасную гадзіну
Сіротачак пакінуў.

Сіроткі ўсе малыя,
І есць не маюць тыя,
І дроў няма палена,
І ў пуні няма сена.

Як жыў, як ты свет бачыў,
Усё ж было іначай,
Ці ў полі ты... ці ў людзі...
Што з намі цяпер будзе?

Нашто на свет раджацца,
Хто мае з ім расстацца,
І горкі жаль кідаці
Ўдаве, бацькам, дзіцяці...

Бацька
*(уціраючы няўзнак слёзы)*

Дзяржыць бяда старога,
Хаваюць маладога;
Забрала дамавіна
Не бацьку, але сына.

Не месца мне у хаце:
Не дуж я працаваці;

Пры кім дажыць тут веку
Няшчаснаму калеку?

Вазьму я хіба ўнука,
Ці ў свет ісці навука? —
Пайдзём ад хат да хаты
І к бедным і к багатым.

Збірай, стары, хатомкі,
І зрыўкі, і атопкі:
І жыва з хаты роднай
На сівер на нязводны!
*(Выцягвае з-за печы лахманы і атопкі.)*

Сталяр
*(кончыўшы века да труны)*

Як згаварыці слова,
І века ўжо гатова,
Закрыць дамоўку можна,
Падходзь прашчацца кожны.

Падходзь, чужы і хатні,
Заглянуць раз астатні
Вось на таго, што дзетак
Без часу кінуў гэтак.

Не кепскім быў суседам:
Шоў прадзедаўскім следам,
Не крыўдзячы нікога;
Цярпеў сам крыўдаў многа.

Меншы сын
*(цалуючы нябожчыка ў руку —
да маткі)*

Чаму, скажы, матуля,
Прыбраны так татуля
Ляжыць у гэтай скрыні
Такі халодны, сіні?

Большы сынок

Не лезь ты без патрэбы:
Душа ўжо таткі ў небе.
Не ўстане і налета;
Памёр ён, значыць, гэта.

Дзеці адступаюцца; падыходзяць прашчацца другія. Сталяр забівае векам дамоўку. Суседзі бяруць нябожчыка на плечы і выносяць з хаты.

Хор

Рай светлы, бесканечны
На судзе астатэчным
Дай, Божа, ўсім загнаным
На векі векаў. Аман!

Жонка і дзеці галосяць. Бацька, абвешаны торбамі, забірае ўнука і ідзе ў свет. Хата застаецца пустая. Чутны званы. Выюць сабакі.

## XII. На могілках

Цёмная ноч перад Узвіжаннем. Могілкі. Лётаюць совы і кажаны. На паваленым крыжы сядзіць цень Мужыка.

Цень Мужыка

Што насып размыла жвіровы?
 Што спаць мне ў зямлі не дае?
Чаго кажаны тут і совы
 Зляцелісь на косці мае?

Прэч, гадзіны, сліўні, рапухі!
 Хоць згіньце ў праметнай на́ дне.
Благія і добрыя духі,
 Прыблізьцеся жыва ка мне.

Так спаць неахвота век цэлы;
 Мне хочацца ведаць, пачуць,
Што чутна на свеце на белым?
 Патомкі мае як жывуць?

Ці досыць ім хлеба, да хлеба,
 Як добра ім плаціць зямля?
Ці ласкі ад свету, ад неба
 Не маюць, як некалі я?

Ці песні пяюць, ці, як мухі,
 Ў цянётах гніюць павука?

І ўсё гаварыце мне, духі,
Што зроблена для мужыка.

Злятаюцца тыя ж самыя духі, што пры хрэсьбінах. Верцяцца каля Мужыка і папераменна пяюць.

Бяда

Мы скажам табе ўсё з ахвотай,
Па смерці тваёй што зайшло:
Не зломлены к шчасцю вароты,
Слязы не ўбыло,— прыбыло.

Голад

Ўсміхаюцца пусткай папары,
Урода не йдзе, як не йшла.
Па небе за хмараю хмара
Плыве і плыве, як плыла.

Холад

Хаціна згнівае у плесні,
Хаўтурны не зводзіцца звон,
Пад дзікія ветравы песні
Пракляцця разносіцца стон.

Хорам

Завалены сцежкі к прасвету
Крыжамі бясчасных магіл,
А брат твой, мужык, без прывету
Ва ўсім гэтым чахне без сіл.

Доля

Табе яшчэ ведаць цікава,
Што стала з сынамі тваймі?
З усякай вялося ім славай,
Усяк ім жылося з людзьмі.

Адзін, як і ты, шнур пахае,
Карчомкай душу весяліць,
Другога чужына змагае,
А варта пры трэцім стаіць.

Чацвёрты у здзеку загінуў,
За праўду, за крыўду сваю,
Руку адсек пяты машынай
І торбаю корміць сям'ю.

Жыццё

Ну, што? Як старонка, як дзеткі,
Як што між людзьмі, ці звярмі?
Я лоўка расставіла сеткі!
Папробуй расплутай вазьмі!

Я сілам цямрычным у рукі
Няпраўд пустазелле дало,
Хай сеюць знішчэнне і мукі,
Хай корча ўсіх змога і зло.

Цень Мужыка

Не міла мне слухаць, не міла
З зямлі маёй гэткі прывет.
Раскрыйся нанова, магіла:
Страшней цябе людзі і свет.

Магіла раскрываецца. Чутна запяяў недзе певень. Духі разлятаюцца. Нікне цень Мужыка. Перагукваюцца з зайцамі совы. У паветры лапочуць крыллямі кажаны і начніцы.



# СОН НА КУРГАНЕ

*У чатырох абразах*

АБРАЗЫ

I. У ПУШЧЫ

Сам. Русалкі

II. НА ЗАМЧЫШЧЫ

Сам. Чорны. Відмы

III. ПАЖАРЫШЧА

Сам. Пагарэльцы. Вясельная дружына. Прыстаў

IV. У ШЫНКОЎНІ

Сам. Шынкар. Дзяўчаты. Госці. Стражнік

## I. У пушчы

Восень. Ноч. Лес. Глуха шумяць калыханыя ветрам елкі і сосны; скрыпяць асіны і бярозы; з шэлестам валіцца на зямлю трупяжоўтае лісце. Паміж трох адвечных дубоў — мохам і галлём услалы ўзгорак-курган; над ім, зачапіўшыся валасамі за галіны дубоў, вісяць тры русалкі і калышуцца. З усёй мясціны вее бязлюддзем, чарам і жудою.

Русалкі
*(разам)*

Гу-та-та, гу-ля-ля,
Гу-ля-ля, гу-та-та!

Ад сучка да сучка,
Ад куста да куста!
Ха-ха-ха! Вось яно,
Вось русалак жыццё,
Пушча — сосны, дубы —
Вось і царства усё.

Жывём самі сабой,
Самі ўмеем мы жыць,—
Ніхто есць не дае,
Не дае ніхто піць.

Днём ляжым, днём маўчым,
Як не жывы мы днём,
А як ночка прыйшла —
Мы жывём, мы пяём.

Так калышамся мы
Ад куста да куста...
Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гу-ля-ля, гу-та-та!

Чуваць, затрашчалі сухія сукі ад нечых ног.

1-я русалка

Ці вы чулі, ці не?
Штось трашчыць каля нас.

2-я русалка

Чула таксама я,
Вось напроці якраз.

3-я русалка

Пэўна, воўк ці мядзведзь,
Бо хто ж гэтай парой?..
Як вядома, хадзіць
Яны любяць сюдой.

1-я русалка

Стукат толькі дзвюх ног.

2-я русалка

Ну, і што ж там за дзіў:
Ў госці к нам чалавек,
Не інакш, заблудзіў.

Усе тры
*(разам)*

Чалавек, чалавек!
Нездарма пелі мы.
А цяпер хто куды,
Як начніцы, як сны.
*(Адчэпліваюцца і разбягаюцца.)*

Сам
*(выходзіць, разглядаючыся)*

Хаджу і блуджу [illegible]
Ўжо колькі гадзін
І, дзе ні ступлю я,
Не бачу пуцін.

Дубы ды хваіны,
Бярозы, вязы;
Скрыгочуць асіны,
Шыпяць верасы.

Кругом нейкі шорах;
Жуда, пустата;
Па долах, па ўзгорах
Лягла цемната.

То нешта смяецца,
То нешта пяе,
То кліча, здаецца,
То тут жа снуе.

Гоп, гоп! Не чуваці!..
Адказу няма.
Ой, пушча, ой, маці!
Ты зводзіш здарма.

Ох, зводзіш здарма ты,
Наслаўшы ламоў!
Я траплю дахаты,
Я траплю дамоў!
*(Пайшоў далей, разглядаючыся.)*

Русалкі
*(выбегшы з-за кустоў, разам)*

Ха-ха-ха, вось дык госць,
Як з зямлі, як з травы!

Чалавек, як і ёсць —
З галавой і жывы.

Ці сюды, ці туды,
Ад калоды, ад пня.
Ўжо не выйдзе ад нас
Аж да белага дня.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Аж да белага дня!

1-я русалка
*(чапляючыся зноў за сук валасамі)*

Як люблю я, люблю
Гутатацца вось так!
Як бы дзе на градзе
Зацвітаючы мак.

Помню, гэта было
На зямлі між людзьмі:
Як любіла ж яго
Сэрцам, думкай сваймі!

Як бажыўся ён мне,
Што так любіць і ён.
Колькі ночак звялі,
Сон ішоў нам не ў сон.

Сон быў гэта, ах, сон.
Зноў зіма па вясне:
Ён пайшоў за другой;
Ён пакінуў мяне.

І тады, ах, тады
Адна сцежка была —
Ці ў раку, ці ў пятлю...
Ну — ў пятлю я пайшла.

І за тое люблю
Гутатаціся так,
Як бы дзе на градзе
Зацвітаючы мак.

Усе тры
*(разам)*

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Як бы дзе на градзе
Зацвітаючы мак.

2-я русалка
*(сядаючы пад дубам)*

Я сядзець так люблю,—
Гэта мой трон-пасад:
Бо ж я княжнай была
Таму лет сто назад.

Прыгажэй за мяне
Не было наўвакруг;
Шмат пакорных тады
Ў сябе мела я слуг.

Найвярнейшы адзін
З іх мяне спадабаў:
Як шалёны хадзіў,
У мой бок паглядаў.

Знала мукі яго
Я усе навылёт;
Як смяшыў, ах, смяшыў
Яго сумны паглёд.

Тады сэрца ў мяне
Не было ці было...
Княжне меці яго —
Не да твару ішло.

Князь багаты, стары
Ажаніўся са мной,
А мой верны слуга
Заручыўся з ракой.

Вось за тое й сяджу —
Гэта мой трон-пасад,
Бо ж я княжнай была
Лет таму сто назад.

Усе тры
*(разам)*

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Бо ж і княжнай была
Лет таму сто назад.

3-я русалка
*(ходзячы па капцы)*

Я снаваці люблю
То сюды, то туды,
Ўспамінаючы свой
Век з людзьмі малады.

Мы жылі удваіх,
Як дзве рыбкі ў вадзе;
Ён нідзе без мяне,
Без яго і нідзе.

Як любіліся мы,
Як быў ясен прастор!
Плялі думкі свае
З сонца, месяца, зор.

А пасля ад мяне
Адарвалі яго...
Ў дальню даль павялі,
А за што і чаго?

У мяне ж, ах, прыйшло
Дзіцянятка на свет;
Хлопчык мілы такі,
Як бы з кветак букет.

Стыдна стала ўжо тут
Мне за долю сваю...
Я ў пялёнках яго
Закапала ў зямлю.

Як нябожчык, жуда
Мяне ўсю абняла:
Я у горад адтуль
Пабрыла, уцякла.

Ну, пасля гарадскі
Брук мяне адалеў:
Хто мне лепей плаціў,
Ласкі лепшыя меў.

З віном слёзы піла,
Час маланкай ішоў;
Не стрывала і там —
Уцякла ўжо дамоў.

Сцюжай была зіма,
Сцежку снег засыпаў;
Даплялася сяк-так,
Дзе маленькі мой спаў.

Абняла курганок,
Слёзы беглі з павек,
І заснула я там,
Ах, заснула навек!

І за тое сную
Так сюды і туды,
Ўспамінаючы свой
Век з людзьмі малады.

Усе тры
*(разам)*

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Так сюды і туды
Ўспамінаем мы свой
Век з людзьмі малады.

Чуваць, зноў затрашчалі сукі.

1-я русалка

Зноў трашчыць у кустах.

3-я русалка

Гэта, знаць, любы мой
Ўжо вярнуўся ка мне
Са старонкі чужой.

1-я русалка

Не, не твой, але мой
Зменнік той ходзе, знаць,—

Зноў мяне палюбіў,
Будзе зноў цалаваць.

2-я русалка

І ні твой, ні яе,
А мой верны слуга
Княжну ўспомніў сваю
І ідзе, як мага.

3-я русалка
*(як бы сама да сябе)*

Мо нябожчык сынок?..

1-я русалка
*(як раней)*

Мо татуля сівы?..

2-я русалка
*(таксама)*

Мо стары князь, мой муж,
Ка мне йдзе — як жывы?..

Усе тры
*(разам)*

Ну, ў кусты, хто куды!
Хай жа йдзе маладзец,
Пакуль блуду яго
Не надыдзе канец.
*(Разбягаюцца.)*

Сам
*(разглядаючыся)*

Не слеп я, здаецца,
Здаецца, не п'ян,—
Зноў гэтае месца,
Той самы курган.

І ногі прысталі,
І хочацца спаць,
А сцежкі, чым далей —
Не знаць і не знаць.

Ці кінуў хто ўрокі
У кожны тут кут,

Ці ведзьмы ўнарокі
Мяне водзяць тут.

Так шумы пужаюць,
Чуць што дзе дрыгне;
А дома чакаюць
Даўно ўжо мяне.

Гоп! гоп! Не чуваці,
Адказу няма.
Ой, пушча, ой, маці,
Ты зводзіш здарма!

Жартуеш здарма ты,
Наслаўшы ламоў...
Я траплю дахаты,
Я траплю дамоў!
*(Ідзе далей.)*

Русалкі
*(выбегшы, разам)*
І не наш, і нічый,—
Так сабе чалавек.

1-я русалка
Для спачынку яму
Я прыдумала лек.

2-я русалка
І мне ведама ўжо.

3-я русалка
Знаю я. Як не знаць?

Усе тры
*(разам)*
Вось тут, на кургане,
Яго ўложым мы спаць.

*(Чапляюцца зноў валасамі за сукі і калышуцца.)*
Ха-ха-ха! Сёння ўжо
Ён не выйдзе адсюль.
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-та-туль!

1-я русалка

Ах, успомніла [redacted]
Сваё ўлетку жыццё;
Пільнавала тады
Я за вёскай жытцо.

Ужо спелы былі,
Як адзін, каласкі;
Вецер іх калыхаў
Вось так, так на бакі.

Ласкаталі так мне
Яны твар, валасы;
Ласкатала іх я
Ад расы да расы.

Пільнавала іх я;
Ажно раз, нада днём
К ім кабета ідзе,
Проста йдзе з фартухом.

Вочы ўпаўшы ў яе,
Не вясёла яна,
І худая уся —
Косць ды скура адна.

Як прыйшла, ды скубель
Каласкі так мае,
І адзін за другім
У фартух, як свае.

А [redacted] шась! а я ў смех!
Зняў кабеціну страх.
Ды наўцёкі адтуль,
Толькі чула я — ах!

Развязаўся фартух,
А яна ўсё бяжыць,
І рассеяла так
Каласкі па мяжы.

Ах, як смешна было!
Як смяялася я!

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

Усе тры
*(разам)*

Ах, як смешна было!
Ну, яна, ну, сям'я!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

2-я русалка
*(адчэплiваецца i садзiцца пад дзеравам)*

Ўжо нядаўна было;
Пiльнавала ў аўсе
Так я грушу адну,—
Бач, хлапца к ёй нясе.

Абарваны такi,
Адно зрэб'е на iм;
Босы быў i усiм
Тросся целам худым.

Як да йгрушы дабег,
А ўжо быў на ёй плод,
Зiрнуў, плюнуў ў руку,—
I на йгрушу, як кот.

Як да верху далез,
Давай дзiч тую рваць
I за пазуху ўсё
Напiхацi, хаваць.

А я тут галiнкой
Па камлi грушы хлоп!
Ды вось як: сучком трэсь —
*(Паказвае.)*
Зляцеў хлопец, як сноп.

Летучы, зачапiў
Кашулёнаю сук,
I з-за пазухi ўсе
Грушы кучай стук-стук!

Не збiраў, паляцеў —
Уцякаў як быў дуж.

А [redacted] ў хохат, у смех
І з хлапца, і з ігруш.

Ах, як смешна было!
Як смяялася я!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

Усе тры
*(разам)*

Ах, як смешна было!
Ну, яна, ну, сям'я!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

3-я русалка
*(адчэпліваецца і снуе па кургане)*

Ах, і здарыўся мне
Також сёлета смех.
Пільнавала лажка,
Дзе быў блізка начлег.

Траўка ладна ужо
Ад зямлі адышла
І панаднай была
Для каня, для вала.

Меў на воку яе,
Як хто толькі зірнуў;
Аж смяльчак раз адзін
Так яе не мінуў.

Ночкай цёмна было,
Як на дне у вадзе;
Хмары месяц звялі,
Зоркі також нідзе.

Я ў травіцы сяджу,
Бачу: нейкі бядак
На худзенькім кані
Падцікаецца так.

Сядзіць конна, а ўвесь,
Як асіна, дрыжыць;

Падабраўся к лажку,
Як сава, ўкруг глядзіць.

Конь прыпаў да травы
І са смакам скубе;
Вельмі галадзен быў —
А я шась так сабе!
*(Паказвае.)*

А конь скок! ды наўцёк
Ува ўсе капыты.
А яздок аб зямлю...
Ўстаў, паплёўся ў кусты.

Адну толькі нагу,
Як калеку, валок,
А я ў хохат, у смех...
Такі смешны быў скок.

Усе тры
*(разам)*

Ах, як смешна было!
Ну, яна, ну, сям'я!
Гу-ля-ля, гу-та-та!
Гу-та-та, гу-ля-ля!

1-я русалка

Але ж дзе, але дзе
Гэты наш маладзён?

2-я русалка

Мы тут пелі сабе,
А на сцежку ўзбрыў ён.

3-я русалка

Не яму пуціну
Ў гэтай пушчы знайсці.

Усе тры
*(разам)*

Пушча наша для нас —
Яе нашы пуці.

2-я русалка

А каб пэўна было,
Пашукаць трэба нам.

Усе тры
*(разам)*

Пашукаць, паглядзець
Там і тут, тут і там!
*(Разбягаюцца.)*

1-я русалка
*(па хвілі варочаецца)*

Ха-ха-ха! блудзе ўсё,—
Разглядае кусткі;
З рук і ног кроў цячэ,
Сумны, бледны такі.

3-я русалка
*(выбягаючы)*

Ха-ха-ха! блудзе ўсё.
То аб пень, то аб лом.
І на неба глядзіць,
Як бы там яго дом.

2-я русалка
*(выбягае)*

Ха-ха-ха! блудзе ўсё,
З сучкоў знакі кладзе,
Каб другі раз не йсці,
Перайшоў ужо дзе.

Усе тры
*(разам)*

Прыйдзе, прыйдзе сюды,
Хоць бы млеў, хоць бы чэз,
І засне, ах, засне,
Як бы ноч, як бы лес.

1-я русалка

Стойце! Чую трэск я.

2-я русалка

Ўжо ідзе.

3-я русалка

Ах, як кот!

Усе тры
*(разам)*

А цяпер хто куды!
Песні ў ход! чары ў ход!

Разбягаюцца, толькі зблізу чуваць з трох бакоў іхны смех і «гу-ля-ля, гу-та-та».

Сам
*(змучыўся, чуць ідзе)*

Ўжо змогся саўсім я,
Змагла мяне цьма,
А сцежкі-пуцінкі
Няма як няма!

Спаткаў і ваўка ўжо —
Зуб ляскаў аб зуб;
Сава праляцела
І села на дуб.

З-пад пня выбег заяц
І ў гушчу пабег,—
А гэткі быў белы,
Як вапна, як снег.

Лізнула гадзюка
Хвастом каля ног,
Пабегла і недзе
Схавалася ў мох.

Ах, болей хадзіць, так
Блудзіць не магу!..
І сон не астаўся
Сабой у даўгу.

Пара адпачыці,
Дыхнуці пара,
Хутчэй мо на небе
Узойдзе зара.
*(Садзіцца на кургане.)*

Ах, як тут выгодна! —
Узгор, як пакой —
Мох, лісце, чарнобыль,—
Лес над галавой.

Ах, ах, як жа слаўна
Тут можна заснуць!
*(Прыслухоўваецца.)*
А ўсё нейкі шорах
Як чуць, так і чуць...
*(Відам салавее.)*

Ох, муцяцца думкі,
Павекі — як звон!..
Хацінка... сямейка...
Ах, сон, ты мой сон!..
*(Засыпае.*
*Русалкі выходзяць з укрыцця.)*

1-я русалка
*(нагінаецца і ўглядаецца на Сама)*
Ах, прыгожы які!

2-я русалка
*(як і першая)*
І які малады!

3-я русалка
*(таксама)*
І чаго ж, і нашто
Заблудзіў аж сюды?

1-я русалка
Як ён люба зламыў
Ручкі пад галаву!

2-я русалка
Як снапок, гэтак лёг
Тут на мох, на траву!

3-я русалка
Сам сябе усяго
У клубочак сагнуў;
Як адпаўшы лісток,
Як нябожчык, заснуў.

Усе тры
*(разам)*

Ха-ха-ха! як лісток,
Як нябожчык, заснуў!

2-я русалка

Цяпер сядзем пры ім,
Як тры кветкі ў акне;
Ціха так, каб не знаў,—
Ці наяве, ці ў сне.

1-я русалка

І навеем яму,
Пакуль сонца зірне,
Казку долі яго.

2-я і 3-я русалкі
*(разам)*

Што?

1-я русалка

Сон на кургане.

Усе тры
*(разам)*

Гу-ля-ля, гу-та-та!
Пакуль сонца зірне,
Загадаем яму
Сніці на кургане.

Садзяцца: дзве — наабапал — у галаве, адна — у нагах. Ціха, жаласліва пяюць; шум лесу зліваецца з іх песняй.

Спі, наш міленькі саколік,
Госць наш не званы, не сланы!
Дням пагубляў ты даўно лік
Долі сваёй неспыняны.

Мы над табою, мы — цені,
Поля і лесу начніцы,—
Казкай павеўнай асенім
Думкі твае злыбядніцы.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Думкі твае злыбядніцы.

Спі, наш міленькі... Нікому
Гэткага сну не ссылалі:
Будзеш ты дома, за домам,
Будзеш ты бліжай і далей;

Сокалам вольным па свеце
Будуць павевы насіці;
Вогнікі ўгледзіш на цвеце,—
Будуць табе іх гасіці.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Будуць табе іх гасіці...

Спі, наш міленькі... Далёка
Неба глухога світанне;
Будзе нялёгка, нялёгка,
Покі дзень новы настане.

Мы цябе тутка атулім
Ласкай сваёю і песняй,
Песняю — лю-лі, ой, лю-лі!
Гэтак панадна, уцешна.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Гэтак панадна, уцешна...

Спі, наш міленькі!.. Вы, сосны,
Елкі, дубы і асіны,
Кіньце шумеці жалосна,
Пейце вясёлай часінай.

Выгляні, месяц бяляны,
Светач ад веку да веку;
Сведкаю будзь неабманнай
Гэтага сну чалавека.

Гу-та-та, гу-ля-ля!
Сведкаю будзь неабманнай
Гэтага сну чалавека.

Пад канец песні падбліжаецца з аднаго боку воўк, а з другога — ліс і аподаль на задніх лапах садзяцца; паміж іх падымаецца да палавіны гадзіна і глядзіць у бок спячага; з-пад лазовага куста высоўваецца заяц і разглядаецца. З апошнімі словамі русалчынай песні паволі апускаецца заслона.

## II. На замчышчы

Ноч. Старое замчышча ці так сабе палац — калісь, знаць, важны — сягоння напаўразвалены. На гзымсах паўрасталі палын і крапіва; каля сцен дзікія ружы і акацыі памяшаліся з лазой і непрыветліва шалясцяць. Вокны і дзверы ўсе наглуха забіты тоўстымі яловымі дошкамі. Ганак (дзе і рэч адбываецца) каменны, на шасці слупах — па тры з кожнага боку. Пусткай, гніллём і зніштажэннем вее з усяго замчышча.

Сам
*(падцікаецца к парадным дзвярам з тапаром у руках)*

Колькі ўжо ночак, ах, колькі ўжо раз
Стукаўся ў гэтыя сцены,—
Вечна заходзіла штосьці не ў час
Мне на дарозе нязменна.

Дзед мой нябожчык, калі уміраў,
Так гаварыў мне і тату:
Скарбы у лёхах замчышча схаваў
Хтось адзін вельмі багаты.

Трапіць жа можна ў ноч тую на след,
Як з іх спадае закляцце;
Толькі пары той не ведаў і дзед —
Трэба яе адгадаці:

Летам, увосень, зімою, вясной
Гэтыя пробую дзверы;
Штось адпіхае, штось кідае мной,
З рук выбівае сякеру.
*(Закладае лёза тапара за дошку і мацуе.)*

Чорны
*(паяўляецца ля сцяны незаметна і хватаецца за сякеру)*

Ты зноў сюды лезеш, няшчасны!
Ха-ха-ха! вось так навала!
Напрасна, мой мілы, напрасна
Зноў цябе немач прыгнала.

Не дам я да скарбаў дастацца,
Варту я моцна трымаю;
Хто важыцца з мною змагацца —
Помач я крэпкую маю.

Ці просьбай, ці грозьбай, ці стонам
Стукнешся ў гэту мясціну —
І ўсё на загубу: не ўлезеш да скону...
Ха-ха-ха! счэзнеш скацінай...

Сам
*(адступае ад дзвярэй, тапор з лёскатам валіцца на ганкавы камень)*

Так ужо ёмка тапор залажыў —
Меціўся дошку сарваці,—
Бач, як бы сілы ўсе свае збыў;
Млее рука, не спазнаці.

Хаты сваёй лягчэй зрушыць звяны,
Тут не йдзе ў лік і ахвота.
Спробую толькі з другой стараны,
Мо спрытней пойдзе работа.
*(Закладае тапор таксама з другога боку дошкі.)*

Ну, адрывайся, пракляты запор,
До жартаваці са мною!
Сілы, больш сілы! ах, каб цябе мор!
Зноў не пакратаць рукою.

Чорны
*(выбіваючы зноў тапор)*

Зубамі грызі, вийся ў ранах,
Сэрцам бі ў камень, як звонам,
Крывёю парог злі цагляны,
Трупам тут ляж безгалоўным,

І з свету таго выглянь марай,
З небам аплутаўшысь дружбай —
Удар перунамі з-пад хмараў,—
Я не пакіну тут службы.

Сам
*(шукаючы тапара)*

Дома ўжо нельга мне далей так жыць,—
Дом мой магілай халоднай;
Каменем поле сцюдзёным ляжыць,
Плёны змёў вецер халодны.

Марна пад кроквай ржавее каса,
Недзе ўчапіці нарога...

Толькі чырвоная ўсюды раса,
Толькі к няўдачам дарога.

Гадзіны ўюцца вяроўкай ля ног,
Смокчуць кроў з жылаў піяўкі;
К Богу звярнуўся — маўчыць нема Бог,
Сцелючы ў пекле прылаўкі.

Людзі!.. Што людзі? Ці ёсць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі:
Мутнасцю, трупам нясе ад усіх,
Пошасцей поўныя грудзі.

Чорны

Ха-ха-ха! Жыць табе трудна,
Цесна, хоць так свет вялікі,
Й думцы з людзямі адлюдна,
Свойскае стала ўсё дзікім.

І долю ўжо як абязвечыў,—
Скарб цябе цягне закляты.
А колькі разоў ад мяне чуў:
Лезеш і тутка здарма ты.

Сам
*(знаходзячы тапор)*

Вось і тапор мой. К рабоце жывей!
Скарб дастаць мушу я гэты;
Ласкай павее тады ад людзей,
Неба і цэлага свету.

Замахваецца тапаром у самыя дзверы; Чорны зноў яго выбівае; Сам, абяссілены, валіцца на зямлю.

Чорны

Калі ж ты спагоніш ахвоту?..
Вянь павуцінай, травою;
Змяшайся з гразёю, з балотам,
Стукай аб мур галавою...

Вясёлкай табе скарб смяецца,
Вогнікам зводзе бліскучым...

*(Сам мацуецца ўстаць.)*
Што? Зноў табе, кволькік, здаецца,
Што сіл досць маеш магучых,

Каб мяне тут паканаць, адалеці,
Вываліць дзверы ў замчышчы.
Не! Перш магілай на свеце
Станеш свайго пажарышча,

Пакуль сюды ўвойдзеш нязваны.
Кінь свае думкі, дзяціна.
Лепш чэрвем ад рана да рана
Ляж пад гнілою асінай.

Ха-ха-ха! і там жджы усходу,
Новага ўсходу — прынады;
Пішчы там, як каня ў пагоду;
Вый, як ваўкі на Каляды.

Сам
*(шукае, поўзаючы на каленях, тапор)*

Мусіць, змацуе гэтая глуш.
Эх ты, мой быт чалавечы,
Ўдзержаць сякеры і то ўжо не дуж,—
Корчацца ногі і плечы.

Як бы тапор ужо толькі знайсці
Ў гэтай пустошы заломнай...
Дзе ён? Дамоў без яго ж мне не йсці...
Як жа тут цёмна, як цёмна!
*(Дастае з-за пазухі смолку.)*
Маю на ўсякі прыпадак з сабой
Колькі смаляных падпалак,
Толькі запалкі...
*(Мацае ў кішэнях.)*
Ай, Божа ты мой!
Дома забыўся запалак.
*(Шукае і знаходзіць вобмацкам тапор.)*
Ну, ўжо і так разачок свой знайшоў...
*(Прабуе пальцам лёза.)*
Толькі аб камень збіў зубы,
Што ж? Так сягоння пойдзем дамоў,—
Вытачу заўтра, мой любы.
Эх, каб яшчэ ды папробаваць з раз
Гэтых струхлеўшых запораў!
Вось і напаў бы у добры мо час...
Там, эй, не знаў бы ўжо гора.
*(З трудом устае і паглядае на дзверы.)*

Чорны

Ты ўсё ўглядаешся ласа,—
Збыцца не можаш пакусы;
Дам и табе тут папасу,
Толькі гуляй без прымусу.

Сам

Ціха... Прыпомніў; ёсць мел у мяне.
*(Знаходзіць за пазухай крэйду.)*
Ўчора на мысль мне ўзляцела...
Чуў, што і поўнач тады не чапне,
Круг абвясці толькі ўмела!
*(Садзіцца пасярод ганка — бокам к дзвярам — на кучы друзу і крэйдай абводзіць каля сябе круг.)*

Вось мо цяпер і спазнаю усё,
Як знайсці к скарбу дарогу;
Ў поўнач тут, кажуць, сваё йдзе жыццё,
Толькі б не знацца трывогай.

Трэба хоць песню злягка зацягнуць,—
З песняй смялей, кажуць людзі;
Мыслі благія далей адлятуць,
Шорах так страшан не будзе.
*(Пяе.)*

Атуманіла ночанька цёмная
Нашы нівы і нашы сялібы
І ўсім песню пяе непрытомную,
Ў запацеўшыя звонячы шыбы.

Ва ўсе сцежкі блізкія, далёкія
Неспажыты ўплутаўся хвораст,
Сцяг-прысады стаяць адзінокія,
Агняцветны не выгляне пораст.

Не заходзіць, ідучы прысадамі,
Падарожны з далёкага краю;
З добрай весткай, з ласкавымі радамі,
Аб жыцці-небыцці не спытае.

Не заходзіць ніхто к нам са светачам,
Як пажар, як агністае сонца,

Неразвейнага, вечнага свету чым
Аслабеўшай уліў бы старонцы.

Ходзім, блудзім, снуем без прыстанішча,
Адпраўляем старыя малітвы
На забытым самымі курганішчы,
Дзе спяць сведкі нявыйграных бітваў.

Адно ветрам асіны хістаюцца,
Дзе сном слава заснула нязваным,
Ды кручча на пажыву злятаюцца
Судзіць суд над жыццём закаваным.

Гэй ты, гэй! наша ночанька цёмная,
Завагніся ты сонца пажарам,
Распалі нашу долю заломную,
Не пракляццем, а божым будзь дарам!
*(Перастаўшы пець.)*

Нейкую кашу, бадай, не з дабром
Ліха ўжо, знаць, заварыла;
Свіст, бразгатня, тупаніна кругом.
Што за нячыстая сіла?!

Проста рабінава ночка прыйшла!
Жудасць — дзе вока ні кіне...
Пацераў спробую, можа, імгла
Гэта шыпучая згіне.

**Шэпча пацеры. Чорны свішча; з'яўляецца чалавек у лёкайскім уборы і, падаўшы жалезны саганок, знікае. Чорны запускае ў сярэдзіну саганка руку і, падымаючы адтуль жменю золата, падтрасае яго на далоні; грошы са звонам — як путаў жалезных — валяцца зноў у гаршочак; Чорны зноў іх адтуль бярэ і так усё перасыпае. Сярод начной цемры золата блішчыць чырванасмольным жудкім полымем і, як сыпецца, выдае, быццам плыве нейкая крывавая поліўка.**

Чорны

Дзын-дзын-дзын, звіні, як жалеза,
Золата, звонка-званіста;
Звіні па жалезных нарэзах,
Дзын-дзын, звіні ў звон ірдзіста.

Звініце ў звон золата, лозы;
Сыкайце, гадзіны, з гнёздаў;

Звініце ў звон золата, слёзы;
Бліск свой гасіце вы, звёзды.

Вецер усільваецца. Словы Чорнага зліваюцца ў нейкую дзікую музыку з бразганнем грошай, шэлестам зараслей і скрыпам дошчак забітых вакон і дзвярэй замчышча. З'яўляюцца — то з адной, то з другой стараны ганка — відмы; Чорны кідае кожнаму з іх па колькі чырвонцаў на зямлю,— касцятрупы хціва іх падбіраюць, падыходзяць к Саму і цянююць навокал яго — то падбліжаючыся, то аддаляючыся ад абведзенага мелам круга.

<1-е відма>

Зноў ты, зноў — ты непакоіш
Наша царства-уладарства;
Зноў ламаці — думкі роіш —
Праўды нашай гаспадарства.

Вон адгэтуль, вон з парога!
Скарб пад нашымі замкамі.
Вон, якой прыйшоў дарогай:
Скарб пільнуе цемра з намі.

Хто закон наш не ўшануе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

2-е відма

Што тут робіш? Хто асмеліў
Падысці пад хорам гэты?
За праступ такі на дзеле
Даць адказ свой мусіш мне ты.

Не на смешкі, не на жарты
Мы вартуем гэтых зломаў.
Скарб пад нашай схован вартай —
Не дадзім чапнуць нікому.

Вон адгэтуль назаўсёды!
І не важся ступіць кроку:
Ўсе выходы і уходы
Наша мае страж на воку.

А хто варты не ўшануе,
Я здаўлю таго прынукай:

Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

3-е відма

Зноў на скарб наш вочы лупіш,
Зноў прыбрыў з сваёй пустошы...
Здохнеш перш, чым к яму ступіш,
Тут не банк, мой ты харошы.

Сотні лет і сотні плечаў
З сотні ніў яго тут клалі,
А ты, відма чалавеча,
К яму зубы так аскаліў.

Вон адгэтуль! Маё дзела
Ў тым, каб скарбу не пакратаў.
Я ганю цябе, калелы,
Гэтым хорамам заклятым.

Хто граніц мне не ўшануе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

4-е відма

Скуль ты ўзяўся? Чаго хочаш?
Кім пасланы, кім пазваны?
Што з сякерай тут ламочаш —
Па скарб лезеш захаваны.

Псуці хочаш нам машыны
Нашай фабрыкі цямрычнай...
Вон адгэтуль! вон, скаціна,
З сваёй думай неабычнай!

Вон адгэтуль! Тут крануці
Я нічога не дазволю:
Я ганю цябе акуццем
Гэтай хорамнай будоўлі.

Хто псуць фабрыку спрабуе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

5-е відма

Ці ты блёкату напіўся,
І залішне перамераў? —
Аж пад мур наш заваліўся
З сваёй востраю сякерай.

Не, не трапіў на пару ты,
Не туды прывёў бог шкляны...
Напаю цябе атрутай,
Аж патомак будзе п'яны.

Вон адгэтуль, покі цэлы!
Я ганю цябе законна:
Шкляным звонам, капляй белай,—
Царства нашага аслонай.

Хто звадзіць шынк наш спрабуе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

6-е відма

Ну, чаго сюды прыпоўз ты?
Ці табе не здаў хто рэшты?
Чаго лезеш горш каросты
І гішэфты мне псуеш ты?

Тут не гандаль, тут не крама:
Няма дзёгцю, няма солі...
Вон! Засядзь клапом пад трамай,
Шукай скарбу ў сваёй столі.

Вон адгэтуль! вон са скурай!
Я ганю цябе свячніцай:
Вечнай плесняй гэтых мураў,
Неспажытаю цямрыцай.

Хто гішэфты нам папсуе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такім спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

7-е відма

Дужа, дужа так нягодна;
Праў свянцоных не шануеш;

Гэтай подласцю выроднай
Сабе пекла прыгатуеш.

Скуль ты маеш дазваленне
Скарбам гэтым карыстацi?
Прэч адгэтуль безадменна!
Цiха сядзь у сваёй хаце.

Прэч ад нашага ўладарства!
Я ганю цябе павагай
Найвышэйшай земных царстваў!
Здрадай к свету, к цемры смагай.

Хто наш голас не ўшануе,
Я здаўлю таго прынукай:
Абручом такiм спаўю я,
Як вужакай, як гадзюкай.

Чорны
*(звонячы ўсё золатам)*

Ўправа, ўлева, ўлева, ўправа
Аплятацi шчыльна, жвава

Абручамi ў знак, не ў знакi,
Як гадзюкi, як вужакi!

Вiдмы
*(сплятаюцца за рукi i, як ланцугом, ачэплiваюць i кружацца навокал Сама)*

Як гадзюкi, як вужакi,
Абручамi ў знак, не ў знакi
Аплятацi шчыльна, жвава
Ўправа, ўлева, ўлева, ўправа!

Чорны
*(падымае i стукае аб саганок абломкамi муру)*

Гэй, на вырай, гэй, на жнiва!
Толькi спрытна, толькi жыва.

Ўлева, ўправа, ўправа, ўлева —
Па наспелыя пасевы!

Відмы
*(расплятаючыся і збягаючы з ганка — кожнае ў сваю старану)*

Па наспелыя пасевы —
Ўлева, ўправа, ўправа, ўлева!

Толькі спрытна, толькі жыва,
Гэй, на вырай, гэй, на жніва!

Сам
*(папраўляе ямчэй у руках тапор)*

Што за дзіва, што за сіла
Тут свістала, скавытала,
Штось круціла, штось муціла,
Як вяроўкай, аплятала.

Відмы па хвілі варочаюцца ў тым самым парадку, але кожнае валачэ з сабой — зачапіўшы пятлёю за шыю — таварыша, які, астанаўліваючыся каля Чорнага, кідае яму ў саганок колькі медзякоў; пасля відма садзіць свайго таварыша на кругу каля Сама, канцом вяроўкі завязваючы рукі.

Таварыш 1-га відма
*(кідаючы грошы)*

Дзед і прадзед пахалі
Поле роднае тое,
А цяпер мне сказалі,
Што яно ўжо чужое.

З роднай выгналі хаткі,
Як бы ім што я шкодзіў...
Эх, нясу ўжо астаткі,
Бо за праўду мне ходзе.

1-е відма
*(садзячы таварыша да Сама)*

Вось таварыш для хаўруса,
Каб не брала больш пакуса...

Сядзьце ціха, сядзьце мірна,
Як мак з макам — так абшырна,

Як дамоўкі — так глыбока,
Як злом камня — так высока.

Сэрца шэптаў адчурайся,
З тапаром сваім сквітайся.

Як ні глянь сюды цікава —
Цемра тут закон і права.

Таварыш 1-га відма

Як жа, як я стараўся
Сабраць гэтых шалегаў,—
І ў калоды цягаўся,
І падзённа ў двор бегаў...

Сцюжа ціснецца к хаце,
Жыта ўжо ані жменькі,—
А тут кажуць аддаці
За шнурок свой вузенькі.

2-е відма

На, і ўчыцеся ахвоты
Шанаваць закляцця сплёты.

Сядзьце роўна і пакорна:
Як калоды — так праворна,

Як у пні клін — так свабодна,
Як дамоўкі — так выгодна.

Ад граніцы да граніцы
Страж мая тут — паляўніца.

Дум згасіце ўсе праявы:
Цемра тут закон і права!

Таварыш 3-га відма

Кабета

Ад усходу да ночы
Так йшла ў постаці звінна —
Смоллю пот лез у вочы,
Хоць круці — кашуліна.

А тут платы замнога
Кажуць, хоць гэтак мала...
Наце! Што ж? ваша змога,
Наша дзе ні прапала.

3-е відма
*(з насмешкай)*

Вось табе падмога ў працы
Па скарб лезці у палацы,

Дабівацца ў валадарства
Цёмна-ночнага мацарства.

Сядзьце квола, асцярожна;
Гляньце там, тут, а трывожна,—

Як пыліны — так забыты,
Як атопкі — так прыбіты.

Ажані тапор з няславай,—
Цемра тут закон і права!

Тварыш 4-га відма
Аднарукі

Як папраўдзе судзіці —
Мне належала б плата.
А тут кажуць плаціці
За якуюсь там страту.

Руку рвучы, машына
Сапсавалася, праўда,
Але ў чым жа я вінны,
Калі вінна прылада.

4-е відма

Ўсё да дружбы, ўсё да большай
Тваім думам збор вясёльшы.

Сядзьце роўна, жалязіста,
Мазаліста і крывіста;

Як дым гутні — так цягуча,
Як час векаў — так жывуча,

Як авечкі — гэтак дружна,
Як падмуркі — так натужна,—

Скарб не будзе тваёй стравай:
Цемра тут закон і права!

Таварыш 5-га відма

Так усё аплуцілі —
Не найсці ў свеце света,
І ўдабавак пусцілі
На пакусу звод гэты.

Ўзялі ўсё — дам апошкі:
Капля, кажуць, жалее;
Мо хоць трошкі, хоць трошкі
На душы прасвятлее.

5-е відма

Ўжо з пацехай ды вясёлай
К табе йду, мой ты дзябёлы.

Сядзьце шумна, як расохі,
Дурнап'ян, чартапалохі;

Як звон пляшак — неўгамонна,
Як сама кроў — так чырвона,

Як пагібель — так шчасліва;
Затуманьце ўсе парывы,

Каб не зводзіў скарб ласкавы...
Цемра тут закон і права!

Таварыш 6-га відма

Так аплуціў, ачмуціў,
Як чарвяк лісток вішні,
Хоць і знаю, што круціць,
Хоць і знаю, што лішне,

Мушу даць, хоць не штукі:
Змёў з тачка і паскрэбы;
Кажуць, лепшай прынукі
Не найсці — як патрэба.

6-е відма

На, і доўга не таргуйся,
І па скарб да нас не сунься.

Сядзьце ціха, сядзьце скрыняй,
Як бы мухі ў павуціне.

Як кароўка — гэтак дойна,
Як свая цень — так спакойна;

Гібка так — як валаконцы,
Так працэнтна — як чырвонцы,—

І па скарб не лезь аблавай:
Цемра тут закон і права!

Таварышы 7-га відма

Двое — старая кабета і падростак.

Кабета

Каб хаця ўжо свечак
Як найболей разнеціў,
Каб аж мой чалавечак
На тым цешыўся свеце...

На імшу на «задушкі»...
За жывёлку таксама...

Падростак

За памершыя душкі
Майго таты і мамы.

7-е відма

Для навукі, для прымеру,
Як паступкам знаці меру...
Сядзьце складна і прыкладна,
Непакратна і няздрадна;

Як фігуркі выразаны,
Як бібулы маляваны,

Як грыбы ў спляснелай глебе:
Вочы к небу, губы к небу!

Ўсе жыцця здушыце з'явы...
Цемра тут закон і права!

Чорны

*(стукаючы абломкам цэглы па саганку з грашыма)*

Ўправа, ўлева, ўлева, ўправа
Аплятаці шчыльна, жвава

Абручамі ў знак, не ў знакі,
Як гадзюкі, як вужакі.

Відмы зноў сплятаюцца між сабой за рукі, ачэпліваючы і кружачыся навокал Сама і пасаджаных пры ім звязаных таварышаў. Глуха-шмяліна гудзяць — не то пяюць; Чорны ў такт ім бразгае абломкам па саганку; скрыпяць дошкі; шалясцяць зараслі; вецер свішча ў шчылінах. Усё гэта зліваецца ў адну нейкую пякельна-шалёную мелодыю; нема толькі сядзіць Сам і яго таварышы на друзах замчышча.

Відмы
*(у адзін голас)*

Як гадзюкі, як вужакі,
Абручамі ў знак, не ў знакі

Аплятаці шчыльна, жвава
Ўправа, ўлева, ўлева, ўправа!

Раптам асвечвае ўсё замчышча пажарны бляск. Момант відмы астанаўліваюцца і дзіка, злавесна глядзяць: вочы іх крывёю наліты, зверскія, прагавітыя.

Чорны
*(стукаючы абломкам па саганку)*

Зноў на вырай, зноў на жніва,
Толькі спрытна, толькі жыва!

Ўлева, ўправа, ўправа, ўлева —
Па наспелыя пасевы.

Відмы расплятаюцца, кожнае бярэ за вяроўку — між галавой і рукамі — звязанага свайго таварыша і ў парадку, у якім прыйшлі, сходзяць з ганка пад звон Чорнага грашыма.

Відмы

Па наспелыя пасевы —
Ўлева, ўправа, ўправа, ўлева.

Толькі спрытна, толькі жыва,
Гэй, на вырай, гэй, на жніва!

Чорны свішча. З'яўляецца і забірае саганок з грашыма той самы чалавек, што яго і прынёс.

Сам
*(ўсхапіўшыся з месца)*

Што за дзіва, што за сіла
Зноў круціла, зноў муціла?..

Скавытала і свістала,
Як бы путам аплятала,—

Ні то ў яве, ні спрасоння...
Што за ночка мне сягоння?!

Было цёмна, як у вуллі,—
Хоць бы ў вока пальцам ткнулі,—

А тут відна ў гэтых грудах,
Хоць лічы іголкі ўсюды.
*(Узіраецца ў той бок, скуль б'е большы бляск.)*
Што я бачу?.. Ці ж быць можа?
Гэта ж вёска!.. Божа!.. Божа!..

Жонка... дзіцё, бацька... матка...
Ах ты, хатка, мая хатка!
*(Як шалёны, злятае з тапаром з ганка.)*

Чорны

Ха-ха-ха-ха!..

*Заслона*

## III. Пажарышча

Досвітак. Непадалёку ад пажару. Пасяродку стаіць дзікая груша. Валяецца колькі галавешак. Далей — трохі ўправа — пачынаецца палаючая вёска: з некаторых хат засталіся ўжо толькі печы ды каміны, а па баках ляжыць асмалеўшае бярвенне. Пажар падбіраецца пад другі канец вёскі. Калі-нікалі ўзрываецца вецер і даносіць снапы іскраў. Чуваць гул полымя і людскіх галасоў.

1-ы пагарэлец
*(цягнучы лаву)*

Скуль і як яно ўзялося?
З чыёй хаты занялося?..

Сплю, як толькі спяць уночы,
Чую, лезе дым у вочы;

Усхапіўся, паглядаю:
Мора полымя гуляе;

Сам не знаю, ў што ўчапіцца...
Ну, за лаву — прыгадзіцца.
*(Ідзе далей.)*

2-і пагарэлец
*(з андаракам і каптаном бабскім)*

...Мы з сваёй яшчэ не спалі:
Дзіцянятка калыхалі...

Раптам — відна... Я у дзверы,
Ды не ў дзверы, а ў кут змерыў.

Сяк-так выскачыў за хатку...
Бачу, косіць ад пачатку

Агонь вёску, як памора;
Зноў я ў хатку... ах ты, гора!

Сам не знаеш, што ўхапіці;
Крычу жонцы: бяры дзіце!

Сам хапаю сёе-тое...
Чуць з душою, чуць з душою...

3-і пагарэлец
*(з матком і шпулькамі)*

Я так крэпка сплю на печы:
Ажно тут — штурхель у плечы!

Глядзь: аж нехта качаргою
Мяне цягне, як дугою.

Ўжо ўстаю, ужо буджуся,
Злазіць з печы ўжо лаўчуся...

Бух аб землю, як сноп жыта,
Проста бокам аб карыта!...

Хтось крычыць: барджэй жа, тата!..
Ломяць, цягнуць усё з хаты...

Я — хвацель маток і шпулькі...
*(Глядзіць за пазуху.)*
Ну, а люлька... няма люлькі.

Дзяўчынка
*(з хлопчыкам, меншым ад сябе; абое ў адных зрэбных кашулях)*

Як маланкай, пайшла хатка,
Чаравічкі і апратка.

Хлопчык
*(праз слёзы, разглядаючыся)*

А дзе ж татка? і дзе мама?

Дзяўчынка

Ціха, братка: і таксама
Вось з табою іх шукаю,
Дзе ж падзеліся — не знаю.
Ў гэты бок няслі кадушку.

Хлопчык

Падсадзі — сарву і грушку;
Хачу вельмі піць і есці.

Дзяўчынка
*(падсаджвае хлопчыка, з павагай)*

Вось уздумаў грушы трэсці.
Тутка гэткае няшчасце,—
Не дзівота і прапасці.
А ён, бач, з сваёй ядою!

Хлопчык
*(саскочыў і грызе сарваную дзічку)*

Пабяжым цяпер затое.

Дзяўчынка

Не лезь толькі ў вочы з плачам:
Татку, мамку недзе ўбачым.

Хлопчык
*(з радасцю адбягаючы з дзяўчынкай)*

Недзе знойдзем, недзе ўбачым!

1-я кабета
*(цягнучы саху, заплакаўшыся)*

Што за ночка! што за ночка!
Не пакінуў і ламочка!

Як сярпом, зжынае, голе...
А стары прост сходзіць з поля,

Галаву саўсім губляе —
Сам не знае, што хватае;

То у хлеўчык матанецца,
То ля пуні апынецца...

Ні пристання, ні куточка...
Што за ночка! што за ночка!!

2-я кабета
*(з дзіцянём у калысцы)*

Чуць паспела, чуць з душою
Гэта выхваціць малое;

Засталася ступа, дзежка,
І пасудак, і адзежка.

Мой паехаў з кума братам —
Папрасіў — паехаў сватам,—

І не бачыў, і не ведаў,
Як гарэла ўсё да следу,

Мо б што больш уратавалі...
Так, саўсім, саўсім прапалі...

3-я кабета
*(цягнучы на руках ягнё)*

...Цягнем з хаты мы ламоцце,
Зірк на хлеўчык — страху коце...

Я у хлеўчык — гнаць кароўку:
Як прывязана вяроўкай —

Ані з месца... тут авечка
З хлева ў полымя, як печку,—

Я ягнятка хваць за воўну,
А тут дыму ужо поўна...

Чуць у дзверы, чуць папала,
А ўжо хатка дагарала.

Я ў р э й
*(з багамоллем і ліхтарамі;*
*за ім жонка яго і чацвёра дзяцей)*
І стадола, і камора
Так яшчэ стаялі ўчора,

А сягоння, як у яму,
Паваліліся і з крамай.
*(Да жонкі.)*

Знаеш, чуў я, у Агаты
Дзіцянё згарэла з хатай.

Я ў р э й к а
*(з падушкай і халаю)*
Мне казалі на прыгумні:
Чалавек звуглеў у пуні.

Д з і ц я н ё 1-е
*(з бляшаным пудэлкам цукерак)*
Ото ж вочы дым кусае.

Д з і ц я н ё 2-е
*(са скруткам паркалю)*
Будзе ж крама зноў такая?..

Д з і ц я н ё 3-е
*(са скрынкай з цвікамі)*
Як жа гэта агонь страша!

Д з і ц я н ё 4-е
*(з кульком мукі)*
А як з козачкаю нашай?
*(Ідуць далей.)*

**Чуваць званкі, пасля ціхнуць; выходзіць з левага боку вясельная дружына; маладая ў вянку, малады з кветкай на грудзях, сват перапасаны праз плячо белым ручніком, музыка са скрыпкай, закоснік, маршалак і дзве дзяўчыны-дружкі.**

Маладая

*(асоўваецца бяссільна пад грушу, закрываючы рукамі заплаканыя вочы)*

Што тут стала? што тут стала?
Ўсё ў дыму, усё прапала!
Дзе ж мы сонейка сустрэцім?
Галавы прыкрыці нечым.

Малады

*(садзіцца ля маладой, абнімаючы, прытульвае к сабе і супакойвае)*

Ціха, міленькая, ціха.
Як прыйшло, так пойдзе ліха;

Пагаруем, пабядуем...
Дасць Бог — хату адбудуем...
*(Горка ўсміхаючыся.)*
І вяселле дагуляем...

Мачыха маладой

*(выбягае, задыхаўшыся, з боку пажару)*

Ах, ах! чым вас прывітаем?..
Чула, чула, галубочкі,
Вашы звонкія званочкі!..

Так усе мы вас чакалі:
Каравай прыгатавалі,—

А які ж, ах, быў удачны!
Каб вы зналі — які смачны!

Сват

*(п'янаваты, панура)*

Відно, смачны, бо смалілі,
Што аж хаты ў дым пусцілі.

Маршалак

Знаць, згуляці захацелі
Без шлюбоўнікаў вяселле.

Музыка

Але толькі без музыкі —
Пад пажарныя скавыкі.

Войчым маладога
*(выходзіць з боку пажару з пустымі, як і мачыха, рукамі)*

Ну, прыехалі нарэшце!
Вось чым сэрцайка пацешце,
Малады і маладзіца.

Мачыха

Мы ў суседавай святліцы
Вас ад шлюбу выглядаем;
Гаманім сабе, чакаем...

Войчым

Як вам ведама — дзе мелі
Адгуляць ваша вяселле.

Закоснік

Ў вашых можна б скруціць ногі —
Ні разгону, ні падлогі.

Мачыха

А тут раптам у ваконцы
Віднюсенька, як бы ў сонцы!

Войчым

Тут у лямант бабы, дзеці.

Мачыха

К сваім хатам мы ляцеці...
Ўратаваці не прыйшлося.

Войчым

Найперш з нашых занялося.

Мачыха

Як жа собіла ў час гэткі
Замарудзіць так вам, дзеткі?..

Сват
*(заметна манячы)*

Мост зламаўся, ну, пражждалі,
Покі броду адшукалі.

Войчым
*(панура)*

Знаем вашыя мы броды:
Гэта так у нас заўсёды.

Соцкі
*(выбягае з парожнім вядром)*

А вы што тут сталі ў кучы
Ды, як мокрыя анучы,

Не парушыцеся з месца?
То ж не жарты вам, здаецца...

Падпаліў ўсіх нейкі злодзей...
Зараз воласць з прыскам пойдзе.

Маладая свой вянок, сват ручнік, а музыка скрыпку вешаюць на грушы, і ўсе ідуць за соцкім у бок пажару.

Стары
*(з ім разам старая і іх нявестка з грудным дзіцём; нясуць стол, начоўкі і калыску)*

Я казаў вам, што заблізка —
Пачарнела аж калыска.

Нявестка

Ах, забыліся дайнічкі!

Старая

Стаўма гэтта каля дзічкі.

Стары

А, рабі ўжо, як там знаеш.

Нявестка

Каго толькі не спытаеш —
Адным чынам, што нам хтосьці
Падпаліў сяло па злосці.

Старая

Каб звуглеў, як гэта сажа...

Стары

Чымся слухаць, што хто кажа,
Лепш папраў дзіцю пялёнкі.

Усе адыходзяць.

Нявестка
*(на выхадзе)*
Не забыць каб зноў даёнкі.

Дзяўчынка
*(і хлопчык з ёй —
абое ўжо заплакаўшыся)*
Дзе ж той тата збег сягоння?

Хлопчык
Мамка ёсць, але вон гоне.

Дзяўчынка
Мамку маем і не маем.
*(Ідуць далей, разглядаючыся.)*

Падростак
*(дурнаваты, ведучы сляпую бабу,
катораяя, баючыся, ступае)*
Зараз, зараз свет пазнаем...

Сляпая
Ці не збіўся ты з дарогі? —
Дзе ступлю, пячэцца ў ногі.

Падростак
Ціха, баба, пойдзе гладка;
Не спячэшся, як аладка;

Як ні бойся — не ўбаішся:
Ўсе сягоння падпякліся.
*(Убачыўшы ламаццё.)*
А, начовачкі і столік!

Сляпая
Дзе ж мы гэта, мой саколік?

Падростак
А пад грушай на узмежку;
Сядзь пад ёй во, як пад дзежкай.

І глядзі на дым чырвоны
Здаля, як з-пад парасона.

Сляпая
А вагонь жа не дастане?

Падростак

Ці ж аслепла, ясне пані? —
Тут і чорт цябе не чэпіць.

Сляпая

А мо далей пойдзем лепей?

Падростак

Ну, садзіся, будзь спакойна:
Далей, бліжай — усё роўна.

Сляпая

Усё роўна, мае дзеткі,
Мне ўжо: сонца, ночка, кветкі.

Падростак
*(угдядаючыся на грушу)*

А... Ці бачыце, бабуля,
Як зраслі на йгрушы дулі:
Хвастач, скрыпка і вяночак?

Сляпая

Кпі сабе, мой галубочак!

Падростак

Даліпан-то не жартую...
*(Становіцца на стале і хоча дастаць скрыпку.)*
Вось так зараз запілую.

Старая
*(выходзіць з ламаццём; з ёй стары і нявестка)*

Ты чаго на стол узбіўся?

Падростак
*(саскакваючы са стала)*

Ціха, цётка, не сварыся —
Мірам кончым гэту справу:
Я — наўцёкі, ты — пад лаву.
*(Саскаквае са стала і адбягае ўбок.)*

Стары

Такі воласць абароняць.

Нявестка

Дзе ж? усіх к ратунку гоняць:
Мяне з дзіцем — то хацелі.

Старая

З двара з помпай прыляцелі:
Людзі ім ваду цягаюць,
Яны кішкаю пускаюць
На закоты, на застрэшкі...

Стары

Ну, ідзём, не ўзялі дзежкі.
*(Адыходзяць.)*

Падростак
*(выбегшы з укрыцця)*

А цяпер мая ўжо скрыпка,
Толькі лоўка, толькі шыбка.
*(Дастае скрыпку і прабуе струн.)*
Вось зайграю ва ўсе плечы
Ад запечка ды да печы.
Ад парога да парога...

Выбягае кабета-вар'ятка, сышоўшая з розуму праз пажар,— у зрэбнай спадніцы і кашулі — без каптана; на левай руцэ ў яе — як дзіцянё — абкручана анучамі галавешка, а ў правай — сціскае ў жмені нож; як выбегла — хлопец адскочыў убок.

Вар'ятка
*(размахваючы нажом)*

Дай гасцінец, дай дарогу!..
Жыў ніхто тут не залежа:
Ўсіх пазводжу, ўсіх парэжу!

Вось так жніва, вось пакоша!
Дзе мой муж, дзе мой харошы?

Няма мужа — і так дужа:
Ўсюды пойдзе крыві лужа.
*(Углядаецца на сляпую пад грушай.)*

Ты са мной яго жаніла,
Ты яго мне і спаліла...

Давай горла, бо іначай
Свету боскага не ўбача
Твой паглёд, змяя, вужача.
*(Хоча кінуцца з нажом на кабету.)*

Падростак
*(падбягае і хватае ззаду за руку)*

Што ты, цётка, звар'яцела
Ці мо блёкату пад'ела:

Қ сляпой лезеш без баязні,
Як угледзіць, справіць лазню.

Чым людзей тут заразаці,
Лепш пільнуй свайго дзіцяці...

Вар'ятка
*(спачатку тузаецца, але пры слове «дзіцяці» выпускае з рук нож і туліць к грудзям галавешку)*

Лю-лі, лю-лі, мой сыночак!
Лю-лі, лю-лі, сакалочак!
*(Дастае грудзі і хоча карміць.)*

Падростак
*(сам да сябе)*

Проста з поля сышла цётка.

Вар'ятка

На, пассі, на, дзіцянётка!
Ты не вер, што кажуць людзі,
Быццам таткі ўжо не будзе.

Падростак
*(сам да сябе)*

Жджы к Пятру сырка, матуля.

Вар'ятка

Маеш мамку, а татуля?..
*(Неўспадзеўкі к падростку.)*
Я з табою ажанюся.
*(Хоча абняць яго.)*

Падростак
*(сам да сябе)*
Клёпкі ўсе згубіла, мусіць.

Вар'ятка
Толькі як вяселле ўстроіць?

Падростак
*(сам да сябе)*
Трэба бабу супакоіць.
*(Да вар'яткі, паказваючы скрыпку.)*
Я пайграю — ты паскачаш.

Вар'ятка
А вянок дзе?

Падростак
*(паказваючы на грушу)*
Ці ж не бачыш?

Вар'ятка
*(дастае вянок і кладзе на галаву)*
А як з сватам і дружынай?

Падростак
*(сам да сябе)*
Ну, нявеста! каб лепш згінуў.
*(Да яе.)*
Я ўсім буду, мая душка,—
Разам — сватам, мужам, дружкай.
*(Дастае з грушы хвастач і — як сват —*
*закручвае сабе праз плячо;*
*адрывае кусок з лісцямі галінкі*
*і прычэплівае к грудзям.)*

Вар'ятка
І музыкай, і музыкай.
*(Глянула на сляпую і кладзе на галаву ёй*
*кусок сухой галіны, скруціўшы абручом.)*
А ты, імасць, будзь нам сваццяй!

Падростак
Час вяселле пачынаці.

Садзіцца на калысцы і пачынае іграць і прыпяваць; вар'ятка, цанючы каля грушы, падцінае яму на языку.

Былі ў бацькі тры сыны,
Гоп-я!
Да ўсе ж яны Васілі,
Гоп-я!

Дзяўчынка і хлопчык
*(выбягаюць і з плачам кідаюцца да вар'яткі)*
Мама! мама! дзе наш тата?

Вар'ятка
Вон, ягнята, вон, шчанята!
*(Далей прыпявае пад музыку
з падросткам.)*
Адзін коні пасе,
Гоп-я!
Другі лапці пляце...

Пачуўся з боку пажару гоман і крык: «Дзяржы моцна! Бі, колькі ўлезе!»

Падростак
*(прыслухаўшыся, ускаквае)*
Цяпер, жонка, давай драла,
А то, каб не перапала
І табе, і мне таксама.
*(Выбягаюць абое.)*

Дзяўчынка і хлопчык
*(бегучы за вар'яткай з плачам)*
Дзе наш татка? мама, мама!

Увальваецца гурмам куча людзей, валакучы і тузаючы Сама.

Сам
Хоць зарэжце — ўсё мне роўна:
На начлезе быў сягоння.

Пламя ўгледзеўшы з папару,
Ратаваць бег ад пажару...

Я не вінен, хоць зарэжце...

1-ы голас
*(з грамады)*
Лжэ, сабака, праўду бэсце:
Конь згарэў яго у хлеве.

Сам

Хоць павесьце тут на дрэве.
На начлезе...

2-гі голас
*(перапыняючы)*

А з сякерай,
Звёўшы хаты, ў валасць мерыў?

Сам

Як і вы, бег ратаваці
Вас усіх, як сваіх брацціяў.

3-і голас
*(кабечы)*

З тапаром і галавешкай,
Падцікаючыся сцежкай...

4-ы голас

Покі што прывяжам к грушы.

5-ы голас

Хай жа тут мазгі пасуша,
Як агнём агонь гасіці.

Сам

Хоць зарэжце, хоць судзіце,—
На начлезе быў ■ толькі.

4-ы голас

Ці няма ў каго вяроўкі?

3-і голас

Ўсе бярвенні пагарэлі,
А вяроўкі каб не стлелі?

4-ы голас

Паяса мо хто пазычыць,
После ўсё на ім палічым.

Колькі галасоў

Хто аб поясе тут думаў!

3-і голас

Я сяджу сабе у кума...

5-ы голас
*(перапыняючы)*

Гэта ж пояс свой ён мае.

4-ы голас
*(да 5-га)*

Я з табою прытрымаю,
А хай хто яго развяжа.

3-і голас

На вяроўцы ўсё раскажа.

Адвязваюць пояс; пасыпаліся з-за пазухі кускі смолкі.

1-ы голас

Во, во! гляньце, чым прасвіста
Ратаваў усіх нас чыста.

Колькі галасоў

Нават смолка для падпалкі...

3-і голас

Пэўна мае і запалкі.

Валакуць і прыціскаюць Сама плячыма да грушы, закручваюць рукі назад і звязваюць іх на другім баку грушы.

Сам

Ратаваці бег з папару
Усіх чыста ад пажару.

1-ы голас

Хай да дня тут перастое,—
Там убачым, што якое...

4-ы голас
*(да сляпой бабы)*

А ты май яго на воку.

Хутка ўсе адыходзяць у бок пажару.

Сам
*(панура)*

За няма што на вяроўку,
Як якога арыштанта...

Падростак

*(выбягае са скрыпкай)*

Хі! Якога бачу франта...

Вось абняў, як дзеўку, грушу,
Нат рукамі не паруша...

Я хоць з бабай ажаніўся,
Гэты ж к дрэву прычапіўся.
*(Да Сама.)*
Дрэнна, дзядзька! Невялічкі
Смак пад дзічкай — не ўрваць дзічкі.

Ну, пушчу цябе на волю,
Вазьмі бабу маю толькі; —
Ўсяго першы дзень жанаты,
А ўжо хоць ідзі вон з хаты.

Адно ты мяне не выдай...
*(Хоча развязаць пояс, але,*
*аглянуўшыся, уцякае.)*

Старая, за ёй нявестка падбягае, і хмурна ідзе стары, кідаючыся са слязьмі к Саму.

Старая

А!.. сынок мой, ці ж ты збрыдаў
Хаткай, намі так без жалю?

Стары

*(панура)*

Ці то праўда, што казалі?

Старая

Ўсё бацькам сказаць павінен.

Сам

*(з болем)*

Хоць зарэжце, я не вінен:
На начлезе быў... З папару
Ратаваць бег ад пажару,
А яны мяне...

Стары

*(перапыняючы)*

Конь быў дома.

Старая

Бег са смолкай і саломай
Ўжо пад воласць, кажуць людзі.

Нявестка
*(галосячы)*

Што ж, міленькі, цяпер будзе?
Ў ссылку могуць засудзіці,
А мне хоць ідзі ў свет з дзіцем.

Стары
*(глуха)*

Не жалеў ты бацькі, маці,
Ані жонкі, ні дзіцяці.

Старая
*(слязліва)*

Колькі бедненькаму мукі:
Збілі так, звязалі рукі.
*(Хоча развязаць.)*

Стары

Не чапай без часу, маці,—
Гэтым нам не ўратаваці,

Толькі можа стацца горай.
Усё роўна ўжо дзень скора:

Наверх праўда выйсць павінна.
Хоць бы мела ўзяць нам сына.

Нявестка
*(уціраючы слёзы)*

Так ці сяк — не вернем хаткі...
Прынясем пайдзем астаткі.
*(Уздыхаючы, адыходзяць.)*

Падростак
*(падбліжаючыся)*

Нудна, дзядзька! Мамка з таткам,
Ну, і жоначка з дзіцяткам.

Пагасціўшы, разышліся:
Па апошняе пайшлі ўсе.

Пакуль зноў хто прывандруе,
Я на памяць падарую

Паясок табе твой, дзядзька,
Пажалею лепш, як бацька.

Развязвае Саму рукі, той бяссільна асоўваецца ля грушы. Падростак садзіцца на стале і пачынае з увагай строіць скрыпку.

Сам
*(панура)*

Ўсё згарэла, ўсё, дазвання —
З хатай воля і прыстанне.

Слепа стануць сведчыць людзі,—
Суд у катаргу засудзіць.

З усім родным разлучуся...
Не вярнуся, а вярнуся —

Уся вёска сходку скліча,
Мне праступкі ўсе паліча;

Скажуць: ссыльнага не трэба...
Зноў без хаты, зноў без хлеба...

З дзіцем жонка ў чужых згіне,
А бацькі — у жабраніне...

На пагібель, на скананне
Ўсё згарэла, ўсё, дазвання.
*(Гаворачы ўсё гэта, круціць у руках пояс, мацуе і мяркуе яго даўжыню і жудка ўсміхаецца.)*

Падростак
*(раптам перастаючы строіць скрыпку і ўглядаючыся ў адзін бок)*

Зноў сюды прэ мая жонка.
*(Саскаквае са стала і ўцякае.)*

Сам

*(як шалёны, ускаквае на стол
і завязвае за сук грушы пояс)*

Будзь шчасліваю, старонка!
*(Укладае галаву ў пятлю і вісне.)*

Вар'ятка

*(улятае — таксама —
з галавешкай і вянком)*

Дзе мой нож? усіх парэжу!
Ніхто жыў тут не залежа!
*(Хватае, угледзеўшы, тапор.)*
Усіх парэжу, як авечкі,—
Пасяку ўсіх драбней сечкі!
*(Глянуўшы на вісячага Сама.)*
На пачатак гэту йгрушку
Ў сама горла трапіць мушу.

Ускаквае мігам на стол і замахваецца тапаром у шыю Сама, але пападае толькі ў пояс і перасякае яго. Сам, яшчэ з знакамі жыцця, валіцца на зямлю. У вар'яткі выпадае з рук тапор; сыходзіць са стала і пачынае зноў галубіць дзіцянё-галавешку. Сам кашляе крывёй і хрыпла стогне.

Вар'ятка

*(снуючы кругом грушы)*

Лю-лі, лю-лі, мой сыночак!
Лю-лі, лю-лі, сакалочак!
*(Туліць і хоча карміць грудзёй.)*

Сляпая

*(майчаўшая дагэтуль)*

Што тут творацца за дзівы,
Божа ты мой літасцівы?!

Стогнуць, плачуць і рагочуць...
Што ім трэба? Чаго хочуць?

Дзяўчынка і хлопчык

*(выбягаюць, ужо саўсім збедзіўшыся
і асалавеўшы, і чапляюцца
за спадніцу вар'яткі)*

Мама, мама, дзе наш тата?

Вар'ятка

Вон, ягнята, вон, шчанята!

Снуе далей навокал грушы; дзеці ад яе не адстаюць. Выходзяць, несучы лаву і другое ламаццё, стары, старая і іх нявестка.

Стары

*(садзячыся ля стала на зямлі; панура)*

Ну, цяпер, ужо дажынкі.

Старая

*(нагінаючыся над Самам)*

Адвязаўся, бедачынка,
Сам адплутаўся, міленькі.

Нявестка

*(з дзіцем на руках, таксама нагінаючыся)*

А як змучыўся усенькі!

Сам

*(ачуняўшы трохі, стогнучы хрыпла)*

Ратаваці бег з папару
Усіх чыста ад пажару.

Старая

*(садзячыся з нявесткай наабапал яго, заламаўшы на каленях рукі, маркотна)*

Што рабіці, што чыніці?

Нявестка

*(нагінаючыся над дзіцем)*

Няма чым і пакарміці:
Як спужалася, заныла,
Малако ўсё...

Стары

*(глуха)*

Ўсё скасіла,
Прыскам, попелам пакрыла.

Сам

*(з сумнай жаласцю ўглядаючыся на дзіцянё, каторае працягвае да яго ручачкі)*

Хіба ты, падросшы, дзетка,
Будзеш бацькі свайго сведкай.

Маладая
*(уваходзячы з маладым, горка ўсміхаючыся)*
А цяпер вяселле справім.

Малады
*(таксама)*
Ежай, водкай стол заставім.

Садзяцца на старане, абняўшыся, сумныя.

Сват
*(за ім уваходзяць музыка і дружына)*
Прыстаў з стражнікамі едзе,
Затрымаўся толькі недзе.

Музыка і дружына
*(разам)*
Кажуць, едзе на дазнанне.

Стары
*(панура)*
Як згарэла ўсё дазвання!

Падростак
*(са скрыпкай, разглядаючы ўсіх)*
Ну, цяпер-то ўжо вяселле
Не такое, як мы мелі

Са сваёю маладухай,
Рэзнуць можна ім ад вуха.
*(Строіць скрыпку.)*

Музыка
*(усхапіўшыся)*
Ты дзе скрыпку ўзяў, псяюха?

Уваходзяць прыстаў, два стражнікі і куча пагарэльцаў за імі. Усе ўстаюць, сядзяць толькі сляпая, падростак і Сам.

Прыстаў
Што, друзья мoi,— нешчасце?

Колькі галасоў
Так, так, барынька, прапасці
Ні на грош усім нам трэба.

Прыстаў

Ну, ну! ласкаў Гасподзь з неба.
Цяпер толькі, мае брацці,
Ў пратакол усё спісаці —
Як і што — я мушу тутка.

Войчым маладога

Гэта пойдзе, барын, хутка.

Прыстаў
*(садзячыся на падстаўленай яму лаўцы і дастаючы торбу з паперамі)*

Ну, кажыце, як было ўсё.

Мачыха маладой

Так пайшло, як пачалося...

Соцкі

Што ж, пішыце: ўсё згарэла,
Толькі валасць ацалела:
Двор памог уратаваці.

Прыстаў
*(запісваючы)*

А з людзей?

Голас з грамады

Дзіцё ў хаце,
Ну і мужа кабяціны
*(паказваючы на вар'ятку)*
Гэтай спёк агонь.

Прыстаў

Прычына?

Колькі галасоў

Падпаліў во гэты злодзей.

Мачыха маладой

Каб яму дна...

Прыстаў

Годзе, годзе!

Войчым маладога
Ўжо пад воласць...

Пыстаў
Як завецца?

Колькі галасоў
Сам.

Прыстаў
Пакуль што разбярэцца,
Трэба ўзяць яго пад стражу.

Колькі галасоў
Няхай добра суд накажа!

Прыстаў
Дзе бацькі?

Колькі галасоў
Ў такога звера...

Прыстаў
Ё ў мяне для іх папера.

Стары і старая
*(падыходзячы к прыставу)*
Гэта, барынька, мы будзем.

Прыстаў
Вота ж тут стаіць вам, людзі:
Даў на вашае прашэнне
Губарнатар разрашэнне

І праезд дзяшовы тожа:
Ў хадакі ісці сын можа
Выбіраць зямлю ў Сібіры.

Стары і старая
Дзякуй, барынька, вам шчыра.

Прыстаў
*(складаючы торбу)*
А цяпер бывайце жывы!

Колькі галасоў
I вам, барынька, шчасліва!

Прыстаў
*(да стражнікаў, паказваючы на Сама)*
Забіраць яго з сабою!

Стражнікі ўсцягваюць Сама за рукі з зямлі.

Колькі галасоў
*(насмешліва гледзячы, як Сам, устаючы, хістаецца)*
Бач, на ножаньках не ўстоіць.

Сам
*(стогнучы балесна)*
Ратаваці бег з папару
Усіх чыста ад пажару...

Вядуць яго ўлева; за ім ззаду прыстаў і пагарэльцы. Астаюцца: уся вясельная дружына, войчым, мачыха, старыя, іх нявестка, падростак, вар'ятка і сляпая. Садзяцца: на зямлі — малады з маладой, абняўшыся; ля іх непадалёку — сват, маршалак, закоснік, дружкі, музыка, войчым і мачыха; стары — на лаве, звесіўшы галаву над сталом. Усе хмурыя, сумныя, некаторыя заплакаўшыся. Гул ад пажару заціх, толькі вецер шалясціць абтлеўшым лісцём грушы.

Старая
*(валяючыся на зямлі, як падкошаная, услед выводжанаму Саму)*
Сына роднага забралі!

Нявестка
*(супакойвае заплаканае дзіцянё)*
Над дзіцём не мелі жалю.

Сляпая
*(сама да сябе)*
Што тут творацца за дзівы!
Божа ты мой літасцівы.

Стогнуць, плачуць і рагочуць.
Што ім трэба, чаго хочуць?

Старац

*(выйшаў незаметна і стаў ля грушы,
як стуль забіралі Сама.
Увесь абвешаны па-жабрачаму торбамі;
стаіць, апёршыся абедзвюма рукамі на кій.
Загаварыў глуха, панура і тады
толькі звярнуў на сябе ўвагу)*

З грудзей вырві сваё сэрца,—
Зіму, лета сушы ў печы;

А як высахне, смалою
Злі жывою сэрца тое,—

Падпалі тады лучынкай,
Каб гарэла безупынку,

Як пажар гарэў сягоння,—
І ідзі ў свет, як з паходняй:

Праўды йдзі так з ім шукаці...
Ты не знойдзеш.

Дзяўчынка і хлопчык

*(выбягаючы і чапляючыся за вар'ятку,
каторая ўсё снуе то сюды,
то туды з галавешкай у руках
і вянком на галаве)*

Маці, маці!
Дзе наш тата, дзе наш тата?

Вар'ятка

Вон, ягнята, вон, шчанята!

Падростак

*(сядзіць паводдаль на зямлі
і пачынае іграць, паглядаючы
на музыку)*

Былі ў бацькі тры сыны...

*Паволі апускаецца заслона*

## IV. У шынкоўні

Ноч. Зімой. Шынок у канцы горада; з левага боку дзверы; каля сцен расстаўлена восем столікаў; на сценах вісіць колькі лубачных малюнкаў; у кутку з левага боку вісіць абраз — перад ім цепліцца лямпа з алівай; па правым баку буфет і паліцы з бутэлькамі, за буфетам — шынкар; пасярод карчмы, пад сталяваннем, зачэплена вялікая лямпа; падлога ўся ў гразі і мокрая. Спачатку нікога няма, апрача шынкара і чатырох дзяўчын для паслугі, пасля пачынаюць сыходзіцца госці, выгляд маюць усе яны ўбогі, прыбіты, няшчасны. Ад трэцяга абразу прайшло колькі часу.

Шынкар

Гасцей як вымела мятлою,
Хоць і мароз такі сярдзіты,
Бывала, гэткаю парою
Шынок увесь бітком набіты;

Таргоўля йдзе — аж глянуць люба —
Паўкварты, кварты, дзе там сотка!
Цяпер жа ўсё ідзе на згубу —
Гніе закуска, сохне водка.

А ўсё, ўважаю, вы прычынай;
Гасцей не бавіце дарэчы;
Што ўперад вас былі дзяўчыны,
Пры тых не знаў такой пустэчы.

1-я дзяўчына

Э! Ваша, толькі наракаеш.

2-я дзяўчына

Забыўся, колькі было ўчора.

3-я дзяўчына

Яшчэ сягоння прычакаеш,
Хай толькі добра сцюжа змора.

4-я дзяўчына
*(хмура)*

Як мухаў рой на мухаморы,
Збягуцца, пляшкамі зазвоняць;
Пакуль ахвоту ўсю спагоняць,
Пасуду высушаць без гора,
Табе кішэнь, як бач, напоўняць.

Чуваць топат на ганку.

Дзяўчыны
*(разам)*
А вось і госць! Ці ж не казалі?

Уваходзяць двое.

1-ы
Што за мароз пячэ сягоння!
Як прыскам, вочы проста смаліць.

2-і
Ў казіны рог усіх загоне.

Садзяцца ля першага століка з левага боку.

1-ы
Ану, дзяўчынкі ці кабеты,
Хай там шынкар чаго падсуча.

2-і
А крэпкай так, як мароз гэты;
А як агонь — такой пякучай.

1-я дзяўчына
*(бярэ з буфета дзве чаркі, паўквартоўку, на каторую ўскладае на шыйку тры абаранкі і падае гасцям)*
Няхай жа добра вас падсмажа.

Уваходзяць двое.

1-ы
Што за пракляты сівер смажа,
Аж косці ў крук, як шчэпкі, верце!

2-і
Як воўк авечак, бярэ ў лапы.

Садзяцца ля другога століка.

1-ы
Што ж! Дайце нам таей сусветнай.
А толькі добра там адмерце.

2-і
Каб аж Люцыпар у праметнай
Развесіў, дзіўлячыся, ляпу.

2-я дзяўчына
*(падаючы гарэлку, як 1-я)*
І ў пекле лепшай не дастаці.

Уваходзяць двое.

1-ы
Гняце і давіць да зарэзу...
Душу у целе не стрымаці.

2-і
Не акуе так і жалеза.

Садзяцца ля трэцяга століка.

1-ы
Няхай жа, ваша, там удружа,—
Шынкар хай толькі знае дзела.

2-і
Каб аж трашчэлі усе путы,
Каб аж сама сталь затрашчэла.

3-я дзяўчына
*(падаючы таксама, як 1-я)*
Не знаю што — а трашчэць будзе.

Уваходзяць двое.

1-ы
Прост лёдам кроў сцялася ў жылах,
Зледавацелі цэглай грудзі.

2-і
Пячэ, як жаб агнём на вілах.

Садзяцца ля чацвёртага століка.

1-ы
Падай там нам! А каб хапіла,
Аж сівер каб не змог, як трутняў.

2-і
Каб так нутро ўсё растапіла,
Як топяць шкло у печы гутняй.

4-я дзяўчына
*(падаючы, як і 1-я)*
Хоць пад свой дом з такім падпалам.

Уваходзяць двое.

1-ы
Абвіўся гадзінай халоднай,
Упіўся ў шыю, як жыгалам.

2-і
Як ястраб птушку рве галодны.

Садзяцца за пяты столік.

1-ы
Гэй, гэй! жывей на стол прынаду —
Зальём атрутаю атруту.

2-і
А каб мацней была ад яду,—
Як смерць сама — так звіўнай, крутай.

1-я дзяўчына
*(стаўляючы гарэлку)*
Кагось ці штось, але атруціць.

Уваходзяць двое.

1-ы
Як перуном страляе ў сцены,
Кладзе нябожчыкаў ў бяспуцці.

2-і
Людзей з'ядае, як конь сена.

Садзяцца за шосты столік.

1-ы
Таей, што льецца зменнай хваляй,
У шалёным высвенцанай зеллі.

2-і
Каб аж нябожчыкі ўставалі,
Каб аж крыжы з магіл запелі.

2-я дзяўчына
*(падаючы гарэлку)*

Хтось запяе, хоць мо не ўстане.

Уваходзіць Сам — адзін.

Сам

На небе сонца зледаваціў,
Імглою зоры ўсе загаціў,
Зямлю патрэскаў на кургане.
*(Садзіцца за сёмы столік.)*
Не будзьце ж толькі скупы ў мерцы,—
А крэпкай так, як кроў жывая;

Каб так паліла ў цэлым сэрцы,
Як хата родная палае.

3-я дзяўчына
*(падаючы гарэлку)*

Крапчэй, як вар слязы сірочай,
А вагнісцей, як крыўды вочы.

У шынку ўсільваецца гоман; дзяўчаты ўвіваюцца, падаючы гасцям то гарэлку, то піва.

Пры 1-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Пі! Што глядзіш, як бы нясмела?
Пі, каб аж сэрца скрыгатала!
Каб аж душа, як дым, курэла
І дымам вочы засцілала.

2-і
*(падымаючы
з 1-м чаркі)*

За згубу лепшай, светлай долі,
За працвітанне чорных хвіляў,
За тых усіх, што мяне гналі,
Пакуль аж тут не утапілі!

Пры 2-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Сам галавы сваёй не вешай:
Табе яе другі павесе...
Пі, каб аж процьму ўсю усцешыў
І ў гэтай сам струпееў пацесе.

2-і
*(падымаючы чарку)*

За тыя плецены прылады,—
За тых, што точанаю сталяй
Былі ва ўсіх пуцях завадай,
Пакуль аж тут не прыкавалі!

Пры 3-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Што гнеш свой карк, як вол у плузе,
Зямлю капаючы нарогам?
Пі, як канюх расу на лузе,—
Ярмо ты знойдзеш за парогам.

2-і
*(беручы чарку)*

За тыя пухавы пасцелі,
За торпы, стогі аж пад неба,—
За тых усіх, што хлеб мой елі,
Пакуль мне тут не далі хлеба!

Пры 4-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Што круціш сумна галавою,
Як касцяломнаю машынай?
Пі, каб аж трэсла ўсім табою,
Як трасе вецер павуцінай.

2-і
*(падымаючы чарку)*

За тую комінную сажу,
За свіст гудкоў, за дым крывавы,—

За тых усіх, хто мяне пражыў,
Пакуль гарэць тут не заставіў!

Пры 5-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Што сееў, як мокрая варона?
Пі, як кроў смокчуць з тваіх косцяў!
Заліся гараю шалёнай,
Каб аж тапелец пазайздросціў.

2-і
*(падымаючы чарку)*

За тыя дзікія напасці,
За нашу брацкую нязгоду,
За тых, што след закрылі к шчасцю,
А паказалі сюды ходы!

Пры 6-м століку

1-ы
*(да 2-га)*

Не закладай рук, як бы ўсыпаў
У печ апошняе з аруда.
Пі, аж каб вылецелі скрыпы
З грудзей тваіх, як з кол па грудах.

2-і
*(беручы з першым чарку)*

За тыя збэшчаныя сілы,
Што самі, чэзнучы ў пракляцці,
Усе з нас высмакталі жылы
І сюды звабілі смактаці!

Уваходзяць тры дзяўчыны.

1-я

Пусціў на вуліцу уперад.

2-я

Людское ўсё здзёр, апаганіў.

1-я

Цяпер сюды прэ, як у нерат.

3-я
На славы, долі патаптанне.

Разыходзяцца і прысядаюць к гасцям.

1-я
*(падсаджваючыся к Саму)*
Ты што адзін так, небарака,
І чаркі, бачу, не чапаеш?
Са мною выпі, як са ўсякай,
І думай, што з дачкой гуляеш.

Сам
*(падымаючы з дзяўчынай чарку)*
За тых, хто родны край зніштожыў
І к цемрам вечным кладкі мосціць.
За тых...

Шынкар
*(перапыняючы Сама)*
А што на свеце божым
Чутно цікавенькага, госці?

Пры 1-м століку
1-ы
Што ж? Народ грэецца, як можа:
Агонь раскладвае усюды.

2-і
З кастры спляснеўшай і саломы...
І то ўсё грэюцца прыблуды.

Пры 2-м століку
1-ы
Масты старыя йдуць на зломы,
Старыя стаў паліць руіны.

2-і
Не збудаваўшы сабе новых —
Мець будзе духу, як з націны.

Пры 3-м століку
1-ы
Ўжо тлеюць вогнішчы у ровах,
Пяройдуць скора і на горы.

2-і

Пачаў падпал разводзіць знізу,
Каб сам прапасць лепш мог у норах.

Пры 4-м століку

1-ы

Стаў класці ўжо на вокны маты,
Ў куты кладзе абноскі рызаў.

2-і

К вакнам прыладжывае латы,
А дзверы насцеж раскрывае.

Пры 5-м століку

1-ы

А ўсё ж, і ў горадзе і то ўжо
Агонь на вуліцах палае.

2-і

І гінуць самі ў ім, як смоўжы,
Нагой сляпою растаптаны.

Пры 6-м століку

1-ы

Але ахвота змагаць сцюжу
Усіх з пасцелі прэ ад рана.

2-і

Ахвотай і надзеяй дужы,
На дзеле ж слабшыя ад мухаў.

Сам

Яшчэ бізун замала хухаў,
Замала пёк рабоў пакорных;
А ў думах выхаваны зморных,
Не знаюць, дзе пячэ, дзе студзіць.

Мнішка

*(увайшла з двара і,*
*адбіўшы паклон у бок абраза,*
*абходзіць столікі)*

На манастыр і на храм божы...

З 1-га століка

З-пад храмаў лепш ідзі у людзі
Палоці грады, жаці збожжа.

З 2-га століка

Лепш лён ідзі часаць і прасці,
Для голых шый лепш кашулёны.

З 3-га століка

Нясла ж ты помач у няшчасці
Ў свае радзімыя староны?

З 4-га століка

У муры чымся зашывацца,
Ідзі лепш к працы на прасторы.

З 5-га століка

Не мур павінен храмам звацца,
А цэлы свет — зямелька, зоры.

З 6-га століка

Дзяцей ідзі лепш гадаваці,
На бітву будучую сілы.

Сам

Йдзі сонца ўсходу выглядаці
Над сваіх прадзедаў магілай.

Уваходзіць фокуснік;
мнішка з нічым выходзіць.

Фокуснік
*(дастаючы з-пад полы паперыну,
зложаную гармонікам,
і кланяючыся гасцям)*

З вашай ласкі, сызвалення
Даць хачу вам прадстаўленне,
Каб вас лепш ахвота брала,
Лепш шынкоўня таргавала.

*(Паказваючы.)*

Вось кусочак вам паперы —
І не белы, і не шэры —
Ў сабе мае моц такую,—
Што захочаце, збудую.

Перш, во хата, як ёсць, хата,
Каля хаты — плот, як крата;

Мужычок сядзіць у хаце
І пляце сабе сам лапці.

А вось хорам, як ёсць, дворны —
Пабяляны і prасторны;

Хтось ля ганка стаў без шапкі
І цалуе пана ў лапкі.

Гэта фабрыка ўжо будзе,—
Вось закураны ў ёй людзі;

Ў неба з коміна дым валіць.
Як бы душ там гатавалі.

Во — шынкоўня, як і наша,
Так галубіць, як і страша;

Шынкарочак за буфетам:
Рад гасцям зімой і летам.

Суд — будынак, значыць, гэты,—
Кругом вострыя штахеты:

Засядаюць у ім суддзі —
Брушкі тоўсты, ў бляхах грудзі.

А во! гэты мур цагляны
Нашым братам збудаваны:

Ў вокнах краты, тоўсты сцены...
Ну,— астрог — наш хлеб штодзенны.

Тут сібірскія абшары:
Поле пусткай, неба — ў хмарах;

Сцюжа, лес сапуць пакутай,
Як бы звоны вечных путаў.

Тутка — могілкі шарамі
Між лазовымі кустамі,

Толькі крыжа штосьці не відна...
Знаць, яму тут стала стыдна.

А вось сельская зноў хата.
Каля хаты плот, як крата;

Мужычок сядзіць у хаце
І пляце сабе сам лапці.

Далей — тое ўсё, як казка...
А за працу мне што ласка:

З гурту — нітачка, другая,
А ўжо голы пятлю мае.

*(Абыходзячы гасцей з шапкай.)*

Будаваў без інжынера,
Без людзей і без сякеры.

Колькі галасоў
*(кідаючы медзякі ў шапку,
пасля чаго фокуснік выходзіць з шынкоўні)*
Што ж? нядрэнныя паперы.

Па выхадзе фокусніка Сам пачынае нехаця званіць пальцамі па ліры. Усе звяртаюць на яго ўвагу.

Колькі галасоў
А, лірнік! Што там шэпчаш звонам?!
Грымні, каб чутна ўсім было нам.

Сам
*(кладучы ліру на каленях)*
Канечна, мае голас ліра,
Бы толькі слухалі вы шчыра.
*(Грае, манатонна напяваючы.)*

Ходзіць сцежкай-пуцявінай
Ад хаціны да хаціны

Лірнік з лірай звонкаструннай,
Паглядаючы ў свет сумна.

Сонца потам палівае,
Ноч жудою спавівае,

Вецер світку рве і шчыпле,
Снег у вочы смоллю сыпле.

Сыпле ў вочы, як пасеі,
Бараду яго развеяў

На старонкі на абедзве —
Ён пляцецца ледзьве-ледзьве.

Плечы горб гняце пахіла,
Грудзі ўпалі, як магіла,

Чуць-чуць ходзяць ходам ногі
На дарогу, то з дарогі.

Ёмка ўжо трасуцца рукі:
Многа мелі, знаць, дакукі;

Толькі голас знае дзела —
Дабываюць грудзі смела.

Чуць ідзе, і звоніць з лірай
На старонкі на чатыры

І старой, і новай песняй
Так магуча, так балесне.

А калі ж к нам змілаванне
З дальняй далі прыйдзе, гляне?

Лад-парадак пазаводзіць,
Думкі песняй асалодзіць?

А калі ж к нам рыцар важны
Прыплыве Дунаем з княжнай?

Нас падыме, заахвоціць
К лепшай славе і рабоце?

А калі ж к нам прыйдуць весці,
Што пара усім засесці

На пачэсным на пасадзе
Ў роднай долі, ў роднай радзе?

А калі ж мы загуляем
За вялікім караваем,

Закалышамся каронай
Ля дубровы ля зялёнай?

А калі ж наклеплем косы
На чырвоныя на росы,

Што палеткі сушаць нашы,—
Хлеб людзям, а коням пашу?

А калі ж пясняр вялікі
Нашай песняй пусціць клікі

І гарой, і даліною,
Дрогне небам і зямлёю?

А калі ўсё гэта будзе?
Дзе схавана, дзе марудзіць?

Ходам ходзіць — не прыходзіць,
А, здаецца, клічам годзіць...

Клічам каняй на пагоду
Ад усходу да заходу,

Молім, сеем рэчкай слёзы
Ад марозаў да марозаў;

І нічога, а ўсё толькі
Паганяюць больку болькі,

Са старонкі левай, беднай
Маладзік страчаем бледны.

Ждуць пасеву горы, долы,
Нашы нівы, нашы сёлы,

Няма ж месца ад залома
Ані ў полі, ані дома,

Пакрывіла сцюжа хаты,
Пазмятала стрэхі з латаў —

Пазмятала, не спытала,
Ў чыстым полі пахавала.

З-пад глухога неба хмары
Кветкі губяць на папары,

Бор хістаюць векавечны,
Дуб кладуць далоў няўсечны.

Ўсё палошчуць і дрыгочуць;
Хоць бы йшлі ўжо — йсці не хочуць.

Хто прагоніць, хто ўбароне,
Крыжам ляжа на загоне?

За гарамі, за даламі
Дрэмле сонца наша з намі;

Ночка ходзіць, не адходзіць
І сляпой савой заводзіць.

Ад далёкіх, блізкіх ветраў
На жывых напала нетра,

На забранай сенажаці
Стогнуць дзеці, плача маці.

Ані знаку агняцветаў,
Праўды-маткі не шлюць свету

Жыватворнаю крыніцай
Ад граніцы да граніцы.

Лірнік Лазар ходзіць, плача,
І ніхто яго не бача.

Не прыходзіць змілаванне
З важнай весцю ў добрым стане.

Усе мімавольна паўтараюць апошнія дзве зваbooткі пад такт песні Сама. Пачынаецца напяванне без слоў, катораe паволі ўсільваецца ў нейкую жудка-сумную, прыдаўленую мелодыю, становіцца штораз ясней з чутнымі выразна словамі. Маўчыць толькі шынкар.

...Вырвалі шчасце, вырвалі вочы,
Думы паганяць няславай;

Сцежкі заслалі цемраю ночы,
Рыюць у процьму канавы.

Тутка мы п'яны, ах, п'яны
Вечным пракляццем сваім:
Гоячы вечныя раны,
Новыя раны тварым.

*

Вышай ці ніжай — цемра-пацёмкі:
Ўсходу паходні не знаці.
Продкі — ў магіле, ў путах — патомкі,
З намі, прад намі — бясхацце.

Тут п'яны мы, як сляпыя,
Слёзы з атрутаю п'ем,
Помнячы петлі старыя,
Новыя путы куём.

*

Рукі ў аковах, душы ў балоце,
Зверства спраўляе каляды;
Свіст груганові целам калоце,
Гадзіны сыкаюць здрадай...

Тутка мы п'ём, не марудзім,
Вечнай аддадзены кляцьбе:
Даўніх праступкаў забудзем,
К новым пад'юдзім сябе.

*

Хто лепш ярмом нас здавіць, прыцісне —
Б'ём таму ніжай паклоны,
І ненавідзім так бескарысне,
Як бескарысны усе нашы плёны.

Тутка мы п'яны, ах, п'яны...
Як сэрца ядам змяі.
Тут, там нам праўда не знана —
Хто мы: звярмі ці людзьмі?

**Уваходзіць малады стражнік; шынкар паказвае яму месца пры 8-м, апошнім століку каля самага буфета. Песня зноў пераходзіць у нямы — без слоў — гул. Скора за**

стражнікам уваходзяць два музыкі — адзін са скрыпкай, другі з гармонікам; як увайшлі, усе перасталі пець.

Колькі гасцей
*(разам)*

Ціха! ўжо прыйшлі музыкі.

Музыкі садзяцца па левай старане ля дзвярэй і зводзяць скрыпку з гармонікам.

З 1-га століка

Як добра, што шынкар паклікаў...
Зайграйце, толькі ж не фальшыва —
Як суддзі, купленыя меддзю.

З 2-га століка

Няхай маланкай смык паедзе,
А так свістуча, так ігрыва,
Як куля, пушчаная ў птушку.

З 3-га століка

Як аплявухі, рэжце звонам;
Гудзі гармошкай, як кадушкай,
Як бізуном гудзе аконам.

З 4-га століка

Скрыпніце й скрыпкай, і гармошкай,
А так піскуча, так прымерне,
Як тыя ў фабрыках шасцерні.

З 5-га століка

Звініце, йграйце п'яна-звонка,
Як шклянкі гэтыя і пляшкі,
Каб аж забегалі мурашкі.

З 6-га століка

Звініце, як ноч гэта звоніць,—
Як на змазоленай далоні
Звініць апошняя капейка.

Сам

Я чуў шмат лет таму жалейку...

Музыкі, глушачы далейшыя словы Сама, пачынаюць іграць «Ой-ра, ой-ра»; некаторыя з гасцей выкручваюць п'яна ў такт ігры за століками нагамі. Усе гамоняць і ў нос падпяваюць музыкам.

С а м
*(як музыкі перарвалі ігру)*

А каб цяпер — «Волны Дунаю»...
Дунай я часта ўспамінаю.

Іграюць «Волны Дуная»; усе ім падцягваюць; пасля — як падніманыя з месца невядомай сілай — пачынаюць у пары з дзяўчынай круціцца; выгляд кожная пара мае ненатуральны — паўдзікі, пануры, рэшта — па адным пры кожным століку — сядзяць і глуха падпяваюць музыкам. Сам такжа круціцца; стражнік сядзіць. Па колькі мінутах адчыняюцца ў шынку дзверы і два мужчыны ўцягваюць замёрзшую скасцянеўшую кабету; усе, не дагледзеўшы гэтага, час нейкі яшчэ круцяцца.

Ш ы н к а р
*(такжа не заўважыўшы спачатку)*
Што гэта? Што? Святы Бог з вамі!
Скуль вы з такою падарожнай?

1-ы м у ж ч ы н а
*(музыка і гульня ціхне)*
Замерзла тутка пад вакнамі,
Яшчэ к жыццю вярнуці можна.

2-і м у ж ч ы н а
Мы йшлі сюды шукаць начлегу —
Глядзім — ляжыць, як корч, кабета.

Ш ы н к а р
Нясіце снегу! Жывей снегу!
Снег памагае ў разах гэтых.

Н е х т а з г а с ц е й
Так, як нябожчыку палонка.

Усе абступаюцца каля замёрзшай і ўглядаюцца.

С т р а ж н і к
*(адскакваючы, як бы спужаўшыся)*
Моя мамаша...

С а м
*(валячыся на калені над замёрзшай)*
Мая жонка...

*З а с л о н а*



# НА ПАПАСЕ

*Абразок з 1906 года*

АСОБЫ

1-ы падарожны 1-ы яздак
2-і падарожны 2-і яздак
3-і падарожны 3-і яздак
Незнаёмы

Вясенняя ноч. Непадалёк ад гасцінца — хвойнік.
Тры падарожныя збіраюць галлё.

1-ы падарожны
*(прыносячы галіну)*

І пуста ж, пуста ў гэтым лесе!
Нідзе галінкі не найсці;
Вось тут абсохні і сагрэйся,
Найдзі дарогу ў беспуцці.

А помню, ўсё было іначай:
Папас тут меў ты як папас;
Нічога воз галля не значыў,
Агонь не зводзіўся, не гас.

2-і падарожны
*(кідаючы сук)*

Цьфу! Каб ты ўсё пайшло тут прахам!
Ну, і галоцяць людзі лес:
Па сук і то з вялікім страхам
На хвойку чуць я, чуць узлез.

Яшчэ паўгода, год, і будзе
Без бліску вогнішча начлег,
Не раз, не два хтось блудам зблудзе
Усякай погані на смех.

3-і падарожны
*(кідаючы лазіну)*

Вось вам дубец лазы лазою!
З карэння выдзер як ё ўсю;
Змарыўся, змогся, чуць устою,
Каб толькі выкрасіць агню.

Хай блісне полымя пад неба,—
Пара манаткі абсушыць...
Я падыду па торбу з хлебам,
А вы вазьміцесь распаліць...

1-ы падарожны

Я рад бы славы даказаці,
Ды сваю губку замачыў.

2-і падарожны

А я свой недзе цыр затраціў,—
Даўно і люлькі не курыў.

3-і падарожны

Ну, добра! Зараз я вярнуся,—
Запаланее мігам лом:

Сярнічак мне дала Кастуся,
Ў мяне яны тут з капшуком.
*(Выходзіць.)*

1-ы падарожны
*(к другому)*

Садзіся, ваша, адпачынем!
Напэўна, спорна умахаў?

Дарожка — хай яна загіне:
Карэння столькі і канаў!

Дух чалавеку ўпрост вымае,
Не чуеш костачкі аднэй...
Садзіся, ваша, вось дзе з краю,
Ног зацяганых пажалей.

2-і падарожны

О, дзякуй, дзякуй, чалавеча!
Я рад спачыну; балазе,
К таму сказаць, і акалечыў
Свой большы палец на назе.
*(Садзіцца.)*

Як неяк холадна на свеце,
Хоць май даўно ўжо на дварэ.
Але, але дзе наш той трэці?
Няўжо ўсё хлеб яшчэ бярэ?..

3-і падарожны
*(падыходзячы)*

А вось і я прыйшоў нарэшце!
Крыху задлякаўся з канём.
Агоньчык толечы развесці,—
А там закусім, аддыхнём.
*(Дастае запалкі.)*

Запалім... А! вось і навука!
Што гэта значыла б такі?
Другую маем закаклюку:
Мае замоклі сернікі.

Не дам нічога з імі рады;
Ўпацёмку трэба папасаць.
Вось не пашэнціла, дапраўды!
Ці ж думаў хто так прападаць?!

1-ы падарожны

Э, плюнь, суседзе, на ўсё гэта,—
Каб нам такой бяды павек!
Сцюдзёна, цёмна, ды ўсё ж лета —
Не счэз ніводзін чалавек.

А можа, хто яшчэ над'едзе
І зніме гэты клопат з нас?
Дый першыня ці што, суседзе,
Ў дарозе мецць такі папас...

1-ы падарожны

Мо помніш леташнюю восень;
Ўвесь свет быў глух, і дзік, і пуст;
Шум не сціхае гонкіх сосен:
Здаецца, плача кожны куст.

Здаецца, пеклава вяселле
Ўзнялося, круціцца, сапе;
Ні бліску зорак, ні прыселля,
Конь толькі пудзіцца, храпе.

Цурком дождж льецца, як бы з луба,
Скаголіць вецер, як той звер,
А мы пад хвойкамі, аж люба,
Начлег спраўляем, як цяпер.

3-і падарожны
*(прыслухоўваючыся)*

Пастой, суседзе, нешта чую:
Як быццам фыркнуў мой гняды...
Кром нас, ніхто тут не начуе,—
Каб не набраціся бяды?

1-ы падарожны

Сядзіце вы, а я падскочу
І кіну вокам на вазы:
Мо сена хто наскубсці хоча,—
Вось шэльме дам дык дам лазы.
*(Адыходзячы, чапляецца лапцем за сук і валіцца.)*

А каб цябе паляруш мучыў!
Чуць-чуць не вывернуў нагу...
На сук на самы неяк лучыў.
Ну, ўжо гатова, ўжо бягу.
*(Па нейкім часе варочаецца з Незнаёмым.)*

Вось вам і злодзея на рукі
На вашы гэттака здаю...

Нямнога меў я з ім дакукі,
Пачуў ён сілу, знаць, маю.
У спрэчку доўгую не ўходзіў:
Пайшоў, куды сказаў яму.

Незнаёмы

Пакінь плясці! Я вам не злодзей,
І лаяць так няма чаму.

Я гэткі самы падарожны,
Як вось і вы, мае людцы;
Закінуць тое толькі можна:
Я без каня, а з коньмі вы.

Але, як вы, шукаў начлегу,—
Яго між вамі думаў мець,
Дый не туды, як бачу, ўехаў.
За блуд прыходзіцца жалець.

2-і падарожны

А як васпана нам пазнаці,
Што, як сюды ішоў, не меў
Нічога злога даканаці,
Што нават думаць не пасмеў?..

3-і падарожны

А праўду, праўду сват гавора,
Мы тое скажам усе тры:
Куды ідзеш? Дзе быў учора?
Што ты за штука?

Усе тры

Гавары!

Незнаёмы

На рукі гляньце з мазалямі,
Грудзям прыгледзьцеся худым,
І кій, і торба за плячамі
Найлепей скажуць аб усім.

З гразёй не будзеце мяшаці,
Далей адпусціце ісці...
І вас чакаюць дзеткі ў хаце,
І вы бяспутнікі ў жыцці!

Вось лепш асвецім гэту кнею,
Святлу з нас пэўна ўсякі рад...
Я гаварыці казкі ўмею,
І песень такжа ўмею шмат.

1-ы падарожны

Як бачым, ты глядзіш іначай.

2-і падарожны

Відаць, не злодзеевы род.

3-і падарожны

А хто б падумаў? Так прастачы
І твой убор, і твой паглёд!

1-ы падарожны

І казкі ўмее, і за песняй,
Відаць, не пойдзе ў кішаню,

2-і падарожны

Адно бяда,— што, хоць ты трэсні,
Не можам выкрасіць агню!

Незнаёмы

Усё, усё мець зараз будзем:
Заўсёды ё ў мяне святло,
І з ім мы тут не замарудзім
Лясным падсуседзям назло.
*(Запальваючы лом.)*

Гары, гары, ламок, агніста!
Вы, браткі, сядзьце у кружок,
І да зары да залацістай
Нас будзе слухаць саснячок.

Адкуль — ці песняю, ці казкай —
Пачаць вам думкі весяліць?

3-і падарожны

А ўжо, калі там ваша ласка,
То й песню можна закаціць.

1-ы падарожны

А после скажаш, дабрадзею,
Хто ты, адкуль, куды ідзеш?

Цаніць людзей і мы умеем,
Хоць маем гэткіх штораз менш.

Незнаёмы

Ну вось і слаўна! Што больш трэба? —
Агонь, суседзяў грамада;
Навокал лес, над лесам неба,
А там — і зорак чарада.

Люблю я гэткія прыцуды!
Тут чалавек — як чалавек;
За думкай думка мкнецца ўсюды.
Сон не чапляецца павек.
*(Пяе.)*

Жыў на свеце Лявон,
Молад, дужы быў ён,
Толькі з воляй і доляй не бачыўся:
Сонны сэрцам, душой,
Драмаў ў хаце крывой,
А выходзіў — слязамі след значыўся.

Аж вось чуе Лявон
З усіх клікі старон,
Што ён дурань, жыве па-быдлячаму,
Ды сам тут зразумеў,
Што дум светлых не меў,
Што падобен быў дрэву хадзячаму.

Зварухнуўся Лявон,
Як вада, як агонь,
Пазнаў сілу ў сабе небывалую;
Ўжо бяда — не бяда,
Ўжо нуда — не нуда,
Запеў песні свае разудалыя.

Зямля стогне, дрыжыць,
Як пяе, як крычыць,
Як прасвету сабе дамагаецца;
Аж ад песень такіх
Страх напаў на другіх,
І вось чорная моц падымаецца.

І пайшло ўсё ўверх дном.
Свісты, енкі кругом,

Груганы на здабычу злятаюцца:
Шчасце даць бедаку
Не ўсім шло на руку,—
Не ў руку, што Лявон прачыхаецца.

Дарма сілен Лявон,
І адважны так ён,—
На падмогу дарма ён надзеецца:
Галаву у баю
Даў за праўду сваю,—
Толькі памятка — насып віднеецца.

Ляжыць, дрэмле Лявон,
На грудзях вырас клён;
Калі ж вецер на свеце расходзіцца,
Шуміць шумна той клён:
Яшчэ ўстане Лявон —
Гэй, Лявоны у нас не пазводзяцца!
*(Перастаўшы пяяць.)*

Вось і канец вам песні-байцы,
Ці ў ёй панятна толькі ўсё?..
Калі не так што — выбачайце,
Даконча ваша вам жыццё.

1-ы падарожны

О, песню важную такую
Не пойме толькі гліны ком...
Цяпер няхай жа мы пачуем
Штось трохі аб жыцці тваём.

2-і падарожны

А я крыху галля падбаўлю.

3-і падарожны
*(да другога)*

Я памагу табе крыху.

1-ы падарожны

Аброці коням я папраўлю.

Адыходзяць усе тры.

Незнаёмы
*(услед падарожным)*

Я адпачыну на маху.
*(Адзін.)*

О люд мой, лапатны, патульны,
За што цябе я так люблю?
За што твой гоман неразгульны
І думкі ўсе твае лаўлю?

Ты лёг мне каменем на сэрцы,
Які не ў сілах зваліць я...
Што тут пачаці ў паняверцы?
Жыві ў жыцці і без жыцця.

Ідзеш, брыдзеш, а на дарозе —
То косць, то камень, то бадыль;
У брата станеш на парозе,
А ён табе... О божа, крый!..

Нясі ў мяцеліцы, ў разводдзі,
Свайго цярпення нясі крыж.
Калі ж праглянеш ты, народзе,—
Арліным лётам узляціш?

Пасцель пуховую пасцелеш
Сваім замучаным дзяцям,
Нясмелых песняю асмеліш,
Якой сягоння бедзен сам?..

Як страшна збуджаным хадзіці
Між наспаў, зломаных крыжоў!
У мокры пень агонь красіці,
Склікаць аплучаных дружкоў...

Так цяжка, цяжка, дзе ні глянеш,—
Касою крыўды хоць касі!
Калі ж, народзе, ты устанеш
І сонцу голас падасі?

Падарожныя
*(падыходзячы)*

А вось і мы! Цяпер зноў сядзем...

Незнаёмы

Цяпер зноў сядзем... ну, і што ж?
Ага! гістор'ю нашу зладзім,—
Адточым востра ўсё, як нож;

А можа, трапім ёю ў грудзі,
У грудзі з дзерава людзей...

Падарожныя

Што ты? Ці ж мы такія людзі?
Жартуеш хіба, дабрадзей!

Незнаёмы

О, не, крый божа! Ось зняўцёку
Зляцела слоўца з языка...
Так штосьці ў сэрцы мне нялёгка,
Ну, і паднесла бедака...

Хто я і скуль — для вас цікава;
О, невялікі гэта цуд:
Радзіўся, рос, ляцеў за славай,
Ляцеў, ажно спыніўся тут.

Убачыў дзень я ў сельскай хаце;
Бацькі у беднасці жылі:
Канёк, кароўка — ўсё багацце,
Ды гоняў двойчы — ўсёй зямлі.

Чытаць, пісаць крыху навучылі,
Але не выўчылі зусім;
Сам з часам кніжны лад асіліў —
І толк у ім даваў другім.

І мёд салодкі, і атруту
Суліць страніца стала мне;
Я думкі ёю ўсе апутаў:
Не знаў — наяве я ці ў сне.

Цямноты ўсю паняў няздарнасць,
Я сілу знання ўсю паняў;
Свайго жыцця я бачыў марнасць,
Аж на сябе я рукі ўзняў.

Але не суджана было мне
Душой без часу загавець,
І сам не знаю ўжо сягоння —
Жалець таго ці не жалець.

Ішлі гадочкі за гадамі.
Я ў сілу рос і ў розум рос,

Дый не расце пацеха з намі,
Як там ні жалімся на лёс.

Штораз зваднейшыя ўсё леты,
Штораз цяжэй на грош і хлеб.
Пайсці у свет — бацькі мне светам,
А хата мне — астрожны склеп.

Смяецца неба непагодай,
Шыбець скаціну нейкі звод,
Зямліца дзеліцца няўродай,
За годам выплаканы год.

Аж бацьку гора з ног зваліла,—
Пайшоў на той свет без пары;
У год капай зноў тры магілы:
Злёг брат і дзве зляглі сястры.

Пайшло няшчасце за няшчасцем;
Я кут пакінуць мусіў свой...
Дзе ступіш — смешкі ды напасці,
Хоць налажы ты галавой.

Пазнаў кутkoў чужых сцюдзёнасць,
Нагайку службы я пазнаў,
Услед мая шла беспрытоннасць,
З ёй вецер песні напяваў.

А думкі рваліся да сонца,
Туды — да ціхіх добрых зор,
Да волі, шчаснасці бясконца
З пустынных ніў, з гаротных гор.

Ліў нейкі мне таемны голас
Праявы дзіўныя ў душу;
Іх чуў, як чуе сонца колас,
І думаў — зло сваё скрышу.

. . . . . . . . . . . .

Іду... Куды ісці сягоння?
Адной няма, а шмат дарог...
Адлогам родныя спяць гоні,
Іржа на вышках есць нарог.

Кацярынка *(прыносячы паўквартоўку і чарку. Убок).* Вот і салодкую гарэлку будзем піць!

Даміцэля *(наліваючы і падсоўваючы чарку Максіму).* Выпі, кумок, каб на сэрцайку палягчэла! Я ж дык і зроду не піла і не п'ю.

Максім. А мая Паланея часам любіць пацягнуць. *(Выпіваючы.)* За тваё здароўе, кумка, і тваё, Кацярынка! *(Маргаючы да Даміцэлі.)* Можа ж, некалі сваяўство якое звядзём. У мяне — Мацейка, у цябе — Кацярынка, а там *(штурхаючы Даміцэлю ў бок)*, як ведаеш, кумка, і да царквы недалёка.

Даміцэля. Яно ж так! Што каму суджана, дык і пехатой таго не абойдзеш, і з канём не аб'едзеш. Што ж? Мая Кацярынка, як сам, кумок, бачыш, нікому не ўступіць — і з розумам, і з рукамі.

Кацярынка *(закручваючыся хвартухом).* А я яшчэ замуж не хачу, і Мацейка, я ведаю, жаніцца не хоча!

Максім. А я нешта другое заўважыў па табе і па Мацею там, у садзе. Помніш? Ха-ха-ха! Засаромелася!

Даміцэля. Трэ было, кумок, кіем даць хлуду добра аднаму і другому. Занадта рана пачалі ўжо нюхацца з сабой. Яшчэ малако матчына на губах ці абсохла.

Максім. А, кумка, помніш, як мы гэта калісь... у поле яшчэ ганялі... Хэ-хэ-хэ!

Даміцэля. Ужо, кум, выпіў чарку і пачаў брахаць. Скажу Паланеі.

Максім. Толькі, кума, перш мешалку ад яе адкрадзь.

Кацярынка *(убок).* Але дзе ж гэта прапаў мой першы татка?

Даміцэля. Што ты кажаш?

Кацярынка. Я кажу, дзе падзеўся тата наш?

Даміцэля. А такі ж праўда: дзе ён падзеўся? Гэта ўсё кум мне нарабіў! Як загаварылася, дык і на свайго забылася.

Максім. Ды і я тут пры куме задлякаўся, а мая Паланейка недзе даўно прачакалася.

Даміцэля. З'ямо, кумок, ды пойдзем: я — шукаць свайго Трахімкі, а ты — сваёй Паланейкі. Ужо я раздумалася — не пайду тапіцца: вада яшчэ такая халодная.

Максім. І я ўжо раздумаўся — не пайду вешацца: дзяга яшчэ парвецца.

Кацярынка. І я раздумалася: пайду замуж за Мацейку, а то, чаго добрага, пасля адрачэцца.

Даміцэля. Бач ты яе, чаго захацела! А пацеры ўмееш?

Максім. Нічога, кумка! Пацеры не воўк — у лес не збягуць. А мой Мацейка — хлопец хоць куды! Яна смак чуе ў ім.

Даміцэля. Ну, кум ізноў пачынае сваё! Выпівай ды ідзём ужо. Дзе мая толькі мешалка?

Максім (*выпіўшы*). Ідзём, кумка. Удваіх усё-такі смялей крыху.

Выходзяць; Даміцэля з мешалкай.

### З'ява IV

Кацярынка адна.

Кацярынка. Ха-ха-ха! Вось так камедыя! Мамка тату згубіла, а дзядзька цётку згубіў! Ха-ха-ха! Як знойдуць адно аднаго, уто будуць мешалкі ў рабоце! Ха-ха-ха! Каб цяпер Мацейка, барані божа, прыйшоў, то ж бы разам пасмяяліся. (*Скача і прыпявае.*)

Хто у боб, хто ў гарох,
А хто ў саладуху.
Там, дзе двух, будзе трох;
Дасць дзед бабе духу!
(*Круцячыся перад люстэркам.*)
А на двары курта брэша,
Ка мне міленькі мой чэша.
Ой, ці чэша, ці не чэша,
А мне сэрцайка пацеша!
А мо трэба ўжо і мне
Да Мацейкі часаць?
А мо лепей, а мо лепей
Пачакаць, пачакаць?
(*Папраўляе пасцель на ложку.*)

Трэба пакуль што хоць ложак у парадак прывесці, а то раскулдычаны, як бы тут рота салдатаў спала! Ха-ха-ха!

Падушачкі, падушачкі,
Мае пухавыя!
Малодачкі, малодачкі,
Мае маладыя!
(*Скача.*)
Каго люблю, каго люблю,
Таго пацалую,



Янка Купала і Уладзіслава Луцэвіч сярод артыстаў БДТ-2.
Бабруйск, 1936 г.



Мінскі гарадскі тэатр. 1890 г.

Вокладка кнігі «Адвечная песня». Пецярбург, 1910 г.



ДАНЬНЕ А. ГРЫНЕВІЧА.

Янка Купала.

АДВЕЧНАЯ . . .

. . . ПЕСЬНЯ

у XII-ці праявах.

ПЕЦЯРБУРГ.
1910.

Ядвіга Аўлачынская — прататып Паўлінкі



Афіша аб пастаноўцы «Паўлінкі». Мінск, 1920 г.

БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ДОМ

(КОННЫ ПЛЯЦ)

У НЯДЗЕЛЮ 30 МАРЦА 1919 Г.

1. ЛЕКЦІЯ В. М. Ігнатоўскаго

„Глаунейшые мамэнты гісторыі Беларусі"

ПАЧАТАК А 6 Г. ВЕЧАР. — УХОД БЕЗПЛАТНЫ

2. БЕЛАРУСКІ САВЕЦКІ ТЭАТР

ПАЎЛІНКА

Янкі Купалы

ПАСЬЛЯ СПЭКТАКЛЮ

ТАНЦЫ

да 2 гадз. у начы

ПАЧАТАК А 8 ВЕЧ. ПА САВ. ЧАСУ.

Білеты ад 5 р. да 2 руб.

прадаюцца у касе тэатру ад 9 гадз. у дзень спэктаклю.

за камісара Б. Тарашкевіч



Будынак у в. Вострава Зэльвенскага раёна, дзе была пастаўлена п'еса «Паўлінка». 1924 г.

Пастаноўка п'есы «Паўлінка» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы



Пустарэвіч — Г. Глебаў



Быкоўскі — Б. Платонаў

Альжбета — Л. Ржэцкая



Агата — В. Пола



БЕЛАРУСКІ ТЭАТР Месская Канцэртная Сала

У ЧЭЦЬВЕРГ, 12 ЧЭРВЕНЯ 1919 г.

РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО

ЯНКІ КУПАЛЫ

У СУБОТУ, 14 ЧЭРВЕНЯ

„БУТРЫМ НЯМІРА“

Ф. Алеховіча

„МІХАЛКА“

Дунін-Марцінкевіча

BIEŁARUSKI TEATR Mieskaja Kancertnaja Zala

U czećwierh [illegible] czerwienia 1919 h.

Raskidanaje hniazdo

JANKI KUPAŁY

U SUBOTU 14 CZERWIENIA 1919 h.

„BUTRYM NIAMIRA“

F. ALECHNOWICZA

„MICHAŁKA“

PACZATAK SPIEKTAKLU A 7 HADZINIE WIECZARY

Afiша аб пастаноўцы п'есы «Раскіданае гняздо». Мінск, 1919 г.



Лявон Зяблік —
Ц. Сяргейчык

Пастаноўка п'есы «Раскіданае гняздо» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы

Лявон Зяблік — П. Кармунін





Марыля Зяблік — С. Станюта

Апошняя старонка ліста Янкі Купалы да А. Р. Чарвякова

55#

Умiраю, прымаючы тое, што лепей смерць фiзычная, чым незаслужаная смерць палiтычная.

Вiдаць такая доля паэтаў. Павесiўся Есенiн, застрэлiўся Маякоўскi, ну i мне трэба за iмi [illegible].

Шкадую толькi, што не змагу болей прыняць удзел у вялiкiм будаўнiцтве, якое разгарнула партыя i Сав. [illegible] у БССР.

Няхай-жа цвiце [illegible] творчае жыцц[illegible] для шчасця ўсяго чалавецтва!

Янка Купала

Памылкi свае, такiя цi iншыя [illegible] Я забiраю з сабою [illegible]

[illegible]нск, 20/XI-30 г.

КАСАЕТСЯ: Проверки пьесы "П а ў л I н к а"
ЯНКИ КУПАЛА.

Действие происходит еще в старой царской России. Повествуется с одной стороны – о современном революционно настроенном учителе и, с другой стороны, о зажиточной, но очень консервативной и патриархальной крестьянской семье. Вся пьеса показывает как вся интеллигенция довоенного времени проникнута революционным духом.

Пьеса пока не может быть поставлена. Особо следует учесть к этому следующие основания:

1. Сам автор, Янка КУПАЛА, как будто находится в Москве и занят там работой, враждебной немцам. Если он даже является величайшим белорусским писателем, есть мнение его произведения пока что не ставить и не печатать.

2. На второй странице упоминается известный русский большевистский писатель Максим Горький и это с самого начала накладывает на пьесу известный отпечаток революционности.

3. Пьеса оканчивается арестом учителя Якима из-за его революционной деятельности. Это является кульминационным моментом пьесы.

ПРИМЕЧАНИЕ: Настоящий перевод сделан с документальных материалов, хранящихся в Центральном Государственном Архиве БССР. Фонд Генерального комиссариата, дело № 401, лист 19.

Перевела с немецкого: Научный сотрудник [signature] /[illegible]/

ДИРЕКТОР ЦЕНТРАЛЬНОГО ГОСАРХИВА ОКТЯБРЬСКОЙ РЕВОЛЮЦИИ И СОЦ. СТРОИТЕЛЬСТВА БССР [signature] /КАРПАЧЕВ/

Забарона пастаноўкі «Паўлінкі» ў акупацыйным Мінску. 1942 г.

Пастаноўка п'есы «Тутэйшыя» ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы



Алена — З. Белахвосцік



Мікола Зносак — В. Манаеў



Сцэна са спектакля «Тутэйшыя»

Пухавую падушачку
Таму падарую!
Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі позна,
Параскідаў, параскідаў
Падушачкі розна.
Як прыехаў, як прыехаў
Мой міленькі з места,
Паскладаў ён, паскладаў ён
Падушачкі ў месца.
*(Чуваць ігру на скрыпцы,*
*Кацярынка, прыслухаўшыся.)*
На вуліцы скрыпка йграе,
Мяне ж маці не пускае;
Пусці, маці, пагуляці,
Калі хочаш меці зяця!
*(Ідзе к дзвярам.)*
Нашто тое а, бэ, цэ,
Нашто тое слова,—
Калі мілы пацалуе,
То і я гатова.

## З'ява V

Кацярынка, Мацейка.

Кацярынка *(адскочыўшы ад дзвярэй)*. Гэта ты, Мацейка?!

Мацейка *(са скрыпкай)*. Гэта я, Кацярынка!

Кацярынка. Ха-ха-ха! Мацейка прыйшоў да Кацярынкі!

Мацейка. Ха-ха-ха! І Кацярынку Мацейка дома адну застаў! *(Абымаючы.)*

Кацярына рана ўстала,
У суседа запытала:
Ці не відзеў, ці не бачыў
Хто хвартух мой паскудлачыў?

Кацярынка
*(абымаючы Мацейку)*

Мацей, не дурэй,
Не дзяры сарочкі,—
Не ты праў, не ты ткаў,
А паповы дочкі.

Ха-ха-ха! А чаго ты прыйшоў, Мацейка?

Мацейка. Да Кацярынкі ў госці прыйшоў і... гарэлачкі прынёс! *(Паказваючы паўквартоўку.)* Во!

Кацярынка. А за гэта сухой лазні не дастанеш ад мамкі і таткі?

Мацейка. Гэта толькі татка сягоння дастане ад мамкі лазні, бо дома не начаваў.

Кацярынка. І мой дастане, бо таксама дома не начаваў.

Мацейка. Ха-ха-ха! Вось так аказія! Затое ж мы вып'ем з табой за іх здароўе.

Кацярынка. Вып'ем, Мацейка! Але і за здароўе мамак нашых, бо каб не яны, дык як жа б мы тут з табою выпівалі. Бачыш, і закуска нават гатова!

Падыходзяць да стала і выпіваюць.

Мацейка. Вып'ем па адной!

Кацярынка. А пасля і па другой!

Мацейка
*(абняўшы Кацярынку, прыпявае)*

А, дзевачкі, і я ваш!
Пойдзем разам на кірмаш,
А з кірмашу дадому
Ды ў ярную салому!

Кацярынка
*(таксама)*

Па саломе качалася,
Нічога мне не сталася;
Зялёнае сена —
Яно мяне з'ела.

Мацейка. А цяпер вып'ем па другой!

Кацярынка. А пасля і па трэцяй!

Мацейка

Дзяўчыначка чарнаброва
Паехала ў лес па дрова,
Паехала чорным бычкам,
Завязаўшы пастол лычкам.

Кацярынка

Я на ганачку стаю,
Слёзы коцяцца;
Дзеўкі замуж ідуць,
І мне хочацца.

Мацейка. А цяпер вып'ем па трэцяй!
Кацярынка. А пасля і па чацвёртай!
Мацейка. Ужо не астанецца па чацвёртай.
Кацярынка. Дык і будзе годзе на расходзе!

Мацейка

Чаму Каську не любіць,
Калі Каська ладна;
Хвартух новы, паркалёвы,
Спаднічка ядвабна!

Кацярынка

Цераз рэчку, цераз стаў
Любіў мяне Станіслаў;
І я яго любіла,
Ды спаднічку згубіла!

Мацейка. Ха-ха-ха! Як добра без старых загуляць трохі і пасмяяцца!

Кацярынка. Але каб толькі з гэтага смеху не выйшла якога грэху?

Мацейка. Як не захочаш, то і не выйдзе. Але ведаеш што? — пойдзем з табой «таўкачыкі»! Бо як трошкі я лыкну, дык тады бярэ мяне ахвота паскакаць.

Кацярынка. І мне таксама хочацца. Сып, Мацейка!

Мацейка. Давай, Кацярынка! *(Мацейка скача «таўкачыкі», а Кацярынка толькі памагае прыпяваць.)*

Шах-мах, таўкачыкі!
Шах-мах, асіновы!
А работы Максімовы!
Сем год валяліся,
Пакуль к ступе дабраліся,
Шах-мах, таўкачыкі!.. і г. д.
То ў ніт, то пад ніт,
То у бердачка,—
Прыбівай, прыбівай,
Маё сэрдачка!
Не сядзі ля мяне
Ды не братайся;
За ручанькі не трымай
Ды не радуйся!

Кацярынка *(разахвочаная)*. А цяпер — «цыганку», Мацейка!

Мацейка. Сып «цыганку», Кацярынка!

Кацярынка. Лаві! (*Надзявае шапку Мацееву і скача «цыганку». Мацей даганяе.*)

Я — цыганка маладая,
Я — цыганка не старая,
Знаю варажыць!
Э-эх! Знаю варажыць!
О, падай, Мацейка, ручку
Ды насып мне грошай кучку,—
Усю праўду скажу!
Э-эх! Усю праўду скажу!

Мацейка (*злавіўшы Кацярынку і цалуючы*). Ха-ха-ха! А што, такі злавіў! Ужо з маіх рук не выкруцішся!

Кацярынка (*цалуючы*). Паглядзім! Гэта яшчэ, як я захачу!

Уваходзяць Трахім і Паланея з мешалкай.

## З'ява VI

Тыя ж і Трахім, Паланея.

Трахім (*убачыўшы, як Мацейка з Кацярынкай цалуюцца, да Мацейкі*). А ты гэта, шэльма, што выраб-ляеш з маёй Кацярынкай?

Мацейка (*адскочыўшы*). Я... я... нічога! Гэта мы... гэта мы з Кацярынкаю «цыганку» скачам.

Кацярынка. Так, так, татачка! «Цыганку» з Мацейкам скакалі. Вось яшчэ і шапка ў мяне на галаве.

Трахім. Каб толькі гэтак часам вы цыганят без пары не наскакалі? Глядзіце ў мяне!

Кацярынка. Татачка, я добра гляджу!

Мацейка. І я ў шапку не сплю!

Паланея (*да Мацейкі*). Ты таты не бачыў?

Мацейка. Я спаткаў — як татка з цёткай Даміцэляй пад нашу хату пайшлі.

Трахім. А мы з кумой пайшлі пад манапольку і такім манерам, значыцца, размінуліся. (*Падыходзячы да стала.*) А гэта што за пляшкі?

Кацярынка. Гэта... гэта мамка з дзядзькам Максімам частавалася; ён у нас сягоння начаваў.

Паланея (*убок*). Ну, дзякуй Богу, не я адна набралася грэху!

Трахім (*убок*). Эге! значыцца, і мая Даміцэля не

без таго, што і я? *(Да Паланеі.)* Хадзем, кумка, пагасці трохі ў мяне. Ужо твой не дзе падзеўся, калі тут быў сягоння.

П а л а н е я. А чорт яго бяры, калі ён пусціўся ў бадзяцкую скуру і дома не начуе!

Т р а х і м. Ціха, ціха, кума! Лепей не ўспамінай! Вось садзіся ды вып'ем па чарачцы.

Дастае паўквартоўку, і частуюцца з Паланеяй. Мацейка з Кацярынкай у старане між сабою жартуюць.

П а л а н е я. І собіла ж куму ў нашу хату забрацца?

Т р а х і м. Так, так! Але і куме надало ўпусціць мяне?

П а л а н е я. Як гэта выйшла — розуму ■ не прыстаўлю?

Т р а х і м. І я, хоць не з дурнога заводу, але нічога не ўкемлю.

М а ц е й к а. Адным словам, без паўкварты не разбярэш. Ха-ха-ха!

П а л а н е я *(да Мацейкі)*. А да цябе, паўкварта, калі не п'юць, то і не кажы «здароў будзь».

Т р а х і м. Затое ж, кумка, будзь здарова!

П а л а н е я. На здароўе, кумок, на здароўе! *(Выпіваюць.)*

Т р а х і м. А цяпер, можа, паскачам, кумка? Мацейка пайграе нам.

П а л а н е я. Ды ўжо ж, кумок!.. Ці за адну нагу вісець, ці за дзве — адна ласка. *(Да Мацейкі.)* Іграй, Мацейка!

М а ц е й к а. Мамка, як не стыдна? Гэта ж ужо мне з Кацярынкай лепей уходзе, як табе з дзядзькам...

Т р а х і м. Не тваё дзела, блазнюк! Іграй, калі кажуць! Бач ты яго, як разласаваўся да Кацярынкі!

М а ц е й к а. Ну, ужо буду! А што іграць?

П а л а н е я. Рэж лявоніху!

М а ц е й к а *(убок)*. Папілі салодкую гарэлку, а цяпер і вяселле ім іграй. *(Іграе лявоніху, а Трахім з Паланеяй скачуць.)*

Ой, Лявоніха, Лявоніха мая!
Несалоная капуста твая!
Ліха мачыха на пасынка была,
Несалоную капусту дала;
А пасынка дык і чорт не бярэ,
Несалоную капусту жарэ!

## З'ява VII

Тыя ж і Максім, Даміцэля.

Даміцэля (*кідаючыся з мешалкай да танцуючых*). А гэта што такія за гоцы ў маёй хаце?

Трахім і Паланея (*пакідаючы гульню*). Мы... мы... так сабе... паскакаць хацелі!..

Даміцэля (*да Трахіма*). Ты дзе гэта ўсю ноч прападаў?

Трахім. А ты, як мяне няма дома, дык з гэтым валочышся!!

Даміцэля (*трасучы мешалкай*). Я цябе пытаюся, бясстыднік! Чаму дома не начаваў?

Мацейка. Цётка, так не крычыце на дзядзьку: ужо мамка на яго накрычала і мешалкай настрашыла. Дзядзька ў нас начаваў.

Паланея (*схапіўшы мешалку сваю, да Максіма*). Ну, кавалерчык! Гавары мне, дзе ты сягоння на начлезе быў? Га?

Кацярынка. Цётка, так не пужай дзядзьку, ужо яму мамчына мешалка далася ў знакі. Ён у нас начаваў.

Паланея (*да Даміцэлі*). Дык гэта ты мне, імасць, зводзіш майго старога? Як табе стыду няма! Усё ведаю: яешняй частавала, бессаромніца, і гарэлкай. Бач, якая гасцінная!

Мацейка. Мамка! І ты ж дзядзьку частавала таксама — яешняй і паўквартай.

Даміцэля (*да Паланеі*). Ага! Дык вось якая, ясна пані, з сорамам! Чужых мужыкоў адбівае ды яшчэ на завока выкідае, калі чалавек праз памылку зайшоў і заначаваў.

Трахім. Але ж, міленькая, але,— праз памылку ў кумаву хату папаў. Прабудзіўся гэта я раніцай, а кума, каб ёй здароўе, будзе мяне мешалкай. І скажы, што я вінават?

Максім. Знаю тваю натуру, зладзюга! Праз памылку! Праз памылку! Напаіў мяне, а сам пайшоў у маю хату начаваць.

Трахім. А не ты прынёс другую паўкварту, каб мяне спаіць? Га?! Можа, скажаш — няпраўда? А тады — дзе ж цябе нячысцік занёс, як я добра выпіў?

Паланея (*да Даміцэлі*). Я думала, што маю куму

і суседку дарэчную. Прыляціць, бывала: пазыч рэшата, пазыч чапялы! Усё давала, а яна вунь якія падступкі мне робіць. Мужа роднага адбівае!

Даміцэля. Але ж, але! Добранькая, нечага сказаць! То ёй Даміцэлька пажынай, то памажы гной растрэсці — і Даміцэлька, як магла, памагала. А яна адплацілася: каб каго — гаспадара апошняга звабіла! Варопаўка! Чаму яшчэ зямля цябе носіць?

Паланея. П'яўка чорная! Чаму яшчэ на цябе сонца свеціць?

Даміцэля. Маўчы, бо бельмачы павыдзіраю!!

Паланея. Калі табе не зойме, кудлы ўсе выкудлычу!

Даміцэля. На табе! на табе! *(Тыцкае хвігі.)*

Паланея *(таксама)*. На! на! А што? — смачна?

Даміцэля *(учапіўшыся за Паланеіны валасы)*. Не будзеш ты болей гэтых каўтуноў насіць!

Паланея *(таксама)*. Вылышу шэльму, як ліпку!

Трахім *(учапіўшыся за Паланею)*. Пакінь, кумка, пакінь! Ці табе справіцца з гэтай язычніцай? Яна ж мяне ўжо да паўсмерці загрызла.

Максім *(адцягваючы Даміцэлю)*. Не турбуйцеся, кумка! Я сам не дам ёй рады, а не то што каб ты... Балазе што хоць мешалку кінула. *(Разбароньваюць.)*

Паланея *(трасучы на Даміцэлю кулаком)*. Я табе яшчэ ўпомнюся. Хіба я жыва не буду!

Даміцэля *(таксама)*. Пазнаеш ты ў мяне, дзе ракі зімуюць!

Трахім *(да Максіма)*. А ты і тут не вытрываў, каб за маю не ўчапіцца?

Максім. А ты чаго першы, схапіўшы ўпол, маю цягнуў? Га?!

Трахім *(трасучы кулаком)*. Паткніся ты толькі другі раз — дам паранкі!

Максім *(таксама)*. Папрабуй, кацэрнік, палезь — спушчу юху!

Трахім *(прыступаючы)*. Ану, хоць кані?!

Максім *(таксама)*. Паткніся?!

Трахім *(счапіўшыся за грудзі з Максімам)*. Крані хоць пальцам, дык з зямлёю змяшаю!!

Максім. Хоць толькі замахніся, дык на блін зляплю!

Паланея *(схапіўшы мешалку і замахваючыся на Трахіма)*. Гэта ты, кум, усяму прычынай!

Даміцэля (*таксама замахваючыся на Максіма*). Гэта ты, кум, нарабіў гэтакай калатухі!

Мацейка (*адцягваючы Даміцэлю*). Цётка! не бі майго тату!

Кацярынка (*адцягваючы Паланею*). Цётка! не чапай таты!

Паланея і Даміцэля (*у адзін голас*). Гвалт! Ратуйце! Забіваюць!

## З'ява VIII

Тыя ж і Урадні к, Соцкі. Пасля сяляне, сялянкі.

Соцкі. Гэта што за разбой сярод белага дня, ды яшчэ ў свята?!

Усе (*кінуўшы калатню, бабы толькі трымаюць мешалкі, як посахі*). Мы нічога! Мы так сабе!..

Урадні к. А гвалт гэты хто спраўляў? А мешалкі гэтыя нашто ў руках?

Паланея. Гэта я свайго бараніла.

Даміцэля. А я свайго не папускала ў крыўду!

Мацейка. Ваша бродзіе! Мой тата і яе (*паказвае на Кацярынку*) тата мелі гонар біцца за нашых мамак.

Максім (*паказваючы на Трахіма*). Гэты гад сягоння ў маёй хаце начаваў.

Трахім (*паказваючы на Максіма*). Гэта сухая пятніца ўсю ноч сваёй асобай маю хату паганіў.

Паланея (*паказваючы на Даміцэлю*). Гэта мокрая серада майму мазгі закруціла, і ён, не тут гаворачы, у яе хаце начаваў.

Даміцэля (*паказваючы на Паланею*). Гэта ветраніца майму вочы пылам засыпала, і той, не тут успамінаючы, у яе хату папаў.

Урадні к. Нічога не панімаю!

Усе. І мы нічога не разумеем!

Мацейка. Рассудзіце, ваша бродзіе, усіх, і ўсё тут будзе.

Усе. Рассудзіце! Рассудзіце! Не разумеем!

Соцкі. Я, ваша бродзіе, панімаю!

Усе. Ну?

Урадні к. Дык як дзела абстаіць?

Соцкі. А так, ваша бродзіе: учора пад вечар Трахім і Максім выпівалі...

Максім (*паказваючы на Трахіма*). Ён болей, ваша бродзіе.

Трахім (*паказваючы на Максіма*). Каб ён толькі дыхаў! Я з чарачку, можа, выпіў, а ён усё вытрубіў.

Паланея. Каб не Трахім, то мой і ніколі б не піў.

Даміцэля. Мой жа бы ніколі і не панюхаў, каб не гэты звядзісвет, Максім яе!

Мацейка. Мой татка і яе (*паказвае на Кацярынку*) татка п'юць гладка — лепей яшчэ, як мы з вамі, ваша бродзіе!

Ураднік. Маўчыце ўжо вы! Хай адзін гавора!

Соцкі. Дык, значыцца, яны выпівалі і выпівалі. Пасля я іду вуліцай, дык яны і мяне паклікалі.

Ураднік. І цябе?

Соцкі. Але, ваша бродзіе. Я — чалавек падатлівай натуры, ды, у суседстве жывучы, мусіш з усім гадзіцца. Ну, значыцца, мы... яны выпівалі і выпівалі — а ўжо і ноч падышла. Тады сталі, значыцца, яны хваліцца, у каго жонка горшая. Максім кажа, што ў яго горшая...

Максім. Праўда, ваша бродзіе!

Соцкі. А Трахім кажа, што яго горшая!

Трахім. Так, так! Такі ж горшая!

Соцкі. Тады, значыцца, мы... яны выпівалі і выпівалі...

Ураднік. Годзе табе ўжо гэтага — выпівалі!

Соцкі. Слухаю, ваша бродзіе! Значыцца, яны вып... тады яны ў такую спрэчку залезлі, што аж я мусіў мірыць іх, і вып... і... пасля таго Максім кажа Трахіму, а Трахім — Максіму: памяняймася жонкамі, калі мая, кажа адзін, для цябе лепшая, а калі мая, кажа другі, для цябе лепшая! Гэта, значыцца, вазьмі яны, такім парадкам і памяняй жонкі, як, не пры вас кажучы, ваша бродзіе, цыганы кабыл. Значыцца, памяняўшы, тады ізноў вып... Не вытрымаю, ваша бродзіе. Максім купіў яшчэ прыдатку паўкварты за сваю, а Трахім паўкварты за сваю, тады вып... тады кажа Максім Трахіму: я пайду, значыцца, к тваёй у прымы. Трахім кажа Максіму: я пайду, значыцца, к тваёй у прымы. І, значыцца, яшчэ вып... пацалаваліся і пайшлі, барануючы нагамі. А Максім прыпяваў забароненую песню: «Ой ты, мая гарэліца, ой ты, весялушка!» І Трахім пацягваў таксама забароненыя прыпеўкі: «Курыць, веець мяцеліца!» А далей нічо-

га і не ведаю. Толькі — гэты гвалт... ды мы яго разам з вамі, ваша бродзіе, пачулі, ідучы вуліцай, і сюды зайшлі.

Урrandнік. Ну, што вы скажаце на гэта?

Усе. Нічога, ваша бродзіе!

Мацейка. Ваша бродзіе! Ды тут усё ясна: мой тата пристаў у прымы *(паказваючы на Кацярынку)* да яе мамкі, і яе тата да маёй мамкі...

Соцкі *(паказваючы на Кацярынку)*. А ты, можа, верхалоз, хацеў бы да яе ў прымы?

Урaднік. Ну, што, прымакі! Можа, так і астаніцёся ў прымах?

Максім. Хай мяне бог крые! Усё роўна, як відаць, няма жонак на свеце без мешалак.

Трахім. Не хачу, ваша бродзіе! Мая цнотка добрая, а яго то, мусіць, і маю перагнала.

Паланея. Чымся з яе п'яніцай век гараваць, дык лепш хай свой чалавек трэзвы астаецца.

Даміцэля. Які ён ёсць стары, а ўсё-такі не тое, што новы.

Максім. Каб не Трахім, то нічога б гэтага і не было.

Трахім. Каб не гэты Максім, то ўсё добра б скончылася.

Паланея. Каб гэта шэльма, Даміцэля, хвастом не круціла, дык мой ніколі б мяне не мяняў.

Даміцэля. Каб яна, гэта ахмістрыня, бельмачамі за маім не сачыла, ён жа б ніколі да яе ў прымы не пайшоў.

Мацейка. Каб, ваша бродзіе, мой татка і яе *(паказвае на Кацярынку)* татка гарэлкі не пілі, дык і мамак не пускалі б у гандаль.

Урaднік. Ну, дык, па-вашаму, хто тут вінават?

Усе. Усе, ваша бродзіе!

Мацейка. І манаполька!

Урaднік. Як я ўважаю, то гэтыя вашыя прымы падходзяць пад стаццю, што судзіць за незаконную здзелку. Памірыцеся лепей, каб не дайшло дзела да суда!

Колькі галасоў. Яно ж можна!

Урaднік. А каб мір мацнейшы быў, дык пацалуйцеся!

Усе. І гэта можна, ваша бродзіе! *(Бабы цалуюцца між сабой, пасля — мужы з жонкамі.)*

Мацейка. Пазвольце, ваша бродзіе, і мне памірыцца з ёй! (*Паказвае на Кацярынку.*)

Ураднік. Што? і ты ў прымы да яе прыставаў?

Мацейка. Ды не яшчэ! Але мы хочам наперад з ёй памірыцца!

Ураднік. Гэтага вы пытайцеся ў бацькоў сваіх: я ў такіх справах не суддзя.

Мацейка (*звяртаючыся да Трахіма*). Дзядзечка! Можна мне з ёй так, як вы з цёткай, памірыцца?

Трахім. Бач ты яго! чаго яму зажадалася? А не гуляў жа сягоння без майго пазвалення з ёй у «цыганку»? Дык вось пытайся затое свайго бацькі!

Кацярынка (*да Максіма, паказваючы на сябе і на Мацейку*). Пазвольце, дзядзечка, мне да яго, а яму да мяне ў прымы пайсці!..

Максім (*да ўрадніка*). А гэткія прымы, ваша бродзіе, не будуць незаконнай здзелкай?

Ураднік. Здаецца, што не!

Максім і Трахім (*да Мацейкі і Кацярынкі*). Ну, дык мірыцеся! што з вамі зробіш?

Мацейка і Кацярынка цалуюцца.

Трахім. А цяпер давайце гуляць іх прымацкія заручыны, а нашы — прымацкія разлучыны!

Усе. Давайце! Давайце!

Максім (*да Мацейкі*). Рэж, сынок!

Голас (*з прысутных*). Я буду іграць, а ён няхай скача свае заручыны.

Пачынаецца гульня, у якой найбольш выдзяляюцца Мацейка з Кацярынкай. Танцуюць лявоніху, «мяцеліцу», «мікіту» і іншыя танцы. Хор пяе «Ой ты, мая гарэліца!», «Дуду-весялуху» і іншыя. У часе самага разгару гульні апускаецца

*Заслона*



# РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО

*Драма ў пяці актах*

АСОБЫ

Лявон Зяблік, пажылы гаспадар, кульгавы, гадоў пад 50.

Марыля, яго жонка, нараклівая, замучаная жыццём, худая кабеціна, гадоў 48.

Сымон, 24 г.
Зоська, 18 г.
Данілка, 14 г.
Аленка, 8 г.
Юрка, 7 г.
} дзеці Зябліка.

Старац, гадоў пад 70.

Паніч, гадоў 23.

Незнаёмы, гадоў 35.

Двое дворных людзей.

*Рэч дзеецца ў 1905 г. Першы акт у хаце Зяблікаў, а рэшта чатыры — на руіне той жа самай хаты.*

## АКТ ПЕРШЫ

Час каля Купалля. Поўдня. Хата Зябліка. Марыля — хворая: то сядзіць, то ляжыць на ложку. Данілка на зямлі скрыпку майструе. Старац сівы, як голуб, абчэплены торбамі і з кіем у руках сядзіць на лаве.

## З'ява I

Марыля, Данілка, Старац.

Старац. Так, так, пані гаспадыня! Заўсёды бяда бяду вядзе, але ніколі не трэба здавацца. Ліха перамелецца, і ўсё добра будзе. Калісь і мяне цiскалі няшчасці з усіх бакоў, а цяпер... Э! Што казаць? — Жыву сабе і гора ніякага не знаю. Торбачкі за плечы, кій сукаваты ў рукі і хаджу сабе, як ні ў чым не бывала, па дарожках-пуцявінках. Так, так, пані гаспадыня!

Марыля *(гаворыць з трудом)*. Гэта ж толькі падумаць, дзедка. Мала ўсялякага безгалоўя, а тут на табе, яшчэ гэта хвароба. Лета не за гарою, скора касьба пачнецца, жніво, работы гібель, а ты ляжы тут прыкаваный да ложка, як пакутніца якая. Лепей хай бы ўжо смертачка прыйшла на маю галаву няшчасную, дык хаця б хаты не завальвала. Не так я вясну спатыкала і праводзіла, як мне сёлета прыйшлося, ох, не так, як і сам знаеш! *(Кашляе.)* А гэты суд у майго з дваром... То ж не давядзі ты, Божанька. Гаспадарку ўсю змарнавалі, да няма нічога дайшлі, і сягоння ўжо не ведаеш чалавек, дзе заўтра сонейка прыйдзецца сустрэнуць. Ох, Божа ты наш справядлівы, за якія грахі цяжкія караеш ты нашу сямейку! Ах, як жа цяжанька! Падай мне вады, Данілка. *(Данілка падае.)*

Данілка. Праўду мамка кажа. Страшэнна нягодна жыць на свеце. Вось хоць бы і мне такая бяда зрабілася: скрыпку старую, што была ў мяне раней, татка са злосці паламаў, а цяпер і рабі што хочаш. Пакуль жа я новую такую змайструю... Ну, але затое калі і зраблю, дык вот жа зайграю — цэлы свет дзіву дасца!

Старац. А дзе ж гаспадар ваш, пані гаспадыня?

Данілка. Тата пайшоў у двор прасіцца, каб яшчэ трохі пачакалі і не выкідалі нас адгэтуль.

Марыля. Так, так. Сягоння сышоў час наш выехаць, а мой нічога яшчэ сабе не прыстараўся.

Старац. Дрэнна, вельмі дрэнна, калі так выходзіць. Свайго не меўшы,— трэба легчы спаць не еўшы.

Данілка. Вось табе дык добра, дзедка: з адной хаты выкінуць, дык у другую пойдзеш.

Марыля. Усё ж да апошняга часу думалі, што за намі зямлю прызнаюць, тым часам наадварот выйшла.

Старац. Так, так, пані гаспадыня. Чалавек страляе, а чорт кулю носіць.

М а р ы л я. Мой жа чалавек — каб вы, дзедка, бачылі: за апошні час як набраў сабе нечага ў галаву, дык проста з розуму сыходзіць. Учарнеў, асунуўся, азыз, толькі таўпехаецца з кута ў кут, як сам не свой. Баюся, дзедка, вельмі баюся, каб з ім, барані божа, чаго благога не сталася.

## З'я в а II

Тыя ж і Сымон.

С ы м о н *(уваходзіць з тапаром і кладзе яго за лаву)*. Ці тата яшчэ не вярнуўся?

М а р ы л я і Д а н і л к а. Не, нямашака яшчэ.

С ы м о н. А дзедка ўсё госціць у нас!

С т а р а ц. Але, сынку мой. З мамкай тваёй загаварыліся аб справах вашых хатніх. Як уважаю, то не лёганькі будзеце мець сёлетні гадок.

С ы м о н. Э! Нічога, дзядочак. Пакуль будзе хоць якая малая магчымасць, то не дадзімся жыўцом ваўку ў зубы. Паглядзіш!

С т а р а ц. Смела, сынку мой, варожыш. Можа, і не дасіся ваўку ў зубы, але жыццё бярэ ў свае лапы, ох, як бярэ! Не такія яшчэ дужыя і смелыя здаюцца на яго ласку і няласку. Так, так, сынку мой! Адвага наша — адно, а жыццё — другое, і найбольш верх бярэ гэта апошняе.

С ы м о н. А мы з татам не папусцімся, дык што ж з намі гэта жыццё зробіць?

С т а р а ц. Тата ўжо нядуж твой.

С ы м о н. Ну, то ў мяне сілы хопіць — за яго, за сябе, за ўсіх нас.

С т а р а ц. Дай Божа, дай Божа, каб табе гэтай сілачкі ставала да канца жыцця. Бяда толькі, што сіла людская не заўсёды на дабро ідзе.

С ы м о н. Я і не думаю з сваёй сілай у цемнякі ці разбойнікі пайсці.

С т а р а ц. Не кажу табе гэтага, сынку мой, але моладасць свае правы мае. Я сам быў маладым!

М а р ы л я. Нічога яму, дзедка, не ўгаворыш. Не такой падатлівай натуры ён у мяне ўдаўся. Хоць галавой наложыць, а свайго мусіць дапяць.

Д а н і л к а. Сымонка, ты па мне пайшоў: і я хоць галавой налажу, а скрыпачку такі зраблю сабе новую!

Сымон. Які я ўжо ўдаўся, такі і буду, [redacted] свайго ў крыўду не папушчу, хоць бы там свет дагары нагамі перакуліўся. Бяда — часу няма болей гаварыць аб гэтым. Пайду, можа, тату сустрэну. Карціць мне даведацца, што там яму ў дварэ сказалі.

## З'ява III

Марыля, Данілка, Старац.

Старац. Ох, маці, маці! Высака твой сынок падымацца хоча, але каб нізка часам не зваліўся.

Марыля. Цяжанька мне з ім якую радачку даць. Змалку дзён такі: як толькі нарадзіўся, дык і то сябе паказаў — грудзей не прыняў, так, без малака, качаўся. Я тады ў двор за мамку засталася.

Старац. Гартаўнейшы і выйшаў ён затое. А ў двары, кажуць, перамены цяпер вялікія пайшлі.

Марыля. Але, дзедка,— перамены. Як вярнуўся малады паніч недзе з далёкага краю, з навук, дык усё пайшло ўверх дном — усіх чыншавікоў сталі чысціць. Не чакае, пакуль суды пакончацца, а наперад за ўсіх заставы кладзе і высяляе; з намі таксама выйшла.

Старац. Ведаю, ведаю, пані гаспадыня! Старыя парадкі раскідаюць па свеце, [redacted] новых, лепшых, нешта не відаць і не відаць.

Данілка. Як уважаю, то, мусіць, толькі я адзін новым парадкам на сваёй новай скрыпцы зайграю.

## З'ява IV

Тыя ж і Зоська.

Зоська *(уваходзіць з кветкамі ў руках)*. А-а! Дзядочак к нам на госці прыплёўся.

Старац. Так, так, мая дачушка! Прыплёўся божым словам вас пахваліць; зараз далей паплятуся з тым самым.

Зоська *(падсядаючы к Старцу)*. Добра, што я дзедку тут застала,— маю просьбу да цябе.

Старац. Слухаю, мая дачушка, слухаю. Хэ-хэ-хэ! Думаў, што я толькі ўсё мушу прасіць, ажно, як бачу, то і ў мяне прасіць нечага хочуць. Хэ-хэ-хэ! Яшчэ распанею з гэткага гонару.

Зоська. Дзедка заўсёды жартуе з мяне, а я толькі буду прасіць таго, чаго ўсе людзі цябе вечна просяць.

Данілка. Ну, значыць, прапала дзедава панства!

Зоська. На, вось табе, дзедачка, кветак трошкі, а ты памаліся... за здаровейка...

Старац. За чыё, мая дачушка: за татава, матчына, а можа?..

Зоська *(нахіляючыся да Старца, каб маці і Данілка не чулі)*. Памаліся, дзедка, за здароўе нашага паніча.

Старац. Добра, дзетачка! Я за ўсіх малюся, за каго толькі просяць — і за жывых, і за нябожчыкаў. Толькі вось, што я з тваімі гэтымі кветкамі рабіць буду?

Зоська. Як будзеш, дзедка, у цэркаўцы, дык на абразок іх павесь.

Данілка. Або к сваёй торбачцы прышпілі, каб харашэй выглядала.

Старац. Праўда, сынку мой. Як прыгажэй будзе выглядаць, то, можа, і кідаць болей будуць.

Зоська. Абы толькі не каменнем, дзедка.

Старац. Хэ-хэ-хэ! Усяк бывае, дзеткі мае, усяк! Хто хлебам, хто каменнем, а кожны нечым ды кіне. *(Збіраецца выходзіць.)*

Марыля. Ужо дзедка выходзіць ад нас?

Старац. Ужо, пані гаспадыня, ужо! Не сядзіцца мне доўга на адным месцы. І так па капельцы ўсюды гора назбіраеш чалавечага, ажно несці цяжанька, а што ж бы было, каб даўжэй заседжваўся ў адной хаце? Хэ-хэ-хэ! Шчасліва аставацца! Слава Хрысту!

Усе. Слава! Слава! І на векі вякоў.

## З'ява V

Марыля, Зоська, Данілка.

Зоська *(садзячыся каля маткі на ложку)*. Мамачка, бачыце, якія прыгожанькія кветачкі?

Марыля. Бачу, бачу, хоць як праз сетку: туман нейкі ў вачах стаіць. Але дзе ты гэта лётаеш? Упыну на цябе нямашака ніякага.

Зоська. Не сядзіцца мне, мамачка, у хаце: тут неяк так душна, дык я ўзяла і пабегла на сенажаць. Там хадзіла сабе каля рэчкі і кветачкі для цябе вось гэтыя

рвала; ты ж іх калісь, як здарова была, так любіла!.. Ах, мамачка, як цяпер хораша на сенажаці! Травіца зеленеецца, кветачкі цвітуць, ой, як прыгожа цвітуць. А вольхі над рэчкай так лісточкамі шалясцяць, так шапацяць, як быццам штосьці дужа цікавае хочуць табе расказаць! Мамка, мамка! Ты, здаецца, заснула? Ці чуеш, што я табе кажу?

Марыля. Чую, міленькая, чую, хоць у вушах шуміць, як у млыне якім.

Зоська. Сонейка яснае свеціць і грэе, ах, як сонейка грэе і свеціць! А птушачкі пяюць, аж заліваюцца! Так цёпла, так прыгожа на свеце! Мамка, а як табе?

Марыля. Мне, дзеткі, халодна і жудка.

Зоська. Не гаварыце так, мамка, а то і мне робіцца халодна і жудка ад тваіх слоў... Ага! Нарвала, значыцца, я табе кветачак, падышла к рэчцы, нагнулася і гляджуся ў вадзіцу, як у люстэрку якраз, а другая там адсвечваюся. Заглядзелася гэтак, аж нехта хапель мяне ў пояс! Я ў крык, вырывацца, гляджу,— аж гэта паніч з двара. І так стаў абымаць мяне і цалаваць! Я стузянулася раз, другі і вырвалася. Але які ён прыгожанькі, каб мамка бачыла!

Марыля. Ведама, паніч! *(Убок.)* Сваімі грудзьмі, што і яе, выкарміла, а ён... *(Да Зоські.)* Не займайся вельмі з ім, дачушка.

Зоська. Я ж нічога, мамачка. *(Паўза.)* Ах, каб ведала, мамка, які я сон сягоння сніла?! Хочаш, дык я раскажу.

Данілка. Раскажы, Зоська, раскажы! Бо і я ж люблю вельмі сны сніць. Толькі пачакай — я малых паклічу, хай і яны паслухаюць.

Выходзіць і цераз хвіліну варочаецца з Аленкай і Юркам.

### З'ява VI

Тыя ж і Аленка з Юркам.

Данілка *(да Аленкі і Юркі)*. Ну, садзіцеся, малыя! Толькі ціха будзьце! Зоська сон будзе расказваць.

Аленка і Юрка садзяцца на зямлі каля матчынага ложка.

Ну, пачынай, Зоська! Мы гатовы!

Зоська. Здаецца, прыйшоў да нас у хату нехта такі незвычайны — на галаве месяц, у руцэ сонца трымае;

прыйшоў ён і кажа: «Годзе вам тут сядзець, годзе гібець, хадзіце за мной!» Мы спачатку, здаецца, перапужаліся, а пасля нічога. Ён так добра на нас паглядзеў, аж быццам у вачах яго слёзы засвяціліся. Сабраліся мы ўсе — ты, тата, я, Сымон, Данілка і малыя — ды пайшлі гэтак за ім, кінуўшы і хату, і гаспадарку ўсю сваю. Як толькі мы выйшлі — ён і кажа: «Што б там перад вамі ці за вамі ні рабілася — не аглядайцеся назад, а ідзіце за мной усё наперад, усё наперад!» Ішлі мы гэтак, ішлі, ажно бачым — нейкае кругом нас страшэннае балота: гадзіны, вужакі, сліўні так і капашаць, як у гаршку якім...

Данілка. Ай-я-я! Вужакі і сліўні?

Зоська. Але нас крануць баяцца: ён усё іх сонцам адстрашвае,— толькі сыкаюць і выкручваюцца. Мінулі мы гэта балота вужачае, ідзём,— ажно ўвайшлі мы ў цёмны-цямнюсенькі, дзікі лес. Вецер у галінах трашчыць і свішча, звяр'ё ўсялякае вые, зубамі ляскоча, на нас кідаецца...

Данілка. Божухна! Звяр'ё ўсялякае! Вось жудасць! Я, мусіць, памёр бы там са страху.

Зоська. Але крануць не смеюць — ён і іх, як вужак, усё сонцам адганяе. Перайшлі мы гэты звярыны лес, ідзём — ажно ўсходзім на вялікае-вялікае поле пясчанае — віхор толькі арэ ды барануе, ды толькі дзенідзе на полі гэтым тырчаць пасохшыя вольхі, вербы, асіны. Па гэтым дзярэўі — з аднаго на другое — пералятаюць птушкі нейкія чорныя, такія страшныя,— жудасна і сказаць! Да нас падлятаюць, распускаюць кіпцюры, раззяўляюць глюгі,— здаецца, раздзерці і глынуць нас хочуць.

Данілка. Ах, як страшна! Балазе што хоць мяне не глынулі.

Зоська. Але нічога: яго — нашага павадыра — і сонца баяцца. Мінулі гэта поле птушынае, ідзём. Нарэшце затрымаліся ў тым месцы, дзе вясёлка спускалася. Тут ён ізноў так кажа: «Ідзіце за мной следам па гэтай шматкалёрнай дарожцы!» Мы ўздзівіліся, але што ты зробіш? — пайшлі. І падымаемся штораз вышэй, вышэй, мінулі хмары, воблакі, аж да самых зорак забраліся, а там, па млечнай пуціне, з зоркі на зорку пераскакваючы, цягнемся далей; а зоркі хоць свецяцца, але не пякуцца: як па кветачках гэтых, ступаем па іх...

Данілка. А ў ногі не калоліся гэныя зоркі?

Зоська. І прыйшлі мы ў нейкую харошую краіну, якой я ў жыцці не бачыла, не чула і не сніла. Зіхацістыя кветкі скрозь рассыпаны, як тыя зоркі, што мы ішлі па іх: сады нейкія нянаскія так цвітуць, так цвітуць, куды прыгажэй, як нашы вішні ды яблыні! На гэтых садах калышуцца птушкі райскія — пер'е іх, як брыльянтамі ўсыпана і дыяментамі; а пяюць яны — мільён салавейкаў нашых так не патрапіць... У садах па далінках рэчкі бягуць, а вадзіца так пераліваецца, як бы сонца ў тых шкелках, што мы бачылі пры ліхтарах у цэркаўцы!.. Ідзём гэтым садам-раем ды ідзём, ажно калі паглядзім!.. Стаіць палац відам не відany, слыхам не слыханы; увесь зіхаціць, як бы з самага сонца быў зроблены: сцены залатыя-залатыя, а страха бліскучымі маланкамі пакрыта. Увайшлі мы ў гэты палац, азіраемся навокал, і што ж? — На самым пачэсным месцы сядзіць святы Спас, а каля яго Матка Боская, святы Юр'я, Мікола і Ілья!

Данілка. Нават Ілья і Мікола! Вось дык дзіва!

Зоська. І шмат, шмат усялякіх святых, меншых і большых! Падышлі мы к Спасу, а ён, добранькі, і кажа: «Годзе вам на зямлі пакутаваць, прыйшла ўжо пара са мной вам разам панаваць! Святы Пётра,— тут паказаў ён на гэнага, што нас вёў,— будзе над вамі апеку мець на векі вечныя...» *(Паўза.)*

Данілка. Ну, а далей што было?

Зоська. Нічога! Тут я і прабудзілася.

Данілка. Шкода, што мы там не асталіся. Там бы, можа, мне і скрыпку памаглі скарэй зрабіць.

Зоська. Мамка, ці ты ўсё чула? Ну, як па-твойму: добры сон ці не?

Марыля. Чаму не чула. Добры сон, вельмі добры сон! Бог яшчэ на нас, як відаць, не забыўся, а я думала...

Зоська. Вось і тата ідзе!

Уваходзіць Лявон і садзіцца за сталом. Аленка і Юрка выходзяць.

### З'ява VII

Марыля, Зоська, Данілка, Лявон.

Лявон. Ну, што? Як маці?

Зоська. Нічога! Мамка сягоння як бы весялей трохі.

М а р ы л я (*закашляўшыся*). А бач, і ты ўжо прыйшоў! Што ж там чуў?

Л я в о н. Што чуў, што чуў? Старую песню: не адпускаецца. Сягоння высяляць будуць: ужо фурманкі ў іх наладжаны.

М а р ы л я. Такі сягоння! А я і з ложка не магу сысці. Як жа гэта будзе?

Л я в о н (*з горыччу*). Нічога! Вынесуць, як княгіню якую. Не бядуй па гэтым.

З о с ь к а. А як жа будзе з пасевамі? Няўжо нам і пажаць не дадуць?

Д а н і л к а. Вось дурная! Як жаць не будзеш, дык менш работы будзе, а то ўжо і так па самыя вушы мне гэта гаспадарка дадзела: цягам рабі ды рабі!

М а р ы л я. Куды ж мы дзенемся?

Л я в о н. Нікуды! У чыстае поле!..

М а р ы л я. Можа, да каго з суседзяў можна было б перабрацца да часу. Не прасіўся?

Л я в о н. Прасіўся і маліўся. У адных няма месца, другія баяцца: «адвячаць» яшчэ, кажуць, будзем; з судом і законам не жарты.

З о с ь к а. Дык як будзе, татка?

Л я в о н. Так будзе, як будзе! Ты, Сымон і Данілка служыць пойдзеце, а я з маткай вашай і з меншымі жабраваць пайду. Вось што будзе!

Д а н і л к а. І я пайду жабраваць. Не хачу служыць.

З о с ь к а (*глуха*). Служыць пойдзем!..

М а р ы л я. У жабраніну ісці!.. Божа, Божа!

Л я в о н (*як бы сам да сябе*). Служыць і жабраваць! Ха-ха-ха! Зяблікі служыць і жабраваць! Бацькі і дзяды жылі на гэтым куску зямелькі. Вечна думалі жыць. Чынш плацілі, талаку рабілі ў двор, як паншчыну якую; пасеку карчавалі, будаваліся... вечна думалі жыць, а цяпер! Цяпер сын і ўнукі служыць і жабраваць... гаспадарскія сын і ўнукі. Ха-ха-ха! (*Ідзе к парогу, п'е ваду і зноў садзіцца.*)

М а р ы л я. Я казала, што нічога не выйдзе. Ці з багатым беднаму судзіцца? Пакуль з багатага пух, то з беднага дух. Цэлыя вёскі такіх, як мы, з хат у поле вывозілі ад пасеваў, ад усяго дабра.

Л я в о н. А чаму стараверы выйгралі, хоць пазней за бацькавага дзеда ў Барках пасяліліся? Чаму?

М а р ы л я. Бо, відаць, для іх права другое.

Л я в о н. Не ўсё роўна людзі?

Марыля (*кашляючы*). Усё роўна, ды, мусіць, не ўсё роўна. Але каб не слухаў гэтага свайго адваката Клепатоўскага, то калі б і выгналі, дык хоць гаспадарка засталася б, а так...

Лявон. А так прапала, не вернеш! Нашто дарма сабе і другім сэрца ад'ядаць.

Марыля. Жартачкі! Пяць гадоў судзіліся. Апошнюю карову і коніка сёлета прадаў. Апошнюю кароўку!

Зоська. І маю цялушачку, што мамка аддала мне гадаваць сабе на пасаг калісь.

Лявон. Што ўспамінаць, чаго не вернеш! Кожын па часе мае розум. Я толькі хацеў праўды шукаць. Ха-ха! Здурэў і праўды шукаў. (*Водзячы вачыма па хаце пасля некаторае паўзы, панура, тужліва.*) Дзедава хата састарэлася, як і ён, нябожчык, трэ было новую ставіць... З бацькам цягалі бярвенне... падарваўся стары, памёр... тады сам адзін мусіў кончыць... Цяжка было аднаму, але неяк даў рады, толькі трохі нагу прыпсаваў, і хадзіць няма як роўна. (*Глянуўшы ў акно.*) З дзедам садок садзілі... Знаўся нябожчык, як хадзіць каля дрэўцаў... сам умеў прышчапляць. Садок вырас. З бацькам ужо кожнага Спаса мелі што свянціць... З зямелькай зжыўся, як з роднай маткай... Кожны каменьчык на полі і кожны кусцік на сенажаці змалку ўжо знаў як сваіх пяць пальцаў на руцэ... На гэтых гонейках пасціў скаціну... араў, сеяў, касіў. А тут!.. Суд — вон выганяюць! Кінуць тую хату, скуль бацьку і матку на магілкі вывез, кінуць тое поле, дзе кожную скібіну потам крывавым скрапіў. Эх, эх! І я гэта маю дарма ўступіць, адрачыся? Чалавек з зямлёй зрастаецца, як гэта дрэва: ссячы дрэўца — засохне, адбяры ў чалавека зямлю — згіне.

Данілка. Дык хай бы татка купіў ад двара.

Лявон. Купіў, купіў! А закон пазваляе такім, як мы, купляць? А чынш плацячы, я не выкупіў гэту зямлю? Ды што ты знаеш...

Марыля (*як бы праз сон*). А цяпер — на бадзянне, на вечныя мукі, вечныя здзекі, на бадзянне вечнае!...

Зоська. Служыць ісці ў чужую хату, да чужых людзей. У няволю ісці!

Лявон (*глуха*). Чым я вінен? Чым я вінен? Што любіў гэту зямлю, гэту родную нашу!.. За тое вінен я? За тое любіў яе, каб яна мсцілася нада мной, над намі і ў свет гнала... Ха-ха-ха! Зямля гоніць тых ад сябе, што з веку ў век свенцяць яе сваёй крывёй гарачай і потам

салоным? І за што? За што? *(Звесіў галаву і няўзнак уцірае слёзы.)*

З о с ь к а *(падыходзіць і гладзіць па галаве бацьку).* Не марыкуйце вельмі, татачка! Кіньце вельмі бедаваць! Не згінем на свеце... Што ж рабіць? Неяк жа ды будзем жыць. Не маркоцьцеся, татачка. Я сягоння сон добры сніла.

## З'ява VIII

Тыя ж і С ы м о н.

С ы м о н *(убягаючы).* Тата! Чаго сядзіш? Дворныя сохі гародніну і пшаніцу заворваюць!

З о с ь к а. Няхай заворваюць! Іх зямля — іх права.

М а р ы л я *(кашляючы).* Дайце мне вадзіцы! Душна мне!

Зоська падае вады, падтрымлівае матку — тая п'е.

С ы м о н. Калі іх зямля, то няхай з'ядуць яе, але дабро наша — мы сеялі!

Л я в о н *(наругаючыся).* Мы сеялі, а людзі жнуць, ну дык што ж табе з гэтага прыбудзе што ці адбудзе? Га?

С ы м о н. Тата сваімі судамі гаспадарку ўсю прасудзіў, а цяпер апошняе двару на здзек аддаў!

Л я в о н. Не я аддаў, а зямля сама сябе аддала ім на здзек. Я, ты, пяты, дзесяты штосьці ёй не ўгадзіў, ну, дык і чураецца сваіх дзяцей.

С ы м о н. Але нашае працы яна не чураецца. І мы затое павінны бараніць яе ўсёй сваёй сілай.

Л я в о н *(насмешліва).* Ха-ха-ха! Будзе бараніць той сілай зямлю ад людзей, што тая ж зямля і тыя людзі даўно гэту сілу забралі ад яго! Разумненькі — няма чаго сказаць!

С ы м о н. У таткі забралі, але ў мяне яшчэ не паспелі, і ў мяне хопіць моцы ў крыўду не дацца, я і не дамся! *(Хапае з-за лавы тапор і хоча бегчы, бацька адбірае.)*

Л я в о н. Ані мне важся чапаць іх! А не, то сваёй жа рукой заб'ю цябе гэтым тапаром!

С ы м о н. Я свайго толькі буду бараніць!

З о с ь к а. Тапаром?

С ы м о н. Хоць бы і сваёй галавой! Хто ж мне забароніць? *(Тузаюцца.)*

Зоська *(разбараняючы і цалуючы рукі Сымона).* Кінь, Сымонка! Не йдзі проці волі бацькі! Што ты там адзін зробіш? Мамку хворую толькі перапужалі.

Данілка. І мяне напалохалі. Пакіньце! Што вы — малыя дзеці — гэтак тузацца?

Лявон *(да Сымона).* Пушчай, разбойнік, тапор. *(Вырывае.)*

Сымон. Эх, тата, тата! А што нас чакае, як мы гэтак будзем папускацца?!

Лявон *(апусціўшыся на лаву, панура).* Трэба праўды шукаць не тапаром, а розумам. Дзед твой не меў розуму, я не маю, але ты яго мей, каб з часам цябе і тваіх дзяцей не ганялі гэтак, як сягоння.

## З'ява IX

Тыя ж і Аленка з Юркам.

Аленка і Юрка *(убягаюць у хату, уціраючы кулакамі слёзы).* Тата! тата! нейкія людзі страху з нашае хаты здзіраюць!

Лявон. Няхай здзіраюць! Не вашае дзела!

Зоська. Я пайду папрашу іх, можа...

Лявон *(з сілай).* Не трэба! Не йдзі! Годзе ўжо бацька твой спіны нагнуўся і парогаў наабіваў. Я сам вінен і за ўсіх вас адвет панясу перад людзьмі і перад Богам. Трэ было мне ў сваім часе выехаць з гэтае хаты і не чакаць, пакуль аж прыйдуць выкідаць. А цяпер... сам сабе яму выкапаў сваймі рукамі! *(Пасля некаторае паўзы.)* Так, так, сам сабе яму глыбокую выкапаў... Без часу прыходзіцца ў яе лезці. Згіненне якоесь прыступае і душыць мяне з усіх старон... У вачах цёмна робіцца... думкі туманяцца... штосьці горла сціскае, дыхнуць не дае. Гара нейкая навалілася на плечы і цісне мяне, як каменнем усяго прыгнятае, а звяр'ё нейкае абсядае і на косці мае трухлявыя ласіцца. *(Як памешаны.)* Дзе я? Што я? Цёмна, страшна кругом!..

Чуваць трэск над хатай, сыпецца пясок.

Во, во! З неба пясок сыпецца, а можа, гэта зоркі нашы валяцца, што павядуць нас па свеце з кіем жабрачым? *(Прыглядаючыся, трывожна.)* Не! не! гэта не зоркі, а жывы пясок, што я на хату цягаў на сваіх плячах... О,

мой пясочак... залаты пясочак! Я цябе цягаў на вышкі, угару, а ты мяне ўнізе на векі вечныя засыпеш. Сыпся! буйным градам сыпся!.. *(Як бы збудзіўшыся.)* Але што и гэта гавару? Што я маруджу? Трэба ісці хутчэй, каб выгадней прыгатавацца ў вялікую вандроўку!

Трэск, і відаць праз адчыненае акно, як валяцца салома і канцы палення з страхі. Аленка і Юрка туляцца са страху да Зоські.

Вы тут пасядзіце, а я пайду і мігам прыладжу ўсё к дарозе. Трэба мякчэй намасціць для маці калёсы, бо яны ж не дагадаюцца. На чужой павозцы ваша маці выедзе сягоння, як пані, з свае хаты! *(Абмахнуўшы рукавом слёзы; выходзячы.)* Не выходзьце з хаты, пакуль я не вярнуся.

## З'ява X

Тыя ж без Лявона.

Данілка. Які гэта тата сягоння нейкі, як не пры сваім розуме.

Сымон. Я думаю! Гэта ж не жартачкі! — ад усяго адпрэчылі, і рук няма за што зацяць... Кожны з розуму сойдзе.

Марыля *(як бы праз сон)*. Вады мне дайце!

Зоська падае. Паўза.

Зоська. І што мы будзем рабіць?

Сымон. Зараз тата вернецца, дык нешта будзем рабіць. Добра, што хоць вы ў мяне тапор адабралі, а то забіў бы каго, і ў вастрозе прыйшлося б гніць.

Зоська. Не рабі гэтага, братачка! Тата стары, мамка хворая, гэтыя — малыя яшчэ, дык што яны ўсе пачнуць без цябе і мяне? А так, пойдзем служыць і будзем як-колечы памагаць ім з апошняга.

Сымон. Але! Трэба памагаць. Трэба пачынаць новае жыццё. І я яго пачну. Яшчэ мы знойдзем зямлі ў сваёй старане і яшчэ мы хату адбудуем на сваім загоне! Я добра прыглядзеўся, як людзі жывуць, і добра надумаўся, як трэба жыць. Тата праўду сказаў, што трэба розумам ваяваць, а не тапаром. І я розумам буду ваяваць і другіх вучыць да гэтае вайны. Годзе крыўды, годзе няпраўды!

Вялікі трэск над хатай.

З о с ь к а (*спужаная*). Ах! Каб хаця нас без пары хатка не пахавала?

С ы м о н. Не бойся! Гэта толькі з крокваў закот здзіраюць. Пакуль нас адгэтуль не выпрасяць — столі чапаць не будуць. Ды тата ж на дварэ: бачыць, што там робіцца...

Д а н і л к а. А я ўсё-такі пайду адгэтуль на кожны выпадак. Каб іх паляруш! Скрыпку не даюць спакойна рабіць. Пойдзем, малыя. *(Забірае Аленку і Юрку і выходзіць.)*

## З'ява XI

М а р ы л я, С ы м о н, З о с ь к а.

М а р ы л я. Памажыце мне з хаты выйсці, а то страшна!..

С ы м о н. Зараз, мамка, зараз!

З о с ь к а. І мне неяк жудка! Ды яшчэ гэты тата недзе задлякаўся!

С ы м о н. А на мяне ведаеш, з кожнай мінутаю нейкая рызыка находзіць. Здаецца, нічога на свеце цяпер не баюся. Хоць бы зямля тут расступілася, дык не спужаўся б і ў апраметную скочыў. Дый праўда. Падумай, сястрыца, чаго нам баяцца? Зямлю ад нас адабралі, хату нашу раскідаюць, астаёмся мы, як пасля пажару,— толькі ў вопратках. Дык што ж мы такія значым на свеце і што нас за жыццё чакае? Без зямлі, без свае хаты чалавек, што шалёны сабака — адна цана: ні яму прыстання, ні яму скарынкі хлеба, ні яму добрага слова!.. Будуць здзекавацца, ганяць, пакуль не ўгоняць у якую процьму, з якое і выхаду ніякага павек сабе не знойдзе. А так — раз канец усяму!

Трэск.

Што ж? Вярніся, хатка. Хутчэй вярніся! Забівай усіх, насмерць усіх забівай! Досыць бадзякаў і без нас на белым свеце: галодных, паднявольных па вёсках, а п'яніц і жулікаў па гарадах! Вярніся, хатка!.. Абымі нас сваімі дзераўлянымі рукамі, як абымае перад ястрабам сваіх дзетак крыламі галубка. Прытулі нас, хатка, і сагрэй! Бачыш, як цёмна і страшна! Ха-ха-ха! Хата не валіцца. Дзерава больш жалее нас, як людзі жывыя, як з сэрцам і душою людзі!

З о с ь к а (*глядзіць на Сымона перапалоханымі вачыма*). Сымонка! Не гавары так, братка! Мне страшна робіцца ад твае гэткае гутаркі. А тут тата не вароціцца... Каб скарэй гэта ўсё скончылася. Неспакойна мне, каб хаця з ім што кепскае не прылучылася?

### З'ява XII

Тыя ж і двое дворных людзей.

А д з і н з л ю д з е й. Чаго седзіцё? Бацька павесіўся!

З о с ь к а (*кінуўшыся з хаты*). Ах, Божа мой, Божа! Такі даканалі старога!

М а р ы л я (*хоча сысці з ложка і валіцца на зямлю.*) Сымонка, памажы мне!

Сымонка сядзіць на адным месцы і зларадасна пазірае. Людзі падыходзяць браць ложак.

С ы м о н (*хапае тапор і падбягае к ложку, зацiснуўшы зубы*). Толькі паважцеся што-колечы крануць з хаты!!!

*З а с л о н а*

## АКТ ДРУГІ

Сцэна прадстаўляе раскіданыя будынкі: тырчыць шулле, печ; валяецца бярвенне, латы, салома, хатняя абстаноўка. У глыбіні сцэны — сад, бліжэй к рампе стаіць адно дзерава, непадалёк ад яго ў непарадку: стол, лавы, табурэткі. Дзеці (Аленка і Юрка) як бы перапужаныя, гульня ў іх не клеіцца. Час — праз два тыдні пасля першага акта. Перад захадам сонца.

### З'ява I

Марыля, Данілка, дзеці.

Д а н і л к а (*прыбіваючы абраз да дзерава*). Ну, ужо, мамка, усё гатова! Давёў у парадак хату, як лепей быць не можа, нават боженьку павесіў, каб было перад

кім маліцца. А цяпер мушу за сваю работу брацца. *(Садзіцца воддаль і майструе скрыпку.)*

Марыля *(апускаецца на зямлю і прытульваецца к дрэўцу)*. Эх, дажыліся, божухна, божухна! Не вісіць твой абразок у хатачцы на пачэсным куточку, а тут — на гэтым дзераве, сярод гэтае руіны. Як сірата, вісіць твой абразок тутака. Дождж яго будзе мыць, сонейка паліць, вецер хістаць, як той бярозкай у полі хістаць. Патапталі, божухна, вярбу тваю свянцоную, пакрышылі тваю свечку грамнічную. А мы, служкі твае верныя, сядзім тут, як пагарэльцы на папялішчы, і сонейка твайго яснага за слязьмі не бачым. Ох, ох! Людзі твайго сонейка не бачаць, праўданькі твае не бачаць, голасу твайго не чуюць. Асвяці ты, Божа, душу маю грэшную, не пакінь майго ўдовінага сіроцтва,— пашлі мне сілачкі гэтых малых выхаваць! Укрый іх ад галоднае і халоднае смерці і ад благіх людзей укрый іх, Божа!

Данілка. Мамка, мамачка, не галасіце гэтак, а то аж мне на слёзы збіраецца, як пагляджу я на цябе!.. Шкода таты, ведама, што шкода, але што ж ты зробіш? Дык не бядуйце, мамка! Я незадоўга ўжо скрыпку сваю скончу і так тады зайграю, так зайграю, што ўжо нікому з нас так галасіць не захочацца! А цяпер лепей будзем аб чым іншым гутарку вясці. Мне як вельмі сумна зробіцца, што скрыпка не ўдаецца, дык я тады сам з сабою гутару і гутару... Ну, што ж бы такое? Э! Трудна неяк і да розуму прыйсці. Ага! Вось скажыце мне, мамка, чаму гэта так доўга тату не хавалі? Усё ніяк дагэтуль не сабраўся папытацца цябе аб гэтым.

Марыля. Не хавалі, бо так трэба было,— следства рабілі. Закон, бачыш, такі ёсць: як хто сам праз сябе памрэ, дык датуль няможна хаваць, пакуль не дойдуць, як і праз што ён душой загавеў.

Данілка. Ага! Ведаю цяпер. Значыцца, як і я памру, дык не будуць датуль хаваць, пакуль не даведаюцца ў мяне, нашто я памёр. А-а-а, скажыце мне, мамка, нашто гэта людзі родзяцца, каб пасля ўміраць? Бо ж, я думаю, невялікі цымус ляжаць засыпанаму зямлёй.

Марыля. Гэтак ужо Богам устроена на свеце. Нічога не парадзіш.

Данілка. Несамавітае, як так, гэтае ўстройства. А ці праўда, мамка, што ёсць такая старонка, праз каторую плывуць крыніцы з жывой вадою? Кажуць,

калі напіцца тае вадзіцы жыватворнае, дык чалавек ніколі не ўмрэ.

Марыля. Можа, і ёсць. Хто ж яго ведае! Але яшчэ тае крыніцы ніхто не бачыў і не піў з яе, бо каб хто-небудзь піў, то хоць адзін чалавек жыў бы і жыў на свеце больш, як усе людзі жывуць, а так няма: усе як ёсць рана-позна ўміралі, уміраюць і ўміраць будуць. Такая ўжо воля боская.

Данілка. Але ўсё-такі жывая вада ёсць, як сабе, мамка, хочаш! Бо і нашто ж бы ўсе так аб ёй гаварылі? Як я вырасту такі вялікі і дужы, як наш Сымонка, тады пайду з сваёй скрыпачкай шукаць гэнае крыніцы, а як знайду — сам нап'юся і вас усіх пачастую, і будзем мы жыць і жыць, аж пакуль не памром!

Марыля. Ну і дагаварыўся!

Паўза.

Данілка. Растлумачце мне, мамка, нашто людзі хаты будуюць, а пасля іх самі ж раскідаюць?

Марыля. Будаваць-то самі будуюць, а раскідаюць не людзі, а іхняя нядоля горкая раскідае.

Данілка. Цікавасць, што гэта такая за паня — горкая нядоля? Для яе мушу пашукаць такое вады, ад каторае яна, як вып'е, дык адразу памрэ. Але, па праўдзе кажучы, калі так нядоля раскідае тое, што людзі будуюць, дык нашто ж зусім будаваць? Гэта ж, далібог, пантачкі, мне шмат лепей і выгадней вось цяперака на гэтым ламацці без сцен і страхі, як было ў хаце! Калі сядзеў я ў хаце і майстраваў сваю скрыпачку, то мне здавалася, што я сяджу ў нейкай клетцы, адкуль і вырвацца трудна будзе ў свет. А тут — аніводнае загарадкі! Ляці сабе, куды хочаш, як птушка, і ўсё такое. А гэтая вялікая страха, злепленая з неба, куды прыгажэйшая, як была наша саламяная.

Паўза.

Ну, вось адна дошчачка як бы і гатова, цяпер будзем рабіць другую. Што ж гэта я хацеў яшчэ папытацца? Ага! Успомніў! Скажыце, мамка, ці далёка гэта канец свету? Кажуць, міль сто пэўна будзе ад нас, калі не болей?

Марыля. Канец свету там, дзе канец шчасцю людскому.

Данілка. Э-э! Мамка, так гаворыш, што і сам пісар не разбярэ.

## З'ява II

Тыя ж і Сымон.

Марыля *(да Сымона, глуха)*. Ужо ты вярнуўся? Пахавалі? Можа, на могі...

Сымон *(садзячыся, панура)*. А як жа!.. Пахавалі, толькі не на могілках... не пазволілі! За магілкавым плотам пахавалі. Тут, паміж жывымі, не было яму месца — не стала яму пристанішча і паміж нябожчыкамі. Самагуб!.. А спытайцеся, хто яго давёў да гэтага самагубства?!

Марыля. Нічога, дзеткі, не парадзіш. Грэшнай смерцю памёр — мусіць пакутаваць.

Сымон. Пакутаваць! пакутаваць! Гэта вечная пакута толькі чалавека на звера перарабляе, дзічэць прыходзіцца, як цемняку якому. Што яна, гэта пакута, са мной зрабіла?! Я сам сябе не пазнаю. Калі кідаў сягоння на бацькаў труп зямлю, то мне здавалася, што гэтым жвірам чырвоным засыпаю самога сябе, сваё шчасце, свае леты маладыя; засыпаю Бога, людзей, цэлы свет; здавалася, усё чыста хаваю на векі вечныя ў сцюдзёнай магіле.

Марыля. Нічога, сынку! гэта пяройдзе, гэта толькі жаль вялікі праз цябе гаворыць. Ведай, што яшчэ не ўсё і не ўсіх ты пахаваў: засталіся ў цябе я, браткі і сястрычкі твае — імі і з імі ты мусіш жыць і павінен жыць. Цяжанька цяпер табе,— ды і каму з нас сягоння тут лёганька,— але што чыніць? Памучышся які месяц-другі, прыдаўлены сваім сіроцтвам і адзіноцтвам, месяц-другі будзеш снаваць, як тапельнік між жывымі, не знаходзячы сабе прыстанішча, а там, за які гадок, як зацвітуць на вясну першыя кветкі над бацькавай вечнай пасцеляй,— зацвітуць краскі і ў цябе на душы і на сэрцы, светлыя краскі ціхага спакою і журбы святой. Будзеш далей жыць і шукаць шчасця на свеце.

Сымон. Кветкі! шчасце! Паганыя ногі патопчуць кветкі на бацькавай магіле, як і яго самога ў зямлю затапталі; а шчасце,— каб як глыбока захаваў у сабе,— то табе яго збэсцяць, без ніякае літасці збэсцяць! Нячыстымі рукамі будуць капацца ў душы, пакуль не вырвуць з яе гэтага шчасця і не кінуць яго пад ногі і не раздушаць.

Паўза.

Марыля. Усё ж такі, як бы там сабе ні было, а нам трэба думаць, як далей жыць. Паняволі мусім сабе даваць

якую раду. Гэтага, сынок, мала, што ты загадаў перацягнуць сюды ламаццё з поля. Грызці яго не будзем.

Сымон. Што ж, мамка, ізноў ты да таго мяркуеш, каб ішоў туды да іх ласкі прасіць?

Марыля. А хоць бы і так, то што ж там вельмі такое?

Сымон. Я ўжо мамцы ад першага дня казаў і цяпер тое кажу: не пайду туды і вы ўсе не пойдзеце. Аднаго кроку ў той бок не дам і адгэтуль не саступлю. Магіла татава стала веквечнай перагародкай паміж імі і намі, і не зніштожыць яе сіле чалавечай! Гора таму, хто першы пераступіць гэты насып магільны над сваім родным, працягне рукі к ім і пойдзе з імі! Нядоўгая будзе хадня побач з імі. Бо яны, калі сэрца не вырвуць і душы не збэсцяць зусім, то хоць вочы аслепяць і пусцяць блуднымі сцежкамі на вечнае бадзянне, на вечны здзек і паніжэнне. А свае на такога будуць тыкаць пальцамі і шаптаць асцярожна: «Адступнік, душапрадавец! Бацькаву магілу пераджаргаў, каб у іх зладзейскія рукі лізаць!»

Марыля. Але ты без іх не абыдзешся. Рана-позна мусім ісці к ім... па работу, па хлеб...

Сымон. Дык што ж, калі я з мусу і пайду, як слуга іх, як нявольнік, але не па сваёй добрай волі — як іх падлыжнік і завушнік? Праца мая, нявольніка, дол толькі ім глыбейшы выкапае, а хлеб спечаны нявольніка рукамі, ядам абернецца ў зубах іх. Але цяпер... цяпер ніяк к ім не пайду, хіба вяроўкамі пацягнуць, калі ёсць на свеце такія вяроўкі моцныя. Там, над бацькавай магілай, зарок сабе даў жывым не сысці з гэтага месца, з гэтага нашага разграбленага гнязда, дзе татавы ногі расу сцюдзёную таптал і, а вочы яго шукалі на небе зоркі свайго шчасця. І не сыду, і не ўступлю, хай б'юць, рэжуць, катуюць!..

Данілка. Э! часам і без вяроўкі ў пятлю лезуць, як ліха прыпрэ.

Марыля. Супакойся, Сымонка! Пакіньма цяпер аб гэтым гаварыць. Можа, есці хочаш? Ёсць трохі печанай бульбы. (*Дастае кійком з папялішча бульбу*).

Сымон (*едучы*). З'ем, чаму не з'ем? Ад самага рання нічога ў губе не меў. А работы шмат было: сам мусіў яму выкапаць — ніхто не хацеў памагчы, бо, кажуць, для вісельніка страшна дол капаць. Ну, няхай ім будзе страшна. Але [redacted] ведаю — не страх тут быў прычынай, а тое, што мы не маем чым заплаціць і чым пачаставаць, не маем за што даць ім гарэлкі, накарміць

салам... Не хацелі, і не трэба! Без іх сядзем за жалобным сталом. Ха-ха-ха! Няма чаго сказаць — багаты стол: бульба і вада, вада і бульба!.. Памінкі па родным бацьку, па гаспадару з гаспадароў! Памінкі на раскіданай хаце, на здратаваных пасевах, па сумленным жыхару, па шчырым сяўцу! Што ж, да касьбы і жніва трэба ладзіцца, да вялікае касьбы і жніва. *(Кідае бульбу са злосцю.)* Яда ў горла не лезе — колам становіцца.

Данілка. А ты вазьмі ды вадой прагані, або дай я табе ў плечы пастукаю. Мне як засядзе кусок у горле, дык мамка як стукне,— глядзіш, кусочак і паляцеў куды трэба.

Марыля *(да Сымона)*. Дзе Зося? Чаму яна з табой разам не прыйшла?

Сымон. Дзе Зося? дзе Зося? У яе пытайся, а не ў мяне, куды яна прападае. Пайшла з магілак раней за мяне, дык павінна была і раней прыйсці.

Марыля. Каб хаця не заблудзіла дзе? Чаму ты адну яе пусціў? Далёка тут да няшчасця.

Сымон. Да няшчасця мо і недалёка: заблудзіць — не заблудзіць, калі сама гэтага не зажадае. Але яна ўжо запраўды блудзіць ад першага дня бацькавае смерці. Мамка хвора і даверчыва, дык не бачыш нічога і не чуеш, а я ўсё бачу і чую. Паляцела перш ад мяне з магілак, каб у двор заляцецца — на панічовы гібкі стан падзівіцца, як сучка, каля ног яго паласціцца.

Марыля. Скуль ты гэта ўзяў, каб Зося... Зоська... мая дачушка?..

Сымон. Так, так, Зоська, твая дачушка, а мая сястрычка родная ў двор да паніча бегае, уся аколіца аб гэтым як у бубен б'е. Я ўсё не верыў, пакуль сам не пераканаўся: заўчора ўсю ноч там прападала. Я відзеў, але маўчаў, бо яшчэ тата быў не пахаваны, не хацеў пры нябожчыку аб гэтым новым нашым няшчасці казаць і калатню падымаць.

Марыля *(жаласліва)*. Зоська... мая Зосечка... Вушам не верыцца. Прыпамінаю: у той дзень, як выкідалі, яна прыбегла і казала, што там, ля рэчкі... Ці ж быць можа?.. Зоська... Зоська...

Сымон. Хэ-хэ-хэ! Крамная скура, размасленыя вочы, ліслівае слінявае зюзюканне, бяссорамныя ў кутку пацалункі — вось вам і палонка, у каторую простая дзяўчына валіцца, зрэнкі заплюшчыўшы. Без вялікіх коштаў і торгу мае сабе бясчэльны самалюбнік удаволь свежага і здаровага тавару ў нашай цёмнай прастоце.

А плаціць за гэты тавар разбітым шчасцем, апаганенай славай і паскуднымі хваробамі... Зоська... Зоська... Ці ж яна ў іх першая або апошняя?..

Данілка. Ты, мусіць, яшчэ не адпусціўся на іх за тое, што яны адбілі ў цябе тваю Кастусю Дударышку, якую, пасля таго як бусел прынёс ёй малое, дык і яны прагналі, і ты прагнаў.

### З'ява III

Тыя ж і Зоська.

Зоська босая, але старанна прычасаўшыся і адзеўшыся. Увайшоўшы, нейкі час стаіць у няпэўнасці, трымаючы штосьці пад хвартухом. Гаворыць не то баязліва, не то вінавата; часам слёзы дрыжаць у яе голасе.

Сымон. Прыйшла-такі нанач! Што ж гэта табе зрабілася?

Зоська. Чаму ты так гаворыш, братка? Ці ж я калі-небудзь начавала дзе іначай, апрача свае хаткі, або цяпер не начую кожную ноч на гэтым ламацці?

Сымон. А заўчора дзе ўсю ноч прападала? Думаеш, не ведаю!

Зоська. Нічога ты, браток, не ведаеш, ох, як нічога! Мне так сумна і страшна зрабілася, што тата ляжаў тут непадалёк непахаваны і такі жудасны з гэтай вяроўкай на шыі, што я не выцерпела і, як учадзеўшы, у поле пабегла. І нідзе не начавала, нідзе, усю ночку па полі блудзіла. Нічога благога не рабіла, каб я так шчасцейка свайго не аглядала!

Марыля. Не кляніся, дачушка! Нашто?.. Не трэба!

Сымон. А чаму сягоння ў пару не прыйшла з магілак? Чаму?

Зоська. Сягоння?.. з магілак?.. Так сабе! Зайшлася на мінутку да цёткі, што служыць з дзядзькам у двары. Такая нейкая нуда ў дарозе агарнула, што не магла стрымацца і зайшлася... Дык вось нам яна — цётка — пазычыла трохі сала і хлеба. Кажа: «У вас сягоння памінкі па тату, дык хоць павячэраеце на здаровейка». *(Дастае прынесенае і аддае матцы.)* У цёткі пазычыла... Не хацелася мне спачатку браць, але пасля так шкода вас усіх зрабілася, што ўзяла і пазычыла...

Сымон. Ведаю, у якой цёткі была ты з пазыкай, ведаю! Але чым ты аддаваць будзеш гэта пазычанае? Трэба ж — яшчэ выдумала цётку нейкую? Сказала

б ужо проста, што была ў дзядзькі, у маладзенькага ды прыгожанькага, папраўдзе ласага да ўсялякіх пазык. Як табе не грэх і не стыдна? Яшчэ над бацькавай дамавінай пясок не завяў, а дачка пабягушкамі займаецца. Забылася, што ён, нябожчык, казаў табе перад апошняй сваёй мінутай. Я прыпомню, калі маеш такую кароткую памяць. Бацька казаў: «Не паніжайся перад дужым дачаснікам, бо ён табе за тваё паніжэнне перад ім вочы заплюе паскуднай слінай, а душу і сэрца тваё змяшае а балотам атопкаў сваіх!» Забылася гэтых слоў, не дачакаўшыся першага маладзіка, пасля скапання таго, хто іх табе сказаў. Эх, Зоська! Зоська! *(Шыбка выходзіць. Зоська садзіцца, закрыўшы вочы рукамі.)*

### З'ява IV

Марыля, Зоська, Данілка, дзеці.

Данілка. І што гэты Сымон думае з сваёй рызыкай? Ужо аж мяне пачынае злосць на яго разбіраць. Нацяпаў-нацяпаў языком, а каб хто папытаўся — нашто? Вярхнік толькі мой да скрыпкі сапсаваўся, і выйшла з яго ні богу свечка ні чорту качарга. Пойдзем, малыя, шукаць новай дошчачкі! *(Забірае Аленку і Юрку і выходзіць.)*

### З'ява V

Марыля, Зоська.

Марыля *(як бы сама да сябе)*. Такое было з яго мілае дзіцянётка. Ведама — панскае, што і казаць... Любіла яго, усё роўна як сваё роднае... Тады ўжо, пры грудзях, панічоўская кроў іграла ў целе яго вутленькім... Чуць толькі стаў ручкі ў кулачок складваць, шчыпецца, бывала, моцна шчыпецца. А як сталі зубкі выразацца — кусаўся; як угрызе, то аж кроў выскачыць з грудзей. Маленькі яшчэ — а такі ўжо дасціпны быў. І ці даўно было гэта, здаецца, як пры мне качаўся, а цяпер глядзі — хоць куды мужчына! *(Да Зоські.)* Ці праўда, Зоська, што Сымон казаў? Ці праўда, што ты да яго ў двор...

Зоська. Мамачка! Нашто табе гэта канечна ведаць? Ці ж не ўсё роўна будзе? Калі гэта праўда —

я згінула, калі гэта і няпраўда — я не ўваскрэсла... На небе маленькая зорка ўсміхаецца да вялікага месяца, я на зямлі вутлая калінка хінецца да крэпкага явара, а я — што?

Марыля. Але ты не ведаеш, што цябе чакае, як будзеш так хінуцца к яму, як калінка да явара? Сябе згубіш і нас вечным сорамам абняславіш. Ён паласіцца, папесціцца і кіне, як кідаюць зношаную вопратку на сметнік. Толькі я не веру, што Сымон казаў, і ніколі не паверу. Ты супакой мяне, дзеткі, і скажы, што гэта няпраўда. Я цябе выхавала, сваім малаком выкарміла, і ты лгаць мне не маеш права.

Зоська (*змагаючыся з сабою*). Не мучце мяне, мамка! Я і так сама змучылася за гэтыя два тыдні ад смерці таты. Штосьці такое страшна дзіўное творыцца каля мяне і са мной, чаго я сваім бедным розумам і адгадаць не магу. Мамачка, не пытайцеся лепей: я лгаць не буду, але ты сама ведаеш, не ўсю і праўду можна казаць.

Марыля. Роднай матцы можна!

Зоська. А калі я ўжо не ведаю, дзе праўда, а дзе мана. Усё перамяшалася ў маёй няшчаснай галаве. Нейкі туман сіні-сіні кругом мяне разаслаўся, і я, здаецца, плаваю па ім, так ціха-ціха плаваю, як тыя гусі белыя на возеры або воблакі сівыя пад небам далёкім! І штосьці мяне кудысь цягне, бярэ за рукі, абымае ўпол і выносіць з сабой так лёгка-лёганька, як ціхі вецер тую пярынку галубіную над гаем зялёным!

Марыля. Ты заўсёды была такая нейкая, што і сама я не магу разабраць — якая. Змалку дзён трудна было з табою да ладу прыйсці. Усяе тае і гутаркі ў цябе было, што з лесам, з ветрам ды з крыніцай. Нешта нялюдскае сядзіць у табе.

Зоська. Ці ж я вінавата, што я такая?

Марыля. Ты ў гэтым, можа, сама і не вінавата, але затое вінавата ў тым, што Сымон казаў. Ён бачыў цябе з ім заўчора ўночы.

Зоська. Няпраўда, мамачка! Няпраўда! Я там не была,— гэта, можа, толькі цень мой быў там. Але — пэўна, цень! Я часам бачу, як цень мой адлучыцца ад мяне і пойдзе сабе недзе далёка-далёка! Праз высокія горы ідзе, над быстрымі рэчкамі і шчырымі барамі плыве, а пасля ізноў ка мне вернецца і ходзіць за мною следам, як бы сочыць мяне. Тады на мяне страх нападае. Ох, баюся я гэтага свайго ценю, як ведзьма якога з таго свету, баюся!

Марыля. Дык гэта цень твой там быў?..

Зоська. Цень, мамачка! цень! Я сама не была там. Каго я там не бачыла?

Марыля (*устаўшы*). Не веру я табе! Ты вечна толькі штосьць незвычайнае выдумляеш, каб толькі мазгі каму завясці і аплуціць. Але вось што: прысягні, што гэта няпраўда, што ты сама туды не хадзіла! Прысягні! Іначай і мяне з розуму звядзеш, як сама ўжо, відаць, сходзіш.

Зоська (*устаючы*). Прысягну, мамачка! На што хочаш прысягну, што гэта цень мой быў. На што хочаш прысягну! Руку дам праз сваю галаву.

Марыля. Не трэба мне тваё галавы. (*Паказваючы на абраз.*) Вось, перад Богам прысягай! Перад яго абразом.

Зоська змагаецца з сабой.

Ну, чаго чакаеш? Станавіся на калені і прысягай!

Зоська (*апускаючыся на калені перад абразом*). Мамка, я баюся! Страх нейкі ўсю мяне праймае.

Марыля. Складай пальцы накрыж і прысягай! Іначай я асляплю цябе, каб да смерці туды сцежкі не знайшла!

Зоська (*складаючы пальцы накрыж*). Мамка, мамачка! Не губіце мяне! Я не магу!.. Я не ведаю, каторае з нас цень мой, а каторае я сама?

Марыля. А калі я табе вочы выкалю, тады даведаешся? Га! Даведаешся тады?

Чуваць прыбліжаючаеся насвістванне.

Зоська (*прасвятлеўшы*). Мамачка! Ён сам — цень мой — ідзе! Удваіх з ім будзем прысягаць!

Марыля (*заламаўшы рукі на чале*). Што са мною? Што з ёй? Што за благі дух яе папутаў? Развалена хата, закопаны бацька, і яна? (*Глуха.*) Зоська! Зосечка!..

Зоська (*як бы ў экстазе*). Мама! Мамачка! Ясны месяц да залатой зоркі плыве, зялёны явар да калінкі свае хіліцца, а ён — цень мой — з далёкіх краёў да мяне прыбывае, дарагія падаркі прыносіць: гарачае сэрца, задумную душу, бязмежнае мілаванне!

Марыля. Што з табою, Зоська?.. Зосечка!..

Уваходзіць Паніч.

## З'ява VI

Марыля, Зоська, Паніч.

Зоська *(усхопліваецца і з распасцёртымі рукамі хоча кінуцца к Панічу, але Марыля, сама гэтага не бачачы, загароджвае ёй сабою дарогу)*. Паніч, панічок к нам прыйшоў.

Паніч *(пакручваючы палачкай)*. Ці Сымон дома?

Марыля. Дома, панічок! Ён толькі недзе выйшаў; зараз вернецца.

Зоська *(падносіць Панічу ўслончык і засцілае хусткай)*. Садзіцеся, панічок. Я... мы так рады, што ты... вы прыйшлі, так рады... Садзіцеся.

Паніч. Не ўважай, Зоська, маю час і пастаяць.

Паўза.

Што гэты Сымон ваш думае? Чаму ён не выносіцца адгэтуль і вам не дае якога-небудзь прыстанішча?

Зоська. Мы скора, панічок, выедзем. Не гневайцеся!

Марыля. Вельмі ён заеўся; я — маці яго — і то не магу нічога зрабіць з ім. Бяда, панічок, з дзяцьмі, бяда!

Зоська. Сымону жаль па тату адойдзе, і мы пойдзем. Не будзем тут векаваць і дакучаць панічу. Пэўна, што не будзем.

Паніч. Праз бацькава і яго ўпорства хату толькі напрасна прыйшлося раскідаць.

Зоська. Нічога, панічок. Шкода толькі, што тата павесіўся, а мамку прыйшлося хворую выносіць.

Паніч. Як жа цяпер здароўе Лявоніхі?

Марыля. Дзякую, панічу, за пытанне! З тыдзень яшчэ не магла пасля таго хадзіць, а цяпер як-колечы валачу ногі; каб толькі скарэй куды-небудь далей звалачыся!

Паніч *(садзячыся на ўслончыку)*. Ну, а як Зоська гадуецца?

Зоська. Як, панічок, бачыце! Жыву апошнія часы на свеце і свету не бачу. Адна мая радасць, адно маё шчасце, калі з та... калі ўночы сны цудоўныя бачу, калі думкамі плыву к та... к свайму месячыку яснаму. Так цяпер, панічок, жыву я і чакаю... толькі ночкі чакаю!.. *(Садзіцца на зямлі непадалёк ад Паніча і з любасцю паглядае на яго.)*

Марыля *(убок)*. Скажу яму, усё чыста скажу! Можа, ён маё сумленне заспакоіць. *(Да Паніча, эма-*

*гаючыся з сабою.)* Скажыце, панічок, скажыце, сакалочак... не загневайцеся на мяне!.. *(Валіцца к яго нагам.)* Не губіце яе, панічок! Яна яшчэ дзіцянё і нічога не знае... Не губіце! Мейце ласку над маткай! Можа ж, і вам калі дзетак Бог пашле... Не губіце! Я яе гэтымі самымі грудзьмі карміла, што і цябе!.. Зжальцеся над беднай удавой! Ці праўда, што яна к вам... што яна? *(Слёзы не даюць ёй вымаварыць. Апіраецца адной рукой аб услончык.)*

Зоська. Мамка нічога не ведае... Я аб нічым ёй не казала... Даруйце ёй, панічок!

Паніч *(устаючы)*. Што? што, Лявоніха, хочаш ад мяне? Я нічога не разумею! Я ж не магу пазволіць ізноў тут хату ставіць, калі мне гэту сялібу трэба прылучыць да двара. Раз выкінулі вас, то і ўсё тут. А калі захочаце служыць у мяне, то я ў двары дам хату.

Марыля. Я не аб гэта. Я... я малю цябе: не зводзь яе, мае Зоські! Табе, панічок, нічога не станецца, а яна згіне, прападзе за нямашто!

Паніч. Якая Зоська згіне? Што ты выдумала?

Зоська. Я, мамачка, не згіну, а калі і згіну, то мой цень астанецца і будзе жыць на свеце да скančэння вякоў. Так! Цень будзе жыць, калі я згіну.

Марыля. Чуеце, панічок, што яна кажа? Гэта ты яе ачараваў. Гэта ты мне дачку выдзіраеш! Лепей сэрца ў мяне, яе маткі, выдзеры і зрабі з яго свечку сабе, але дачкі не вырывай у няшчаснай удавы!

Зоська *(падыходзячы к матцы, абымае і цалуе ў галаву)*. Зязюлька мая падстрэленая! Усё роўна тады ці сяды рассыплюцца твае дзеткі па беламу свету, і будуць каршуны кляваць цела іх і хлёптаць кроў цёплую, а шумны вецер паразмятае перайка і чорным пясочкам костачкі іх прысыпе. Толькі ты, зязюлька, гэтага саколіка цяпер не кляні — ён нічога не вінен; я лепей за цябе ведаю.

Марыля *(пасоўваючыся з услончыка к нагам Паніча)*. Панічок! Я цябе дзіцянём пры сваіх грудзях выпесціла, выняньчыла!.. Я ж цябе магла ўтапіць, задушыць, але ты жывеш і цвіцеш. Не забівай жа ты мяне і адваражы, вярні мне маю Зоську! І ў цябе матка была...

Паніч. Позна ўжо, цётка!

Марыля. О, чаму лепей не плыла атрута з маім малаком у той час, калі...

Пры апошніх словах Паніча ўваходзіць Сымон з тапаром у руках, каторым увесь час пакручвае. Зоська першая ўгледзела Сымона і адышла ўбок.

## З'ява VII

Тыя ж і Сымон.

Сымон. Эгэ! Шчырая малітва, відаць, адбываецца перад панічом.

Марыля ўстае і адыходзіць убок.

Зоська. Гэта мамка так сабе! Прасілі паніча, каб пазволіў яшчэ час які тут пасядзець.

Сымон. А ты прасіла, каб ён табе пазволіў там, у яго, ночкі праседжваць.

Паніч. Ты, мой міленькі, азвярэў і не помніш сам, што кажаш. Ведай тое: што кіўну я толькі пальцам, і ты зараз жа зазвоніш ланцугамі за напад на маіх людзей з тапаром, калі ягамосця з хаты выпрошвалі.

Сымон. Ведаю, ведаю! Але пакуль гэта мая сястрычка не абрыдне панічу, то ён на яе брата і на матку не кіўне пальцам.

Зоська *(увесь час сочыць за Сымонам і тапаром)*. Братачка! Нашто ты сваю сястру так у балота топчаш? Яшчэ і паміма цябе яе людзі натопчуцца! Кінь дакучаць панічу і мне: гэтым бядзе не паможаш!

Сымон. Ха-ха-ха! Можа, на калені скажаш стаць і маліцца перад ім? *(Да Паніча.)* Чаго, паніч, прыйшоў сюды? Ці ж табе мала, што яна туды, пад твой палац, бегае? Ці ж табе гэтага мала?

Паніч. Я прыйшоў табе сказаць: дакуль вы будзеце сядзець на маім полі?

Сымон. Я не на панічовым сяджу, а на сваім, і ніхто мяне згэтуль не згоніць!

Паніч А закон нашто?

Сымон. Я і чакаю закону: суд будзе, і праўда верх возьме.

Паніч. Каб за табой праўда была, то не сядзеў бы гэтак пад голым небам.

Сымон. Нашто ж нас да гэтага давёў? Нашто хату раскідаў?

Паніч. Бо з майго лесу была пабудавана.

Сымон. А хто будаваў гэтай вось сякерай? *(Трасе сякерай.)*

Зоська *(становіцца між Панічом і Сымонам)*. Братачка! Адна сякера пабудавала, а другая раскідала,— прычым жа тут паніч? Ён яе ніколі і ў рукі не бярэ.

Уваходзіць Данілка.

## З'ява VIII

Тыя ж і Данілка.

Данілка (*убок*). А бач! І панічок прыйшоў к нам у госці! Толькі чым мы яго пачастуем? (*Да Паніча.*) Пахвалёны Езус, панічу! А я маю да цябе важны інтэрас: пазыч ты мне жыл на струны і конскага хваста на смык, бо скрыпачку сваю зараз такі змайструю, а іграць не будзе як. Пазыч, панічок! Як разбагацеюся, тады аддам.

Сымон. Ты б лепей сабе вяроўкі на пятлю папрасіў — гэтага скарэй у людзей дастанеш.

Паніч. Табе б з ахвотай яе пазычыў...

Сымон (*панура*). Так, як і бацьку.

Зоська. Панічок, не крыўдуйце на яго! Ён не такі нягодны, як хоча паказацца. Ён з часам пераменіцца і будзе табе служыць, ох, як верна служыць! Тваё полейка араць, тваіх конікаў даглядаць, тваіх дзетак вазіць. А мы з мамкай дабрыцо будзем жаць, для цябе, панічок, жаць! Дык не крыўдуйце на яго!

Паніч. Я не ведаю, хто тут пан — я ці ён?

Сымон. Ніхто!

Данілка. Ты, Сымонка, як я віджу, толькі вадзішся з панічом, а не пагаворыш, як на гаспадара прystала, аб важнейшых справах. Тату сягоння пахаваў, а крыжа і не паставіў. Папрасі ў паніча дзерава на крыж.

Паніч. На гэта ў мяне лесу хопіць. Можаце колькі хочучы з майго дзерава ставіць крыжоў. Без просьбы — пазваляю.

Сымон. Замнога ласкі!.. Я сам стану крыжам на бацькавай магіле і буду вечна сцерагчы, каб твае плугі не разрылі яе, як тапары твае сцены гэтыя!

Паніч. Вар'ят! Ці ж не твае рукі гэта рабілі і робяць? Падумай толькі! (*Шыбка выходзіць, пасвістваючы.*)

Данілка (*услед яму*). А па жылы і хвост я прыйду да паніча. Скажы толькі сабакі прывязаць!

## З'ява IX

Тыя ж без Паніча.

Зоська (*да Сымона*). Ты ўгнявіў яго, Сымонка. Пазволь — я пабягу і перапрашу. (*Меціцца бегчы.*)

С ы м о н *(сціскаючы тапор і загароджваючы дарогу).* Толькі краніся ў той бок!..

Зоська з плачам апускаецца на зямлю. Сымон, кінуўшы тапор, садзіцца на ўслончыку і апускае галаву на далоні. Данілка выцірае рукавом вочы.

*П а в о л і а п у с к а е ц ц а з а с л о н а*

## АКТ ТРЭЦІ

### З'ява І

М а р ы л я адна.

М а р ы л я *(сядзіць і шые торбу).* Ох! охо! Не судзіла долечка скарыстаць з свайго дабрыца, як усе добрыя людзі карыстаюць. Падумаць толькі! Добры быў лянок; палола яго, рвала, слала, а як улежаўся — сушыла, мяла, удваіх з Зоськай нітачку па нітачцы вывелі... па Грамніцах кросны паставіла... колькі сценак наткала... На кашулі сабе, нябожчыку і дзеткам ткала. Звалілася бяда, і ўсё пайшло марна: заместа кашуль — торбы шыю! Эх! эх! Сабе і дзецям — жабрацкія торбы. *(Задумваецца.)*

### З'ява ІІ

М а р ы л я, З о с ь к а, д з е ц і.

З о с ь к а *(уваходзіць з пукам васількоў, за ёй — дзеці).* А ты ўсё шыеш, мамка?! Кінься!.. Жудка мне становіцца ад гэтага твайго шыцця. Мне здаецца, што ты нам, усім жывым яшчэ, смяротныя сарочкі шыеш. Кінь це, мамка, гэту сваю няшчасную работу! *(Садзіцца і ўе вянок, каля яе — дзеці.)*

М а р ы л я *(пры ўваходзе Зоські далей шые).* Гэ! мая родненькая! А хто будзе шыць? Ты, можа? Што ж мяне, цябе *(паказваючы на дзяцей),* іх — усіх нас чакае? Што? А пашыць трэба шмат, ох, як шмат гэтых схаваў на крошкі ад людскога стала! Старац, які ў нас быў тады — помніш? — казаў, што, чым больш на жабраку торбаў, тым лепш такога дараць. Няпраўда, можа, скажаш? Га?

З о с ь к а. Мы яшчэ не жабракі, мамка!

М а р ы л я. Але не сягоння, то заўтра, пазаўтра будзем імі. Такая ўжо, відаць, нашага брата доля, і нам не мінуць гэтага. Падумай толькі! Сымон раз'юшыўся і думаць не хоча, каб даваць якую раду ў гэтым беспрыпынні — усё суду нейкага чакае. А ты, а ты толькі яшчэ смалы падліваеш у гэты агонь, адкуль усе нашы няшчасці ідуць.

З о с ь к а. Мамка! Я толькі хачу гэта няшчасце на шчасце змяніць.

М а р ы л я. І ўсё штораз большую пропасць капаеш між імі і намі, у якую ніхто іншы, а ты, усе мы ўвалімся і не вылезем ніколі, як з вечнага балота. Эх! эх! Абое вы, дзеткі, пропасць гэту самі сабе капаеце, абое: Сымон — сваёй дзікай заўзятасцю, а ты — сваёй шалёнай прыхільнасцю. Бацькі вашы іначай жылі!

З о с ь к а. Але, але, мамачка,— іначай!.. Затое ж вось і торбачкі ты гэтыя шыеш ды на мяне з Сымонам наракаеш.

М а р ы л я *(не слухаючы)*. Губіце вы сябе, мяне, гэтых малых. Моцны мой Божа! Адно зверам глядзіць на ўсё і волі нікому ніякае не дае, а другое няславу на ўсю радню ўзводзіць.

З о с ь к а. Мамачка! Што ты да мяне маеш? Я ратаваць усіх вас хачу, хоць мо і гіну сама. Ды пачым я знаю, што са мною творыцца? Можа, нехта нейкія чары неразгаданыя над намі ўсімі завесіў і мяне, пасля таты, выбраў сабе за першую ахвяру? Пачым я знаю? Не думайце, мамачка, што я такая, як табе і Сымону здаецца. Але што ж? У вас свая праўда, у мяне свая. Жыццё свае кросны жалобныя тчэ і будзе ткаць, пакуль яму самі людзі не дадуць асновы з вечнай праўды і братняга мілавання, а ўтоку — з вечнай шчаслівасці і радасці.

М а р ы л я. Э! пачала ўжо плот гарадзіць, каб за ім з сваім бяссорамствам схавацца! Сказала б адразу, што прадалася ў злыдневы рукі самахоць — і ўсё тут табе! Але не! Трэба яшчэ ўсялякай брахнёй мазгі другім марочыць. Маткі, мая родненькая, не ашукаеш.

З о с ь к а. Ты, мамка, сама сябе ашукваеш, гэтак думаючы. Усе людзі самі сябе ашукваюць, а ім здаецца, што хто другі таму прычынай. Але кіньма лепей, мамка, гэту спрэчку! Гляньце — якое прыгожае неба на захадзе! Там, на гэтым небе, мы калісь жыць будзем. І не будзе там ні такое хаты разваленае, ні людзей такіх нягодных: будзе там адзін вялікі дом для ўсіх чыста,

і ў ім будуць жыць іншыя людзі, як тут на зямлі,— будуць усе паміж сабой браты ды сястрыцы родныя. Праўда, мамка!

Марыля. Але пакуль табе прыйдзе пара туды ісці,— я цябе і твайго гэтага пракляну сваім матчыным словам.

Зоська (*сашчэпліваючы рукі*). Мамачка! Што хочаце рабіце са мною, толькі яго не чапайце; ён Богу душой не вінен, як і я ні ў чым благім не вінна. Усё гэта няпраўда.

Марыля. А чаму прысягаць не хацела? Га?

Зоська. Бо... бо я не ведала і не ведаю, што праўда, і што няпраўда, і што грэх, а што не грэх!

Марыля. То ён чаму сказаў: «Позна, цётка!»?

Зоська. Бо і ён таксама нічога не ведае.

Уваходзяць Сымон і Данілка, нясуць з сабой па куску дрэва на крыж, кладуць пасярод сцэны.

## З'ява III

Тыя ж і Сымон, Данілка.

Данілка (*кінуўшы палена*). Бяда мне з гэтым Сымонам! У мяне свае работы гібель, а тут памагай яшчэ яму крыж рабіць. (*Садзіцца і возіцца са скрыпкай.*)

Сымон (*кінуўшы палена накрыж Данілкаваму, панура*). Тую рабіну ссек, на каторай бацька... Ёмкі будзе крыж. Збольшага абчасалі і запілавалі з Данілкам, засталося толькі трохі абгладзіць, і ўсё будзе гатова. Ці не бачылі дзе струга?

Зоська (*устаючы*). Я недзе, братка, яго бачыла. Зараз знайду! (*Находзіць струг і аддае Сымону.*) Можа, што памагчы табе?

Сымон (*стругаючы крыж, стаўшы на каленях*). Нічога не трэба! Бачу, што часу не маеш: вяночак пляцеш, завіваеш. Дык пляці, завівай, як добрыя людзі адны другім вяровачкі плятуць, завіваюць!

Зоська (*садзіцца і далей уе вянок, убок*). Мамка проці мяне, брат проці мяне, а хто ж за мяне заступіцца?

Данілка. Вось дык пайшла ў нас сягоння работа! Зоська вянок уе, Сымон крыж робіць, мамка торбачкі шые, а я скрыпачку раблю. Дзівіцеся, людзі!

Марыля (*да Сымона*). Пад вечар, як вас усіх тут не было, прыходзіў ізноў той і казаў, каб дарма не ішлі

яму наперакор. Хату ў дварэ дае і цябе з Зоськай бярэ на службу.

Сымон *(горача)*. Нічога не трэба, нічога! Раз сказаў, каб мне аб гэтым і не ўспаміналі. Ласка іх да парога, толькі да парога. У вочы лісам сцелецца, а як сышоў з воч, дык і з памяці проч! Не трэба! Сам усяму рады дам! Адбудую хату нанова, гаспадарку нанова завяду. Жыццё пачнем новае. Вось толькі крыж паставіць і разбору дзела дачакацца! Не там, у іх, а тут наша месца. Ніхто нас адгэтуль не згоніць і не выстрашыць, каб хоць самога Люцыпара на помач выклікаў. Спакон вякоў усё гэта наша было, ёсць і будзе. Мы не прыблуды якія, што чужым потам жыўлюцца. Мы не маем права і кроку даць адгэтуль у тую старану. Хай яны к нам ідуць, а не мы к ім!

Данілка. Не вытрываеш — пойдзеш!

Сымон. Так! Але! Можа, і праўда, можа, нават і пабягу. *(Загадліва.)* Але як і з чым?..

Марыля. Пакуль ты свайго дапнеш, што мы есці будзем? Ні сам не ідзеш нікуды ў заработкі, ні другім не пазваляеш. На мяне, матку тваю, і на гэтых малых не маеш Бога ў сэрцы. Эх! Сымон, Сымон! Губіш ты сябе і нас усіх.

Сымон. Не бойся, мамка! Не згублю! А калі і згінем мы, то цэлы свет аб гэтым даведаецца, і праўда наверх выйдзе. Адно гора, што вы мне ўва ўсім пярэчыце: ты сваім заўсёдным нараканнем, а яна, Зоська, сваёй к таму ліпкасцю ўпапярок дарогі мне становіцеся і топчаце тое, што я хачу сеяць.

Зоська *(падыходзіць к Сымону і кладзе яму руку на плячо)*. Эх, мой ты братачка родны! Горды, непакорны чалавек з цябе выйшаў! Птушкаю-арлом быць бы табе і лётаць па паднябессі, як лётае вецер гэты вольны! Толькі ж бяда — крылле не дадзена табе, саколе ты мой заркавокі. Не кажы, браток, што я тапчу тое, што ты сееш. Хто ведае — можа, ты горай сваёй гордасцю топчаш тое, што сею я сваім сэрцам дзявоцкім? Хто ведае?

Сымон *(панура)*. Бацькаўская магіла і крыж гэты ведае!

Зоська. Нераменны ты, братка! Спапяліць гэта гордасць табе душу і сэрца, у попел аберне. А злосць людская апаганіць тваю добрую славу, і нічога ты не дакажаш сваім праціўленнем цэламу свету! Не сягоння, то заўтра пойдзеш па таей сцежцы-дарожцы, па якой усе людзі ідуць. Уломяць цябе, апусцішся і загінеш.

Сымон. Але сам я самахоць не загіну, мяне сіла большая загубіць, а ты па сваёй ахвоце сама сябе аддаеш на гэту загубу, на глум вечны!

Зоська *(адыходзячы ад Сымона, убок)*. Божа! Як жа мне цяжанька тут жыць! *(Садзіцца і ўе вянок.)*

Паўза.

Данілка. Крыж рабіць робіш, а на чым яго павязеш?

Сымон. Не бядуй па гэтым! Не пайду каня вымаліваць ні да суседзяў, ні там, да іх! На сваіх плячах павязу — яшчэ датрываюць, хопіць сілы. Як сам на сабе завалаку — болей радасці спраўлю таму, хто будзе спаць пад гэтым крыжам, а сам буду ведаць тое, што нікому не кланяўся, перад нікім не жабраваў.

Данілка. А каму ж гэта мамка торбы шые?

Сымон. Шые, бо не мае чаго рабіць. Але як пашые, то я што да адной папалю!

Марыля. Пакуль ты, дзеткі, прыбярэшся паліць, то яны самі спарахнеюць на мне, на гэтых малых, а мо і яшчэ на кім. Вось адна торбачка і гатова! *(Падымае на руках, разглядае.)* Здаецца, добра будзе — не мала і не вяліка, толькі яшчэ вяровачкі прывязаць. *(Шукае і прывязвае.)*

Сымон. Эх, кіньце, мамка, дзяцініцца! Душу ў мяне хочаце вырваць без пары — больш нічога! Не дасцё спакойна нават крыж гэты кончыць.

Марыля. Што, дзеткі? Я ж нічога! А што запас бяды не чыніць, то ты сам добра гэта ведаеш і разумееш.

Сымон *(да Данілкі)*. Паглядзі, Данілка, якога крука крыж збіць, бо ўжо ўсё гатова — абгладзіў.

Данілка *(шукае з сякерай, находзіць крук у бервяне і выдзірае)*. Вось зараз табе гэты кручок выдзеру: тата за яго — як віў путы — пяньку чапляў. *(Падае крук Сымону, той абчэсвае і збівае крыж.)*

Зоська. Калі ж ты панясеш яго, Сымонка?

Сымон. Калі? Сягоння! А нашто табе ведаць?

Зоська. Так сабе, пытаюся. Але ж гэта ўжо вечар на дварэ: поначы несці будзе нягодна?

Сымон. Няпраўда! Поначы лепей з крыжам ісці. Ніхто цябе не чэпіць і не зняважыць. Уночы, апоўначы панясу, але не ўдзень, бо ўдзень яшчэ і крыж мне выдзеруць, як выдзерлі з сэрца і душы ўсё добрае і светлае. Уночы пайду з крыжам на магілкі, як відма якое з таго свету, каб аж нябожчыкам жудка было! Адзін тата мяне

мой пазнае і радасна выйдзе ка мне на спатканне,— падзякуе за крыж і бласлаўленне сваё дасць мне на далейшую вытрываласць, на далейшую барацьбу з нядоляй. Бо ён, тата наш, інакшы, як усе нябожчыкі: ён не лёг з імі ў адным месцы, а зусім асобна захаваўся ў сырой маці-зямельцы. І крыжык яму панясу ўночы, а не ўдзень, як гэта ўсім носяць і стаўляюць.

Марыля. Я з табою пайду, сынок! Яшчэ ж ні разу я, грэшная, не змагла сцягацца на яго магілку.

Сымон. Добра, мамка, панясем з табой! А ты, Зоська і Данілка, астаніцёся пільнаваць малых і хаты.

Данілка. Каб ты мяне і гвалтам гнаў, то я не пайду ўночы ды яшчэ з крыжам. Каб яшчэ ваўкі дзе з'елі або нябожчыкі напужалі.

Зоська *(падыходзячы да Сымона)*. А ты пазволь мне, братка, ісці туды разам з вамі! Як ты і мамка пойдзеце, мне будзе страшна адной тут сядзець. Мне здаецца, што нейкае няшчасце мяне тут спаткае, як без вас астануся.

Сымон. Не адна будзеш! Малыя, Данілка разам будуць.

Зоська. Яны спаць лягуць, а я, як цень, буду снаваць тут сама адна. Баюся я гэтага папялішча раскапанага. Мне тут зданні ўсялякія здаюцца. Вазьмі мяне, братка, з сабою! *(Да Марылі.)* Мамачка, вазьміце мяне — я несці памагу крыж вам!

Сымон. Перастань лезці ў вочы! Не твая работа крыжы насіць або за імі хадзіць.

Чуваць здалёк дажынкавую песню. Сымон падымае крыж і стойма дзержыць яго пры сабе. Усе нейкую мінуту слухаюць песню.

Зоська. Ха! Дажынкавую песню пяюць!

Сымон. Але! Дажынкі ў двары!

Марыля. Відаць, к сабе дамоў ідуць.

Сымон. Але! Але час і нам ужо ісці!

Марыля *(закручваючы хустку)*. Час, дзеткі!

Сымон узвальвае на плячо крыж і выходзіць, за ім Марыля; Зоська памыкаецца таксама ісці, але варочаецца і канчае плясці вянок.

## З'ява IV

Зоська, Данілка, дзеці.

Зоська. Пайшлі! Не ўзялі мяне з сабой. Нават слаўца добрага не сказалі. А так хацела з імі ісці, так хацела! Самі крыж паняслі.

Данілка. Э-э! нацешышся яшчэ, Зоська, з крыжа! Пачакай трохі. Мне ўжо крыж пачынае балець,— мусіць, з працы каля гэтае скрыпкі — будзе і табе тое самае!

Зоська. Маўчы ты ўжо лепей, Данілка, аб гэтым! Лепей скажы вось, калі ты, урэшце, скончыш гэту скрыпку сваю?

Данілка. Тады, як ты зносіш вяночак, што цяпер пляцеш.

Зоська. А скуль ты ведаеш, што я буду насіць?

Данілка. Фі! Каб я ды не ведаў? Я нават ведаю, калі ты яго зносіш, а значыцца, тады і скрыпачка гэта мая будзе ўжо гатова.

Зоська. Калі ж гэта па-твойму будзе?

Данілка. Тады, як ты сцежкі ў двор не ўбачыш!

Зоська. Што ж гэта я, значыцца, аслепну!

Данілка. Можа, і аслепнеш. Але ты і ўжо не ўсё бачыш. Эх, Зоська! Шкода мне цябе. У мамкі і Сымонкі ласкі не маеш, а і там, дзе ты думаеш ласку знайсці, дабро цябе не чакае.

Зоська. Чаму ты так гаворыш, Данілка?

Данілка *(не слухаючы)*. Няхай сабе кажуць, што я дурнаваты, што я такі, што я гэтакі, але я ўсё бачу і ўсё разумею. Не хачу толькі наверх вылазіць з сваім розумам, бо з ім цяперашнім светам далёка не зойдзеш. Дурнаваты Данілка ці зусім дурны — малы клопат! А толькі што менш яго чапаюць і дрэнчаць, як якога разумнага, то гэта напэўна магу сказаць, бо не ведаюць, чым дасаліць яму, бо Данілка з усяго смяецца. А што ж вы, разумныя? Хоць бы ты, Сымон? Таўпехаецеся, як Марка па пекле ці як мухі ў смале, і больш нічога. Кожны вас шчыпе, кожны вас ашуквае, кожны вас, як-то кажуць, б'е і плакаць не дае. А каб вы былі дурныя, то хоць бы вас і дрэнчылі, але затое не так моцна, бо не так бы вас, дурных, баяліся, як баяцца цяпер вас, разумных.

Зоська. Да чаго ты ўсё гэта чаўпеш?

Данілка. А хоць бы да таго, што твой паніч, як адбудзецца з намі суд, едзе кудысь за мора жаніцца.

Зоська *(выпусціўшы вянок з рук)*. Як гэта?.. Што ты кажаш?.. Паніч будзе жаніцца!.. Як гэта — жаніцца?..

Данілка. Як будзе жаніцца?.. Так, як і ўсе добрыя ці нядобрыя людзі жэняцца. Ужо ж не так, як...

Зоська *(перабіваючы)*. А што ж мне з таго? Няхай жэніцца! Вялікая мне бяда! Ці ж ён мой жаніх ці каханак?..

Д а н і л к а. Дзеля каго ж ты гэта ў вяночак убірацца сягоння манішся? Ну, але мне спаць хочацца! *(Да дзяцей.)* Пойдзем, малыя! Хто спіць, той не грашыць. Я сягоння абраў новае лежа для спання: на маё шчасце, забыліся будку сабачую раскідаць, дык на месца Лыскі нашага я з вамі, малыя, пасялюся. *(Хоча выходзіць.)*

З о с ь к а *(змагаючыся з сабой)*. Данілка! Ці гэта праўда, што ты казаў? Ці гэта праўда?

Д а н і л к а *(адвярнуўшыся)*. Вось, на табе груцы з бобам! Дурны сказаў, а разумны і паверыў.

З о с ь к а. Дык гэта ты мне наманіў?

Д а н і л к а. Ведама — наманіў! Ці ж я ўжо такі, без усіх клёпак у галаве, каб разумным праўду гаварыць? Спі, сястрыца, спакойна. *(Выходзіць.)*

### З'я в а V

З о с ь к а адна.

З о с ь к а. Та-а-к! Пэўна, што гэта няпраўда. Але што са мной робіцца? Аб чым гэта я думаю? Так ці сяк, сон мой залаты павінен развеяцца; чары туманныя скончацца, і я, такая як цяпер, скончуся. Заместа мяне будзе другая нейкая мара цягнуць далей лямку свае новае долі. Гарыстым і пясчаным шляхам будзе яе цягнуць, як сібірнік тачку, пакуль аж сама сябе не дацягне туды, адкуль не варочаюцца... дзе тата... да магілак! Бр! Што я думаю? Як жа гэта ночка заўсёды нейкай чорнай і страшнай птушкай кладзецца на мае думкі! Звядуць гэтыя ночы, гэтыя чорныя птушкі няшчаснае жыццё маё ў цьму непраглядную! З сілы выбіваюся ў змаганні з гэтым безгранічным сумам, што вакруг мяне сцелецца і жудкімі вачамі глядзіць у мае маркотныя вочы. Ха! Уцяку ізноў адгэтуль і буду блукацца да самага белага дня там — дзе ён, дзе яго, свайго ненагляднага каралевіча, спаткаю. Буду далей сніць пры ім дзіўную повесць свае моладасці, чараўнічую казку свайго шчасця; песню буду пяяць набалелага сэрца і расплаканай душы! Пайду к яму ў вяночку гэтым. *(Прымярае.)* Але! Як у кароне, з'яўлюся к яму і звешу галаву сваю гаротную на грудзі яго лебядзіныя. *(Чуваць шорах.)* Што гэта? Нехта ідзе! Данілка, гэта ты? Божа! Як страшна! Такі ж нехта прыбліжаецца! *(Прытуляецца к дзераву.)*

## З'ява VI

Зоська, Незнаёмы.

Незнаёмы *(з вехай у руках)*. Не пужайся, сястра мая! Я свой чалавек, хоць і прыходжу не званы, не сланы.

Зоська *(перапужаная)*. Хто ты?.. Хто вы?..

Незнаёмы. Хто я? А ўжо ж чалавек! А што болей трэба ведаць, калі толькі не гэта?

Зоська. Я тут адна!.. нікога нямашака дома. Дык чаго ж вам трэба?.. Можа, начаваць? Але, як бачыце, у нас няма як...

Незнаёмы. Мне нічога не трэба, сястра мая. Я не з тых, што толькі прыходзяць, каб што ўзяць, а з тых, што з сабою нешта добрае прыносяць.

Зоська. Але калі я вас баюся, чалавеча! Вы нейкі такі дзіўны!

Незнаёмы. Не бойся, сястра! Я ліст, адарваны з таго самага дзерава, што і вы, што і многія мільёны падобных. Вецер свабодны прынёс мяне сюды, на вашую руіну. Хацеў бы з табой і з братам тваім аб важных справах пагаманіць.

Зоська. Я ж вам казала, што нікога няма дома, а я сама нічога не ведаю.

Незнаёмы. І нічога, сястра, ведаць не трэба, а што трэба — я скажу, а ты гэта брату перадай... Слухай, сястра! Склікаецца сход вялікі, і ўсе браты і сёстры павінны на гэны сход з'явіцца.

Зоська. Хто склікае?

Незнаёмы. Сам па сабе склікаецца. Ніхто не ведае, ад каго наказ такі выйшаў, а ўсе, дзе толькі кліч дабег, уздымаюцца і ідуць, як мурашкі, ідуць!

Зоська. А калі хто не пойдзе?

Незнаёмы. Хто самахоць не пойдзе, над тым праклянцце завісне, бо на сходзе жыццё мільёнаў будзе важыцца, а ў такіх вялікіх справах і адзін чалавек можа сабой сюды ці туды перацягнуць.

Зоська. То і я мушу ісці на гэны сход?

Незнаёмы. Але, сястра. Толькі старцы і дзеці ад яго звольнены.

Зоська. А куды ісці?

Незнаёмы. Сумленне і жаданне сабе і другім шчасця дарогу табе пакажа. У гэтым вяночку ідзі! Толькі трэба ісці, не азірацца, бо хто азірнецца — у слуп спячы заменіцца, якога і перуны пасля з месца не зрушаць.

**Зоська.** Та-а-ак! Я пайду, я мушу куды-небудзь ісці адгэтуль; тут так страшна, так страшна!

**Незнаёмы.** Ідзі, сястра! і брата за сабою вядзі, а я тым часам да іншых пайду кліч клікаць.

**Зоська.** Я скажу Сымону. Толькі, мусіць, суд наш пакуль не адбудзецца, ён не пойдзе на ніякі сход, пэўна што не пойдзе.

**Незнаёмы.** Але пасля суду хай прыходзіць. Дый яшчэ буду я ў вас.

## З'ява VII

Зоська адна.

**Зоська** *(садзіцца на зямлі)*. Які незвычайны чалавек! Казаў — яшчэ будзе ў нас. Але хаця б толькі не ўночы? А то так яго слухаць страшна, хоць заадно і хочацца слухаць. Штосьці нявысказанае цягне і к яму, і на гэны сход небывалы... Незвычайны чалавек! Не знай, не ведай — сястрой мяне называў! Чаму ён мяне так называў? Ха! Трэба ўцякаць адгэтуль, а то яшчэ хто другі такі прыйдзе і жудасці ўсялякае з сабою нанясе. Пайду! Пайду к яму, к свайму месяцу святлянаму, абаўюся каля яго, як хмель каля дубочка, і забудуся хоць на час на свае думкі трывожныя, на самую сябе беспрыпынную. Як ручэйку кужалю — распушчу касу сваю дзявоцкую па плячах сваіх белых... ён любіць мяне такую! *(Распускае касу.)* А цяпер палажу на галаву вяночак з васількоў, бо ён казаў, што мае вочы, як васількі, дык няхай жа васількі і на валасах маіх красуюцца! *(Кладзе на галаву вянок.)* Цяпер якраз буду русалка. Бо такі ж русалкай ён мяне сваёй заве, ды, пэўна, я калісь і буду ёю. Бо люблю гэта царства русалчына! Там яны сабе то, як рыбкі, у вадзіцы плюскаюцца, то ў лес выходзяць і на галінах калышуцца, як тыя кветкі-званочкі ўлетку на сенажаці. Шчаслівыя яны, гэтыя русалачкі, шчасця нашага дзявочага наследнічкі. Шчаслівыя і спакойныя! А тут мучся, дзяўчына, не ведаючы, як і што з сабой чыніць! Але пара ісці ўжо! Ён, залаценькі, даўно, пэўна, чакае мяне. Так! Даўно месячык свае зоркі чакае, а яна ўсё толькі здалёк яму ўсміхаецца. *(Устае і памалу, з распушчанымі валасамі,*

*ідзе, пасля здзіўлена адступае назад.)* Ён сам ідзе ка мне, ён сам! Ах, якое шчасце!

Уваходзіць Паніч; Зоська часіну любуецца ім, а пасля вісне ў яго на шыі.

*Заслона*

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

Час — позняя восень. З саду апала лісце. Сцюдзёна.

### З'ява I

Марыля, Аленка, Юрка.

Марыля *(уваходзіць з Аленкай і Юркам, сама нясе галлё, а Аленка з Юркам — бульбу ў прыполіках).* Ціха, дзеткі, ціха! Зараз абагрэемся і павячэраем. *(Кідае галлё.)* А бульбачку сюды сыпце! *(Дзеці высыпаюць.)* Кажаце — халодна? Ну, дык зараз агоньчык вам распалю. *(Распальвае.)* Цяпер садзіцеся, дзеткі, і грэйцеся, а бульбінкі на агоньчык, на жарок кідайце, каб скарэй пякліся. Не бойцеся, яшчэ не замерзнеце і з голаду не памрацё, пакуль я тут жыву! Але пакуль што не так вельмі халодна. Во як прыйдзе канец восені ды зіма з снегам загуляе, тады — рэч іншая! Ну і тады нічога, дзеткі, нічога! Мінае лета, міне восень, зіма, а там і вясна прыйдзе. Цёпленька будзе, сонейка будзе грэць, траўка зелянець, птушачкі пяяць, садочкі цвісці... А цяпер грэйцеся, дзеткі, грэйцеся! Каб толькі Сымонка наш скарэй з суду вярнуўся.

### З'ява II

Тыя ж і Данілка.

Данілка *(падыходзячы к агню).* А! як добра, што мамка разлажылі агоньчык і бульбачку печыцё, бо мне, праўду кажучы, дрыжыкі па целе так і скачуць, не раўнуючы, як смык па скрыпцы, а тут *(паказвае на жывот)* кішка з кішкой у такія між сабой кулачкі ідуць,

што хоць ты ўрадніка кліч разбараняць іх! *(Садзіцца і грэецца.)* А-та-та! Як цёпленька! Страшэнна не люблю сцюжы! Так, здаецца, на гэты час закапаўся б дзе ў бярлог, як мядзведзь, і праспаў бы да самае вясны, бяда толькі, што на скуры мядзведжая шэрсць не вырасла!.. Мамка, чаму я не мядзведзь?

Марыля. Бо ты дурненькая варона! Сам не ведаеш, што чаўпеш.

Данілка. Э-э! Каб я быў хоць варонай!.. Ужо б даўно са сваёй скрыпачкай паляцеў адгэтуль кудыколечы ў цяплейшую хату. Але што з пустога ў парожняе пераліваць! Мо я трохі і мядзведзь, і варона, але ўсё роўна толькі — Данілка: на льва ці на сакала трудна пры цяперашніх варунках выкіравацца. Скончу скрыпачку — ужо нямнога засталося каля яе работы — і пачну сабе іграць. Каму — вяселле, каму — хрэсьбіны, а каму... Бяда толькі, што няможна іграць на хаўтурах, а то такога «Лазара» завёў бы, што хоць упрысядкі ідзі!

Марыля. Ну, і дагаварыўся! Ці ж пад «Лазара» ідуць упрысядкі?

Данілка. А чаму ж не пайсці? Я сам першы пусціўся б. Мне, калі музыка зайграе, дык і ўсярэдзіне ўсё іграе, а ногі так і чэшуцца да падскаквання.

Марыля. У цябе ўсё нялюдскае. Толькі б і скакаў там, дзе іншыя плачуць.

Данілка. Э! Бо скакаць не ўмеюць, дык і плачуць; як мокрыя вароны, сноўдаюцца, або як блёкату аб'еўшыся... Ну, хоць бы так, як наша Зоська.

Марыля. А што — Зоська? Дзе ты яе бачыў?

Данілка. Дзе бачыў? Я з двара ішоў, а яна ў той бок цягнулася, распусціўшы валасы, як русалка якая.

Марыля. Няшчасная дзяўчына! Дарэшты губіць яна сама сябе гэтай гульнёй непатрэбнай. Не кажы хаця аб гэтым Сымону.

Данілка. Камедыя — хто не ведае, а хто і ведае, дык усё роўна — камедыя. Чаго гэты Сымон хоча ад іх? Там зусім добрыя людзі жывуць. Вось, хоць бы я... Пайшоў сягоння да іх у пазыкі: прашу, каб далі жылаў ці кішак на струны і хваста на смык. Ну, яны мне так усё гэта і пазычылі, але толькі на струны дроту далі, бо кажуць, што ў іх кішкі і жылы ўсе выйшлі і няма ў запасе. Не кажыце толькі, мамка, Сымону, што я ў гэтыя пазыкі хадзіў туды, а то яшчэ з хаты вон выганіць.

## З'ява III

Тыя ж і Сымон.

Сымон (*уваходзіць і садзіцца. Панура*). Ці няма чаго з'есці?

Марыля. Зараз бульба спячэцца. Ну, што? Як?

Сымон. Усё прапала: мы прайгралі! Не даказалі сведкі, свае людзі не даказалі нашае даўнасці на гэту зямлю. Усе сведкі праз некага былі падкуплены і спое-ны. Дванаццаць чалавек прысягнула крыва, і суд не мог уважыць нашага прашэння: пацвярдзілі першы прыга-вор і прысудзілі выносіцца адгэтуль. Аканчальную па-станову выдалі... далей няма куды падаваць.

Марыля. Ну, і што ж мы цяпер будзем рабіць? Якую ты цяпер увосень раду знойдзеш?

Сымон. Якую раду? Якую раду? Ужо ж, як і не раз гэта казаў: не злажу сваіх рук, як да малітвы, і не пайду к ім прасіцца ў закутнікі! Будку якую да часу скідаю, і будзем сядзець тут да вясны, а да вясны шмат чаго можа перамяніцца на свеце.

Марыля. Проці закону хочаш ісці — большай бяды сабе наклікаць?

Сымон. Не проці закону, а проці нашых згубіце-ляў — крывапрысяжных сведак і проці тых, што гэтых сведак падкупілі іх жа крывавымі медзякамі. Вось такім проці хачу ісці!

Данілка. І-і! Адзін дурань грошы бярэ, а другі дурань дае — на тое гандаль.

Сымон. А ты — трэці дурань — ідзі гутарку вясці са сваёй скрыпачкай, а не тут!

Данілка адыходзіць у старану.

Марыля. Што адзін зробіш проці ўсіх? Не ідуць, мой сынок, рэчкі ўгару і не круціцца крылле ў ветраку проці ветру. Не такой дарогай ішоў ты і хочаш далей ісці, ох, не такой. З самага пачатку я прадчувала, што нічога з гэтага твайго ўпорства не выйдзе, і што ж, ці не мая праўда? А трэ было пакарыцца! Давалі хату, службу давалі, і добра можна было прыстроіцца, хоць бы гэтыя малыя мелі які-такі прыпынак — цёплы нач-лег і лыжку гарачае стравы. Ты гэтага не захацеў — усё суду нейкага чакаў. Вось табе і суд!.. Хочаш будку нейкую паставіць?.. Ну, паставіш, і што з таго? Таксама прыйдуць, раскідаюць і выведуць сцюжаю ў чыстае поле на пацеху ваўкам галодным.

**Сымон.** Хай раскідаюць, хай выводзяць! Ізноў вярнуся, ізноў тут сяду і буду вясны чакаць.

**Марыля.** Пакуль так дачакаеш вясны,— мароз табе і нам усім зубы выесць, у ледзякі аберне.

**Сымон.** Дык і што ж там такое? Абернемся ў слупы замарожаныя, у камяні няскратныя абернемся, а сэрцы тады нашы з сэрцам зямлі зрастуцца, і ніхто не паважыцца крануць нас, бо той, хто кране, сам у крыгу лёду абернецца, і ніякае сонца не растопіць ужо гэтае крыгі!

**Марыля.** Ты сягоння як не пры сваім розуме, Сымоне! Як у гарачцы брэдню нейкую страшную вядзеш. Паслухай лепей, дзеткі, мяне, я ж цябе гадавала,— пакарыся ты ім,— яшчэ не позна!

**Сымон.** Ха-ха-ха! Пакарыся! А ці ведаеш, мамка, што гэта значыць ім пакарыцца? ці хоць дагадваешся? Гэта, мамачка, значыць: прадаць, утапіць сябе, цябе, нас усіх у няволю ім на векі вечныя — запрапасціцца ў вечнае рабства, з якога выхаду ніколі не знойдзем ні мы, ні тыя, што пасля нас гэта рабства ў спадчыну атрымаюць. Ці ведаеш, мамка, гэта?

**Марыля.** Нічога я, дзеткі, не ведаю, але, як праз сон, дагадваюся, чаго ты хочаш. На сваю і нашу нядолечку такі ты ўдаўся. Нездарма з гэтага людзі старыя нічога добрага не варажылі ні табе, ні бацькам тваім, ох, нездарма!

Паўза.

Апомніся, сынок! Падумай, адпусціся, выкінь гордасць з сэрца і паслухай маткі! Ведай, што матка родная да здрады дзяцей сваіх не давядзе. Не хочаш сам к ім ісці — я пайду, мне, старой, усё ўвойдзе. Яны не адмовяць нашай просьбе, ды на Зоську ласку маюць.

**Сымон.** О, каб іх зямля не насіла з гэтакай іхняй ласкай!

Уваходзіць **Незнаёмы** з вехай.

### З'ява IV

Тыя ж і **Незнаёмы.**

**Данілка** (*утаропіўшыся, убок*). А гэта хто яшчэ такі за прарок з вехай?

**Незнаёмы** (*гаворыць, найболей зварочваючыся да Сымона*). Тыдні тры таму назад я ў вас быў, добрыя

людзі, толькі дома ўсіх не застаў — адна сястра была... Цяпер ізноў прыходджу з тым самым.

Сымон. А! гэта вы, мусіць, той самы, аб якім Зоська гаварыла? На нейкі сход людзей склікаеце?

Незнаёмы. Але, але! На вялікі сход! Пара ўжо і табе, браце мой, з свайго гнязда знімацца!

Марыля. Наша гняздо раскідана.

Незнаёмы. Суд твой, мне казалі, сягоння кончыўся, цяпер ты вольны, як птушка,— нішто цябе не вяжа.

Марыля. Як-то — нішто не вяжа? А я — маці яго, і малыя гэтыя, якіх павінен памагчы мне гадаваць і ў людзі вывесці?..

Незнаёмы *(не слухаючы)*. Годзе нацягаліся твае дзяды і прадзеды ношкі непасільнай! Выбіла гадзіна, і ты мусіш, як арол магучы, распусціць свае крылле і ляцець туды, куды ўсе цяпер злятаюцца. Кончылася чалавечае вечнае начаванне, і світанне агністае пачынаецца на зямлі ад краю да краю, ад мора да мора!

Данілка *(убок)*. Што ён чаўпе? Па-мойму, вечарэе, а па-ягонаму — світае. Ці я сляпы, ці ён не бачыць?

Незнаёмы. На крыжах магільных гараць свечкі грамнічныя, а на курганах адзірванелых вехі смалістыя палаюць і шляхі асвечваюць для ўсіх тых, што ідуць на гэна зборышча вялікае. Гора таму, хто будзе спаць у гэты час трывожны!

Сымон. Трудна зразумець вас, чалавеча! Скажыце ж мне хоць: нашто гэта зборышча склікаецца?

Марыля. Але, нашто? Можа, зямлю будуць даваць?

Незнаёмы. Смока выганяць!

Усе. Смока? Якога? *(Дзеці са страхам туляцца да Марылі.)*

Незнаёмы. Не чулі?.. Ды дзе вам пачуць? Вы ўсе ў гэтых ламах капашыцёся, як чэрві, прыдаўленыя каменем, і свету белага не бачыце і нічога слухаць не ўмееце.

Данілка *(убок)*. Ну, я-то пэўна б аб гэтым ведаў, але, мусіць, гэта брахня?

Незнаёмы. Ад даўняга часу пасяліўся на нашай зямлі ў заварожаным балоце страшны смок-упыр...

Усе. Аж нават упыр!

Незнаёмы. Але, але, добрыя людзі! І вось праз

гэтага смока-ўпыра пайшлі на цэлы свет усялякія беды і няшчасці.

Марыля. Няўжо ж гэта і нас праз яго гэтакае гора спаткала?

Сымон. Мамка, не перапыняйце гутаркі!

Незнаёмы. Пошасці ўсялякія сее жменяй сваёй каршуновай — гэта каб сіла народная не ўзвялічылася і яго не змагла, а туманы чорныя ў вочы ўсім пускае, каб людзі не бачылі яго. Поначы з хаты ў хату заходзіць і кроў з сэрцаў цёплую смокча, а ў душу яду свайго падлівае, каб яна прасветласці ніколі ніякае не бачыла. Дзе толькі яго хоць цень прашмыгнецца — там нянавісць страшная між братамі і сёстрамі, як вужака, разгнежджваецца, нявінная кроў на зямлю льецца, а путы жалезныя бразгаюць на руках чалавечых, як званы на ўсяночную. Катнія жаданні ў думках людскіх расплоджвае і на самае сонца кладзе жалобную пакрывальню. Удоў і сірот у рабства голаду і холаду заганяе, а бацькам і маткам без часу дзетак назаўсёды ад грудзей вырывае,— гэта ўсё каб хвалу сваю смочую ўзвялічыць. Вось які ён — гэты смок-упыр!

Данілка. А скажыце, дзядзька: ці ты бачыў яго?

Незнаёмы. Ніхто не бачыў!

Марыля. Дык як жа гэта?

Незнаёмы. А вельмі проста: усе дагэтуль думалі, што гэта не смока работа, а так Бог даў.

Сымон. А як жа гэта будзе сход выганяць яго, калі ніхто і не бачыў?

Незнаёмы. Як усе чыста браты і сёстры на сход прыйдуць, тады ўсе і ўбачаць яго, бо, каб убачыць яго,— трэба ўсе вочы ў адно месца сабраць.

Данілка. А ён не паесць за гэтакую штуку ўсіх?

Незнаёмы. Ён толькі з'есць таго, у каго да канца не хопіць адвагі глядзець яму смела ў вочы.

Данілка. Ну, як так, то я на гэты сход не пайду!

Марыля. Дык, значыцца, і Сымона майго хочаце звабіць туды?

Незнаёмы. Я нікога, маці, не ваблю! Я толькі кліч клікаю і разношу гэтую весць усім чыста ад хаты да хаты. А хто яшчэ не згніў зусім і не запрапасціўся з душою ў смокавых лапах,— той сам пойдзе, і ніякая сіла яго не стрымае.

Сымон. Я не пайду, хоць мяне ўжо і цягне туды. Я павінен тут астацца, каб рукамі і зубамі трымацца

гэтай спадчыны бацькавай, бо як згублю яе — месца мне на цэлым свеце не будзе.

Незнаёмы. Што ж, браце мой? Думаеш, што гэта лаціна зямлі скрозь дна праваліцца? Так ты думаеш?

Сымон. Не праваліцца; але як сыду — мяне назад сюды не пусцяць.

Незнаёмы. Не бойся! Без тваіх рук нідзе не абы-дуцца.

Марыля. Як сабе хочаце, добры чалавеча, а я Сымона свайго ад сябе нікуды не адпушчу! Хай лепей думае, як хлеба і начлегу дастаць на зіму.

Незнаёмы. Не ўтрымаеш, маці, свайго сына, калі ў ім кроў разгарыцца і душу яго да святла пацягне. Пойдзе, хоць бы зямля перад ім расступалася. З запаленай паходняй пойдзе праз пяскі халодныя і праз лагі балотныя туды, адкуль я к вам з гэтай весцю прыходжу. Голас патаемны, што дагэтуль драмаў у глыбіні грудзей, павядзе яго так лёгка, што і не агледзіцца, а крыўда, якую бацькі яго цярпелі і ён сягоння цярпіць, падганяць будзе яго; можа, нават будзе гнаць яго на вельмі і вельмі страшэнныя рэчы. Але нічога — пойдзе і возьме сваё! *(Паўза.)* Што, Сымон? Час не спіць! Там чакаюць цябе сотні, тысячы, мільёны такіх, як ты, і ты, ведаю, на іх даўно чакаеш, толькі стараешся гэта заглушыць у сабе. Час прачнуцца, Сымоне! Час!

Сымон *(звесіўшы галаву, як бы сам да сябе)*. Кінуць матку, кінуць зямлю і пайсці?! А ці знайду я там тое, што тут згублю? Ці знайду? Але штось цягне туды! Ачараваў ты мяне, чалавеча. На дзве палавіны разрываюцца мае думкі і душа мая. Як жа гэта неяк раптам прыйшло! Як жа мне загадала страшную загадку — ні тут застацца, ні туды пайсці?!

Незнаёмы. Час, Сымоне, час! Агляніся кругом сябе і ўспомні ўсё. Дагэтуль ніколі ты сцежкі свае не бачыў, бо вечна нязмытыя слёзы на вачах тваіх віселі, хоць чырвоная кроў з цябе капала на сляды твае. Наганяў ты сабе мазалі непазбытыя, як араў і сеяў, а груганы пражорлівыя зярняты твае спелыя клявалі. Як нарадзіўся ты — штось думаў, штось рабіў, тварыў, а што? Нядолю сваю толькі з году ў год гадаваў і пашыраў панаванне яе. Песень і казак чароўных шмат табе матка над калыскай тваёй напяяла; яны доўга ў душы тваёй жылі і радавалі цябе, а што з іх сягоння засталося? Асмяялі, аплявалі іх табе нязваныя госці, мучыцелі твае — гора

ды крыўда! Агляніся, Сымоне! Успомні, развaж усё! Успомні матку, сястру сваю ўспомні, га! і тую вяроўку, на якой бацька твой павесіўся! *(Шыбка выходзіць.)*

### З'ява V

Тыя ж без Незнаёмага.

Сымон *(як бы збудзіўшыся)*. Ах! Ён выйшаў ужо! *(Хоча бегчы за Незнаёмым.)*

Марыля *(хапаючы за руку)*. Сымонка! Куды ты, дзеткі?

Сымон. Пусціце, мамка! Я хачу папытацца, у якім месцы той сход склікаецца.

Марыля. Не трэба! Не ідзі! Нашто ён табе? Я цябе прашу, дзеткі, астанься!

Сымон. Я толькі папытаюся і вярнуся назад.

Марыля. Не ведаеш дзе, і не трэба! Нашто табе гэны сход страшны? Я не пушчу на яго цябе! Не пушчу!

Сымон. Мамка, пусціце, я толькі даведаюся, і больш нічога!

Марыля *(віснучы Сымону на шыі)*. Усё роўна — не трэба! Там згуба твая і наша. Ах, божухна мой! Чаго яго, гэтага шалёнага клікача, прынясло сюды? Што яму трэба ад нас? Няшчасце за няшчасцем так і ідзе на бедную маю галаву! *(Плача.)*

Сымон. Чаго плачаш, мамка? Яшчэ ж нічога такога страшнага не сталася. Не плачце, мамка! Калі ўжо так хочаце, дык не пайду і пытацца нават.

Марыля *(апускаючыся на зямлю)*. Дабіваеце мяне! З усіх старон дабіваюць! Жыццё, якое ёсць, адбіраюць. Кара божая звалілася на ўвесь род наш. Ах ты, долечка мая няшчасная!

Сымон *(адышоўшыся ў старану)*. А ўсё-такі мушу даведацца, дзе гэны сход склікаецца, каб там і немаведама што! І трэба ж было мне не папытацца ў яго? Ці не сказаў ён толькі часам Зосі гэтага? *(Да Марылі.)* Мамка! Дзе Зося?

Марыля *(адмахваючыся рукамі)*. Бог яе ведае! Недзе выйшла. Мусіць, ці не пайшла ў грыбы.

Данілка. Я ж табе, мама, казаў! Зоська пайшла... *(Глянуўшы на матку, не дагаварвае.)*

Сымон. Куды пайшла?

Данілка. А мусіць, у грыбы, як мамка казала, я не ведаю.

Сымон. Маніш! Добра ведаеш, а толькі не хочаш казаць, кажы! А то...

Марыля. Нашто яна табе? Пайшла і прыйдзе. Ці ж першы раз?

Сымон. Першы ці не першы, а сягоння я мушу ведаць, куды пайшла. *(Прыступаючы да Данілкі.)* Кажы, шэльма, а не — то біць буду!

Данілка. Я ж табе кажу, што не ведаю. А біць мяне не маеш права: на тое мацi ёсць.

Сымон. Яшчэ ён, жаба, будзе са мной абрыдацца! Калі пытаюся, то мусіш сказаць. Я старэйшы за цябе і не які прыблуда, а брат твой.

Данілка. Хоць ты і старэйшы, хоць ты і брат мой, ш ўсё роўна, калі і ведаю, то не скажу! Што ж ты са мной зробіш?

Сымон. Выбрашаш усё, аж міла будзе, як юху гаду спушчу!

Марыля *(да Сымона)*. Кінь ты да яго чапіцца! Што з табой сягоння зрабілася?

Сымон. Калі пытаюся, то няхай кажа! *(Да Данілкі.)* Ну! Чуеш ці не?

Данілка. А як жа! Чую! Нашто ж у мяне вушы?

Сымон. Ну дык кажы! А не — то, як бачыш, душу з цябе выматаю.

Данілка. Не скажу!

Сымон. Скажаш!

Данілка. Хоць зарэж!

Сымон *(хапаючы сякеру)*. Кажы, вужака! а то як стой на дробныя кусочкі скрыпку пашчапаю!

Данілка *(хаваючы пад сябе скрыпку)*. І скрыпкі не дам шчапаць, і не скажу!

Сымон *(вырывае з-пад Данілкі скрыпку і хоча сеч)*. Скажаш?

Данілка *(кідаючыся к Сымону на каленне і цалуючы рукі)*. А братачка, а родненькі! Пасячы лепей мяне самога на дробныя кусочкі, а скрыпку не чапай! Богам цябе прашу!

Марыля *(адцягваючы Сымона)*. Ці не ашалеў ты сягоння!..

Сымон *(баронячыся ад Марылі)*. Адчапіся, мамка! *(Да Данілкі, замахваючыся тапаром над скрыпкай.)* Кажы!

Данілка *(енчачы)*. Сымонка, братачка! Не сячы! Лепей мяне забі, зарэж, што хочаш зрабі са мной, а скрыпачкі не чапай! Другой такой за ўсё жыццё не зраблю.

Сымон *(ізноў замахваючыся тапаром)*. Пасяку на дробныя шчэпкі! Кажы!..

Данілка *(прыпадаючы галавой да скрыпкі)*. Сячы па маёй шыі, а скрыпачкі не чапай! Але ўжо скажу, скажу табе, дзе яна!..

Марыля *(ухапіўшыся за сякеру)*. Давай мне сякеру! Давай сякеру! Я сама табе скажу, дзе Зоська.

За сцэнай шум; чуваць Зоськін голас: «Пусціце мяне... Я сама пайду. Пусціце». Двое дворных людзей уводзяць на сцэну Зоську з завязанымі назад рукамі.

### З'ява VI

Тыя ж, Зоська і дворныя людзі.

Адзін з дворных людзей. Хацела каля палаца павесіцца, дык сказалі звязаць і сюды прывесці!

Зоська *(хочучы вырваць з вяровак рукі, у страшным мучэнні)*. Нашто рукі звязалі? Мамачка, браточкі, змілуйцеся, развяжыце! За што так пакаралі?!

Марыля, Сымон, Данілка застываюць у сваіх позах не то здзіўленыя, не то перапужаныя. Дзеці падбягаюць і туляцца да Зоські. Дворныя людзі выходзяць.

*Паволі апускаецца заслона*

## АКТ ПЯТЫ

Час — каля «ўсіх святых». Вечар. Цёмна. Глуха. Заводзіць вецер.

### З'ява I

Марыля, Данілка, дзеці.

Данілка *(увесь час выводзячы з перарывамі на сваёй скончанай скрыпцы сумную мелодыю)*. Мамка, уцякайма адгэтуль, а то ўжо і мне трудна вытрываць: так тут холадна, цёмна, страшна!

Марыля *(грэючыся з дзецьмі каля вогнішча)*. Як Сымон скажа, так і будзе, нічога я ў гэтым сваёй воляй парадзіць не магу.

Данілка. Усё Сымон ды Сымон! Ці ж без яго дык і абысціся няможна. Я ж нашто ў цябе?

Марыля. Нашто? Пішчэць толькі на скрыпцы, ды і ўся з цябе тут рада і парада! Як цяпер во пішчыш ды пішчыш, хоць вушы затыкай.

Данілка. А ўсё-такі скажы, мамка, праўду: у гэтай скрыпцы лепшы голас, як у той, што раней у мяне была?

Марыля. На той гудзеў, як авадзень, і на гэтай таксама выводзіш нейкае нешта паўтара людскога. Знайшоў калі музыкай займацца! Жалоба па бацьку яшчэ не адышла, з Зоськай такое няшчасце прылучылася, а ён — на табе! На скрыпцы выігрывае.

Данілка. Мамачка, я ж нічога вясёлага і не іграю, а ўсё такое, як сама чуеш, што і па нябожчыках не грэх галасіць. Жалобная музыка, бачыш, у мяне выходзіць, ■ не якая іншая.

Марыля. І толькі больш жалю задаеш, ажно толькі сэрца на кускі разрываецца. Думак сваіх не магу ў парадак прывясці.

Данілка. А якія там думкі? Узяў пастанавіў раз кінуць гэта беспрыпыннае прыпынішча, ну дык і што тут мазгі думкамі сушыць. Сабраў свае манаткі, ды дай божанька ногі і здароўе!..

Марыля. У цябе ўсё проста з моста, а клёку ў галаве і за грош не маеш. Ну, мы няхай сабе пойдзем — добра! А Сымон, Зоська? Як па-твойму здаецца: выра-чыся мы іх павінны? Што?

Данілка. Няхай і яны з намі ідуць. Ці ж ім хто не дае?

Марыля. А калі не хочуць?

Данілка. Дык іх аддзяліць трэба, калі ім кепска з намі жыць і калі цябе не ўмеюць слухаць.

Марыля. Нашто іх аддзельваць! Яны самі даўно ўжо аддзяліліся ад нас, але толькі я — матка — ад іх не магу аддзяліцца і пакінуць іх тут без ніякага парадку і ладу. Ды што ты, дурненькі, разумееш у гэтым?

Данілка. Я толькі тое разумею, што ўцякайма адгэтуль, мама, ды ўсё тут! Есці няма чаго, хаты няма, скора зіма будзе, сцюжа, снег, мароз... Бр! Аж цяпер усяго да костачак холадам пераймае, як шпількамі жалезнымі. Замерзнем, мамка, запраўды замерзнем. На

ледзякі абернемся, як Сымон казаў. А я не хачу быць ледзяком, бо як тады буду я на скрыпачцы сваёй іграць? То ж пальцы, напэўна, зусім падубянеюць, ды скрыпачку мароз пашчапае. А такая звонкая ўдалася, такая звонкая!

Марыля. Але ж Сымон, Зоська!..

Данілка. Як Сымон не хоча з гэтым няшчасным папялішчам расстацца, то і бог з ім! Без яго дамо сабе раду.

Марыля. То што ж з таго? Але ж ён і нас не адпускае?

Данілка. Дык ціханька ўцячэм ад яго, сягоння ўцячэм. Пакуль ён вернецца, то нашага і следу не застанецца. Гэтага свайго сходу, што той дурны з вехай начоўп яму, можа і без нас шукаць, аж надта можа! Усё ж роўна мы яму шукаць не памагаем.

Марыля. Казаў жа, што ўжо на след напаў, і скора ўсё скончыцца. Неўзабаве ўсю гаспадарку да ладу прывядзе.

Данілка. Чакай, баба, Пятра — будзеш сыр есці! Яму ў галаве ўсё дагары нагамі перавярнулася, а мы слухаць мусім і чакаць нейкае злыбеды, апошняга канца свайго.

Марыля. Ну, а Зоська?

Данілка. Я Зоську ўгавару, і яна пойдзе з намі. Даліпан, пойдзе. Я зайграю ёй тую музыку, што паніч высвістваў, як у нас быў,— яна заслухаецца і пойдзе аж міла, куды я толькі з скрыпачкай пайду.

Марыля *(глуха)*. Куды ж мы пойдзем? З чым? Па што?

Данілка *(горача)*. Самі з сабой пойдзем: ты з малымі, я з скрыпачкай. У свет, мамачка, па хату і хлеб пойдзем. Я буду іграць, ты пяяць, а малыя сваім плачам памагаць нам будуць. І такую вандроўку пачнём, якая яшчэ нікому і не снілася! Ад вёскі да вёскі пойдзем, ад двара да двара — аж у вялікі горад зойдзем, кажуць, ёсць такія гарады, ці месты, дзе дамы ўсе чыста, як печы,— з цэглы мураваныя, а народу там шмат, шмат! Цэрквы там золатам пакрыты, а ў цэрквах вялікія і маленькія божанькі стаяць і вісяць. Дарагое каменне з іх адзежак і каронаў так і капае на зямлю, буйна, як слёзы падчас ці град з неба. А народ к ім, гэтым божанькам, ідзе і ідзе, як вада плыве. Ад усялякіх боле-

сцей вылечваюцца, ад няшчасцяў збаўляюцца, долю сабе лепшую вымаліваюць. Такія там, кажуць, мамачка, цуды творацца. *(Цалуючы рукі Марылі.)* Дык уцякайма адгэтуль, мамачка! Там будзе нам усім хораша і весела. Уцякайма! Ды нашто ж ты, мамка, торбачкі шыла?!

## З'ява II

Тыя ж і Старац.

Старац. Слава Хрысту, добрыя людзі!

Усе. Слава! Слава! І цяпер, і на векі вякоў!

Старац. Што гэта ў вас парабілася, пані гаспадыня? То ж як вясной быў я ў вас, не так гэта мясціна выглядала!

Данілка. Яна ўжо і тады таксама выглядала, толькі тады яшчэ ў кучы трымалася, а цяпер рассыпалася.

Старац. Але, але, бачу! А дзе ж яшчэ ваша сямейка? — было ж болей.

Данілка. І тады, дзедка, такая самая была наша сямейка, толькі як сядзела ў хаце, дык болей яе выглядала.

Старац. Але, але, ведаю! Гняздо раскідалася, і птушкі разбегліся якая дзе-куды. Ведаю, ведаю! Сам я з такога гнязда.

Марыля *(падаючы хлеба кусок)*. Сядайце, дзедка, і памаліцеся за грэшную душачку Лявона.

Старац *(здзіўлена)*. Што, пані гаспадыня? Памёр твой чалавек?

Данілка. Але, дзедка! Тата не вытрываў, узяў ды павесіўся.

Старац. Вечны супакой! Вечны супакой яго душачцы! *(Моліцца.)*

Марыля. Адкуль жа гэта дзедку Бог прынёс да нас?

Старац. З свету, пані гаспадыня! З далёкага свету валакуся. Хэ-хэ-хэ! З свету ў свет плятуся. І так кожны дзень і кожную ночку, калі дзе не начую.

Данілка. Мусіць, вялікі, дзедка, свет гэты? Ці канец яму ёсць дзе, ці няма? Я ні ў каго не магу гэтага даведацца.

Старац. Ох, вялікі свет, мой сынку! Куды я толькі ні хадзіў, нідзе канца яму не знайшоў, не бачыў і не чуў.

Можа, дзе і ёсць яму канец — ды пэўна, што ёсць, бо адкуль жа б ветры нам Бог пасылаў, ды лета і зіму, цяпло і холад?

Данілка. Мусіць, добра жыць на гэтым свеце вялікім? Я ўжо мамцы казаў, што добра.

Старац. Там добра, дзе нас няма. Але мне ў маім жабрачым палажэнні ўсюды някепска. Што мне там, сынку, нягоднага можа быць? Ідзі сабе, куды вочы глядзяць, ані мяне хата свая затрымлівае, ані мяне радня звязвае, ані мяне зямелька свая к сабе цягне!.. Цэлы свет — хата мая, усе людзі — радня мая, уся зямелька — поле маё роднае. Усюды што-колечы ды сваё знаходжу: ці кусочак хлеба, ці куток цёплы для начлегу, ці толькі так добрае слова — і за гэта дзякую Богу! Іду сабе ды іду. Ні над чым не трасуся, нічога бараніць не маю: усё багацце са мною ў гэтых торбах — гэтыя акрайчыкі хлеба ды часам які кусочак сыру ці сала. І што болей трэба мне? Добра мне так. Смачна ем, спакойна сплю. Ведаю, што не акрадзе мяне злодзей, не аграбіць разбойнік. Усюды ласку маю — за душачкі жывыя і змарлыя маліцца просяць. Ведама, не ўсе мяне ахвотна прымаюць і любяць мяне, але гэта найболей такія, дзе сабак многа і дворні ўсялякае,— туды ж і заходзіць я не стараюся. А так — усюды добра на свеце, мой сынку, усюды!

Марыля. Мо і праўду, дзедка, кажаш, што табе няцяжка жывецца на гэтым свеце, але ў нас тутака дужа дрэнна. Як пайшло ад вясны няшчасце за няшчасцем, дык і радачкі знікуль ніякае нямашака.

Старац. Ведаю, пані гаспадыня, ведаю.

Марыля. Як бачыце — хату нашу раскідалі. Лявонка мой — як табе ўжо Данілка казаў — не пражыў, вечны супакой, гэткае несправядлівасці і рукі без пары сам на сябе налажыў.

Старац. Ведаю! Важны чалавек быў — гаспадарны і справядлівы быў. Колькі раз я ні заходзіў, заўсёды вока на мяне добрае меў. Вечнае яму спачыванне, і няхай зямелька для яго лёганькай будзе, а Бог найвышэйшы пляму з яго душачкі здыме, што налажыў сам на яе з роспачы.

Марыля. Вечнае яму спачыванне! А Зоську нашу таксама зналі, дзедка? Такая дзяўчына была!

Старац. Знаў, пані гаспадыня! Чаму не знаў?.. Не адзін раз мяне і хлебам дарыла, і вадзічкі ў смагу

давала. Апошні раз, як у вас быў, кветачак нават мне дала,— за панічова здароўе прасіла маліцца. Добрая дзяўчынка была. Хай Бог міласэрны за тое долечку ёй шчасліўую пашле!

Марыля. Ох, дзедка мой! Не на радасць і не на пацеху яна ў мяне гадавалася. Дасціпная вельмі была і нейкая як сама не пры сабе. А з вясны, як прыйшло нешта ёй у галаву, як стала ў двор бегаць, як стала, дык цяпер як бы не пры сваім розуме засталася.

Старац. Ведаю я гэта! ох, чаму не ведаю? Маладасць яе згубіла, ды каго яна не згубіла!

Марыля. А Сымонка мой таксама ці з розуму сышоў, ці хто яго знае, што з ім робіцца. Хоць забі яго — саступіць адгэтуль не хоча і нам нікому волі не дае, нягледзячы на тое, што ўжо апошні суд за гэту зямлю адбыўся, і мы на ім прайгралі. Ды яшчэ другая бяда з маім Сымонам прылучылася: прыйшоў сюды нейкі шалёны чалавек і нагаварыў яму аб нейкім смоку і зборышчы,— дык цяпер поначы ходзіць і зборышча гэтага шукае, не на дабро шукае! Ужо сталі яго і цемняком усе называць. Можа, і сапраўды ў цемнякі запісаўся — хто яго ведае? Сама я ніяк і розуму не прыстаўлю. Ці не чулі вы, дзедка, чаго аб гэтым сходзе?

Старац. І чуў, і не чуў, і нічога сам добра не ведаю, ды хто яго ўсё разбярэ, як следна. Цяпер такі на свеце між людзьмі несупакой расце, што не дай ты божачка! Дык, можа, дзе і збіраецца гэна зборышча, але дзе — нічога я не ведаю. Шмат чутак усялякіх, як і заўсёды, ходзіць паміж жывымі, шмат аб чым і добрага, і благога гаманяць, але што з гэтага ўсяго гоману выйдзе — ніхто акуратна не згадае. Слабы сталі цяперашнія людзі· кепскія вочы маюць, каб усё як належыцца бачыць імі, кепскія вушы маюць, каб кожны шорах пачуць і згадаць, адкуль вецер прыхільны вее, і кепскі розум маюць, каб ім раскумекаць усё чыста, дзе дабро іх чакае, а дзе зло. Так, так, пані гаспадыня! Слабы людзі. Нават якую маюць сілу, дык і тое не хочуць выказаць. Нейкі сон і страх усіх аплутаў.

Данілка. Праўда, дзедка! Мне тут вельмі страшна, але каб спаць хацелася тутака на холадзе,— дык гэтага не скажу.

Старац. То чаго ж седзіце на гэтай руіне, калі вам тут страшна? Чаго чакаеце?

Данілка. А ўсё ж чакаем, пакуль Сымон сход той знойдзе.

Марыля. Падзецца няма дзе!

Старац. А дзе я падзяюся? Дзе пяты, дзесяты падзяецца такіх, як я, як многа іншых, падобных мне?

Данілка. Ну, месца гэтага то я яшчэ ўсё-такі добра не ведаю!

Старац. Як пойдзеш, сынку мой, у свет, то даведаешся. Днём сонейка сцежку пакажа, а ночкай — Шлях Млечны на небе. А ісці будзе лёганька-лёганька, бо вецер будзе цябе падганяць. І так будзеш шукаць ды шукаць таго месца, аж пакуль не знойдзеш вечнага спачывання.

Данілка. А як хмарна будзе ды з дарогі саб'емся,— хто тады пакажа?

Старац. Добрыя людзі, мой сынку, добрыя людзі. А ісці вам трэба адгэтуль.

Данілка. Ды я ўжо мамцы казаў аб гэтым самым, але ўсё ўпіраецца яшчэ.

Старац. Нічога, пані гаспадыня, тут не выседзіш. Скінь пыху з сэрца ды йдзі адгэтуль. Не спадзейся на помач сына — ён ужо далёка ад цябе з сваімі думкамі і няскора к табе з імі вернецца. Сцежкі вашы разышліся і сойдуцца толькі тады, як ён, пабываўшы на тым зборышчы, якога цяпер шукае, вернецца к табе славай акрыты. А цяпер не чакай на яго і думай сама аб сабе. Бачыш — якая гэтая асенняя ночка страшная, и ты тут адна з сваімі малымі і гэтым няшчасным музыкам, што ігрой сваёй да слёз толькі даводзіць... Час, птушка-маці, знімацца з гэтага раскіданага гнязда, каб іншых сваіх дзетак убараніць ад благіх ястрабаў, ад якіх сілачкі ты не мела ўбараніць свайго Сымонкі і Зоські! Скінь пыху з сэрца, набярыся адвагі, забірай гэтых з сабой і ідзі, ідзі, куды ногі панясуць, куды вочы твае глядзець будуць!

Марыля. Ды я ўжо з самае вясны торбачкі для ўсіх шыла і шмат, шмат іх пашыла! Але Сымон, Зоська!.. Як жа мне пайсці без іх?

Старац. Не бойся, пані гаспадыня! Яны, калі не знойдуць таго, чаго шукаюць, каб у тваю хату шчасце прынясці, то вернуцца к табе тым самым шляхам, якім ты ад іх адыдзеш. Такі ўжо парадак на свеце паміж намі, людзьмі.

Данілка. Ну, і добры ж гэты парадак: прыкладам, я пайду шукаць грыбоў у лес, а вярнуся адтуль толькі з галінай асінавай.

Старац (*цягнучы далей*). Твой сын цяпер, можа, нават шукае таго, чаго і не згубіў, але мусіць шукаць і павінен. Ганьба таму чалавеку, што рукі апусціць, як перавяслы, і чакае, пакуль сама доля к яму прыйдзе ў хату і папросіцца, каб прыняў яе з ласкі свае! Ганьба таму, хто, вочы на ўсё заплюшчыўшы, будзе ісці ўцёртай здавён сцежкай няпраўды і бяспраўя, думаючы, што іначай быць ніколі не можа і што не ў яго волі змяніць стары парадак бессумленнага жыцця! Ганьба таму, хто, радзіўшыся ў ярме, валочыць яго пакорна, як вол стары, не парываючыся нават хоць на час выпрагчыся з гэтага ярма, паганячага пачуццё яго чалавечае! Ганьба таму! Нам, старым, іншая рэч: мы не жывём, а толькі дажываем. Маладыя ж мусяць нечага шукаць, нечага дабівацца.

Марыля. Дзедачка! Незразумелыя рэчы для майго жаноцкага розуму ты кажаш. Але ўсё ж такі, як бачу, нездарма я торбачкі шыла, ох, нездарма!

Старац. І сын твой калісь гэтага не разумеў, а можа, і цяпер не разумее. Але прыйшла пара, выбіла такая шчасная ці няшчасная гадзіна, і прабудзілася ў яго думка вялікая, важная, што так далей быць не можа, як ёсць, што яго штосьці пацягнула к нечаму няведамаму, але светламу і радаснаму, ну, і перавярнуўся ўвесь стары лад у яго беднай галаве. Твае песні і казкі, што пяяла і гаварыла яму калісь над калыскай, шмат у гэтым памаглі. Дык не пярэч жа і далей свайму сыну ісці той дарожкай, якую ён сам сабе абабраў і ідзе цяпер.

Данілка. Ды мамка яму нічога не пярэчыць, але ён сам сабе пярэчыць і нам не дае ніякага ходу, каб як з гэтае пусткі на свет божы выбрацца.

## З'ява III

Тыя ж і Зоська.

Зоська ўваходзіць, штось сумнае напяваючы; у зрэбнай спадніцы і кашулі — без каптана, грудзі расхрыстаны, валасы распушчаны і спадаюць па плячах, на галаве з пасохшага лісця вяночак.

Старац (*адступаючы ў старану з мімавольнага перапугу*). Хто гэта такі?

Марыля. Ці ж не пазналі? — Зоська наша!

С т а р а ц. Божа! Божа! Што з яе асталося?

Д а н і л к а. Толькі цень ды вянок з лісця!

З о с ь к а *(разглядаючыся)*. Хто тут? Чаго вы назбіраліся? Разлучыць мяне хочаце з ім? Га? Ха-ха-ха! Не на такую напалі. *(Да Старца.)* А ты, сівы, чаго сюды прыйшоў? Можа, весці добрыя прыносіш ад майго таты або ад майго міленькага? Не бойся — кажы! Я ўсё ведаю!.. Даўней нічога не ведала, а цяпер, ах, як ведаю!.. Тата мой у палацы засеў і пануе там: шмат слуг яму служыць і скарбаў усялякіх шмат мае. Пасаг мне вялікі дасць, ох, які вялікі! — сто, тысячу, мільён. А толькі нашто ты, татачка, майго міленькага выгнаў з палаца, што аж за морам апынуўся? Пакінуў мяне мой ненаглядны, праз благіх людзей адрокся свае русалачкі з васільковымі вачамі. Ха-ха-ха! Але я сама к яму пайду. Праз быстрыя рэчкі, праз шчырыя бары, праз сухія пяскі паплыву к яму, як месяц па небе плыве! *(Садзіцца і капаецца ў вогнішчы.)*

С т а р а ц. Страшныя рэчы творацца ў вас, пані гаспадыня!

М а р ы л я. Ад маладзіковае суботы ўжо яна такая! Трэці тыдзень праходзіць.

З о с ь к а *(устае і ходзіць па сцэне)*. А вы вон адгэтуль усе, вон! А-а! Ведаю! — На вяселле маё сабраліся! Не хачу я вас, груганоў чорных,— у мяне іншыя госці будуць. *(Да Старца.)* Праўда, стары,— іншыя. Маўчыш! Ну, як сабе хочаш! А я скажу, хто ў мяне будзе: зоркі з неба залатыя збягуцца, месячык срыбны прыплыве, воблачкі светлыя сыдуцца, і будуць яны ўсе гуляць на маім вяселлі так весела, так скочна! А вецер іграць маё вяселле будзе, зычна іграць будзе, як ён у лесе часам умее, як ён у азяродах часам іграе! *(Да Данілкі.)* Пакажы мне зараз, маладзенькі музыка, як вецер іграе!

Данілка іграе жаласліва-нудную мелодыю, Зоська круціцца па сцэне і прыпявае.

Вецер іграе, зорачкі скачуць,
Месяц між імі лад водзе;
Радасна хмаркі белыя плачуць,
Мілы мой кажа ўсім — годзе!

Водбліск ад пажару асвечвае сцэну. Зоська, напяваючы ўсё, час нейкі круціцца па сцэне ў пажарным святле. Данілка іграе.

У с е *(апрача Зоські)*. Ах, пажар недзе!

М а р ы л я. Як бы з стараны двара агонь б'е!

С т а р а ц *(хрысцячыся)*. Скаранне божае валіцца на гэтую зямлю няшчасную! Тут вар'ятка скача, а там з дымам штось ідзе.

Д з е ц і. Нам страшна, мамка!

Д а н і л к а. Уцякайма скарэй адгэтуль, а то яшчэ і наш дом загарыцца!

З о с ь к а *(перастаўшы круціцца)*. А! Як відненька! А я думала, што ўжо ночка наступіла і мне трэба к майму саколіку збірацца. *(Разглядаючы.)* Чаго ж я, дурная, длякаюся? Гэта ж ён тут! Тут мой каралевіч ненаглядны! *(Паказваючы на дзерава, на каторым абраз вісіць.)* Во дзе ён! Во! Адзін, як сіротка, стаіць і чакае, пакуль я, яго зорка нябесная, к яму не падыду. Ужо іду, ужо іду, маё сонейка мілае! *(Падыходзіць і абымае дзерава, прытуляючы твар свой к яму.)* Выбачай, саколік, што так позна прыйшла я к табе сягоння! Вялікую дарогу мусіла перабыць. Гадзіны на мяне сыкалі, ваўкі вылі, начніцы і совы пужалі, але прыцягнулася к табе. Ночка ўжо мінулася, і божы дзянёк, бачыш, кругом ззяе. Прытулі ж мяне к сабе, добры мой каралевічу! Сагрэй мае грудзі дзявочыя: яны вельмі азяблі — халодна ўжо, бачыш, становіцца на свеце! Не гані мяне ад сябе, як той мяне адагнаў і сам за мора ўцёк. Ты інакшы! Ты хоць і той, але не той. У цябе, чую, сэрца б'ецца, а ў таго ў грудзях нейкі камень хрусцеў; у цябе вочкі, як зоркі, свецяцца, а ў таго, як галодныя вужакі, паглядалі; твае ручкі абымаюць, як матка дзіцянётка ў калысцы абымае, а той, як жалезнымі абцугамі, сціскаў мяне; той гаварыў, то як крумкач над непахаванымі касцямі крумкаў, а твой голас ліецца, як на жалейцы песня вясною... Прытулі ж мяне, саколе мой любы, і не выракайся болей каралеўны сваёй! *(Апускаецца каля дзерава і, задумаўшыся, сядзіць пры ім.)*

С т а р а ц. Пайду я ўжо ад вас, добрыя людзі. Вялікім горам і зніштажэннем кожны тут куток ваш напоўнен. Шчаслівейшую долечку пашлі вам, Божа! Бывайце здаровы! Слава Хрысту!

Д а н і л к а *(усхапіўшыся)*. Дзедачка, забірайце і мяне з сабой! А то яшчэ раз як здарыцца гэткая ночка з пажарам, то я зусім памру ад страху.

С т а р а ц. Як хочаш, сынку мой. Месца хопіць нам. Можаш ісці.

М а р ы л я. Не адходзьце, дзедка! Надумалася і я ўжо: пойдзем усе з табой. Сілачкі мае не хапае далей тут гібець.

С т а р а ц. Добра, пані гаспадыня! Добра! І табе месца мала не будзе.

М а р ы л я *(да дзяцей)*. Ну, дзеткі! Пара збірацца ў дарогу! Дзе толькі торбачкі? *(Находзіць торбы і начэплівае іх дзецям, Данілку і сабе; Старац памагае.)* Вось гэтыя меншанькія вам, малыя, а гэту, трохі большую, табе, Данілка.

Д а н і л к а *(надзеўшы торбу)*. Вось як лоўка цяпер будзе! У руках скрыпачка, на плячах торбачкі — гуляй, душа, колькі ўлезе!

С т а р а ц. Што ж? Нездарма людзі пацераў і малітваў змалку яшчэ вучацца. Каму-небудзь ды пад старасць прыгодзяцца. Аб торбах не павінны забывацца нават і тыя, што на пасадах сядзяць.

М а р ы л я *(надзяваючы на сябе торбу)*. Ну, гэтыя самыя большыя на мяне якраз падыдуць! *(Глянуўшы на Зоську.)* Папрабую і на яе надзець, а ну ж з намі пойдзе. *(Падыходзіць да Зоські і хоча надзець торбу.)* Зоська, пазволь,— надзену гэта на цябе, ды пойдзем разам!

З о с ь к а *(павёўшы мутнымі вачыма)*. Што? Куды?

М а р ы л я. Надзень, Зоська, гэтыя торбачкі! Надзень, дачушка мая. *(Хоча сілай надзець.)*

Д а н і л к а. Не спрачайся, Зоська, ды пойдзем! Я табе зайграю панічову музыку.

З о с ь к а *(усхапіўшыся з зямлі і баронячыся)*. Што? на мяне торбы хочаце надзяваць! Га! А вы ведаеце, хто я такая? Ведаеце? Я каралеўна! Я — усеўладная пані гэтае зямлі ўсёй чыста! — гэтых загонаў, гэтых лугоў, гэтага лесу! Ха-ха-ха! А яны мяне ў торбы, як жабрачку, хочуць прыбраць! Я ў кароне, бачыце, хаджу. Сярпы мае сталёвыя дабро цэламу свету жнуць, а палотны мае шаўковыя цэлы свет адзяваюць, а яны ў торбы мяне хочуць прыбраць! Проч, бясстыднікі! *(Зрывае торбы і кідае на вогнішча; сама апускаецца каля дзерава.)*

М а р ы л я *(адкінуўшы торбу ў старану з агню)*. Не хочаш, і не трэба! Не ў маёй ужо моцы з вамі вайну вясці. А торбачка гэта хай астанецца тут: можа, Сымону прыдасца.

С т а р а ц. Што ж, пані гаспадыня,— гатовы ўжо ўсе!

М а р ы л я. Ужо, дзедка! Можам ісці.

Д а н і л к а. Уцякайма, дзедка, бо і я ўжо гатоў. А Зоська дагоніць нас: не чапайце толькі яе. Цяпер жа, можа, запяем усе разам на адходнае.

Старац. Святую песню хоць калі не грэх запець.

Марыля (*да Зоські*). Зоська, як апомнішся, прыходзь з Сымонам да нас!

Старац ідзе наперад, за ім Марыля з дзяцьмі па баках, а за Марыляй — Данілка. Усе пяюць «Лазара»,— Данілка іграе; нейкую мінуту іх песня чуваць за сцэнай, пасля паволі замірае.

## З'ява IV

Зоська адна.

Зоська (*як бы прасвятлеўшы, паказваючы рукамі*). Ха-ха-ха! Там пажар, гэтыя, як пагарэльцы, з торбамі пайшлі.

## З'ява V

Зоська і Сымон.

Сымон (*шыбка ўваходзіць са стараны пажару, трымаючы ў руцэ запаленую галавешку. Разглядаючыся*). Пайшлі!.. Не пачакалі мяне яшчэ хоць трохі. А так ужо ўсё наладзіў. (*Угледзеўшы Зоську.*) Адна Зоська асталася! (*Да яе.*) Што ж ты робіш тут адна? Пойдзем са мной?

Зоська (*прыглядаючыся*). Гэта ты, Сымон?

Сымон. Я, Зоська! Уставай хутчэй, сястрыца, ды пойдзем, бо кожная мінута цяпер дарага!

Зоська. Куды пойдзем? Па што?

Сымон (*паказваючы галавешкай у праціўную старану ад пажару*). На вялікі сход! Па Бацькаўшчыну!!!

Зоська (*падымаючыся з зямлі*). А-а!..

Сымон бярэ яе за руку, і абое нікнуць у цемнаце.

*Заслона*



# ТУТЭЙШЫЯ

*Трагічна-смяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях*

## АСОБЫ

Мікіта Зносак (Нікіцій Зносілов) — калежскі рэгістратар, 25—28 г., у першых трох дзеях барада выгалена, у 4-й крыху барадаты.

Ганулля Знoшчыха — яго маці, у вольны час робіць панчоху.

Янка Здольнік — настаўнік, 25—28 г.

Лявон Гарошка — паважаны селянін, заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.

Аленка — яго дачка, 17—19 г., крыху жвавая і вясёлая дзяўчына, адзяецца чысценька і скромна.

Наста Пабягунская — дзяўчына няведамых заняткаў, 23—25 г.; стараецца адзявацца з шыкам, але без густу.

Гэнрых Мотавіч Спічыні — Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.

Усходні вучоны — носіць велікарускую вопратку — «падзёўку», «касаваротку» і доўгія боты, барада калматая.

Заходні вучоны — носіць польскі строй — кунтуш і «конфэдэратку», барада голеная, вусы завесістыя.

Дама. Поп. Спраўнік. Пан. Немец.

Чырвонаармеец, Начальнік патруля, Абарванец — у адной асобе.

Немец, двух патрульных, грамадзяне, грамадзянкі і інш.

*Усё дзеецца ў Менску. 1-я дзея адбываецца ў лютым 1918 г., 2-я — у снежні 1918 г., 3-я — у ліпені 1919 г., 4-я — у чэрвені 1920 г. 1, 3 і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея — на Катэдральным пляцы, называным мянчанамі «Брахалка».*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Час вячэрні. Даволі абшырны пакой, беднаваты, па-дробнамяшчанску абстаўлены. З правага боку — бліжэй да рампы — адны дзверы, з левага — двое. Напроць два вакны на вуліцу. Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох — пара малых столікаў, на адным з іх грамафон, крэслы венскія і мяккія плюшавыя. У кутку злева вялікае люстра (трумо). На сценах у рамах колькі тандэтных абразоў — партрэтаў высокапастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.

### З'ява I

Г а н у л я, Я н к а.

Г а н у л я *(сядзіць і робіць панчоху; чуваць стук у дзверы з левага боку, што далей ад рампы)*. Калі ласка! Заходзьце!

Я н к а *(уваходзіць)*. Выбачайце, цётачка, што так часта назаляюся вам, але, бачыце, неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прыйшоў да вас у госці.

Г а н у л я. Ды што за цэрамоніі! Можаце гасціць у мяне хоць кожны дзень ад рання да вечара — мне самой весялей, бо хоць вы ў нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас як свайго чалавека. Толькі не стукайце там па-панску ў дзверы, а проста ўваходзьце, і ўсё тут.

Я н к а. Дзякую вам за шчырасць і ласку, хоць і сам не ведаю, чым я на ўсё гэта заслужыў. *(Паўза.)* Дзе ж гэта гаспадар ваш малады?

Г а н у л я. Паляцеў у горад таго-сяго купіць. Сягоння імяніны яго, дык мо той ці сёй здарыцца ў хату.

Я н к а. Шкада, што я раней аб гэтым не ведаў. То ж належала і аб падарунку якім падумаць.

Г а н у л я. Э, мой сынок! Не тыя цяпер часы на падарункі. Гэтая вайна ды бязладдзе, ці, як там кажуць, рэвалюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.

Я н к а. А во, сын ваш не забыўся, аднак, аб імянінах?

Г а н у л я. Не забыўся, бо малады яшчэ і ў галаве пуста. Падумайце, скасавалі чыноўніцтва, застаўся без службы, і хоць бы што, ні на грош таей сталасці. Адно маракуе ўсё аб тым, як гэта ізноў

вернуцца нейкія там яго рангі і клясы і ўсялякае дабро само пасыпецца з неба.

Я н к а. А што ж ён, па-вашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцце?

Г а н у л я. Што? Хоць бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся боты шыць або хоць латаць. Ну латаў бы, і капейка жывая была б у хаце, а так... *(Махнула рукамі.)*

Я н к а. Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.

Г а н у л я. Які там ён далікатны! Я сама з ягоным бацькам — людзі вясковыя. Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацькох на маленькім надзеле. Адзін яшчэ сяк-так мясціўся ў сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца. Тады мы ўзялі і пайшлі сюды ў Менск шукаць службы. Спачатку было вельмі цяжка, а пасля нічога сабе. Я мыла людзям бялізну, а ён прыстроіўся ў акружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам. А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат, ды пакуль там хто дойдзе да вышэйшага начальства, пачынаць мусіў спярша ад ніжэйшага. Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі ды нават хлопца свайго праз усялякія там навукі да чыноўніцтва давялі. Пасля мой памёр, вечны яму пакой, а я засталася адна са сваім Мікіткам. Так што, як бачыце, ніякай далікатнасці нямашака.

Я н к а. А я спачатку меркаваў іначай. Бо дзе ж там! Ён гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як бы сам губарнатар.

Г а н у л я. Гэта, мабыць, ён наглядзеўся, бо служыў у губарнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.

Я н к а. Ах, вось яно што! Але гэта не бяда. Калі ён выйшаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца, асабліва павінна яго пацягнуць туды, адкуль прыйшоў,— на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць. І мне здаецца, што яго туды пацягне.

Г а н у л я. Не цягне яго і туды, мой саколік, ой, не цягне! Стары згарусціў быў лішнюю сотню, маніўся кусочак зямлі з хатай купіць, але не ўспеў. А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб з'есціў бацькаву думку,— не паслухаў. Цяпер ні зямелькі з хатай, ні грошай... А мне ўжо старасць на носе. Як падумаю, што бяда зноў прыцісне, што зноў прыйдзецца людзям бя-

лізну мыць, дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.

Янка. Э, цётачка! Не так ужо дрэнна, як вам здаецца. Устаткуецца ваш Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы. А цяпер ён жа яшчэ малады ў вас.

Ганул я. Ды, разумеецца, малады, яшчэ зусім малады! Яно ж і наракаць на яго роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыйдзе нешта нейкае, дык і гаворыш, і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасля і шкадуеш. Ён жа мае роднен ькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.

Янка *(набок)*. О, гэтакіх адных у нас многа, толькі ж яны не васількі, а праклятае зелле на нашай беднай зямлі! *(Ходзіць па пакоі.)*

## З'ява II

Ганул я, Янка, Мікіта.

Мікіта *(уваходзіць з пакупкамі)*. О, меджду протчым, і прафэсар у нас! Здрасціце!

Янка. Майму кватэрнаму гаспадару нізка кланяюся! Апрача гэтага пазвольце, пане рэгістратар, павіншаваць вас з імянінамі! Жычу вам надзець шліфы калежскага асэсара.

Мікіта. Дзякую, меджду протчым, дзякую! Шчыра мяне цешыць, што вы аб гэтым не забыліся. Жадаю, каб і праз год мы ў гэтай кватэры віншаваліся.

Янка. Аб гэтым трудна загадзя варажыць, бо я ўскорасці зусім выязджаю з Менску на вёску.

Ганул я. Як жа гэта, пане настаўнік? Мы ўжо да вас так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся.

Янка. Там, на вёсцы, я патрэбней, чымся тут, а да таго — не люблю я гораду: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.

Мікіта *(да Ганулі)*. Меджду протчым, мамаша, прышыкуйце закуску, бо незадоўга і госці збяруцца. *(Стаўляе набок пляшку.)*

Янка. Эгэ! І пляшку бачу. А кажуць, што няможна дастаць.

Мікіта. Усё можна, толькі асцярожна.

Гануля збірае пакупкі.

Вось тут селядцы, во цыбуля да іх, а вот сала, а тут... меджду протчым — кілечкі... пальцы госцікі абліжуць.

Ганулbackslash

## З'ява III

Янка, Мікіта.

Янка. Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.

Мікіта. О, так! У нашым чыноўніцкім становішчы іначай няможна. Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэнне, другі — што ў карты прагуляўся, а трэці — што скнэра, і гэта — найгорш, і так пайшла пісаць губэрня — не адцярэбішся. Становішча, меджду протчым, пане мой, абавязвае.

Янка. А вы плюнулі б на тое, хто што кажа, ды жылі сваім адумам. Прытым якое тут чорта чыноўніцкае становішча, калі яно ўжо не стаіць, а ляжыць, ды як яшчэ ляжыць — як трухлявая калода!

Мікіта. Меджду протчым, гэта яно ляжыць так сабе — да часу, а потым зварухнецца і падымецца.

Янка. Чакай, бабка, Пятра!.. Пакуль ваша гэта становішча ўстане, то вас саміх чэрві паточаць. Ды скажэце, калі ласка, каму і нашто патрэбна гэта ваша з мёртвых паўстанне? Ды каму, якую тут карысць вы прыносілі, як яшчэ стаялі?

Мікіта. Мы цвёрда стаялі на варце святога расійскага самаўладзтва і баранілі тутэйшую рускую народнасць ад «інародчаскага засілля». Во яно што, меджду протчым!

Янка. Няма чаго казаць — баранілі! У лапці абувалі, з торбамі пушчалі ды ў сібірскія катаргі вывозілі. Гэта называецца — баранілі!

Мікіта. А што вы, наваспечаныя рэспубліканцы, хэ-хэ-хэ! беларусы ці як там... што вы маніцёся бараніць, бо дагэтуль, меджду протчым, вы яшчэ нічога не ўбаранілі!

Янка. Мы бaронім саміх сябе ад вашай навалы.

Мікіта. А, меджду протчым, нічога не выходзіць: вашы сходкі ці там з'езды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць. Хэ-хэ-хэ! раскідаюць — во, і ўсё тут.

Янка. Але, раскідаюць, але! Толькі ж думак нашых

і сам люцыпар не раскідае — бо мы служым вялікай ідэі вызвалення.

Мікіта. Усё гэта глупства. Меджду протчым, ідэя — вельмі скупая пані: ні шэлега сваім слугам не плаціць — хоча, каб на яе ўсе дарма працавалі. А ў мяне, хэ-хэ-хэ! пане профэсар, душа рэальная: хто мне лепей плаціць, таму і служу і кіхаць хачу на ўсякія ідэі. Мая лінія жыцця вельмі простая.

Янка. Памыляецеся, пане рэгістратар. Ваша лінія не простая — а крывабокая,— цямняцкая ваша лінія і ўжо вядзе вас туды, адкуль не варочаюцца.

Мікіта (*стукаючы кулаком па стале*). Меджду протчым... меджду протчым... вы мяне абражаеце. Я не цямняк, пане... пане дырэктар беларускай басоты.

Янка. Выбачайце, я крыху пагарачыўся. (*Выходзіць у свой пакой.*)

## З'ява IV

Мікіта, Ганулі.

Ганулі (*увайшоўшы пры апошніх словах Мікітавых*). Ты ізноў з ім павадзіўся?

Мікіта. Меджду протчым, я з ім не вадзіўся, а толькі аб палітыцы паспрачаўся.

Ганулі (*накрывае стол*). Гэтымі сваімі спрэчкамі людзям толькі кроў псуеш.

Мікіта. Псуюць і яны мне. Не магу ж я, меджду протчым, мамаша, набраць у губу вады і маўчаць, калі ён бэсціць мае жыццёвыя погляды. Меджду протчым, абавязак мой — паказаць гэтым новым завадзілам іхняе належнае месца. Хай знаюць, што і мы тое-сёе ў палітыцы кемім. Апрача таго, здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, ■ мне ад гэтага паху ў носе круціць.

Ганулі. А калі бальшавік, дык што? Бальшавік таксама чалавек.

Мікіта. Можа, чалавек, а можа, і не, бо з нашымі рангамі і клясамі абходзіцца зусім не па-чалавецку. (*Паўза.*) Меджду протчым, мамаша, я папрашу вас... я гэтага хачу... З-паміж іншых гасцей будуць у мяне сягоння: адна мадам, поп, спраўнік і пан. Вось, калі хто з іх звернецца да вас з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужывайце простых выразаў. Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце — па-

нечка, а мадам-сіньёра, калі з папом, то — не бацюшка, а ацец духоўны, калі з спраўнікам, то — не пан спраўнік, а вашародзіе, а калі з панам, то — не проста пане, а — ясне пане грабя. Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны. меджду протчым, людзі аднолькавага са мной светагляду і амаль што не аднолькавых рангаў, так што хачу я, каб яны ведалі, што і радня мая не ніжэй стаіць ад іхняй радні.

Ганул я. Ну і госці! Адкуль ты іх выкапаў? Яны ж уперад у нас не бывалі.

Мікіта. Не бывалі... не бывалі... Меджду протчым, уперад была іншая політычна-экономічная сытуацыя, пры якой не ўсюды яны маглі пабываць, а цяперака, як збольшага рангі і клясы абшліфаваліся, вось яны, гэтыя мае госці, і складаюць нам першым візыту.

Ганул я. А хай бы лепей не складалі, а то скачы перад імі немаведама як!

Мікіта. Вы толькі, меджду протчым, мамаша, адказвайце, як и вас вучыў, а ўсялякіх іншых цэрамоній буду я сам даглядаць. Ага, яшчэ адно: як будзеце вітацца, то адну нагу назад адцягвайце — рабеце рэвэранс. А важней за ўсё старайцеся як найгусцей у нос.

Ганул я *(махнуўшы рукой)*. У нос дык у нос!

Уваходзіць Янка.

## З'ява V

Мікіта, Ганул я, Янка.

Янка *(увайшоўшы, да Ганулі)*. Вось я ўспомніў, цётачка, адну сваю справу і мушу прасіць вашай у гэтым помачы. Надовечы я атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы, у якім піша яна, што з бацькамі сваімі прыедзе ка мне ў госці. А гэта можа здарыцца нават сягоння. Усё было б добра, але бяда ў тым, што яны тут не маюць нікога знаёмага, дык не будзе ім дзе...

Ганул я. ...Пераначаваць. Ну, гэта не бяда! Можна будзе і ў нас. Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосцім, і пераспяць ноч.

Мікіта. Яно так, меджду протчым, але ў мяне сягоння важныя госці будуць, дык, можа, вашым гасцём гэта будзе не па нутру?

Янка. Я пастараюся, каб яны вам і вашым важным гасцём не заміналі.

## З'ява VI

Мікіта, Ганулян, Янка, Наста.

Наста (*высоўваючы галаву з правых дзвярэй*). Ці можна?

Мікіта. Калі ласка! Меджду протчым, просім, просім!

Наста (*уваходзіць*). Добры вечар! Як жывы-здаровы?

Мікіта. Дазвольце пазнаёміць: мамзэль Наста Пабягунская — настаўнік Янка Здольнік, меджду протчым, гэта той... хэ-хэ-хэ!.. беларус, аб якім я ўжо вам успамінаў... хэ-хэ-хэ! Не ўлюбецеся толькі.

Наста (*да Янкі*). Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца! Нам такіх як найболей патрэбна.

Янка. Дзякую за гонар! (*Набок.*) А для нас і не цікава і не патрэбна такое знаёмства.

Наста. Ці няможна ад гэтых паноў дзе на хвіліну мне схавацца? (*Паказвае на мігі, што мусіць папудравацца і паправіць валасы.*)

Ганулян. Можна, можна! Пойдзем са мною ў другі пакой. (*Выйшлі.*)

## З'ява VII

Мікіта, Янка.

Янка. Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?

Мікіта. Так сабе — надта мілая і сымпатычная, меджду протчым, мамзэль. На ўсе бакі вядзе шырокае знаёмства. Мае заўсёды аб усім і аб усіх з пэўных крыніц пэўныя весткі, любіць заўсёды і ўсюды, дзе трэба і не трэба, уткнуць свае тры грошы. Меджду протчым, павінен вам сказаць, што яна першая ды, мабыць, апошняя слабасць майго сэрца. Колькі раз рабіў ужо ёй асведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось не клеіцца. Кажа, як будзеце асэсарам, тады выйду, а за рэгістратара, кажа, не хачу. І хоць ты ёй з пальца высі тое асэсарства, а падавай, і ўсё тут. Але я надзеі не трачу. Зменяцца палітычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй, бо асоба, як бачыце, спрытная.

Я н к а. Спрытная, спрытная! Але і пры змененых сытуацыях каб вы толькі з сваім асэсарствам і з гэтай мамзэляй не вылецелі ў трубу. (*Выйшаў у свой пакой.*)

М і к і т а. Зайздрасць яго так і разбірае, меджду протчым. (*Дастае з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх.*)

Уваходзяць Н а с т а і Г а н у л я.

## З'ява VIII

М і к і т а, Н а с т а, Г а н у л я.

Н а с т а. Аей, што я бачу?! Без усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану канкурэнцыю робіце — як кокетка, флiртуеце з люстэркам. А яшчэ калежскі рэгістратар!

М і к і т а. Але і мамзэль Наста, меджду протчым, сягоння падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залю.

Н а с т а. На баль як на баль, а з гасцямі спаткацца прыйдзецца, дык чаму ж крыху і не паднядзеліцца?

М і к і т а. А так, так! На тое ж сягоння мае імяніны.

Н а с т а. Ды я не аб імянінных гасцёх.

М і к і т а. Аб якіх жа гасцёх яшчэ, меджду протчым?

Н а с т а. Які ж вы недагадлівы!

М і к і т а. Ах, ужо ведаю — вы аб немцах?!

Н а с т а. Няўжо ж аб кім? Я з пэўных крыніц маю пэўныя весткі, што яны яшчэ сягоння будуць у Менску.

М і к і т а. О, ліханька! Каб хаця не ўваліліся на імяніны, а то сапсуюць усю абедню. А так, меджду протчым, хай сабе ідуць, гэта мне пад руку — буду зноў засядаць у губарнатарскай канцылярыі.

Н а с т а. Ого! так адразу. А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работы — капаць акопы, а гэта не губарнатарская канцылярыя.

М і к і т а. Хэ-хэ-хэ! Я ўжо ведаў аб гэтым і загадзя забарыкадаваўся. Глядзеце! (*Знімае з сцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску.*)

Н а с т а. І што гэта значыць?

М і к і т а. А тое, што немцы пажарнікаў на работы не бяруць. Ну, вось я і падумаў аб гэтым раней і ўпісаўся ў Менскую пажарную дружыну.

Чуваць злева званок.

Ай, госці ідуць! Меджду протчым, мамаша, завесьце чым-небудзь вокны, можа — коўдрамі... а я пабягу спаткаць. *(Выбягае.)*

Гануля завешвае вокны. Наста круціцца каля люстра. Уваходзяць госці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта знімае і выносіць у другі пакой. Поп апускае падоткнутыя полы сутаны. Пасля прывітання госці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру.

## З'ява IX

Мікіта, Наста, Гануля, Дама, Поп, Спраўнік, Пан.

Мікіта *(як госці ўвайшлі і раздзеліся, надскакваючы)*. Міласці прашу! Прашу пакорна! Маю гонар пазнаёміць — меджду протчым, мая мамаша, а гэта — мамзэль Наста Пабягунская.

Дама *(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту)*. Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор? Напамінае сабой форму а-ля-кум пажарны.

Мікіта *(глянуўшы на сябе)*. Мадам-сіньёра, вы згадалі. Гэта... Як яно... гэта... меджду протчым, прызгадалі. Гэта... Як яно... гэта... меджду протчым, прынёс мне мой прыдворны кравец для меркі, а я так захапіўся найяснейшымі гасцямі *(госці ківаюць галовамі)*, што і забыўся зняць. Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віцмундзір з пэўнай мэтай... Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касцюм. Але, выбачайце, найяснейшыя госці,— пайду ўжо скіну, меджду протчым. *(Выходзіць і варочаецца ў чыноўніцкай форме з усімі адзнакамі.)*

Дама *(ізноў узіраючыся на Мікіту)*. Ах, мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі!

Мікіта. А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найслаўнейшых гасцей: хацеў прыняць іх, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.

Спраўнік. Тады дазвольце і я свой мундзір удастойню.

Дастае з кішэні пагоны і прышпільвае. Дама памагае. Чуваць званок. Гануля выходзіць і прыводзіць з сабой Аленку і Гарошку, які, уваходзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі.

## З'ява X

Тыя ж, Аленка, Гарошка.

Аленка *(узіраючыся ў пісульку)*. Ці тут жыве дзядзька... як яго?! дзядзька Мікіта Зносак?

Мікіта. І не дзядзька, і не Мікіта, і не Зносак, а тут жыве, междзу протчым, колежскі рэгістратар Нікіцій Зносілов.

Аленка. Я... я не ведаю...

Мікіта. А калі не ведаеце, то чаго ўлезлі ў чужую хату, междзу протчым.

Аленка. Бачыце, мы з таткам шукаем нашага настаўніка Здольніка.

Ганул я. Ах, так бы адразу і сказалі, дзеткі! Ён тут. Зараз паклічу. *(Стукае ў Янкавы дзверы.)* Пане настаўнік! Да вас госці прыйшлі.

## З'ява XI

Тыя ж, Янка.

Янка *(увайшоўшы і вітаючыся)*. Вось мілыя, дарагія госцікі! А я ўсё разважаў, ці прыедзеце сягоння, ці не. *(Да Ганулі.)* Гэта, цётачка, тыя самыя падарожнікі, аб якіх я вам успамінаў: мая найздальнейшая вучаніца Аленка, а гэта бацька яе, Лявон Гарошка — найлепшы гаспадар з усяго сяла.

Ганул я *(прыпамінаючы)*. Лявон Гарошка... Лявон Гарошка... Як жа гэта так? Ці вы не з Дуброўкі?

Гарошка. Але, мая мілая, з Дуброўкі!

Ганул я. Ну, цяпер успомніла! Гэта ж мы блізкія сваякі: твой дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра. Але чаго ж мы стаім? Сядайце, мае даражэнькія! Пане настаўнік, папрасіце, каб селі.

Сядаюць воддаль ад іншых гасцей.

Мікіта *(адыходзіць ад сваіх гасцей, да Ганулі, набок)*. Междзу протчым, мамаша, выехалі з гэтым сваяцтвам, як з козамі на торг! Перад маімі гасцямі ўсю мне рэпутацыю папсавалі. Хаця не ўздумайце яшчэ за стол іх садзіць.

Чуваць з двух бакоў званок. Ганул я меціцца ісці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзверы ўперад пайсці.

Наста (*падбегшы да Ганулі*). Вы, мадам, ідзеце адчыняць тыя дзверы, [redacted] я адчыню гэныя.

Выходзяць.

Мікіта. Каго там яшчэ нялёгкае нясе?!

Уваходзяць адначасова з абаіх дзвярэй Усходні вучоны і Заходні вучоны, разглядаючыся: Усходні — праз падзорную палявую трубу, Заходні — праз бінокль, не заўважыўшы спачатку адзін аднаго.

## З'ява XII

Тыя ж, Усходні вучоны, Заходні вучоны.

Мікіта (*да гасцей, як увайшлі вучоныя*). Гэта адны з маіх добрых знаёмых, меджду протчым, паны вучоныя. Сустрэў іх надовечы на Губарнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх. Я сказаў, што адзін такі тып кватаруе ў мяне,— вось, відаць, і прыйшлі паглядзець. Паміж іншым, адзін з іх Усходні вучоны, а другі — Заходні.

Усходні вучоны (*стукнуўшыся з Заходнім*). Чорт подзеры!

Заходні вучоны. Пся крэв!

Усходні вучоны. Ізвініце, судар!

Заходні вучоны. Пшэпрашам пана!

Усходні вучоны. І вы здзесь?

Заходні вучоны. І пан ту?

Абодва кланяюцца адзін аднаму і прысутным.

Мікіта (*вітаючыся з вучонымі*). Добра трапілі, меджду протчым, паны вучоныя. Вось той, хэ-хэ-хэ! беларус, аб якім я вам казаў. (*Да Янкі.*) Пане настаўнік, гэта — паны вучоныя, якія вельмі цікавяцца вашым, хэ-хэ-хэ! беларускім пытаннем.

Усходні вучоны. Так вы это і есць настояшчый белорус?

Янка. Але, пане вучоны! дый не адзін. (*Паказваючы на Аленку, Гарошку, Ганулю.*) Во яшчэ адзін беларус і дзве беларускі.

Усходні вучоны (*паказваючы на іншых*). А це тожа белорусы?

Янка. А так, так! Вы згадалі: яны самдзеле тожа — беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэнэратаў.

Заходні вучоны. Паньске імен і назвіско?

Я н к а. Янка Здольнік, пане вучоны.

З а х о д н і  в у ч о н ы (*запісваючы ў нататкі, галасна*). Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей. Людносць абэцне розкшэвя сень на две галэнзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-бялорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув. Мова ойчыста — огульнопольска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.

У с х о д н і  в у ч о н ы (*таксама запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным*). Іоан Здольніков. Ісцінорусскій ціп Северо-Западной Обласці і безусловно з прымесью монгольско-фінской крові. Народность ныне распадается на две родовые ветві: племя — белорусы і племя — тоже-белорусы, ісходзяшчэе от рэнегатов і дзегенератов. Родной язык — обшчэрусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.

З а х о д н і  в у ч о н ы. А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на бялорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?

Я н к а. Беларусь, пане вучоны.

З а х о д н і  в у ч о н ы (*запісваючы*). Пшы баданю бялорусіна высветлёно надзвычайнон особлівосць, а мяновіце: вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.

У с х о д н і  в у ч о н ы (*запісваючы ўперамежку з Заходнім вучоным*). Пры опросе белоруса выяснено необыкновенную особенносць, а іменно: вопрэкі історычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам,— оцечэство своё белорусы почему-то называют Белоруссія.

Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца. Паўза.

М і к і т а. Што, мусі вучоныя, сэанс ужо ўвесь, меджду протчым?

У с х о д н і  в у ч о н ы. Весьма вам благодарэн! Мої научныя ісследованія на сегодняшній дзень окончэны. Чэсць імею кланяцься!

Заходні вучоны. Незмерне пану вдзенчны естэм. Мое баданя навуковэ на дзень дзісейшы сон закончонэ. Мам гонар пожэгнаць пана!

Вучоныя выходзяць, кожны праз другія дзверы, якімі быў увайшоўшы. Мікіта, кланяючыся, праводзіць іх да дзвярэй, далей — Ганулял і Наста, якія хутка варочаюцца назад.

## З'ява XIII

Тыя ж (без вучоных).

Янка *(да праходзячага міма яго Мікіты)*. У вас сягоння, пане рэгістратар, праўдзівы арыстакратычны баль, не забыліся нават і аб інтэрмэдыі.

Мікіта. А гэта, меджду протчым, што за такая страва?

Янка. Не страва, мой пане, а такая маленькая камэдыя ў вялікай трагікамэдыі.

Мікіта. Не разумею. *(Ідзе да сваіх гасцей.)*

Янка *(да Аленкі і Гарошкі)*. Як жа вам спадабаліся гэтыя, не пры людзёх кажучы, вучоныя?

Аленка. Мне — як мне, а татку — адно цыбук звоніць аб зубы: ці то са страху, ці то з вялікай пашаны да вучоных.

Гарошка. Не пры мне пісаны гэтыя вашыя вучоныя — вот і ўсё тут!

Дама *(да Мікіты)*. Вы, мусье рэгістратар, зрабілі нам сягоння папраўдзе мілую неспадзеўку гэнымі дзвюма пэрсонамі, якія толькі што выйшлі. Тут у Менску так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.

Мікіта. Та-а-к, гэта важныя вучоныя. Але мы не такіх яшчэ пабачым, як будзе ў нас у Менску, меджду протчым, універсытэт.

Поп. Понежэ есць в Мінске духовная семінарыя, то воісціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное светское учэніе.

Спраўнік. Па-мойму, таксама універсітэт непатрэбен, бо завядуцца студэнты, а з імі заўсёды столькі для паліцыі клопату.

Паўза.

Мікіта *(да Ганулі)*. Меджду протчым, мамаша, ці не далі б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песнямі сыт не бывае.

Гануля падае закускі. Госці садзяцца за стол. Поп у цэнтры.

Г а н у л я *(падаўшы закуску, да Янкі, Аленкі і Гарошкі)*. Калі ласка, прашу за стол.

Г а р о ш к а *(хрысцячыся)*. Што вы, свацейка?! Я — і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду. Не, не!

Я н к а *(да Ганулі)*. Мы пяройдзем у мой пакой, каб вам не замінаць.

Г а н у л я. О, не! Павінны сягоння тут сядзець. Якніяк Мікіткавы імяніны. Калі не хочаце да ўсіх, то я вам сюды падам закускі.

Г а р о ш к а. І гэтага, свацейка, не трэба. Калі пазволіш, то ў мяне ёсць сёе-тое ў торбе, вот мы і закусім.

Г а н у л я. Рабіце што хочаце, а толькі з хаты не пушчу! *(Ідзе да гасцей.)*

Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку.

М і к і т а *(да Ганулі, набок)*. Меджду протчым, мамаша, я вас прасіў не запрашаць іх, а вы ўсё сваё правіце. *(Да гасцей.)* Цяпер, найяснейшыя госці, калі ўсе мы ўжо ўселіся,— можна пачынаць. *(Падымаючы чарку.)* За здароўе дастойных, меджду протчым, гасцей!

Г а л а с ы. О, не! не! За здароўе імянінніка! Віват! Ура!

М і к і т а. Дзякую, пакорна дзякую! Толькі я мушу ў вас, меджду протчым, мадамы і мусьі, папрасіць прабачэння за скромную, вельмі скромную вячэру. Сучаснае рэволюцыйнае забурэнне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігенцыі, так што калі і скромная вячэра, то не па маёй пэрсанальнай віне.

Д а м а. Не вячэра скромная, а вы самі, мусье Зносілов, вельмі скромны. Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.

П о п. В нынешнія врэмена дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало бы сіім блюдам.

П а н. Ой, часы, часы! Весялей жылі нашы бацькі.

С п р а ў н і к. Ды што — бацькі? Я сам як жыў? Фю-фю!

Д а м а *(дапіваючы чарку)*. Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны — нічым амброзія.

М і к і т а. Мадам-сіньёра, вы згадалі! Так яно і ёсць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы — а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў «Піліп і К°».

Гануля *(да дамы)*. Панечка... Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..

Дама. Мэрсі, мэрсі, мадам!

Мікіта *(да Ганулі, набок)*. Меджду протчым, мамаша, не мадам музей, а мадам-сіньёра... Ці ж гэта так цяжка? Ды ў нос, у нос! *(Да гасцей.)* А цяпер, высокашанаваныя госці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.

Галасы. Хай жывуць! Хай цвітуць нашы кветкі, наша асалода! Віват! Ура!

Поп. Разверзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом святой Русью завладоша, ежэлі созерцать всё творымое ныне.

Спраўнік. Ні паліцыі, ні паліцмэйстраў!..

Пан. Ні маёнткаў, ні бравароў!

Дама. Ні раутаў, ні журфіксаў!

Мікіта. Ні рангаў, ні клясаў, меджду протчым!

Наста. А, па-мойму, што-небудзь ды ёсць. Ёсць, напрыклад, свабода: што хачу, тое раблю. Узяць хоць бы тое: хто калі да рэвалюцыі ў Менску лузаў семечкі? — ніхто! А цяпер усе і ўсюды — і дома, і на вуліцы, і нават у тэатры лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы.

Гануля *(да папа)*. Бацюшка духавы, святы ўгоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсцейшы кусочак.

Поп. Благодарствую, матушка, благодарствую!

Мікіта *(да Ганулі, набок)*. Меджду протчым, мамаша, не святы ўгоднік, а ацец духоўны... *(Да гасцей.)* Цяпер я, высокія госці мае, прапаную тоста...

Наста. Не, не! Я цяпер тоста прапаную. За немцаў. Хай жывуць немцы!

Галасы. Хай жывуць! Віват! Ура!

Непрыемная паўза. Усе пераглядаюцца паміж сабой.

Дама. Можа, дарагія гаспадары дазволяць нам устаць?

Гануля. Калі ласка! Выбачайце толькі за недахватку ў ядзе.

Галасы. Сыты!.. вельмі сыты!.. дзякуем!.. дзякуем!..

Выходзяць з-за стала і рассядаюцца.

Поп. Не врэмя лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем?

Мікіта. І зусім яшчэ не час, меджду протчым, найяснейшыя госці, вось адсунем стол і...

Дама. ...Патанцуем, мусье Зносілов?

Мікіта. Мадам-сіньёра, вы згадалі.

Дама. А вы, мусье рэгістратар, мае слабасці адгадалі. Я ўміраю без танцаў.

Мікіта. Ах, як я рад! Мусы, згодны на гэта?

Галасы. Згодны! Згодны!

Дама. А як з музыкай?

Наста. А грамафон нашто?

Мікіта. О, не, не! Толькі не грамафон. Вельмі ён крычыць, [redacted] [redacted] чалавек асцярожны, меджду протчым.

Ганул я. Дык на балалайцы, сынок, сыграй: голас у ёй ціхі.

Мікіта. Калі ж я сам хачу патанцаваць. Можа, папрасіць каго?

Ганул я. Я папрашу нашага дзядзьку беларуса — ён умее.

Наста. Не, мадам, я лепей папрашу, і ён не адкажа. Я з пэўных крыніц ведаю, што беларусы падатлівы народ. *(Бярэ балалайку і падходзіць да Янкі.)* Сябра беларус, пайграйце нам.

Янка. З ахвотай. Хоць раз паскачаце і вы пад маю дудку.

Грае вальца. Пачынаецца танец: Мікіта — з Дамай, Спраўнік — з Настай, Пан — з Ганульяй, Поп, Гарошка і Аленка не танцуюць. Вальц з фігурамі, без шаржу, крыху пануры.

Дама *(як скончылі танец, да Мікіты)*. Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артысты ў вальцы. Я ачаравана вашымі віртуознымі па.

Мікіта. Мадам-сіньёра, вы цераз лад ка мне міласцівы. Калі і выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, па, то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну. У яго я скончыў курс гэтых навук.

Дама. Я заўважыла адразу, што вы прайшлі добрую адукацыю.

Паўза.

Спраўнік. Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі і без рэзолюцыі пайсці дамоў.

Мікіта. Я протэстую, меджду протчым!

Дама. Мусье Зносілов, наша большасць.

Мікіта. Паддаюся, толькі ж не большасці, а вашаму аднаму голасу, мадам-сіньёра.

Госці падымаюцца, адвітваюцца і апранаюцца ў прынесеныя Мікітам вопраткі. Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму.

Мікіта (*перад выходам гасцей*). Мадамы і мусьі! мы з мамашай, меджду протчым, вас нямножка правядзём. (*Выйшлі.*)

## З'ява XIV

Янка, Аленка, Гарошка.

Аленка (*пырснуўшы смехам*). Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча дык ігрышча! Ха-ха-ха!

Гарошка (*выняўшы люльку з зубоў*). Цьфу! Няма на іх доўгай пугі.

Янка. Але дзядзька густа іх сваёй піпкай падкурваў. Бачыў, як насамі круцілі ды кіхалі.

Гарошка. А як іначай з гэткімі? — куралём іх, куралём! Шкада толькі, што маці гэтага імяніннніка ў гэтакую кампанію ўпуталася.

Аленка (*з удаваным смуткам*). Не ляжыць у таткі сэрца да іх, ой не ляжыць!

Янка. Цікава, да каго ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?

Аленка. Вы ўжо аб гэтым павінны ведаць з майго лісту.

Янка. А так: да навукі і навучання.

Аленка. Але ж! Вучыцца і навучаць, навучаць і вучыцца. Вось да чаго маё сэрца ляжыць.

Янка. Не была б то мая найздальнейшая вучаніца.

Аленка. Ды яшчэ, як вы казалі,— беларускага роду. Ха-ха-ха! Перахваліце, пане настаўнік. Але ведаеце, што... як...

Янка. Не, не ведаю.

Аленка. Няможна перабіваць, пане настаўнік, калі іншы хто гавора.

Янка. Ого! Мы нават сур'ёзнымі зрабіліся.

Аленка. Дык вось што. Як выехалі вы з Дуброўкі, п ў шапку не спала і паехала ў Вільню!

Янка. Аж у Вільню!

Гарошка. А так, аж у Вільню, пане настаўнік.

Аленка. Там праслухала настаўніцкія курсы, і цяпер я — ваш таварыш: я таксама настаўнік!

Янка (*жартаўліва*). Вельмі прыемна пазнаёміцца з новым канкурэнтам у маёй прафэсіі.

Аленка. А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара...

Я н к а. А далей?

А л е н к а. Далей... не ведаю. Але дзеля гэтай мэты мяне татка і ў Менск да вас прытарабаніў.

Я н к а. Адно трохі не ў час.

А л е н к а. Не ў час?

Я н к а. Так! Гэтыя новыя акупанты ды іншыя згрызоты не даюць табе спакойна працаваць у Менску. На маю думку, найлепей пакуль што ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой ад іх вучыцца. Бо я таксама выязджаю на вёску.

А л е н к а. І вы? Ну што ж? на вёску дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы параіце...

Я н к а. О, там вельмі горача! Значыцца, згода?

А л е н к а *(падаючы руку)*. Згода!

Я н к а. Не адкладаючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі ды яшчэ заўтра — марш на свежае паветра!

А л е н к а. Але і кніжак з сабой набяром?

Я н к а. Абавязкова!

А л е н к а *(як бы сароміючыся, спускаючы вочы, сціха)*. Але толькі — беларускіх, дзядзька настаўнік!

Я н к а. Аб іншых і рэчы быць не можа.

Кароткая паўза.

Г а р о ш к а *(да Аленкі)*. А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала б настаўніку тое, што прывезла.

А л е н к а. Калі я саромлюся.

Я н к а. Мабыць, нешта надта брыдкое.

А л е н к а. І зусім не брыдкое, а нават, як цётка Агата казала, дужа прыгожае. Самі гэта скажаце. *(Дастае з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзорысты пояс і падае Янку, сур'ёзна кажучы.)* Прымеце, калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы. З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс. А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас выткала і вышыла.

Г а р о ш к а *(падаючы новую, дзераўляную, па-мастацку зробленую лыжку)*. А ад мяне прымеце вось гэта... З сваёй яблыні й сваімі рукамі зрабіў.

Я н к а *(расчулены)*. Дзякую, ад усёй душы дзякую! Не ведаю, чым і заслужыў на гэткую ласку?

Уваходзяць М і к і т а і Г а н у л я.

## З'ява XV

Тыя ж, Мікіта, Гануля.

Мікіта *(вясёлы, пасвіствае і напявае)*. Радуйся, вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім: немцы акупавалі, медждү протчым, Менск!..

Янка. Ну і чорт з імі!

Мікіта. І зусім не чорт, пане, хэ-хэ-хэ! беларус. *(Напявае.)*

Немцы едуць, нашы йдуць,
Немцы нашых падвязуць.

*(Убачыўшы Янкавы падарункі.)* Медждү протчым, што гэта ў вас, пане профэсар?

Янка. Праўдзівая кашуля, праўдзівы пояс і праўдзівая лыжка.

Гануля. Якія ж прыгожыя!

Мікіта. Як уважаю, то і вы сягоння імяніннік.

Янка. А праўда, імяніннік, толькі з іншай плянэты.

Званок. Гануля выходзіць і варочаецца, а з ёю Спічыні.

## З'ява XVI

Тыя ж, Спічыні.

Мікіта *(уніжліва вітаючыся)*. Маё найніжэйшае ўшанаванне, мусье прафэсару! А я думаў, што сягоння ўжо не прыйдзеце.

Спічыні. Справы затрымалі. Але мы затое пазней пазаймаемся.

Янка *(да Ганулі, набок)*. А гэта што яшчэ за такі позны госць?

Гануля. Гэта не госць, а нейкі важны дырэктар. Вучыць Мікітку па-нямецку гергетаць. Хто ён родам — напэўна не ведаю. Але сам ён кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец, мне здаецца, што ён проста, як і мы, тутэйшы.

Мікіта *(да Ганулі)*. Медждү протчым, мамаша, апаражнеце стол, бо нам трэба хутчэй вучыцца «ўрокаў».

Гануля прыбірае стол, пасля ладзіць для Гарошкаў пасцель на падлозе. Ходзіць у іншыя пакоі.

Янка *(да Аленкі і Гарошкі)*. А мы, пакуль яны будуць вучыцца сваіх «урокаў», пойдзем у мой пакой.

Выходзяць.

## З'ява XVII

Мікіта, Спічыні, Гануля.

Мікіта *(паклаўшы на стол некалькі тоўстых слоўнікаў)*. Меджду протчым, я гатоў, мусье профэсар.

Спічыні. Можам прыступіць, мусье рэгістратар. Учора мы збольшага прайшлі аддзел прывітанняў, сягоння павінны іх паўтарыць болей стала. Як вы прывітаеце, спаткаўшы немца?

Мікіта. Гута моргэн, гэр гэрманіш!

Спічыні. Добра! А цяпер, як вы прывітаеце, спаткаўшы немку?

Мікіта. Гута тахт, балабоста прусіш!

Спічыні. І зусім не балабоста, а фрау... Паўтарэце: фрау, фрау, фрау!

Мікіта. Фраву, фраву, фру, фруву... Фраву-ву...

Спічыні. Добра! А як вы прывітаеце, спаткаўшы вось такое... *(паказвае)* малое немчанё?

Мікіта. Шабас гут, гэр кіндар фатэрлянд, меджду протчым!

Спічыні. Ой, куды вы заехалі, куды вы заехалі? Толькі не шабас, а... *(Далёкі стук у дзверы злева. Спічыні, ускочыўшы.)* Нехта ці нешта, здаецца, як бы недзе стукае?

Мікіта. А праўда, меджду протчым, стукае. Можа, ужо гэр гэрманіш?

Спічыні. Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцый. Пакуль што маю гонар выйсці. Заўтра пачнем прывітанні навыварат. *(Хапае шапку і знікае ў дзвярох справа.)*

Мікіта *(услед Спічыні)*. Да мілага спаткання. *(Да Ганулі.)* Меджду протчым, мамаша, мабыць, папраўдзе немец стукае, бо далікатна. Ідзеце адчынеце дзверы і крыху прытрымайце яго, пакуль я пераадзенуся, бо, чаго добрага, прыйшоў на работу хапаць.

Выходзяць абое, паўза.

*(Варочаецца пераадзеты па-пажарніцку з каскай на галаве, з тапаром пры поясе і з жалязякамі, што лазіць па слупох, пры нагах. Становіцца ў позу і напявае.)*

Гусар, на саблю опіраясь,
В глубокой горэсці стаял...

Уваходзяць Гануля і Немец у вайсковай форме.

## З'ява XVIII

Мікіта, Немец, Ганута.

Мікіта (*беручы «пад казырок» і нізка кланяючыся*). Гута моргэн, гэр гэрманіш. (*Набок.*) Абач, абач, і немцы адзяюцца ў форму а-ля-кум пажарны, гэта — каб не хапалі, мабыць, іх саміх на работу.

Немец. Ці няможна ў вас папрасіць у гэту манерку трохі вады?

Мікіта (*набок*). На якую ж халеру пацеў я столькі над шпрэхендэйчам, калі яны па-нашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць? Але, мабыць, гэта мне здаецца, або ён удае, што ўмее па-тутэйшаму. (*Да немца.*) Зіхэнзіш... Заразіш... (*Набок.*) Зірну ў слоўнікі, як яму адказаць. (*Шастае слоўнікамі.*) Можна... можна... колькі... колькі... хочаце... хочаце... вады... вады... Няма гэтага. Каб іх пярун спаліў, такія слоўнікі! (*Да немца.*) Кіндэр фравуву, меджду протчым, фатэрлянд, гэр гэрманіш... (*Падказвае на мігі, што ўлле яму вады.*)

Немец (*падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыся да формы*). О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі генэрал. (*Набок.*) Але хоча дурня клеіць, каб выкруціцца ад палону. (*Беручы «пад казырок».*) Ваша прэвасхадзіцельства! Я вас павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі генэрал.

Мікіта (*перапужаны*). Аяяй! Оеей! Куды ж я падзенуся? Во, меджду протчым, папаўся, як мурза ў студню. Оеей! Оеей! Як жа яму вытлумачыць, што я не генэрал, а калежскі рэгістратар? Пашукаю яшчэ ратунку ў слоўніках. (*Шастае слоўнікам.*) Генэрал... генэрал... пажарная каманда... Оеей! Оеей! Мая ты босая каманда. Няма ў слоўніку. Дзе той Спічыні? Які яго нячысцік выкруціў у гэтую небяспечную для меня хвіліну? Оеей! Оеей! Што ён нарабіў мне, гэты гэр профэсар з сваёй навукай! Оеей! Оеей!

Немец. Я чакаю, ваша прэвасхадзіцельства!

Мікіта. Рыхтык, рэхт, меджду протчым, шабас гут, фрау... фатэрлянд... Зараз, зараз! Аяяй! Аяяй! А ратунку аднекуль, а збаўлення аднекуль. Забярэ ў палон, у нямецкі палон, і жыві там як хочаш.

Ганута (*ломячы рукі, да Немца*). А мой жа паночак, а мой жа немчык! Не бяры ў мяне апошняга Мікітку.

Мікіта. Оей! Оей! Што будзе, то будзе, папрабую загаварыць з ім па-нашаму, можа, зразумее. Мусье немец. Ясны пане немец! Я не генэрал, а толькі пажарная каманда... Пажарнік менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны,— дакумант маю на гэта з пячаццю. Бачыце, я толькі кум пажарны. Каб я з гэтага месца не зышоў, калі я генэрал!

Немец. Не магу паверыць, ваша прэвасхадзіцельства! Заўсёды генэралы кажуць, што яны не генэралы, калі іхнае генэральства пачынае ім самім бокам вылазіць. А дзеля гэтага — прашу ў палон!

Мікіта. Оей! Оей! І зразумеў і не паверыў. Гвалтам робяць генэралам. Чаму ж ты скрозь дна не правалілася, мая ты пажарная каманда! Аяей! Аяей!

Ганулятоп *(ходзячы па хаце і ломячы рукі)*. Матачкі мае родныя, бацечкі мае хрышчоныя! Што гэта робіцца? Садом і Гамора! *(Стукае ў Янкавы дзверы.)* Пане настаўнік! Дзядзька беларус! Ратуйце! Немец Мікітку ў палон цягне!

Уваходзяць Янка, Аленка, Гарошка.

## З'ява XIX

Тыя ж, Янка, Аленка, Гарошка.

Мікіта *(стаўшы перад Немцам на калені)*. Оей! гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд! балабостачка мой ненаглядны! Не губі маёй маладосці — не бяры ў палон! Больш ніколі не буду генэралам.

Янка *(чуўшы гэту гутарку)*. У чым справа?

Мікіта. Оей! Оей! Мусье немец зрабіў мяне, меджду протчым, генэралам і хоча ў палон цягнуць, а я не хачу быць генэралам і не хачу ў палон цягнуцца. Оей! Оей! Пане настаўнік, бацька беларус! выбаўляй з ягіпецкай няволі!

Янка *(адвёўшы набок Мікіту)*. Дайце яму тры рублі, і адчэпіцца.

Мікіта. Дам дзесяць, а толькі ратуйце, меджду протчым! *(Мацае па кішэні.)* Ой, грошы засталіся ў рэгістратарскіх «меджду протчым». Пазычце мне да заўтра.

Янка дае яму грошы, Мікіта падыходзіць да Немца, становіцца на адно калена і падае грошы.

Вось вам, ясне мусье немец, гэр гэрманіш, пакуль што контрыбуцыя, заўтра дам энэксыю, а там, калі не хопіць, жонак, дзяцей залажу, меджду протчым, мамашу, толькі дайце перадышку, не цягнеце ў палон!

Н е м е ц *(хаваючы грошы)*. Загаварылі б адразу гэткім языком, ваша прэвасхадзіцельства... *(Бярэ «пад казырок» і выходзіць.)*

### З'ява XX

Тыя ж без Немца.

М і к і т а *(зрываючы з сябе і кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору)*. К чорту пажарніцкую каманду! К чорту пажарніцкую кар'еру! *(Пускаючы аб зямлю кнігамі.)* І нямецкае шпрэхэн к чорту! І нямецкая губарнатарская канцэлярыя к чорту! Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсыяй — буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.

Ганулявя падбірае параскіданае, Аленка штохвіля пырскае смехам, Янка насмешліва ківае галавой, Гарошка пыхкае мацней люлькай і плюе.

*З а с л о н а*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Позняя восень. Сцюдзёна. Пад вечар. Месца дзеі — кусок Катэдральнага пляца, называнага іначай мянчанамі «Брахалка»,— бліжэй ад Койданаўскай вуліцы, з відам насупроць — вежа з гадзіннікам. Па пляцы колькі дрэў без лісцяў, некалькі садовых лавак. Праз усю дзею праходзяць то сюды, то туды рознага калібру г р а м а д з я н е, г р а м а д з я н к і і йграе напераменку лера і шарманка. Пры падняцці заслоны першым праходзіць справа ўлева Л е р н і к з лерай, а пасля Ш а р м а н ш ч ы к з шарманкай. Некалькі быўшых п а н я ў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі. Непадалёк ад паняў такі самы тавар прадае Г а н у л я.

### З'ява І

Г а н у л я, М і к і т а.

М і к і т а *(у выцвіўшым чыноўніцкім асеннім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам уваходзіць справа; да Ганулі)*. Меджду протчым, мамаша, прадалі штонебудзь ці не?

Г а н у л я. А ні на іголачку. Як хто зачараваў. *(Паказваючы на паняў.)* У тых таксама ніхто нічога не купіў.

М і к і т а. Нешчаслівым для гандлю і мне сягоннешні дзень выпаў. Каб хто хоць на смех запытаўся аб марках. «Рускія», кажуць, давай, і нямецкія, кажуць, меджду протчым, немцу прадай. А дзе тут таго немца зловіш, калі — па чутках — амаль не ўсе ўжо з гораду выйшлі. *(Да праходзячага грамадзяніна.)* На хвіліначку, пане мусье! Хачу вам нешта запрапанаваць.

Грамадзянін затрымоўваецца.

Можа, з ласкі сваёй купіце ў мяне маркі?

Грамадзянін іранічна і падазрона змераў яго вачыма ды пайшоў.

Г а н у л я *(да праходзячай грамадзянкі)*. Панечка, купеце ў мяне пацеркі, а можа, дамскі нэсэсэр, а можа, во гэта? — усё за паўцаны аддам, усё за паўцаны.

Грамадзянка паглядзела-паглядзела тавар і пайшла.

*(Да Мікіты.)* Вось так усе яны: паглядзіць і пойдзе, паглядзіць і пойдзе.

М і к і т а. Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае нават чуткай кемнасці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаванні душы купляючага і яго грамадзянскага і соцыяльнага становішча. І вось, напрыклад, меджду протчым, вы толькі што запрашалі: «купеце, за паўцаны аддам, за паўцаны». Разумеецца, кожны падумае, што ў вас зусім дрэнны тавар, якога і за паўцаны не варта купляць. Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія рангі і клясы — абавязкова; а вы, як, напрыклад, толькі што, не разгледзеўшыся дакладна, хто які йдзе, кажаце проста з моста: панечка, меджду протчым! А па-мойму, зусім не панечка, а самае меншае — мадама, а можа, нават і мадам-сіньёра.

Г а н у л я. Ды якая там яна мадама? Проста нейкая... нейкая...

М і к і т а. А хоць бы нават, меджду протчым, і такая нейкая. Усё роўна. У гандлёва-прамысловых адносінах мы павінны рабіць від, што яна і не такая, і не нейкая. Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежваўся.

Паўза.

Меджду протчым, мамаша, я ўважаю, што, апрача ўсяго іншага, сягоння ўдабавак нейкі выключны дзень, і вам ніякай гандлёвай «здзелкі», бадай, не ўдасца ўжо правесці. Дзеля гэтага йдзеце з таварам дамоў і шыкуйце вячэру, а я застануся яшчэ тут. Думаю, што мне ўдасца злавіць, меджду протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.

Гануля (*складваючы манаткі*). Толькі пільнуйся, сынок, каб ён не ўздумаў цягнуць цябе ў палон і пры адступленні, як тады — пры наступленні.

Мікіта. Не бядуйце, меджду протчым, мамаша,— я заўсёды знайду выхад з найгоршага крытычнага становішча. Ды я ж прасіў вас, мамаша, не ўспамінаць мне аб гэтай трагедыі майго жыцця.

Гануля маніцца выходзіць.

Ага! Калі спаткаеце профэсара гэр Спічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва, вось толькі схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту. (*Пайшоў.*)

Гануля, а за ёй Пані з манаткамі шнурам выходзяць. Па хвілі ўваходзяць Янка і Аленка.

## З'ява II

Янка, Аленка.

Аленка. Здаецца, мы ўгаварыліся тут пачакаць на татку?

Янка. А так — тутака. Пакуль прыйдзе, можам хвіліну пасядзець.

Аленка (*сеўшы на лаўку, пасля паўзы*). Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра вельмі разважаеце, ажно мяне часам страх бярэ! Вось, напрыклад, ідучы сюды, сказалі вы, што мы павінны дабівацца, каб быць не толькі гаспадарамі самі над сабой, але і над сваёй воляй.

Янка. А як інакш, Аленка. Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, знішчыць даўгавечную ману, якая вучыць, што

мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім «я», у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім «я».

А л е н к а. Але цярністы шлях мусіць прайсці душа народная, пакуль збавіць гэта сваё «я» ад чужой няволі.

Я н к а *(не слухаючы)*. Зірні, Аленка, на Менск! Тут калісь,— як сказана ў нашай песні аб паходзе Ігара,— продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі, а чырвоныя берагі Нямігі не зернем былі пасеяны, а касцямі гэных жа продкаў нашых. З гэтага бачым, што яны за нешта змагаліся, каб пад сценамі роднага гнязда косці свае пасеялі... А ўміралі, відаць, з славай, бо ў песні іхняе ўміранне засталося вечна жыць. А ці ж увекавечыць песня змаганне і ўміранне патомкаў? Не! Бо мы змагаемся і ўміраем за чужое.

А л е н к а. Шмат хто і з нас ужо змагаецца і ўмірае не за чужое, а за сваё, а песня аб іх ужо не забудзе.

Я н к а. Гэта адзінкі, мілая Аленка. А душа агульнаграмадская яшчэ дрэме.

А л е н к а. Скіне сваю дрымоту і душа. Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асвяцілі сцежкі ўсе для паўстаючай грамады.

Я н к а. Што ж, можа, і праўда твая, Аленка. Мы як бы пачынаем ужо адплюшчваць вочы і паўставаць процi тэй паганай маны, што мы не ёсць мы. Але яшчэ хістаемся то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сабе ўявіць. А мэта ў нас адна: калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: «Амэрыка для амэрыканцаў». І гэта памагло: сягоння Амэрыка вольная. Павінны пайсці і мы па яе слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу: «Беларусь...»

Уваходзіць М і к і т а.

## З ' я в а III

Я н к а, А л е н к а, М і к і т а.

М і к і т а *(да Янкі, падышоўшы да яго пры апошніх словах і не пазнаўшы)*. Пане мусье, можа, патрабуеце маркі? *(Пазнаўшы.)* Ах, гэта вы, меджду протчым, пане профэсар!

Я н к а. Во, неспадзяванае спатканне. Як маецеся, пане рэгістратар?

М і к і т а. Дзякую, меджду протчым. Так сабе. Нічога сабе. Што ж вы тут парабляеце?

А л е н к а. Мы прыехалі татку з палону вызваляць. Бачыце, немцы яго ў абоз пагналі, дык мы, баючыся, каб яго ў Нямеччыну не загналі, паехалі ўслед на падмогу. То ж у мяне адзін татка на цэлым свеце, павінна ратаваць!

М і к і т а. Так, так! Было б няважна, каб звезлі з хаты апошняга, меджду протчым, бацьку.

Я н к а. А што вы тут парабляеце, пане рэгістратар: маркі людзям раздаяце?

М і к і т а. Меджду протчым, не раздаю, а прадаю, а гэта вялікія дзве розніцы. Але, як уважаю, то вы яшчэ не ведаеце, што я для стварэння сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную прафэсію.

Я н к а. Што ж гэта? па-вашаму — гандаль на Койданаўскай біржы валютай — свабодная прафэсія?

М і к і т а. А чаму ж бы не так? Па-мойму, зусім свабодная. Вось хоць бы судзіць з таго, што калі я перайшоў на яе, то пачуўся, як птушка тая, зусім свабодным. Меджду протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды і гандлю.

Я н к а. Хіба да свабоднага гандлю сумленнем і гонарам.

М і к і т а. Меджду протчым, дзядзька беларус, вы мяне абражаеце.

Я н к а. Выбачайце, пане рэгістратар,— можа, я крыху і памыліўся.

М і к і т а. Меджду протчым, не крыху, а зусім памыліўся. Але мяне зласлівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць. Назло ім незадоўга пераходжу яшчэ на адну свабодную прафэсію.

Я н к а. Цікава — якую?

М і к і т а. Буду аратарам.

Я н к а. Вы — аратарам? Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

М і к і т а. Меджду протчым, нічога тут смешнага. Не сягоння-заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца як сыр у масле.

Я н к а. Але ж вы, пане рэгістратар, звар'яцелі. Вашы дзікія — не скажу чарнасотніцкія — пераконанні і новая палітычная сытуацыя?! Гэта ж як узлезеце на

вышкі араторыць, то вам гэта новая сытуацыя такога пытлю задасць, што і сваіх не пазнаеце. О, не! Гэта свабодная профэсія не для вашага рэгістратарскага светагляду.

Мікіта. Не разумею, пры чым тут мой, меджду протчым, светагляд? Можна мець светагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацвертае, як навучае мой профэсар гэр Спічыні. І я пастанавіў у сваёй аратарскай профэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасці.

Янка. Баюся, што гэта мудрасць дасць вам чэк на свабоднае месца ў менскім астрозе.

Мікіта. Меджду протчым, такіх невясёлых рэзультатаў і быць не можа. Аратар, маючы кожны раз напагатове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.

Аленка. А чаму б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па слізкіх і небяспечных для вашай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным. Напрыклад, вы болей прынеслі б для сябе і для грамадзянства карысці, каб узяліся... ну хоць бы...

Янка (*перабіваючы*). ...на Камароўцы козы пасвіць? І чаму б, самдзеле, не так? А профэсія чыстая і, разумеецца, свабодная.

Мікіта. Меджду протчым, мусье беларус, такая свабодная профэсія не вяжацца з маёй рангай колежскага рэгістратара.

Янка. А шкада, вельмі шкада! Лепей быць добрым пастухом, чымся недапечаным рэгістратарам ці аратарам.

Уваходзіць Гарошка.

## З'ява IV

Янка, Аленка, Мікіта, Гарошка.

Гарошка (*уваходзіць з пугай, пыхкаючы люльку*). Во добра, што застаў вас! Я ўжо ўсё сваё зрабіў, і можам ехаць дамоў. (*Пабачыўшы Мікіту.*) І вы тут, ды яшчэ з парасонам?

Мікіта. Як бачыце! Меджду протчым, што вы тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасвіце каго?

Гарошка. А так! Збіраўся пасвіць тутэйшых чы-

надралаў, але не ўспеў,— прыйшлося выганяць з Менску абскубандаў.

Аленка. Не абскубанды, тата, але акупанты.

Мікіта. І вы, мабыць, яшчэ адно пераблуталі: здаецца, немцы хацелі вас выганяць, пагнаўшы ў абоз...

Янка. Дзядзька Гарошка зусім не пераблутаў. Усё роўна на яго выйшла: акупанты ўцяклі, а ён застаўся.

Аленка *(зірнуўшы ўбок)*. А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?

Мікіта *(зірнуўшы)*. Гэта, здаецца, мае быўшыя імянінныя госці.

Уваходзяць шнурам з катомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: Дама, Поп, Спраўнік і Пан.

### З'ява V

Тыя ж, Дама, Поп, Спраўнік, Пан.

Мікіта *(вітаючыся, надскакваючы)*. Каго я бачу, меджду протчым! Якое мілае, неспадзяванае спатканне! Ці не мядзведзь здох? Цалую ручкі мадам-сіньёры! Айцу духоўнаму маё сыноўняе ўпакарэнне! Вашародзіе, прымеце пакорны прывет! Маё найніжэйшае ўшанаванне, ясне пане грабя! Сядайце, калі ласка, сядайце!

Прыйшоўшыя сядаюць.

Поп. Ох, дзелеса — чудзеса! Прогрэшэнія нашы неісчыслімыя. Навождзяху оне на себя возмездзіе необозрымое.

Мікіта. Куды ж гэта, калі можна спытацца, мадам-сіньёра і мусье, свае, меджду протчым, пэрсоны скіравалі?

Спраўнік. Часова адступаць прыйшлося. Эвакуемся туды — на Захад, дзе сэрцу прытульней і грудзям дышыцца «вальготней».

Дама. Часова пераношу сваю філянтропійную чыннасць на тэрыторыю...

Мікіта *(перабіваючы)*. Быўшых нашых ворагаў — гэрманаў, мадам-сіньёра?

Дама. Мусье рэгістратар, вы згадалі!

Гарошка *(да Пана)*. Значыцца, паны, даіцё лататы?

Пан. А так, прыходзіцца, толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой не прэцца, бо як вярнуся...

М і к і т а *(перабіўшы)*. І ўсё гэта праклятая, меджду протчым, рэволюцыя нарабіла.

Я н к а. Што, кусаецца? Вы, пэўна б, хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць? Рэвалюцыя, мае паны, не цётка — па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў не гладзіць.

Д а м а. Мусье беларус, вы, як я ўважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?

Я н к а. Паддаецца эвакуацыі ў сягонешні час толькі той, у каго або нячыстае сумленне, або ён сядзеў тут збоку прыпёку, не раўнуючы, як пустазелле на сялянскай градзе.

Д а м а *(да Мікіты)*. А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады мусье беларуса, то пэўна заставацца тут не будзеце і нашым шляхам пойдзеце?

М і к і т а. Мадам-сіньёра, вы не згадалі: я, меджду протчым, застаюся. Як істы рускі патрыот, я змушаны пакуль што стаяць тут на варце сваіх рангавых і рускаісціных інтарэсаў. Хоць, можа, я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.

Я н к а. Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных профэсіях, што ўжо не здольны да ніякае місіі — нават да тэй сваёй роднай, ісціна-рускай місіі.

М і к і т а. Меджду протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча. Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'язджаючы, на гэтую місію багаславіў.

Паўза.

Г а р о ш к а *(да Папа)*. А вы, бацюшка, таксама за імі *(махнуўшы пугай)* туды — упрочкі?..

П о п. Нет, чадо мое. Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, и только провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.

С п р а ў н і к. Але, панове, час нам ужо ў дарогу! Вораг не спіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам усе ходы для адступлення.

Г а л а с ы. А так! Праўда! Час!

Мікіта. Пагасцілі б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць з хвіліну!..

Дама, Поп, Спраўнік, Пан устаюць, раскланьваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, з якога прыйшлі былі.

Поп (*ідучы ўслед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой*). Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны. Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!

## З'ява VI

Мікіта, Янка, Аленка, Гарошка.

Мікіта (*як тыя выйшлі*). Ах, забыўся запрапанаваць ім купіць у мяне маркі! Пэўна з «царскімі» эвакуюцца.

Янка. Не турбуйцеся! Яны, як праўдзівыя патрыёты, з «царскімі» не разлучаюцца.

Мікіта. Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці недалюбліваеце нашай чыстай інтэлігенцыі.

Янка. Для вас, як для рускага колежскага рэгістратара, яна, можа, й чыстая, але для мяне яна — «Варшавске смецце, гразь Масквы», як сказаў вешчы Шаўчэнка.

Гарошка (*паказваючы пугай*). А во яшчэ два дапатопы!

Уваходзяць Вучоныя — адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючы праз свае падзорныя трубы.

## З'ява VII

Тыя ж, Усходні вучоны, Заходні вучоны.

Усходні вучоны (*стукнуўшыся з Заходнім*). Чорт подзеры!

Заходні вучоны. Пся крэв!

Усходні вучоны. Ізвініце, судар!

Заходні вучоны. Пшэпрашам пана!

Усходні вучоны. І вы здзесь?

Заходні вучоны. І пан ту?

Кланяюцца адзін аднаму і прысутным.

Усходні вучоны *(да Янкі)*. Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, здесь. Необходзімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыяльных данных обласці, іменуемой вашым племенем — Белорусь.

Янка. О, наша тэрыторыя, пане вучоны, вельмі вялікая — і вокам не дастаць! Уся Менская Брахалка, на якой вы, як бачу, гэтай тэрыторыі шукаеце, ды яшчэ далей.

Заходні вучоны. А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым «далей»?

Янка. З гэтага нічога не выйдзе, пане вучоны. Бо абхапіць гэтае «далей» закораткі вашы пяты.

Усходні вучоны. Так, так! *(Запісваючы ў нататнік.)* Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выяснілось, что таковая включает в себе всю обласць Мінской Брэхалкі да ешчо далей... На вопрос, как далеко распространяется оное «далей», мой собеседнік із племені белоруссов об'ясніл на местном обшчэрусском говорэ, что для посціжэнія сего «далей» у наукі вообшчэ і в частносці ў западной наукі короткі пяткі.

Заходні вучоны. Так, так! *(Запісваючы ў нататнік упераменжку з Усходнім вучоным.)* Падчас баданя тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем провінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей... На запытане, як сень далеко распостшэня овэ «далей», муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненця онэго «далей» наука наогул, и в шчэгульносці наука Всходня посяда за крутке пенты.

Усходні вучоны *(скончыўшы пісаць)*. Благодару покорно!

Заходні вучоны *(скончыўшы пісаць)*. Дзенькуен упшэйме!

Абодва раскланьваюцца і выходзяць — кожны ў праціўны бок, з якога прыйшоў быў.

## З'ява VIII

Мікіта, Янка, Аленка, Гарошка.

Аленка. На гэтых дык няма ніякага ўпынку! Шнырацъ і шнырацъ, як свінні ў чужым агародзе.

Мікіта. Мудрыя людзі — гэтыя вучоныя. Я заўсё-

ды схіляю перад імі сваю, меджду протчым, галаву.

Я н к а. Асабліва перад гэтымі вы павінны як найніжэй схіляць.

М і к і т а. Чаму так?

Я н к а. Бо вы ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўдзяткадайны клёк для падтрымання сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краі.

А л е н к а. Ці не час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсці ў заезд, а то, чаго добрага, Шая замкне браму?

Я н к а. Ой, час, час! *(Да Гарошкі.)* А ці вы, дзядзька, пакупкі свае зрабілі?

Г а р о ш к а. Дзе там! Дарма толькі вытаптаў з паўМенску — як у шабас, усе крамы пазачыняны. Паеду без табакі.

А л е н к а *(жартаўліва)*. Якое няшчасце! Гэта ж як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасць ён усім нам табакі!

Г а р о ш к а *(дабрадушна)*. Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты ў мяне за свой доўгі язык.

Я н к а. Хаця не пабецеся стары з малой за табаку. Мушу хутчэй вас адгэтуль весці. *(Да Мікіты, адвітваючыся.)* Бывайце здаровы, пане рэгістратар! Жычу вам у новай аратарскай профэсіі дастукацца асэсарскай рангі.

М і к і т а. І вам таго самага, пане беларус, у вашай, меджду протчым, беларускай профэсіі.

Я н к а, А л е н к а і Г а р о ш к а выходзяць. Па хвілі ўваходзіць С п і ч ы н і.

## З'ява IX

С п і ч ы н і, М і к і т а.

С п і ч ы н і. Даруйце, мусье Зносілов, што змусіў вас крыху на сябе чакаць. Але апошнія дні так многа маю лекцыяў па аратарству, што папасці ўсюды ў свой час няма аніякай змогі.

М і к і т а. Я вельмі рад, што ўсё ж такі вам, гэр профэсар, удалося ка мне папасці. Бо выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі нeяк ні сёе ні тое.

С п і ч ы н і. Цяпер ужо будзеце магчы выступаць хоць і заўтра. Можам пачынаць, мусье рэгістратар!

М і к і т а. Меджду протчым, я гатоў, мусье профэсар!

Спічыні. Узлазьце на трыбуну, мусье рэгістратар.

Мікіта становіцца на лаўцы.

Так! Так! Цяпер зрабеце позу. Крыху не так — прасцей фігуру і вышэй галаву, вочы — удаль. Левую руку абапрыце на левы клуб. Так! Так! Правая рука застаецца свабоднай — гэта, каб у патрэбных момантах вашай араторыі можна было, заціснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй. Цяпер, калі зрабілі сабе аратарскую паставу, пачынайце прамову. Спачатку кажаце ціхім-ціхім голасам, пасля штораз — мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам і, разумеецца, на чым свет патрасаеце кулакамі. Ну, цяпер пачынайце араторыю на тэму: «Пролетарыят і буржуазія».

Мікіта. Вельмі паважаныя, меджду протчым, мадамы, вельмі паважаныя, меджду протчым, мусьі! Да апошняга часу пролетарыят эксплёатаваў буржуазію. Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата або кусок якога маёнтку, а пролетарыят, меджду протчым, у гэты бок і пальцам не ківаў; усёй работы яго было, што толькі, меджду протчым, працаваў, ды йшчэ за гэтую мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі. Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсцела — казаў той — расла не ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым, як той гарбуз, а пролетарыят ад роскашы цянеў — казаў той — рос не ўпапярэчкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка. Дзеля таго *(трасучы кулаком)* далоў!.. далоў!..

Спічыні. Затрымайцеся на мінутку. У сваёй араторыі вы пераблуталі лёгічныя тэрміны, і там, дзе павінна стаяць першае, у вас чамусьці другое, а дзе — другое, там стаіць першае. Ужо я вам казаў, што тэорыя аратарскага мастацтва не любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе. Можаце думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца. Толькі такім чынам вы зробіце сабе на свабоднай аратарскай профэсіі яскледную асэсарскую кар'еру. Цяпер папробуйце сказаць араторыю на тэму: «Рэволюцыйная самадысцыпліна».

Мікіта. Ша... Шан... Не так... Меджду протчым, мае панечкі і мае паночкі! Рэволюцыйная самадысцыпліна... рэволюцыйная самадысцыпліна... гэта такая, меджду протчым, дысцыпліна, што мае два канцы — то яна ўсіх б'е, то яе ўсе б'юць, бо контррэволюцыйная

дысцыпліна не спіць у шапку. З гэтае прычыны і рэвалюцыйная самадысцыпліна не мае права спаць, меджду протчым, у шапку, бо йначай праспіць усю сваю гаспадарку. Дзеля гэтага (*трасучы кулакамі*) далоў... далоў... І так, меджду протчым...

Спічыні. Затрымайцеся. Гэта ў вас выйшла нібы лепей. Цяпер выслухайце маленькія дзве асцярогі: першае — калі ўзыдзеце на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй. Другое — найбліжэйшая палітычная сытуацыя, пры якой першы раз прыйдзецца выступаць вам публічна, апіраецца на пэўных пляцформах. Дзеля гэтага, перш чымся араторыць, вы павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а не дзве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца і зваліцца з усіх трох разам.

Мікіта. Меджду протчым, магу я зысці ўжо, мусье профэсар, з трыбуны?

Спічыні. Можаце ўжо зысці, мусье рэгістратар, з трыбуны.

Мікіта зыходзіць.

Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэорытычнае асвятленне некаторых звязаных з аратарствам пытанняў. Вось, напрыклад, як вы сабе разумееце мітынг?

Мікіта. Мітынг, мусье профэсар, мітынг, меджду протчым, гэта нешта такое, што выдумалі ангельцы для тых, якія нічога не хочуць рабіць, а толькі ходзяць і варон страляюць. Мітынг, меджду протчым, гэта тое самае, што пераліванне з пустога ў парожняе. Мітынг — гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны і крычаць будуць: віват, рэгістратар Зносілов! — калі іх па шэрсці пагладжу, і — далоў, рэгістратар Зносілов! — калі пагладжу іх проці шэрсці, меджду протчым.

Спічыні. Усё гэта як бы так і як бы не так. Але да гэтага яшчэ вернемся. Цяпер мне адкажэце на адно пытанне, і на сягоння будзе годзе. Вы што-небудзь ведаеце аб савецкім ладзе?

Мікіта. Оей! Нават добра ведаю.

Спічыні. Аб гэтым у вас павінен быць ясны, дужа ясны светагляд, адным словам — пад арэх.

Мікіта. Савецкі лад... Савецкі лад, меджду протчым, Гэнрых Мотавіч... Савецкі лад... гэта... гэта такая чырвоная паводка... такая, меджду протчым, паводка,

аб якой не снілася ні Фараону, ні Салямону... Савецкі лад гэта... гэта...

Спічыні (*ускочыўшы з лаўкі*). Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы. Сюды машыруе нейкі немец. А я страшэнна не люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі ён адступае.

Мікіта. О так! Асабліва страшна з ім спатыкацца, меджду протчым, калі ён наступае.

Спічыні. Маю гонар кланяцца! (*Шпарка выходзіць.*)

Уваходзяць Наста і Немец.

## З'ява X

Мікіта, Наста, Немец.

Мікіта. Наша найніжэйшае, меджду протчым, ушанаванне мамзэль Насце!

Наста. Добры вечар! Добры вечар, мусье Нікіці!

Мікіта. Што ж гэта вы, мамзэль Наста, не самі адны, а з гэрам немцам, як з нявіннай ахвярай свайго, меджду протчым, чарадзейскага сэрца?

Наста. Ужо даўно маё сэрца — не маё, а сядзіць у пастцы другога сэрца... (*Усміхаючыся.*) Чыйго?.. Вы, мусье Нікіці, пэўна ведаеце. А немец? Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду магіканаў, які, згодна з Берасцейскай умовай, пакідае сягоння нашы менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прыйшоў.

Мікіта. Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае. Ці гэта, можа, вы дабравольна, меджду протчым?

Наста. О, немцам цяпер не да чужых генэралаў. Яны цяпер заняты спэцыяльна хапаннем сваіх жа ўласных генэралаў. Бо, як чула я ад пэўных асоб, у іх таксама рэволюцыя. А вось гэтага — дык я толькі ахвяравалася правесці да Брахалкі.

Мікіта. А ці не ведаеце, мамзэль Наста, можа, яму на дарогу маркі патрэбны, бо я маю да прадання?

Наста. Спытайцеся.

Мікіта (*да Немца*). Меджду протчым, гэр гэрманіш, можа, купіце германскія маркі?

Немец паказвае на мігі, што не разумее, у чым рэч. Мікіта дастае партманэ, а з яго грошы і на міг паказвае немцу, каб купіў. Немец тлумачыць на мігі, што яму грошы не трэба, бярэ «пад казырок» і выходзіць.

## З'ява XI

Мікіта, Наста.

Мікіта (*палажыўшы, не помнячы, партманэ з грашыма на лаўку*). Ну і немец, меджду протчым! Сваіх жа нямецкіх марак не хацеў купіць. Але што гэта — ці ён нямы, што ні слова не адказаў мне на запытанне?

Наста. Не нямы, а толькі немец і па-нашаму не разумее.

Мікіта. Гм! Цікава! А чаму той, што маніўся мяне ў палон, меджду протчым, узяць, як рэпу сек па-нашаму?

Наста. А гэта іншая рэч. У іх, як мне з пэўных крыніц вядома, ёсць спэцы ад усялякіх языкоў, ну вы і нарваліся на гэткага спэца.

Паўза.

Мікіта (*набок*). Страшэнна, меджду протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насце сваю адвечную пропозыцыю.

Наста. Аб чым гэта вы так задумаліся, мусье Нікіці?

Мікіта. Ды ўсё аб тым самым, меджду протчым, хэрувімская мамзэль Наста: аб вас мае думы ўпалі ў глыбокую задуму.

Наста. І глупства робяць гэтыя вашы думы. Я ж вам ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль не зробіцеся асэсарам! Значыцца, і не маеце права думаць.

Мікіта. Не магу вытрываць, сэрафімская, меджду протчым, мамзэль Наста, аніяк не магу вытрываць! (*Становіцца на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы збольшага яе й сябе распушчаным парасонам.*) Мадоністая мамзэль Наста! Каханне маё, меджду протчым, вульканічнае! Падаруйце ж мне, нарэшце, сваю абымальную руку і сваё трапятлівае сэрца. Асэсарам буду я, вось пабачыце, што буду! Ужо я стаю на вялікай дарозе да славы, да славы знамянітага, меджду протчым, аратара. А там як піць даць атрымаю асэсарства. Меджду протчым, чырвоным асэсарам буду! Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага, меджду протчым, сіньёрыстага сэрца.

Наста. Хапун вас не схопіць, мусье Нікіці, калі яшчэ крыху пачакаеце на мае рукі і на маё сэрца. Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы не рэгістратар толь-

кі, а ўжо асэсар. А іншых залётаў ды іншых каханняў мой організм не прымае. Пакіньце кленчыць на лаўцы, ■ так сабе на зямлі чакайце. Будзьце здаровы! Мушу збегаць у вадну пэўную крыніцу. *(Выходзіць.)*

Мікіта *(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўслед Насце)*. О, ранга мая асэсарская! О, кляса мая бонтонная, беспардонная!

## З'ява XII

Мікіта, Абарванец.

Абарванец *(увайшоўшы з таго боку, куды Наста выйшла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты)*. Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!

Мікіта *(зышоўшы з лаўкі, набок)*. Пачынаецца! Падумаеш, таварыш! *(Да Абарванца.)* Выбачайце, я не таварыш, а, меджду протчым, буржуаз, ■ як вам хіба ведама — буржуазія нічым не жэртвуе. *(Сярдзіта адварачваецца набок.)*

Абарванец *(патросшы кулаком, набок)*. Пачакай! Заўтра ты ў мяне йначай запяеш! Заўтра ты ў мяне папросіш пажэртваваць. *(Забірае пакінутае на лаўцы партманэ і выходзіць.)*

## З'ява XIII

Мікіта.

Мікіта *(да праходзячай з чырвоным сцягам групы грамадзян і грамадзянак)*. Мо, шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуеце купіць марак? *(Мацаецца па кішэнях.)* Новенькія... Але, новенькія... Дзе ж яны? *(Прыглядаецца на зямлю, на лаўку.)*

Грамадзяне й грамадзянкі, пырснуўшы смехам, пайшлі.

Сцягнуў нехта! Апошнія грошыкі сцягнуў, меджду протчым, і рускія і нямецкія. Заўтра не будзе за што і рук зачапіць. *(Апускаецца з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, звешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму.)*

Паўза.

Пачынаецца танец Ценяў пад музыку шарманкі. Пасля некалькіх мінут раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цырыманіяльны марш, і крыкі: «Ура! Ура!» Танцуючыя Цені нікнуць.

М і к і т а (*ускаквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы. Пасля быстра выцягвае з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасона, становіцца на лаўку і, таксама маршыруючы пад музыку на адным месцы, махае каля галавы парасонам з хусткай і крычыць.*) Хай жывуць свабодныя прафэсіі! Хай жывуць чырвоныя асэсарскія рангі!

*З а с л о н а*

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Той самы, што ў першай дзеі, Мікітавы пакой. У беспарадку накідана ўсякіх хатніх рэчаў, як бы яны сабраны былі з некалькіх пакояў. Люстра, грамафона і мяккіх крэслаў няма. Шпалеры павыдзірапы і кускамі звісаюць да долу. Абразы і малюнкі — тыя самыя, што ў першай дзеі,— перавернуты тварам да сцяны. Па ўсіх свабодных мясцох расклеены па сценах друкаваныя ўрадавыя пастановы, дэкрэты, лозунгі, загалоўкі тагачасных газет, плакаты. Вісіць балалайка.

Калі падымаецца заслона, Г а н у л я, закасаўшы рукі, мые бялізну ў начоўках, непадалёк сядзіць Г а р о ш к а і пыхкае люльку.

### З'ява І

Г а н у л я, Г а р о ш к а.

Г а р о ш к а. Аб чым жа, тое-гэта, хацеў я казаць?

Г а н у л я. А нешта нейкае аб высяленні была ў цябе, сваток, гутарка напачатку.

Г а р о ш к а. Ага, успомніў! Дык вось, як нашы гэткім чынам апошні суд з князем прайгралі, пачалося тое высяленне. Але як, свацейка, пачалося?! Нашы ўсё роўна не хацелі пакідаць сваіх загаспадараных сяліб. Ну, што ж? Нагналі гібель казакаў, сам нават спраўнік з Менску прыехаў. Тады ўсе мужчыны і ўсе кабеты, найболей старэйшыя, паклаліся ўпоперак вуліцы. «Хай высяляюць! — сказалі сабе гэтак. — Хай праз нашы галовы ўвойдуць у нашы родныя хаты!» Ну, разумеецца, казакі не спалохаліся гэтага. Рынулі ўсёй гурмай на конях праз ляжачы народ, а за імі прыстаў на сваёй варанай тройцы. На капусту людзей зрэзалі і на кашу з зямлёй змяшалі. Бацька й маці мае таксама там засталіся.

Г а н у л я. Мы наракаем, што цяпер цяжка жывецца, а як падумаеш, дык і ўперад не вялікі мёд быў.

Гарошка. І чамярыца яго ведае, як гэта неяк хітра на свеце ўстроена! Паны былі польскія, законы — рускія; польскія лаюць рускіх, рускія лаюць польскіх, а як прыйдзе што да чаго, каб нашага простага чалавека пакрыўдзіць, дык і польскія і рускія ў адну дудку граюць.

Гануля. Ды яно ж гэтак, мой сваток. Каму па каму, а нам, казаў той, дык два камы.

Гарошка. Наш настаўнік, Янка, дык той без ніякага нічога, як тапаром сячэ: «Пакуль, кажа, не зробімся самі сабе гаспадарамі, датуль ніякага ладу, ні складу ў нас не будзе». Гэты настаўнік добры і дужа разумны чалавек, але трохі галава яго нечым заведзена, бо мала, што сам носіцца, як кот з салам, з усялякімі мудрымі думкамі, дык яшчэ, як на тое ліха, і маёй Аленцы ў галаве ўсё дагары нагамі перакуліў. І цяпер тая ўжо, як папуга, паўтарае за ім: «Недачаканне іх! — кажа.— Будзем самі сабе гаспадарамі!»

Гануля. Звычайная рэч, мой сваток. Маладое піва заўсёды шуміць.

Гарошка. Так яно так. Але найчасцей ад гэтага шуму нам, бацьком, галава баліць. Я табе йшчэ не казаў, мая свацейка, што ў мяне апрача Аленкі быў і сын — Юрка. Удалы дзяцюк быў, ах які ўдалы! і таксама шумеў, занадта ўжо шумеў. І што? Самахоць за німашто асірацір мяне. Служыў тады ён у Маскве на нейкай фабрыцы. А там — помніш? — у дзевяцьсот пятым годзе пайшлі забастоўкі ды іншыя непарадкі. Як людзі казалі, і мой Юрка не адстаў. Вылез на вуліцу і давай з іншымі на чым свет шумець і крычаць: «Зямлі і волі!» Разумеецца, за такі крык жандармы і збяёдалі яго з гэтага свету. Кажу свайму настаўніку, што во да чаго шум і крык такі даводзіць, а ён смяецца: «Бо, кажа, твой Юрка за чужую зямлю і волю шумеў і крычаў, а не за сваю, дык нічога з гэтага і не выйшла».

Уваходзяць Янка і Аленка.

## З'ява II

Гануля, Гарошка, Аленка, Янка.

Янка (*вітаючыся з Ганулях*). Як жывём, цётачка? Даўненька ўжо з вамі не бачыліся!

Гануля (*пакінуўшы мыццё*). О, даўненька! Бадай, годзікі са два ўжо будзе.

Я н к а. Ды з гакам, цётачка. *(Да Гарошкі.)* А дзядзька Гарошка прачакаўся, мабыць, на нас? Пэўна люлек з тузін змарнаваў за гэты час.

А л е н к а. Тузін не тузін, а штук з сем то пэўна ж татка выпыкаў.

Г а р о ш к а. Не табе іх лічыць, сарока! *(Буркліва.)* Пайшлі і прапалі, а мне сядзі тут у чужой хаце і чакай на іх.

Г а н у л я. Што ты, сваток? Якая ж гэта чужая табе хата?

Я н к а. Ну, не бурчэце, дзядзька: у вельмі пільнай справе прыйшлося нам заседзецца крыху.

Г а р о ш к а. Заседзецца, заседзецца! Як прышпілюць вам калі-небудзь хвост на гэтых пасядзінах, то прападзе вам ахвота і стаяць, не толькі што сядзець. Тое-гэта, палякі на носе,— кажуць, што ўжо Навінку забралі,— а яны швэндаюцца сабе!

А л е н к а. Трэба ж было, татачка, прыгледзецца, як рыхтуюцца менчукі спатыкаць новых акупантаў.

Г а р о ш к а. Ну, і што там цікавага? Мала йшчэ вас гэтыя абскубанды паскубалі.

А л е н к а. Не абскубанды, тата, але акупанты, акупанты.

Паўза.

Я н к а *(азіраючыся па пакоі, да Ганулі)*. Але ваша хата, цётачка, надта неяк змянілася ад таго часу, як я выехаў ад вас: так выглядае тут усё, як бы вы толькі што з іншай кватэры перавезліся.

Г а н у л я. Бачыце, было тут у нас у Менску апошнім часам нейкае палатненне, дык нас і ўпалатнілі ў адзін пакой, а іншыя — забралі. Той пакой, дзе жылі вы, аддалі нейкаму ў скураной жакетцы,— паміж іншым, ён сягоння раніцай ужо выехаў ад нас; а з таго боку, дзе была мая спальня і Мікіткавы габінэт, абодва гэныя пакоі заняў нейкі іхні рэдактар, па прозвішчы Гізульскі. Але, як відаць з усяго, то ён, мусіць, не зусім іхні, бо нешта не збіраецца выязджаць, хоць іхнія амаль ужо ўсе выехалі. Мікітка кажа, што гэты Гізульскі душа, а не чалавек,— надта палітычны і знае ўсялякія свабодныя прафэсіі.

Я н к а. Асабліва, мабыць, добра знаёмы з прафэсіяй правакатарскага мастацтва?

Г а н у л я. Хто яго разбярэ, з якім і з чым ён там знаёмы.

Я н к а. Мусіць, для гэтага палітычнага чалавека вы, цётачка, крэслы свае плюшавыя аддалі, каб мякчэй было яму сядзець, бо гэтых крэслаў штосьці не бачу и тут?

Г а н у л я. Ды не! Да яго йшчэ пераезду сюды нашы крэслы недзе ў іншае месца спалатнілі.

А л е н к а. І грамафон з люстрам таксама?

Г а н у л я. Не, дзетка. Гэтыя рэчы Мікітка мой сёлета на тавараабмен прагандляваў. І вось з усяёй, казаў той, роскашы засталася толькі балалайка, але і тую запісалі на нейкі ўчот.

Уваходзіць М і к і т а ў вынашанай і палатанай «зашчытнага» колеру вопратцы, цягнучы за сабой каламажку, у якой: тры тоўстыя вялізныя партфелі, а чацвёрты — меншы; пад імі: колькі малых мяшэчкаў з прадуктамі, два селядцы, звязаныя лыкам, тры воблы, нанізаныя на аборку, невялічкая стограмовая пляшка з газай, вялікае, быццам з-пад капелюша, пудэлка з пудрай, некалькі сучкоў дроў, букетнік для кветак, тры чаркі.

## З'ява III

Г а н у л я, Г а р о ш к а, А л е н к а, Я н к а, М і к і т а.

М і к і т а *(уцягнуўшы каламажку, вітаючыся з Янкам)*. Якое прыемнае, меджду протчым, спатканне, таварыш профэсар! Колькі лет! Колькі зім!

Я н к а. І ні колькі лет і ні колькі зім, а ўсяго восем месяцаў, пане рэгістратар, як мы бачыліся. Але, мабыць, цяжкія вашы справы, што так цяжка вам час плыве: месяцы ў цэлыя леты і зімы замяніліся?

М і к і т а. Так сабе, нічога сабе, меджду протчым, плыве.

Я н к а. Дый што гэта з вамі? Ці не ўпісаліся вы ў менскія свабодныя гэрцум-сролікі? — як тачнік які, тарабаніце гэту брычку з сабой.

Г а р о ш к а. Мусіць, яны пазайздросцілі конскаму хлебу.

Г а н у л я. Гэта Мікітка кожны дзень гэтак на службу ездзіць.

М і к і т а. А так, пане профэсар. Пры сучасным палітычным і экономічным становішчы Расійскай, меджду протчым, імпэрыі няможна йначай. Цяпер так: калі конь можа цягаць павозку, то чалавек і пагатове. На тое ж у нас і абсалютная свабода, каб усё жывое мела абсалютнае раўнапраўе.

Я н к а. Раўнапраўе-то раўнапраўе, але ж хіба яно

вам не загадвае быць штодзень за нейкага саматужнага вазюра?

Мікіта. О не! Каламажку я цягаю з сабой толькі дабравольна і толькі для ўласнай выгады. Па-першае: на службу і са службы важу патрэбныя сабе афіцыяльныя, меджду протчым, паперы; па-другое: важу, але ўжо толькі са службы, усялякія пайкі, коопэрацыйны тавар і іншае; па-трэцяе: вось пападаецца па дарозе якая-небудзь контрабанда, іначай кажучы — рэчы, якія ўвозіць у Менск забаронена: мука, крупы, бульба, сала, масла, цыбуля, рэдзька і гэтаму, меджду протчым, падобнае. Значыцца, выгандляваў цішком, каб ніхто не бачыў, тое-сёе з гэтай контрабанды на якую-сякую панчоху ці шкарпэтку, палажыў сабе, меджду протчым, на воз і вязі сабе ў сваёй каламажцы. Ну, і ці ж невыгодна?

Аленка *(прабуючы падымаць паасобку партфелі ў каламажцы)*. Ну і цяжкія ж гэтыя торбы! Ці не каменне ў іх напакавана?

Мікіта. Не каменне, меджду протчым, мамзэль, а наш хлеб штодзенны. *(Дастаючы першы партфель.)* У гэтым портфэльчыку ўсялякія асабістыя пасведчанні: на маю асобу, на маю кватэру, на ваду, на апал, на яду, на хадзьбу і гэтак далей, і яшчэ дакументы на права ўставаць рана і не ўставаць рана, хадзіць на службу і не хадзіць на службу, насіць вопратку і не насіць вопратку, трымаць грошы і не трымаць грошы, мець сабе жонак і дзяцей і не мець сабе жонак і дзяцей, свістаць, меджду протчым, на...

Янка *(перабіўшы)*. А ў гэным другім лантуху?

Мікіта *(дастаючы другі партфель)*. А ў гэтым, меджду протчым, портфэльчыку ўсялякія дэкрэты, законы, пастановы, загады, рэзолюцыі, інструкцыі аб раўнапраўі ўсіх расаў і падрасаў, усіх нацый і паднацый, усіх народаў і паднародаў, усіх моваў і падмоваў — у нашай ядынай і непадзельнай Літбеларускай рэспубліцы. *(Дастаючы трэці партфель.)* У гэтым толькі грошы — мая пэнсія за першыя дзесяць дзён гэтага ліпня месяца і за два тыдні наперад. *(Дастаючы чацвёрты, апошні партфель.)* А ў гэтым карапузіку важнейшыя дакуманты: профсаюзу, біржы працы, культасветы, нашага № 157 348 дамкому, у якім я паўнапраўны сакратар, і гэтак, меджду протчым, далей. *(Дастаючы іншыя рэчы з каламажкі.)* Далей ідуць мае за месяц чэрвень, за першыя дзесяць дзён ліпня і за два тыдні наперад дармовыя,

меджду протчым, пайкі: сем фунтаў адборнай атрубянай мукі, паўтара фунта з асьмушкай круп, два фунты з чвэрткай гароху, не ведаю колькі газы, паўчвэрці фунта і два лоты солі, і да ўсяго гэтага яшчэ: селядцы, тараны, сем з паловай фунтаў дроў, пудэлачка, меджду протчым, пудры а-ля-руж, падстаўка для кветак, тры чаркі, і болей здаецца, нічога няма.

Янка. Як уважаю, дойная каза выйшла з вашай свабоднай профэсіі аратара: столькі грошай, ды яшчэ дармовыя пайкі!

Мікіта. Бачыце, пане профэсар, як вам сказаць, меджду протчым, я ўжо махнуў рукой на ўсе свабодныя профэсіі: штосьці мне яны не шанцуюць.

Ганулявідава. Не шанцуюць, бо не за сваё бярэшся. Гэта ж, трэба вам ведаць, чуць не наклікаў на сваю галаву безгалоўя. Як толькі немцы выйшлі, то ён ужо на другі дзень палез на Трэку недзе на вышкі і давай на чым свет падбухторываць людзей. Спачатку ўсе здзівіўшыся глядзелі, смяяліся, а пасля давай шпурляць у яго чым хто папала. Сцягнулі гвалтам з вышак і немаведама куды б зацягнулі. Але, на шчасце, заступілася мамзэль Наста і сяк-так выпутала з гэтай бяды.

Мікіта. Меджду протчым, мамаша, вы крыху не ў тых колерах адмалявалі ўсю гэтую трагічную гісторыю. Уся бяда была ў тым, што я не ўгадаў, на якую, меджду протчым, стануць пляцформу, дзеля гэтага паслізнуўся і быў змушаны прымусова зыйсці з трыбуны. І гэтае, меджду протчым, здарэнне пераканала мяне, што кроў свабодных профэсій у маіх жылах яшчэ не цячэ і што маё праўдзівае прызванне вось у гэтым *(хлопаючы па партфелях)*: паперы, паперы й паперы. Цяпер я, пане профэсар, маю шаснаццаць дзенных і восем вячэрніх, меджду протчым, пасадаў рэгістратара ў розных Менскіх Губэрнскіх Саўхозах, Нархозах, Комхозах, Домхозах і іншых аддзелах, пададдзелах і напаўпададдзелах, дзе, меджду протчым, сяджу сабе і сяджу сабе, пішу сабе і пішу сабе. На маю пільную працу нават начальства, меджду протчым, звярнула ўвагу і да маёй рангі рэгістратара дабавіла ганаровую падрангу, якая па-нашаму завецца «Совбур». Бяда толькі, меджду протчым, што вось новая, па ліку трэцяя, палітычная сытуацыя спыняе на няведамы час гэту маю рэгістратарска-совбурскую кар'еру.

Уваходзяць з двух праціўных дзвярэй Вучоныя.

## З'ява IV

Тыя ж, Заходні вучоны, Усходні вучоны.

Заходні вучоны *(стукнуўшыся з Усходнім)*. Пся крэв!

Усходні вучоны. Чорт подзеры!

Заходні вучоны. Пшэпрашам пана!

Усходні вучоны. Ізвініце, судар!

Заходні вучоны. І пан ту?

Усходні вучоны. І вы здзесь?

Кланяюцца самі сабе і прысутным.

Заходні вучоны *(да Янкі)*. Бардзо на часе, жэ пан обэцным ест. Для взбогацэня нашэй ведзы польскей потшэбнэ сон ешчэ нектурэ шчэгулы о нібы вашым краю. Можэ, шановны пан поінформуе цось о пшыродзе так званэй по-вашэму Бялэй Русі і цось о тэм, яке собе закрэсляце граніцэ палітычнэ.

Янка. Прырода наша, пане вучоныя, прыродная. Маем поле і лес, горы і даліны, рэчкі і вазёры, нават мора мелі — называлася Пінскае,— але акупанты змяшалі яго з гразёй, дык засталося толькі Пінскае балота. А граніц палітычных не маем, бо і палітыкі сваёй не маем — на чужой палітыцы пакуль што ездзім.

Усходні вучоны *(запісваючы ў нататнік)*. Прырода в Русском Северо-Западном крае веліка і обільна — есть суша і водныя басейны, дажэ морэ собственное імелось, но благодара врэдным клімацічэскім веяніям с Запада поіменованное морэ утонуло в Пінском болоце. Что касается поліцічэскіх граніц обласці, то оне в представленіі здзешніх обшчэрускіх людзей очень туманны. Всё жэ прымечается стрэмленіе расшырыць эці граніцы на Запад.

Заходні вучоны *(запісваючы ўперамежку з Усходнім)*. Пшырода на Польскіх Крэсах Всходніх надзвычай буйна і богата; эгзыстуе лёнд і водозбёры; край тэн посядал навэт можэ, але, завдзенчаёнц шкодлівым вплывом зэ Всходу, можэтэ пшэісточыло сень в Пінске блото. Цо сень тычы граніц політычных краю, то взглендэм іх у месцовэй людності вшэхпольскей пшэдставене бардзо не яснэ. Еднак, спостшэга сень донжэне розшэжыць овэ граніцэ на Всхуд.

Усходні вучоны. Ешчо одзін маленькій вопрос: вашы землякі не собіраются в будушчэм прыобрэсці

себе морэ вместо утонувшего, чтобы со временем пробіць себе куда-нібудзь окошко — в Европу ілі Азію?

Янка. Нам і без мора, пане вучоны, хапае дзе тапіцца, як павее пошасцяй праз усходнія ці заходнія «акошкі».

Усходні вучоны (*запісваючы*). О Дарданелах, о Індзійскіх морях і о какіх-лібо окошках не помышляют і помышляць не жэлают, ібо, по іх жэ словам, і без того імеют гдзе топіться, когда повеет сквознякамі із Запада.

Заходні вучоны (*запісваючы ўперамежку з Усходнім*). О розшэжэнню своіх граніц од можа до можа не мажон і мажыць собе не жычон, поневаж, як самі твердзон, маён гдзе топіць сень і бэз можа, гды повеён пшэцёнгі зэ Всходу.

Усходні вучоны (*скончыўшы пісаць*). Благодару вас!

Заходні вучоны (*скончыўшы пісаць*). Дзенькуен пану!

Вучоныя кланяюцца і выходзяць кожны ў праціўныя дзверы, якімі прыйшоў быў.

## З'ява V

Ануля, Гарошка, Аленка, Янка, Мікіта.

Янка (*да Мікіты*). Ну і дурыгаловы гэтыя вашы вучоныя!

Мікіта. Усё гэта, меджду протчым, тутэйшыя людзі: адзін дзякавы сын, а другі — арганіставы.

Аленка. Хоць яны і вучоныя і тутэйшыя, а ўсё ж такі надта смешныя.

Мікіта. Для асоб з глухой вёскі, мамзэль, можа, яны і смешныя, а для менскай рускай, меджду протчым, інтэлігенцыі яны зусім сур'ёзныя вучоныя.

Янка. Такія сур'ёзныя, пане совбур, як і сягонешні выгляд вашай хаты, асабліва гэтыя хвасты ад шпалераў ды абразы задам наперад.

Мікіта. Гэта, пане профэсар, ёсць вынік майго апошняга, меджду протчым, службовага становішча і апошняй палітычнай сытуацыі, якая ўтварылася ў Расійскай, меджду протчым, імпэрыі. Усё гэта вымагала тое-сёе змяніць і ў хатніх абставінах, каб такім спаса-

бам надаць болей, меджду протчым, дэмократычнасці і прастаты.

Я н к а. Лёгкі і танны спосаб у вас дапасоўвацца да сытуацыі.

М і к і т а. Надта лёгкі і танны. Глядзіце. *(Пераварачвае абразы.)* Раз, два! і гатова.

Я н к а. Цікава толькі, як гэта вы з сваім апошнім саўбураўскім становішчам дапасуецеся да самай навейшай палітычнай сытуацыі, што круціцца ўжо каля Пярэспы?

М і к і т а. Аб гэтым я таксама, меджду протчым, не забыўся. Мой профэсар гэр Спічыні працуе са мной у даным кірунку ўжо некалькі часу і памагае мне расцярэбліваць дарогу да будучай маёй кар'еры ў губарнатарскай канцылярыі. Бяру ў яго лекцыі таго «языка», з якім прыходзіць новая сытуацыя.

Я н к а. Глядзеце толькі, каб гэты гэр Спічыні вам не ўставіў і тут спіц, як і перад нямецкай сытуацыяй.

М і к і т а. Меджду протчым, гэр Спічыні таму не вінен, што напладзілі сабе людзі языкоў, як тая трусіха трусянят, і мне, меджду протчым, як ідуць немцы — вучыся па-нямецку, як ідуць палякі — вучыся па-польску, а як будуць ісці нейкія іншыя — вучыся па нейкаму па-іншаму. І гэр Спічыні тут ні пры чым. Эх, каб я быў, меджду протчым, царом! Завёў бы я ад Азіі да Аўстраліі, ад Афрыкі да Амэрыкі і ад Смаленску да Бэрліну адзін непадзельны рускі язык і жыў бы сабе тады прыпяваючы. А то круці галавой над языкамі, як баран які над студняй.

Я н к а. Бачыў бог, што не даў свінні рог, а рэгістратару панавання. Але чаму б вам, колежскі рэгістратар Нікіцій Зносілов, не стацца тым, чым вы самдзеле ёсць: Мікіта Зносак — і мілагучна, і па-тутэйшаму, ды языкоў не трэба мяняць, як цыган коні?

М і к і т а. Як гэта разумець, меджду протчым?

Я н к а. А надта проста: стаць на свой тутэйшы грунт, на той грунт, на якім узраслі вашы бацькі, дзяды.

М і к і т а. Меджду протчым, вы напамыкаеце, сябра беларус, каб я стаў не на свой, а на ваш — беларускі, хэ-хэ-хэ! грунт.

Я н к а. А хоць бы й так.

М і к і т а. Меджду протчым, пане настаўнік, яшчэ я не ўпаў з сваім гонарам так нізка, каб лезці ў вашу, выбачайце, мужыцкую беларускую кампанію. Вы, можа,

параіце мне яшчэ і вашага Тарашкевіча граматыку зубрыць?

Я н к а. А чаму ж бы не?

*М і к і т а.* Ха-ха-ха! Ха-ха-ха! І жартаўнік жа вы, дзядзька беларус, незвычайны вы жартаўнік! Ха-ха-ха! Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы хацелі б заставіць нас, руска-ісціную тутэйшую, меджду протчым, інтэлігенцыю, сушыць над ім свае апошнія мазгі. Ха-ха-ха! Вось дык дадумаліся! Ха-ха-ха! Меджду протчым, пане беларус, мне ваш *(з націскам)* «дэмакратычны» язык непатрэбен, калі я маю свой, меджду протчым, мацярынскі рускі язык.

Я н к а. О так, так! Для вашага гонару падавай вам мацярынскі язык цароў, Мураўёвых-вешацеляў, Распуцінаў, Азэфаў і ўсея кампаніі падобных ім, а на свой, папраўдзе для вас родны, як вы кажаце, язык вам напляваць. Эх, русацяп вы, русацяп! Але годзе аб гэтым! Калісь вы, пане рэгістратар, апомніцеся, але каб не было запозна. *(Да Ганулі.)* Цяпер я да вас, цётачка, толькі не з спрэчкай, а з просьбай: ці няможна будзе ў вас мне з маёй кампаніяй пераначаваць? Шукаць іншага месца для начлегу неяк не хочацца.

Г а н у л я. А начуйце, мае дзеткі, начуйце, колькі хочаце! Гэны пакой, дзе вы кватаравалі, свабодны, дык і лезьце пакуль што туды.

Я н к а. Шчыра дзякую!

Выходзіць з А л е н к а й і Г а р о ш к а м. Уваходзіць С п і ч ы н і.

## З'ява VI

Г а н у л я, М і к і т а, С п і ч ы н і.

*М і к і т а.* Вельмі паважанаму прафэсару маё шчырае, меджду протчым, прывітанне! Як гэта міла з вашага боку, што нават і ў гэтакі трывожны крыху час вы не забываецеся аб маёй адукацыі!

С п і ч ы н і. Я толькі выпаўняю сваю місію, як і вы, мусье Зносілов, сваю місію. А ўзяўся за гуж — не кажы, што не дуж.

*М і к і т а (выкладаючы слоўнікі).* Зусім справядліва, мусье прафэсар. Мы з вамі высока трымаем свае сцягі: вы сцяг, меджду протчым, навучання, а я — сцяг, медж-

ду протчым, вартавання. I наша патомства калісь занатуе, меджду протчым, нашы іменні на залатой дошцы. Меджду протчым, мамаша, можа, пакінеце на хвіліну гэты пакой, пакуль у нас будуць цягнуцца лекцыі.

Ганула выходзіць.

## З'ява VII

Мікіта, Спічыні.

Спічыні. Можам прыступіць, мусье рэгістратар!

Мікіта. Я ўжо гатоў, мусье прафэсар!

Спічыні. Мы ўжо з вамі прайшлі прывітанні звычайныя і ўчора пачалі так званыя прывітанні шыварат-навыварат. Паўторым тое, што пачалі. Як будзе: сабачая твая кроў?

Мікіта. Пся крэў, затрацона душа.

Спічыні. Як будзе: згінь ты, прападзі, нячыстая сіла?

Мікіта. Ідзь пан до сту д'яблув за Буг.

Спічыні. Вельмі добра, дужа добра! Самае важнае, што не забыліся «за Буг». А цяпер як будзе: не лезь, бо дастанеш поўху?

Мікіта. Нех се пан не наставя, бо достанеш по пыску і ўтонеш в Немідзэ.

Спічыні. Віншую, віншую! Зусім добра. Поступ у навуцы вялікі. Папрабуем затое з іншай бочкі. Перакулеце на наш манер такі зварот: ешчэ Польска не згінэла.

Мікіта. Яшчэ Польшча не згінула, але збіраецца згінуць.

Спічыні. А цяпер ператлумачце: двадзесце пенць.

Уваходзіць Наста.

## З'ява VIII

Мікіта, Спічыні, Наста.

Наста. Можаце віншавацца, панове! З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што ўжо «нашы» занялі Менск.

Спічыні. Як гэта, мамзэль,— нашы?

Наста. Ну, палякі, калі вам гэта, пане профэсар, лепей падабаецца.

Спічыні. Выбачайце, мусье Зносілов, але мы на сягоння лекцыю спынім. Мушу йсці пільнаваць хаты. Маю гонар кланяцца! *(Хоча йсці.)*

Мікіта. А як жа, мусье профэсар, з гэтым «двадзесце пенць»?

Спічыні. Заўтра, мсье рэгістратар, пройдзем на практычнай лекцыі. *(Выходзіць.)*

Мікіта *(крычыць)*. Меджду протчым, мамаша! Дзядзька беларус! Палякі ў Менску!

Уваходзяць Янка і Ануля.

## З'ява IX

Мікіта, Наста, Янка, Ануля.

Янка. Што? У Менску пажар?

Мікіта. Не пажар, дзядзька беларус, а палякі, палякі! Разумееце?

Янка. Ну, гэта ўсё роўна.

Мікіта. Вам, чалавеку без рангаў і клясаў у прошлым і без надзеі на асэсарства ў будучым, пэўна, што ўсё роўна, але для мяне, меджду протчым... Гэ-гэ! А цяпер далоў совбурскую форму! *(Хоча скідаць куртку.)* Ах, пардон! Я забыўся, што мамзэль Наста тут. Але вось гэта можна і цяпер паслаць, меджду протчым, к чорту. *(Пачынае кідаць аб зямлю партфелі, апрача партфеля з грашыма.)*

Янка. Ці не паспяшыліся, пане рэгістратар, плявацць у карытца — каб не прыйшлося напіцца.

Мікіта *(пакінуўшы кідаць партфелі)*. Чаму, меджду протчым?

Янка. А як зноў унеспадзеўкі тыцне ў Менск ваша совбурскае начальства? Што тады вы без гэтых торбаў запеяце?

Мікіта. А праўда, меджду протчым, праўда,— я крыху зарапартаваўся. Быўшае, цяперашняе і будучае начальства заўсёды і ўсюды трэба шанаваць і мець на воку, калі не хочаш папсаваць свае паперы. Меджду протчым, мамаша, схавайце гэтыя портфэлі — мо́жа, дзе пад комін ці куды іх падсунеце. Пакіньце толькі портфэль з маёй пэнсіяй.

Ануля па аднаму носіць партфелі.

А я папрашу пардону ў гасцей і на хвіліну адлучуся змяніць свой знадворны выгляд, згодна з самай навейшай, меджду протчым, політычнай сытуацыяй.

Дастае з скрынкі вопратку і выходзіць. Колькі хвілін Янка і Наста застаюцца на сцэне моўчкі, не ведаючы, што з сабой рабіць.

Мікіта (*уваходзіць пераадзеты ў сваю чыноўніцкую форму з усімі адзнакамі, акручваючыся на пяце*). Ну, як, шаноўныя, меджду протчым, мамзэлі і мусьі? Той самы, ды не той самы! Ці ж не мэтаморфоза?

Наста. Я захоплена вашай, мусье Нікіці, мэтаморфозай!

Янка. Перакуліцца з нічога ў нішто — не вялікая мэтаморфоза.

Мікіта (*як бы не пачуўшы, да Ганулі*). Меджду протчым, мамаша, трэба хутчэй залю прывесці да чалавечага падабенства. Выносьце першым чынам начоўкі з бялізнай, а я, меджду протчым, вытарабаню каламажку. Ага! Кідайце сюды ў павозку бялізну, а наверх стаўляйце начоўкі — гэтак за адным замахам усё выцягнем.

Паклаўшы бялізну і начоўкі з вадой на каламажку, вывозяць: Гануля цягне, а Мікіта падпіхае. Праз хвілю варочаюцца.

А цяпер займемся адсабураваць сценкі. Вы, меджду протчым, мамаша, прышпільвайце чым-небудзь адвіснутыя матузы ад шпалераў, а я адкулю на добры бок абразы.

Гануля падшпільвае шпалеры, Мікіта пераварачвае абразы, Наста ім памагае. Праз нейкую хвіліну ўваходзяць: Дама, Поп, Спраўнік, Пан.

## З'ява X

Мікіта, Наста, Янка, Гануля, Дама, Поп, Спраўнік, Пан.

Поп. Мір очагу сему!

Мікіта (*усцешыўшыся, вітаецца*). Ах! Каго я, меджду протчым, бачу? Мадам-сіньёра! — цалую ручкі. Ацец духоўны! — даўно чакаю вашага благаслаўлення. Вашаму родзію пакорны прывет і падчыненне! Ясне пану грабю нізка кланяюся! Ах! Якімі такімі шляхамі пазволілі сабе прыбыць сюды, меджду протчым, доўгачаканыя госці?

Госці ўсім кланяюцца, сядаюць — Поп бліжэй да вакна.

Спраўнік. Разам з новай окупацыйнай уладай прымашыравалі ў Менск.

Дама. І лічылі сваім абавязкам, мусье рэгістратар, злажыць вам першаму сваю першую па прыездзе сюды візыту.

Пан. Ваша гасціннасць у тыя, цяжкія для нашага стану, часы абавязвала мяне як найхутчэй прывітаць вас ад сябе і ад маіх...

Поп. Душа мая возрадавалася пры созерцаніі, како агнцы сіі возвращяшэся в стадо свое. І прышэд я с німі, дабы однім веселіем возвеселіціся з вамі, чадо мое, рэгістратор!

Мікіта. Бяда мая! чым жа я буду гасцей высокадастойных прымаць? Медждý протчым, мамаша, ці там не знойдзецца чаго пайковага закусіць?

Галасы. Не трэба! Не трэба! Дзякуем!

Спраўнік. Мы ўжо паспелі не толькі закусіць, але й выпіць крыху. Ацец духоўны таксама паспеў пагасціць у нас.

Поп. Трапеза была обільная, яствы упітацельныя: амэрыканскае сала...

Спраўнік. Амерыканскі кумпяк...

Пан. Амэрыканская булка...

Дама. Амэрыканскае какао...

Янка (*набок*). Амэрыканскія фігі.

Мікіта. Мінуўшая палітычная, медждý протчым, сытуацыя нічога падобнага нам у пайкох не давала.

Спраўнік. Затое цяперашняя ўсё дасць.

Янка (*набок*). Нават узяткі.

Мікіта. Але пакуль што якое, мне ад сэрца, медждý протчым, хацелася б дастойна пачаставаць і павесяліць высокіх пэрсон.

Дама. А ведаеце, мусье Зносілов,— бяду гэту можна лёгка паправіць. У мяне з'явілася цудоўная ідэя: той вечар у вас на імянінах, перад выхадам немцаў, такое мілае ўражанне пакінуў, што я вельмі была б шчаслівай, каб сягоння яго паўтарыць.

Мікіта. Мадам-сіньёра, я ўвесь да вашых, медждý протчым, услугаў! Значыцца, пачынаем ад пачастунку. Медждý протчым, мамаша, чым хата багата.

Дама. О не, мусье рэгістратар,— вы не згадалі! Дзякуючы таму, што мы ўжо частаваліся, паўторым сягоння толькі другую частку праграмы таго вечару.

Мікіта. Танцы, медждý протчым?

Дама. Мусье, цяпер вы згадалі! (*Да прысутных.*)

Я думаю, што шаноўнае таварыства са мною згодна?

Галасы. Згодны! згодны!

Дама. А цяпер, мусье Зносілов, дазвольце накруціць грамафон.

Мікіта. Грамафон... грамафон... меджду протчым, грамафон, мадам-сіньёра, у... у рэпарацыі.

Дама. Тады дазвольце мне балалайку.

Мікіта падае.

Я папрашу гэтага мусье (*паказвае на Янку*), каб сыграў на балалайцы. (*Падыходзіць і падае Янку балалайку.*) Мусье беларус, не адмоўцеся, сыграйце нам вальца!

Янка. Магу сыграць. Калі тут кампанія ваша ўладзіла танцкляс для акупантаў, дзе кожны з іх заходзіць і танцуе сваё «Гоцаца», дык чаму ж бы мне ў гэтым танцклясе і не пайграць.

Дама. Вельмі прыемна з вашага боку!

Янка грае вальца. Танцуюць тры пары ў тым самым парадку, што ў першым акце. Поп таксама не танцуе. У пачатку танцаў уваходзяць Аленка і Гарошка.

## З'ява XI

Тыя ж, Аленка, Гарошка.

Поп (*пільна ўгледзеўшыся ў вакно, потым да танцуючых*). Чады мої, остановіцесь! В сію обіцель градзе большэвік.

Танцуючыя (*пакінуўшы танцаваць*). Як?.. што?.. адкуль?..

Паміж Мікітавымі гасцямі перапуд і бегатня.

Мікіта (*зірнуўшы ў вакно*). А такі ж градзе і да нас... Ой-ей!.. і з аружжам у руках! А казалі, што іх ужо няма... Ой-ей!.. ой-ей!.. Мамзэль Наста, якія ж гэта няпэўныя вашы пэўныя крыніцы!

Галасы. Трэба хавацца! Хутчэй! Хавацца! Хавацца!

Мікіта. Мамзэль Наста, перакульвайце задам наперад абразы.

Наста пераварачвае абразы.

Мадам-сіньёра, хавайцеся сюды! Ваша родзіе, сюды! а вы, пане пан, во сюды! Ацец духоўны, меджду протчым...

Поп. Не суецiцеся обо мне, сын мой! Мої облачэнія зашчытой мне от всякіх зол земных.

Мікіта. Меджду протчым, мамаша, я залезу сюды, а вы станьце так, каб мяне засланіць. Вось так! Ну, цяпер можа йсці.

Паўза досыць доўгая. Янка іранічна ўсміхаецца, Аленка пырскае здушаным смехам, Гарошка пыхкае люльку і плюе. Наста порыццa каля абразоў. Уваходзіць Чырвонаармеец з абломкам стрэльбы.

## З'ява XII

Тыя ж, Чырвонаармеец.

Чырвонаармеец. Ці няможна ў вас, таварышы, перасядзець, пакуль сцямнее? Бо я адстаў ад сваёй часці і толькі ўночы змагу выбрацца з гораду, каб дагнаць сваіх.

Мікіта *(вылазячы з укрыцця, да Чырвонаармейца)*. А, папаўся, меджду протчым, нарэшце! Складай аружжа! Вывешывай белы флаг! Здавайся ў палон, меджду протчым!

Чырвонаармеец палажыў набок абломак стрэльбы і паглядае, не разумеючы, у чым справа.

Спраўнік *(вылезшы з іншымі з укрыцця)*. Зусім справядліва! Забірайце яго ў палон!

Дама. Ах, мусьі! У вас, як бачу, пачынаюцца вайсковыя змаганні. Дазвольце мне быць сястрой міласэрдзя.

Спраўнік. Наколькі я разумею стратэгію, то, здаецца, справа абыдзецца без крывяпраліцця.

Мікіта *(да Чырвонаармейца)*. Абвяшчаю вас сваім палонным! Без майго, меджду протчым, дазволу не маеце права даць і кроку.

Пан. Надта ўсё добра складаецца для вас, пане рэгістратар. Як з'явіцеся з гэтым палонным да новае ўлады, то ваш прэсціж адразу падымецца ў яе вачох на сто працантаў.

Спраўнік. І вы павінны зараз ісці са сваёй здабычай у штаб акупацыйных войск. Там вы пачуецеся, як вольны з вольным.

Пан. Як роўны з роўным.

Мікіта. Значыцца, ужо йду. Мадам-сіньёра і мусьі, ці таксама, меджду протчым?..

Галасы. Ідзем... Усе ідзем!.. Ідзем!..

Мікіта *(да Чырвонаармейца).* Шагам марш у палон! Пачакайце! *(Да сваёй кампаніі.)* А трофэі таксама забраць?

Галасы. Забіраць! Забіраць!

Дама, Поп, Спраўнік, Пан, Мікіта, акружыўшы Чырвонаармейца, выходзяць маршавым крокам.

Мікіта *(з абломкам стрэльбы на рамі, напявае)*

Оруж'ем на солнцэ сверкая,
Под звукі ліхіх трубачэй,
По уліцам пыль подымая,
Проходзіл полк гусар усачэй...

*Заслона*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Час пасля паўдня. Мікітавы пакой выглядае збольшага як у першай дзеі, разумеецца, без грамафона, люстра і мяккіх крэслаў, некаторыя рэчы спакаваны як у дарогу. Зрэдку далятаюць далёкія гарматныя выстралы.

### З'ява І

Ганулья, пасля Янка, Аленка.
Ганулья сядзіць на спакаваных вузлох і робіць панчоху.

Янка *(уваходзіць з Аленкай).* Дзень добры, цётачка! Што вы так задумаліся?

Ганулья. Ах, гэта вы, пане настаўнік! І Аленка з вамі... Як [redacted] рада, што вы не забыліся нас у гэтыя трывожныя мінуты.

Янка. Ці ж першыня для Менску гэтыя трывожныя мінуты? Час было б, цётачка, і прывыкнуць да іх.

Ганулья. Ды яно ж так. Але сваім чынам да дзела ўсё гэта, ах, як да дзела!

Янка. Э! ліха перамелецца, і мука будзе. *(Паўза.)* А мы вось з Аленкай сумысля зайшліся, цётачка, да вас, каб пахваліцца перад вамі сваім шчасцем.

Ганулья. Незвычайныя вы людзі, калі яшчэ можаце сягоння хваліцца шчасцем.

**Аленка.** А такі ж незвычайныя, цётачка.

**Янка.** І маем чым пахваліцца. Дык слухайце ўважліва, цётачка, рыхтуйцеся віншаваць. Я, настаўнік, Янка Здольнік...

**Аленка** *(перабіваючы)*. І я, настаўніца Аленка Гарошчышка...

**Янка.** Узялі ды паміж сабой пажаніліся. Цяпер яна мая жонка назаўсёды.

**Аленка.** І ён таксама — мой муж, але ці назаўсёды — яшчэ паваражу.

**Ануля.** А мае ж вы міленькія! Пашлі вам долечка ўсяго найшчаслівейшага. І павянчаліся ўжо?

**Янка.** А як думалі, цётачка? Абавязкова павянчаліся, ды яшчэ як урачыста. Зялёны бор шлюб нам даваў, зоркі дружкамі былі, а расіца срабрыстая шлюбныя персцені свянціла.

**Аленка.** А праўда, праўда, цётачка! Шлюб наш быў гэткі ўрачысты.

**Ануля.** Ну і пайшлі плот гарадзіць, каб вы цяміліся, мае ж вы шлюбоўнікі! А вяселле таксама было? Чаму ж мяне не паклікалі?

**Янка.** Вяселле, цётачка, адлажылі пакуль што да таго часу, калі апошні акупант ад нас выйдзе, бо пры іх нявесела на вяселлі.

**Ануля.** Ці не задоўга прыйдзецца чакаць на гэта?

**Аленка.** Ды, праўду кажучы, доўга ці коратка — гэта не важна. Але ў нас, цётачка, важнейшая бяда.

**Ануля.** А што ж такое?

**Аленка.** Татку ж майго йзноў у абоз пагналі. Але так пагналі, што і след згінуў. Ужо тут, у Менску, мы даведаліся, што перш адны гналі, пасля — другія, потым — зноў тыя самыя, потым — зноў другія, а там далей і няведама, хто гоніць і куды гоніць.

**Ануля.** Ганяюць людзі людзей без дай прычыны ды ганяюць. А каму гэта патрэбна, дык яны пэўна й самі не ведаюць.

**Аленка.** Як татку, бывала, бяруць у абоз, дык ён заўсёды і кажа, што едзе акупантаў вывозіць. Але, бедны, возіць, возіць, ды ніяк вывезці не можа.

**Ануля.** Усё роўна як той дзед з бабай рэпку сваю — цягнулі-цягнулі, ды ніяк не маглі выцягнуць. Але затое татка твой хоць свету пабачыць — пад старасць будзе меці што ўнукам расказваць.

**Аленка** *(як бы саромліва)*. Ды ў яго яшчэ ўнукаў і няма.

Гануля (*усміхаючыся*). Дык будуць, мае мілыя, будуць.

Янка. Ой, нешта, мабыць, блазноцкае падумалі, цётачка, бо аж вочы спусцілі.

Гануля. А бадай вы пакіслі, мае дзеткі! І старую ў грэх ведзіцё. Давайце лепей аб чым іншым пагамонім. Во, якраз успомніла. Былі ж і сягоння гэныя нібы вучоныя Мікіткавы. Аб вас, пане настаўнік, пыталіся. Хацелі, кажуць, даведацца, які магнэс болей вас да сябе цягне — усходні ці заходні.

Янка. Трэ было, цётачка, сказаць, што ні той, ні сёй, а тутэйшы.

Гануля. Я так і падумала, але не сказала, бо пабаялася, што не патраплю вучоным па-вучонаму адказаць.

Янка. А болей нічога не пыталіся?

Гануля. Нічога, толькі паміж сабой тое-сёе па-вучонаму пагаманілі, праз свае падзіральнікі туды-сюды зірнулі ды пайшлі. Усходні вучоны сказаў, што пойдзе на Захад, а Заходні сказаў, што пойдзе на Усход.

Янка. Ну, цяпер яны не скора з сабой спаткаюцца.

Гануля. І я так падумала, але не паспела гэтага ім сказаць.

Уваходзіць Мікіта. На шапцы ў яго вялікі значок з белым арлом — брыль абабіты бляхай; фрэнч і галіфэ новыя, з цёмна-жоўтага сукна, боты жоўтыя. Уваходзіць з напоўненым вядром.

## З'ява II

Гануля, Янка, Аленка, Мікіта.

Мікіта (*паставіўшы вядро*). А, меджду протчым, пан профэсар завітаў да нас. Маё ўшанаванне! Як я рад, як я рад, што з вамі спаткаўся. Ах, і мамзэль Аленка тут?! Дзень добры, мамзэль, меджду протчым.

Аленка. Дзень добры, пане рэгістратар! (*З удаваным смуткам.*) Толькі ж я не мамзэль, а ўжо мадама.

Мікіта. Тым лепей, меджду протчым. Віншую!

Янка (*паказваючы на вядро*). А гэта што ў вас за такая зацірка ў ражцы?

Мікіта. Не зацірка, дзядзька беларус, не зацірка, а праўдзівая цэнтра-белсаюзаўская, меджду протчым, патака. Добрыя людзі адчынілі склад з ёю на Нізкім рынку і — бяры хто хочаш і колькі хочаш. Можа-це і вы набраць, меджду протчым.

Янка. Дзякую за такія дары данайскія!

Ганулля. А нашыя некаторыя мянчане, асабліва з Камароўкі і Пярэспы, гэткім спосабам апошнія гады і жывуць. Як толькі ўлада мяняецца, робяць сабе запас да новай перамены; мяняецца ўлада зноў — зноў робяць сабе запас да новай перамены, і гэтак ужо каторы год. А сёлета, апрача ўсяго іншага, дык яшчэ і дровы з Ванькавічава лесу самакатам коцяць і коцяць на вяроўках.

Янка. Бачыў, бачыў. Такая праца йдзе, якраз як пры будове егіпецкіх пірамідаў.

Мікіта. Меджду протчым, такое ўмелае скарыстанне перамен палітычных сытуацый — надта лёгкі спосаб забяспечыць сябе на чорны дзень.

Янка. А вы гэта забяспечанне пачалі, як відаць, ад патакі?

Мікіта. Ад большага чаго я не паспеў, бо, меджду протчым, апошні час заняты быў эвакуацыйнымі справамі, довадам чаго служаць вось гэтыя запакаваныя рэчы.

Янка. Дык вы, пане рэгістратар, маніліся пакінуць усе свае руска-ісціныя варты і ўцякаць з роднага гораду?

Мікіта. А так, пане прафэсар, маніўся, меджду протчым.

Янка. Што ж, можа, гэта акурат падходзячая была б для вас прафэсія. Ездзі сабе са сваімі манаткамі ды ездзі сабе, як гандляр з козамі з кірмашу на кірмаш, туды-сюды ездзі сабе ды ездзі. Але ўсё ж такі, чаму вы не паехалі?

Мікіта. Выйшла малая мітрэнга. Гэты, меджду протчым, рэдактар Гізульскі, што жыў да апошняга часу ў нашай кватэры, абяцаў мне вылатвіць «пшэпустку» на выезд, але падашукаў. Сам як пан выехаў, а мяне без «пшэпусткі» пакінуў. Дарма толькі на вакзал з рэчамі сцягаўся.

Аленка. І вы гэта, пане рэгістратар, так да сэрца ўзялі, што ажно барада ў вас вырасла, бо дагэтуль, здаецца, вы не насілі яе?

Мікіта. А гэта, меджду протчым, яна вырасла ў звязку з палітычнымі эмарамі на нашым Менскім гарызонце. Мамзэль Наста загадзя папярэдзіла мяне з пэўных крыніц, што пры новай палітычнай сытуацыі будуць дабравольна браць маладых мусыі дабравольна адпраўляць іх на Урангелеўскі фронт. Вось я, не зважаючы на тое — выеду ці не выеду, і пастараўся не выглядаць маладым.

Янка. Цяпер вам, пане рэгістратар, застаецца толькі прыдумываць новую свабодную профэсію ці новую клясавую рангу.

Мікіта. Ды [redacted] ўжо прыдумаў, медждү протчым, толькі вы мне павінны ў гэтым памагчы.

Янка. З вялікай ахвотай, калі патраплю.

Мікіта. Патрапіце — гэта ваша профэсія. Справа ў тым: я пастанавіў перайсці ў вашу, медждү протчым, партыю.

Янка. Ды [redacted] ж беспартыйны.

Мікіта. Ну, як вам сказаць? Наогул, медждү протчым, хачу перайсці на ваш беларускі бок, ці як там. Адным словам, я надумаўся дабівацца беларускага асэсарства.

Янка. О так! зусім зразумела. Цяпер гэта наймаднейшая свабодная профэсія, і кожны жук і жаба хоча на Беларушчыне рабіць сабе кар'еру.

Мікіта *(як бы не зразумеўшы прытычкі)*. Медждү протчым, пане профэсар, новая палітычная сытуацыя і ўсё такое прымусілі мяне падумаць аб гэтай кар'еры. Бо як мне казала з пэўных крыніц мамзэль Наста, дык у вас заводзіцца нейкая, медждү протчым, Беларуская Рэспубліка. Ужо нават едзе і старшыня Беларускага Рэўкому Чарвякоў — толькі затрымаўся недзе за Менскам на папаску.

Аленка. А [redacted] чула, што і цётка Бадунова таксама едзе на белай кабыле з Смаленску.

Мікіта. Ну, яна, медждү протчым, эсэр-беларус і ў рахунак не йдзе: доўга тут не заседзіцца.

Янка. Значыцца, вы цвёрда пастанавілі дабівацца сабе гэтай новай кар'еры? Баюся я толькі, каб вы не выйшлі на ёй, як залетась на аратарстве; прытым ваша поўнае дагэтуль ігнараванне гэтай справы й несвядомасць...

Мікіта *(перабіваючы)*. Вы, пане настаўнік, не жартуйце. Я не зусім такі ўжо несвядомы, медждү протчым, беларус — нават з вашай літаратурай знаёмы.

Янка. Цікава, цікава! Гэта для мяне неспадзеўка.

Мікіта. Дык вось, паслухайце, медждү протчым:

Беларусь, мая старонка,
Куток цемнаты,
Жыве Шыла, Грыб, Мамонька,—
Будзеш жыць і ты,—

медждү протчым.

Янка. На такім знаёмстве з нашай літаратурай далёка, пане рэгістратар, не заедзеце.

Мікіта. Вось я й надумаўся звярнуцца, меджду протчым, з просьбай да вас, каб вы мне ў гэтым памаглі. Прасіў я свайго прафэсара Спічыні, але ён адказаўся. Кажа, што ён толькі спэц адбеларушчываць, а да абеларушчывання яго яшчэ змалку адвярнула.

Янка. Вам простая дарога цяпер: запісацца на курсы беларусазнаўства.

Мікіта. Паміж намі кажучы, меджду протчым, а дзеля ўсякага такога здарэння з пару дзён хадзіў на такія курсы, але нічога ў галаву не палезла. Асабліва надта трудная для майго рускага ўразумення ваша граматыка — гэтыя націскі, націскі...

Янка. А так, пане рэгістратар,— у нашай граматыцы без націскаў ані з месца. Але ўсё-такі вам прыйдзецца вярнуцца на гэныя курсы, бо я вам нічога не памагу — сягоння яшчэ выязджаю з Аленкай з Менску. Мабыць, і не скора пабачымся.

Мікіта. Шкада, вельмі шкада, і я думаў, меджду протчым...

Янка. Ды тут нечага й думаць. Не ўдасца вам гэта асэсарства, дадуць вам совбурства, і штосьці ды будзеце мець, бо ці ж вам не ўсё роўна?

Мікіта. Усё роўна, меджду протчым, і не ўсё роўна. Беларускае асэсарства, апрача ўсякіх іншых плюсаў, мае ў сабе яшчэ адзін вельмі ласы плюсік — гэта тое, што і па-беларуску, як я пераканаўся, можна праводзіць у тутэйшую сярмяжную шацію вялікія руска-ісціныя прынцыпы і ядынасці, непадзельнасці і самадзяржаўнасці Расійскай, меджду протчым, імпэрыі.

Янка. О, гэта ўжо правакатарскімі прынцыпамі запахла ад вас! Але сцеражэцеся, пане рэгістратар. Ідзе народ, беларускі сярмяжны народ ідзе, а ён вашаму руска-ісцінаму рэгістратарству саб'е рогі.

Мікіта. Я асцярожны, надта асцярожны, і за мяне, сябра беларус, не турбуйцеся. *(Да Ганулі.)* Меджду протчым, мамаша, у вас не засталося польскіх марак? Дайце мне — я збегаю чаго-небудзь куплю, бо пры новай сытуацыі і гэтыя грошы нічога варты не будуць.

Ганулям *(даючы грошы)*. Купі, сынок, купі, толькі, можа, чаго з яды знойдзеш. Адно — ідзі асцярожна, каб цябе ў палон не схапілі або сам у якую нячыстую гісторыю не ўпутаўся.

Мікіта *(хаваючы грошы ў галіфэ і выходзячы)*.

Меджду протчым, я не з такіх, мамаша, каб упутацца. *(Да Янкі і Аленкі.)* З вамі яшчэ пабачуся — вярнуся хутка. *(Выходзіць.)*

### З'ява III

Гануля, Янка, Аленка.

Гануля. Ох, неспакойная натура ён у мяне! Кажа — не ўпутаюся, а ўчора ў такую кашу ўлез, ажно сорам казаць.

Аленка. А што такое?

Гануля. Ды як жа! Пайшоў паглядзець на Захараўскую вуліцу, як там паны турбуюць жыдоўскія крамы й спальні. Вось адзін пан,— яго, здаецца, начальнік,— урэпіўся за Мікітку і загадаў яму цягаць чужыя рэчы ў свой панскі пакой у нейкай гасцініцы, дык бедны Мікітка як не падарваўся, цягаючы футры ды спадніцы. Добра ж, калі хто са знаёмых не бачыў, а йначай пойдзе чутка, што і мой сын у грабежнікі ўпісаўся — а яшчэ чыноўнік, скажуць!

Янка. Ці ж ён і цяпер быў чыноўнікам?

Гануля. А так! Служыў у камісарыяце паліцыі нейкім там разношчыкам; нейкія «пшэпусткі» іхнія ды іншыя дакумэнты разносіў.

Янка. Не высокае было яго чыноўніцтва, як гэтак.

Гануля. Ды яно ж праўда! А ўсё віна ў тым, што мой Мікітка вучыўся, але, мабыць, не давучыўся, і выйшла з яго ні богу свечка ні чорту качарга. Рэгістратар! А што цяперашнім часам рэгістратар? Адно глупства!

Янка. Так! Ваш рэгістратар быў вялікае нішто і застаўся вялікім нічым. Але выбачайце, цётачка! Пара нам і дамоў. Бывайце здаровы і шчаслівы!

Гануля *(адвітваючыся)*. Дзе там тое шчасце пры маёй старасці?

Аленка. Як вам, цётачка, будзе надта маркотна, прыязджайце да нас на вёску, там сонца весялей свеціць, і людзі там лепшыя.

Гануля. Добра, дзеткі, прыеду да вас на вяселле.

Янка і Аленка выходзяць і спатыкаюць на парозе ў напаўбасяцкім абарваным адзенні Даму і Спраўніка, з якімі раскланьваюцца.

## З'ява IV

Ганулядама, Спраўнік.

**Дама** (*вітаючыся з Гануляй*). Ах, мадам, да чаго мы дажыліся?!

**Спраўнік.** Да чаго дажыліся?!

**Ганули.** Так! Не важна, паночкі, як бачу, дажыліся: зусім скромна выглядаеце ў гэтым бядацкім адзенні.

**Дама і Спраўнік.** Занадта скромна!

**Гануля.** Што ж гэта вам так прыйшлося абяднець?

**Дама.** Ды не абяднець, мадам! Гэта мы так сабе... з прычыны перамены палітычнай сытуацыі.

**Спраўнік.** Усё былое вялічча прыйшлося загнаць у казіны рог і дапасоўвацца да новага часу і новых людзей.

**Гануля.** А я думала... што ж гэта я думала? Ага, што вы паехалі з тымі, як і з немцамі.

**Спраўнік.** Пшэпустак усім не хапіла.

**Дама.** А я мела пшэпустку, але на адвітальным рауце неяк згубіла.

**Гануля.** І прыйшлося вам застацца!

**Дама і Спраўнік.** Прыйшлося застацца.

**Гануля.** Бедныя ж вы! Мой Мікіта таксама застаўся. А той пан, што быў з вамі,— паехаў?

**Спраўнік.** Яму хапіла пшэпусткі.

**Дама.** Ён не згубіў яе.

**Гануля.** Паехаў, і вас пакінуў — не па-кампанейску ён зрабіў.

**Спраўнік.** Але я надта не бядую. Кажуць, сам Брусілаў ідзе побач з нашымі новымі гаспадарамі, дык не павінен жа ён папусціць у крыўду такіх вэтэранаў старой гвардыі, як я.

**Дама.** А я маю ўсе даныя на дармовую соцыяльную апеку. Апрача таго, бацюшка, які з намі ў вас гасціў, абяцаў, калі што якое мяне прыцісне, дык зробіць протэкцыю ў Прэображэнскі жаночы манастыр.

**Гануля.** Значыцца, бацюшка таксама не выехаў?

**Дама.** Не, не выехаў.

**Спраўнік.** Толькі што пайшоў адбіраць у беларусаў ключы ад Юбілейнага дому.

**Гануля.** І чаго бацюшка палез у гэтую палітыку? Пільнаваў бы лепей ключоў ад архірэйскага дому.

Уваходзіць **Мікіта** — босы і без курткі, у руках кошык з пляшкамі і два рэвальверы.

## З'ява V

Ганула, Дама, Спраўнік, Мікіта.

Ганула. А мой жа ты сыночак! Хто ж цябе гэта абалваніў?

Дама (*прыглядаючыся праз лёрнэтку на Мікіту*). У вас, мусье рэгістратар, фасон касцюму, як і ў мяне з іх родзіем,— а ля-ба-сяк.

Мікіта (*стаўляючы кошык з пакупкамі і кладучы на стале рэвальверы, вітаючыся з гасцьмі*). Меджду протчым, мадам-сіньёра, цалую ручкі! Іх родзію чэсць! Але, пардон, мадамы і мусьі! Выбачайце за мой нештодзенны выгляд. Мяне толькі што спаткала ў дарозе смешная прыгода. Калі бег я па гэтыя, меджду протчым, пакупкі, на Зыбіцкай вуліцы спаткалі мяне два, мабыць, апошнія ўцякаючыя паны, папрасілі мяне пастаяць, самі знялі куртачку, сказаўшы, што гэта з іхняга сукна, потым папрасілі пасядзець і таксама самі знялі боты, сказаўшы, што гэта з іхняй скуры.

Дама. А далей?

Мікіта. А далей таксама хацелі тое-сёе, меджду протчым, знімаць, але пачалі падыходзіць людзі, дык падзякавалі і пайшлі.

Дама. Ах, якія ж усё-такі яны джэнтльмэны! Нават падзякавалі.

Спраўнік. О, так, так! Пазнаць адразу пана па халявах.

Ганула. А грошы не адабралі?

Мікіта. Меджду протчым, мамаша, не адабралі: бачыце, пакупкі прынёс. Гляньце!

Ганула (*зірнуўшы ў кошык*). А матачкі ж мае! Гэта ж гарэлка!..

Мікіта. Але, меджду протчым, мамаша,— гарэлка. Бо гэта будзе самая цяпер даходная стацця. Новая ўлада гарэлку забараняе, а што забаронена, тое смачна і дорага каштуе.

Ганула (*паказваючы на рэвальверы*). А гэты качарэжкі на якое безгалоўе?

Мікіта. Гэта таксама даходная стацця, прытым яны мне нічога не каштуюць: па дарозе адзін мой знаёмы пёрся з імі недзе ў чыстае поле і са страху сунуў іх мне, меджду протчым, дарма.

Ганула. Гарэлка... пісталеты... зусім не сэзонны тавар у гэты час.

**Мікіта.** Меджду протчым, мамаша, пакіньце гэту справу на маю галаву, глядзеце вось лепей, ці не снуе хто няпэўны каля вакон. *(Вымае з кошыка, то стаўляе назад бутэлькі.)*

**Ганула** *(углядаючыся ў вакно, пасля паўзы).* Здаецца, ужо пачынаецца.

**Мікіта** *(устрывожаны).* Што пачынаецца?

**Ганула.** Чагосьці прэцца сюды мамзэль Наста.

**Мікіта.** Так бы адразу, меджду протчым, і сказалі, а то толькі пужаеце...

Убягае, засопшыся, **Наста.**

## З'ява VI

Ганула, Мікіта, Дама, Спраўнік, Наста.

**Наста** *(вітаючыся).* Дзень добры! Дзень добры! Як маецеся? Смутную вам прыношу навіну. З пэўных крыніц я напэўна даведалася, што йдуць да вас трэсці.

**Мікіта.** Што вы кажаце, мамзэль Наста: трэсці?

**Ганула.** Во няшчасце на нашу хату.

**Мікіта і Ганула** *(разам).* Што рабіць? Што тут рабіць? Райце, мамзэль Наста!

**Наста.** Вывешвайце хутчэй праз вакно чырвоны сцяг. У падобных несамавітых сытуацыях такое вывешванне часам памагае. Хутчэй вывешвайце! А я пабягу. Мушу яшчэ дапасці там-сям — у пэўныя крыніцы. *(Выйшла.)*

Мікіта чапляе чырвоную хустачку на канец парасона і вывешвае праз віконную фортачку.

## З'ява VII

Ганула, Мікіта, Дама, Спраўнік.

**Ганула** *(ломячы рукі).* Што тут рабіць? Што тут рабіць?

**Мікіта.** Меджду протчым, мамаша, не круцецеся без толку па хаце, а лепей глядзеце ў вакно, ці не йдуць ужо.

**Ганула** *(гледзячы ў вакно).* Нікога не відаць, толькі мамзэль Наста панеслася, як вецер.

**Мікіта** *(перастаўляючы то туды, то сюды кошык з пляшкамі).* Лепей углядайцеся.

Ганулякі. Ідуць, ідуць! Не! Міма прайшлі.

Мікіта. Папрабуйце праз другое вакно, меджду протчым, мамаша.

Ганулля (*гледзячы ў другое вакно*). Ідуць, ідуць, мой сынок, ідуць!

Мікіта. Можа, йзноў міма, меджду протчым.

Ганулля. Не, здаецца. Пачакай. (*Прыглядаецца на браму.*) А мамачкі ж мае. Завярнуліся сюды да нас. (*Пакінуўшы вакно.*) Куды ж тут цяпер падзецца?!

Мікіта. Вось неспадзяваная неспадзеўка! Оей! Оей! Меджду протчым, мамаша, не ламеце рук, і бярэцеся хутчэй за работу. Адварачывайце назад абразы, а я пакупкі буду парадкаваць.

Ганулля адварачвае абразы. Мікіта хапае то за кошык, то за рэвальверы, не ведаючы, што куды падзець. Стук у дзверы.

Оей! Оей! Ужо ломяцца. Меджду протчым, мадам-сіньёра і вашародзіе, сядзеце або стойце спакойна: вы мае госці і вам волас з галавы не спадзе.

Мацнейшы стук у дзверы.

Оей! Оей! Куды тут што падзець? (*Соване рэвальверы асадкамі ў адну і другую руку Даме.*) Меджду протчым, мадам-сіньёра, патрымайце пісталеты. Я растыцкаю кудынебудзь пляшкі. (*Хапаецца зноў за бутэлькі. Трэск ламаных дзвярэй.*) Меджду протчым, мамаша, кіньце абразы і прыце хутчэй па портфэлі, што летась схавалі.

Ганулля выбягае і пасля па аднаму зносіць партфелі. Мікіта хапае ў Дамы рэвальверы ў абедзве рукі за рулькі, секунду-другую бегае па хаце, пасля меціцца бегчы з настаўленымі рэвальверамі ў дзверы, але ўваходзяць і спатыкаюцца з ім на парозе: Начальнік патруля, Двух патрульных, Грамадзянін, у якога выразана кусок барады, і Спічыні.

## З'ява VIII

Тыя ж, Начальнік патруля, Двух патрульных, Грамадзянін, Спічыні.

Начальнік патруля (*спаткаўшы на парозе Мікіту з выстаўленымі рэвальверамі*). Стаць! Ні з месца! Рукі ўверх!

Мікіта, адступіўшы колькі крокаў назад, выцягвае ўверх рукі.

Гэта што ў вас у руках?

Мікіта (*то апускаючы, то падымаючы па чарзе*

*рукі і згодна з гэтым паварачваючы то ўправа, то ўлева галавой).* Гэта... Гэта... ваша чырвонае благародзіе... гэта... як яно... качарэжкі! даліпан, качарэжкі!

Начальнік патруля. Качарэжкі! Ну, палажэце іх на стол. *(Мікіта кладзе. Начальнік, прыглядзеўшыся да Мікіты.)* Але мы, здаецца, з вамі знаёмы?

Мікіта *(падазрона ўзіраючыся на Начальніка).* Калі вашай чырвонай міласці падабаецца, то мы знаёмы; самдзеле знаёмы. Я надта рад з гэткага, меджду протчым, першага знаёмства.

Начальнік. Помніце, як летась вялі мяне ў палон, а [illegible] ад вас спрытна ўцёк.

Мікіта. А як жа, помню, меджду протчым, помню! Хто ад каго не ўцякае? І вы, ваша таварыскае родзіе, уцяклі, меджду протчым.

Начальнік. Ваша фамілія?

Мікіта. Колежскі рэгістратар Нікіці Зносілов, меджду протчым.

Начальнік. Скажэце мне: вы ўчора грабілі кватэру грамадзяніна Боршчыка на Архірэйскім завулку?

Мікіта. Нічога падобнага, мусье таварыш. Я не грабіў,— мяне, меджду протчым, грабілі — фрэнчык формельны, боты жоўценькія знялі...

Начальнік. Не загаварывайце зубоў, а кажэце праўду.

Мікіта. Праўду кажу, ваша чырвонасць,— даліпан, я не грабіў, меджду протчым.

Спічыні. Пазвольце вам, гражданін рэгістратар, не паверыць: я сам, стоячы на скверы, каля вадакачкі, бачыў, як вы з іншымі цягалі рухомую маемасць з кватэры таварыша Боршчыка.

Мікіта. Э! так бы і сказалі, гэр Спічыні, што я цягаў. Але я не грабіў. Усяго таго было, што [illegible] па загаду свайго, меджду протчым, начальніка насіў гэтыя рэчы яму ў гасцініцу «Парыж».

Спічыні. Паложым, гэта таксама грабёж.

Начальнік. І што далей было?

Мікіта. Нічога. Там у нумары, куды я зносіў рэчы, сядзелі нейкія маладыя, меджду протчым, мусьі ў форме і нейкія маладыя, меджду протчым, мамзэлі без формы ды выпівалі пазнанскі лікер.

Начальнік. І вы тых рэчаў к сабе ў хату не цягалі?

Мікіта. Ані падвязачкі не прыцягнуў! Ага! Маю нават сведку. Мамзэль Наста была ў тэй самай кампа-

ніі, дзе выпівалі, і бачыла, што я начальнікавы рэчы ўсе там складаў.

Начальнік. Мы ўсё-такі маленькія агледзіны зробім вашых рэчаў, каб часам памылкова не запуталіся між імі і чужыя. *(Робяць збольшага рэвізію. Начальнік знаходзіць кошык з бутэлькамі.)* А гэта не награбленая гарэлка?

Мікіта *(набок)*. Ооей! Ооей! зусім прапаў і з костачкамі нават. *(Да Начальніка.)* Гэта... гэта не гарэлка, а, меджду протчым, лікер пазнанскі, ваша тавары-скасць. На гандаль купіў, на свабодны гандаль, меджду протчым.

Начальнік. Добры гандаль! *(Падымаючы вядро з патакай.)* А гэты мёд таксама на гандаль?

Мікіта. Гэта не мёд, меджду протчым, і не на гандаль, ■ патака, якую сам з мамашай буду есці.

Начальнік. Награбленая?

Мікіта. Меджду протчым... меджду протчым, так сабе ўзятая з агульнадаступных грамадзянскіх складаў, зусім так сабе.

Начальнік. Добрае так сабе... Вашы дакумэнты!

Мікіта. Якія — старыя ці новыя? старыя во дзе — у гэтых портфэльчыках. *(Паказвае на прынесеныя к таму часу Гануляй партфелі.)*

Начальнік. Старыя потым раскумекаем — давайце новыя.

Мікіта *(пакапаўшыся ў кішэнях і за пазухай, набок)*. Оей! Оей! Польскі дакумэнт трэба паказваць. Каб я лепей скрозь дна праваліўся. *(Дастаўшы дакумент з-за пазухі, да Начальніка.)* Во ён гэты, меджду протчым, дакумэнт. *(Набок.)* Каб яго калядны пярун спаліў!

Начальнік *(разглядаючы дакумент)*. Польскі?

Мікіта. Зусім польскі і з усіх бакоў польскі. *(Набок.)* Каб яго за Буг вынесла, меджду протчым!

Начальнік. Хто можа прачытаць?

Спічыні. Пазвольце, таварыш, я прачытаю. *(Чытае.)* «Оказіцель нінейшэго Нікіціуш Зносіловскі służy пшы Комісарыяце поліцыі мяста Мінска, яко доносіцель».

Мікіта. «Яко розносіцель», Гэнрых Мотавіч!

Спічыні. Паложым, не «яко розносіцель», а «яко доносіцель»,— чорнае на белым стаіць.

Начальнік. Ператлумачце дакумэнт.

Спічыні. «Паказчык гэтага, Нікіцій Зносілов, служыць у Менскім Камісарыяце паліцыі даношчыкам».

Мікіта. «Разношчыкам», Гэнрых Мотавіч!

Спічыні. Не «разношчыкам», а «даношчыкам»,— чорнае па беламу стаіць, гражданін Зносілов.

Мікіта. Вы, мусье профэсар, кепска прачыталі і кепска ператлумачылі.

Спічыні. Паложым, я ніколі кепска не чытаю і кепска не тлумачу, глядзеце самі, гражданін рэгістратар!

Мікіта (*чытаючы*). До... до... до... доносіцелем. Оей! Оей! Як жа гэта выйшла? я сам пісаў, сам рукою ўласнай пісаў, а начальства подпісь дало і не прачытала, мабыць, Гэнрых Мотавіч! Як жа гэта вы мяне вучылі, меджду протчым?

Спічыні. Паложым, пры чым тут мая навука, калі вы самі пераблуталі «до» з «роз'ам». А можа, вы й не пераблуталі?

Мікіта. Увесь Менск ведае, што я служыў разношчыкам, а не даношчыкам.

Начальнік. Ну, досыць! Пасля разбяром! (*Да Мікіты.*) Хто тут з вамі яшчэ знаходзіцца?

Мікіта (*паказваючы*). Гэта, меджду протчым, мая мамаша, а гэта і гэна, як іх? — мае госці.

Начальнік (*да Спраўніка і Дамы*). Вашы дакумэнты. (*Прыгледзеўшыся.*) І вы, здаецца, мае старыя знаёмыя? Во цёплая кампанія.

Дама і Спраўнік кланяюцца і аддаюць свае дакументы.

(*Начальнік да Спічыні.*) Прачытайце.

Спічыні. У гэтым напісана: «рэвіровы сюдмэго рэвіру мяста Мінска».

Начальнік. Што гэта знача?

Спраўнік. «Акалодачны надзірацель сёмай часці места Менску», гаспадзін таварыш.

Начальнік (*да Патрульнага*). Зрабеце рэвізію кішэняў гэтага грамадзяніна.

Патрульны робіць рэвізію, знаходзіць у кішэнях Спраўніка пагоны і падае іх Начальніку.

Начальнік (*круцячы пагоны ў руках, да Спраўніка.*) Што гэта?

Спраўнік. Спраўніцкія пагоны, гаспадзін таварыш: памятка былога вялічча.

Начальнік (*палажыўшы пагоны на стол, да Спічыні*). Чытайце другі дакумэнт.

Спічыні (*чытае*). «Баронэса Шпацэрзон, ганаровы член Менскай дабрачыннасці».

Начальнік. Шпацэрзон... Шпацэрзон... Ну, усё роўна,— пойдзе і яна. А цяпер, калі рэвізія скончана, прашу ўсіх ісці са мной. (*Да Ганулі.*) Вы, цётка, застаіцёся хаты пільнаваць.

Мікіта. Оей! Оей! Што, і мне йсці, мусье таварыш?

Начальнік. А вы думалі як?

Мікіта. Оей! Оей! Пакіньце мяне. Нашто я вам, меджду протчым, патрэбен? Вось у гэтых партфэлях зусім што іншае аба мне сказана. Зірнеце ў гэтыя паперы, ваша таварыскасць. Як прачытаеце, то ўсё роўна не заберыцё мяне, меджду протчым.

Начальнік. Усё роўна не магу йначай. Гэтыя пісталеты, награбленая гарэлка, патака, цяганне чужых рэчаў, служба даношчыкам, усё гэта таксама для нас добрыя паперы, хоць для вас, можа, і дрэнныя паперы.

Мікіта. Дык пакажэце мне, меджду протчым, ваша чырвонае благородзіе, чэк на мой арышт.

Начальнік. Чэк атрымаеце, як прыйдзеце на месца. Ідзем! Прашу забіраць «вешчэственныя даказацельства». (*Начальнік забірае рэвальверы, адзін партфель і пагоны. Даме, Спраўніку, Спічыні і Грамадзяніну дае несці па пары бутэлек, Мікіту — патаку. Двум патрульным — па партфелю.*) А цяпер — марш за мной!

Мікіта. Оей! Оей! Ваша таварыская міласць! Пакіньце мяне з мамашай. Меджду протчым, пайду памагаць вам забіраць Варшаву, толькі не забірайце мяне!

Ганулі я. Мае паночкі, мае галубочкі! Хаця не змікіцьце майго Мікіткі. Хаця не змікіцьце! (*Апускаецца з ціхім плачам на спакаваныя манаткі.*)

Усе, апрача яе, выходзяць. Пры апошніх Ганулiных словах разлягаецца за вокнамі на вуліцы харавая песня.

Ой ты, яблочко,
Куда коцішся?
Не туды попадзёш —
Не вароцішся...

Пасля паўмінутнай паўзы, пад несціхаючыя гукі песні, паволі апускаецца

*Заслона*

# Іншыя рэдакцыі і варыянты



## ДРАМАТЫЧНЫЯ ПАЭМЫ

### *Адвечная песня*

*Кн. «Адвечная песня», 1910:*

2 Даю яму права істнення,
19 І будзе цар гэты павек
56 Праз стужу, праз хлеба кусок.
183 На бок жыва, на бок!
187 Строй саху, барану
241, 257 Гайда, баразною,
243, 259 Гайда, за сахою,
263, 275 Кожын свой палетак
431 Ці ж па роўна дзялілі,
506 Вот так малайчына!
606 Жыццё тваё згасіла;

### *Сон на кургане*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*

32 Не іначай, зблудзіўу
36 Як начніцы, як цьмы.
41а Дубы ды сасонкі,
б *Як у асноўным тэксце*
44а Кусты скрозь лазы.
б Шасцяць верасы.
46а Жуда, цемната;
б *Як у асноўным тэксце*
57 Ох, шуціш здарма ты,
60а Дайду [illegible] дамоў!
б *Як у асноўным тэксце*
64а І з душой і жывы.
б *Як у асноўным тэксце*
78а Усімі снамі сваймі!

б Сэрцам, думкай сваёй!
85а Ён звязаўся з другой,
б Ён пайшоў з другой
87а Мне тады, ах, тады
б *Як у асноўным тэксце*
97—98 *Адсутнічаюць*
102 Якіх сто лет назад.
103—104а Прыгажэйшай была
За міль сотні ў накруг;
б *Як у асноўным тэксце*
107—108 Найвярнейшы із іх
Мне ўсё сэрца аддаў;
111—112а Знала мукі душы
б *Як у асноўным тэксце*
а Гэтай я навылёт;
б *Як у асноўным тэксце*
114а Мяне гэты паглёд!
а *Як у асноўным тэксце*
122 Ажаніўся з ракой.
151а Але ён адкрываў
б Стыдна стала тады
152а Стыд і ганьбу маю,
б *Як у асноўным тэксце*
155 Жуда страшная тут
158а Як магла, уцякла.
б *Як у асноўным тэксце*
Паміж 158—164 *Закрэслена*
Там служыла, жыла,
Як у норах краты,
Усё чужыя сабой
Абівала куты.
164а Час ішоў, усё ішоў
б *Як у асноўным тэксце*
188а Здрайца той ходзе тут,
б *Як у асноўным тэксце*
190а Зноў нясе кляцьбаў жмут.
б *Як у асноўным тэксце*
197—198а Мо' стары йдзе ка мне,
Князь — мой муж — як жывы?
б *Як у асноўным тексце*
223 Ох, шуціш здарма ты,
269а Пагубляла ўсе так
б *Як у асноўным тэксце*

279—281а А я грушу адну
Пільнавала ў аўсе
Ўжо не даўна было
б *Як у асноўным тэксце*
312 Вот яна, вот сям'я!
332а Ажно нейкі бядак
б *Як у асноўным тэксце*
376 Знакі з кветак клади,
382 Як ноч гэта, як лес.
422а Хацінка... татуля...
б *Як у асноўным тэксце*
451 Спі, наш саколік міленькі,
453—454а У муках жыцця ты даўно лік
Дням пагубляў неспыняны.
б *Як у асноўным тэксце*
455—456а Мы цябе, любы, мы — цені,
Вечныя лесу — начніцы.
456б *Як у асноўным тэксце*
457 Казкай павейнай асенім
478а Як бы гэтак павабна пацешне
б *Як у асноўным тэксце*
481—484 і 485—488 *Перастаўлены месцамі*
493а Стукаўся ў гэтыя дзверы,—
б *Як у асноўным тэксце*
498а Скарбы ўлехах гэтта схаваў
б *Як у асноўным тэксце*
499а Пан адзін вельмі багаты.
б *Як у асноўным тэксце*
500а Возьме іх той хто прыдзе ў пару
б *Як у асноўным тэксце*
503а Гэта дастаці багацце
б Ведаў, што ёсць тут багацце:
в *Як у асноўным тэксце*
515а Мне няма меры і краю,
б Слуг на таго сваіх маю,
516а Ці п'яўкай, ці мухай, ці стонам
б *Як у асноўным тэксце*
518 І ўсё на пагібель не ўлезеш да скону.
520а Так акуратна тапор залажыў
б *Як у асноўным тэксце*
522 Бач, як бы сілы свае усе зжыў;
529 Годзе шуціці са мною!
532 Зубамі грызі, не сякерай
533а Сэрцам спалыньвай дзверы

б Сэрцам бі ў камень
534а Кроўю размачывай камень
б Кроўю спалысківай дзверы.
в *Як у асноўным тэксце*
537а З небам у дружбу звяжыся —
б *Як у асноўным тэксце*
543 Плёны змёў вецер галодны.
544 Марна пад плотам ржавее каса,
547 Толькі па трупах дарога
550 К богу звярнуся — маўчыць нема бог,
551—552 Сцелючы ў пекле мне лаўкі,
Людзі, ха-ха-ха, ці ёсць жа між іх
556а Ха-ха-ха! Жыць табе цяжка
[illegible] *Як у асноўным тэксце*
558—560а Хочаш пpастораў адлюдных,
Далей не зведаных дзікіх.
Ты змогся, жыццё абязвечыў
[illegible] *Як у асноўным тэксце*
563а Кінь сваю хату, кінь хату,
б Ломішся тутка здарма ты.
591[illegible] Корчацца плечы і ногі
б *Як у асноўным тэксце*
601 Вось і найшоўся памочнічак мой
603 Ну, ўжо сягоння так пойдзем дамоў!
605 Што, каб яшчэ так папробаваць раз.
617—652 *Адсутнічаюць*
674—675а Гэтых нашых сховаў нашых мураў
Вон! адгэтуль хоць да бога,
[illegible] *Як у асноўным тэксце*
676 Хоць да грозных неба хмураў
681а Што тут робіш, хто пазволіў
б *Як у асноўным тэксце*
682 На парог ступіці гэты?
686 Мы пільнуем гэтых зломаў
690—692а Хоць спаткайся з апраметнай,
Вон адгэтуль, вон з паглёду!
Я тут стражаю сусветнай.
б Я не дам ступіць тут кроху
Я піль (ную) усе выхады і ходы.
Маіць наша страж навек.
701—704а Сотні рук і сотні плечаў
Іх насілі з маргоў сотні
А ты, зморны чалавечак,
Зубы к ім свае аскаліў.

б *Як у асноўным тэксце*
709 Хто маіх праў не ўшануе,
722 Я нічога не пазволю;
723—724а Я ганю цябе пракляццем
Чорным дымам нашай долі.
б *Як у асноўным тэксце*
729—731 Гэй, ягомасць, ці ні ўпіўся,
Ці не лішне чаркі мерыў,
І пад мур наш заваліўся
741 Хто пярэчыць нам спрабуе,
748 І гішэфты нам псуеш ты?
749а Тут няма ніякай крамы
б *Як у асноўным тэксце*
751—752 Вон адгэтуль к процьме самай,
І на скарб не важся болей.
754—756 Я ганю цябе традніцай:
Гэтай плесняй гэтых мураў,
Тваей, нашаю цямрыцай
768а Сядзь хоць каменем у хаце
б *Як у асноўным тэксце*
773а Хто мой голас не ўшануе
б *Як у асноўным тэксце*
785—796 *Адсутнічаюць*
Паміж 806—807 Насупроць ісці ўладарству
Скарбаў чорнага мацарства.
813 Кінь сюды зіркаць цікава.
849 Сваёй моцай чорнай славы,—
860—861 Каб менш рваўся да ўладарства
Скарбаў чорнага мацарства.
863 Як прыск гутні — так пякуча,
865—867 Як заломы — так пудліва,
Ведай тутка маё жніва,
Ты мой ход, мая забава:
875 І хоць трохі, хоць трохі
Паміж 878—879 Аттумань мазгі ўладарства
Скарбаў чорнага мацарства
884—885 Затапіце ўсе парывы,
Так шалёна як крывава...
895 І з сякераю не суньця
Паміж 895—896 Да гішэфтаў уладарства
Скарбаў чорнага мацарства
901—902 *Перастаўлены месцамі*
903 Як авечкі так ласкава;
914 Як знаць трэба думкам меру.

Паміж 914—915 К нашай моцы уладарства.
Скарбаў чорнага мацарства.
917—918 і 919—920 *Перастаўлены месцамі*[1]
921а Усе жыцця згасіўшы з'явы...
б *Як у асноўным тэксце*
927—928 і 931—932 *Перастаўлены месцамі*
Паміж 932—933 Папаўняці гаспадарства
Скарбу чорнага мацарства.
940а Так муціла, так круціла
б Штось круціла, штось муціла
941 Тут свістала скавытала
951 Там мой бацька, мая матка...
954 Скуль і што яно ўзялося?
958а Усхапіўся. Што? Якое?
б *Як у асноўным тэксце*
959 Ажно полым⟨я⟩ гуляе;
966а Мы хутчэй на двор за хатку
б *Як у асноўным тэксце*
968а Вёску полыме як мора
б *Як у асноўным тэксце*
Паміж 981—982 Покі легьці прылаўчыся
Галавою ўніз скаціўся.
Пасля 985 Ч а ц в е р т ы п а г а р э л е ц
*(цягне прасніцу з кудзелю)*
Вот даждалі ласкі боскай,
Пойдзе з дымам уся вёска.
Усё змятае, усё косе,
Як саломку, як калоссе.
Ужо страху маю знімае,
Дзеці, я, мая старая
Чуць не згінулі ў пасцелі,
Чуць што выхапіць успелі,
986—987 *Адсутнічаюць*
1015 Асталася ступа, дзежка,
Пасля 1022 Як глытала безустанне
Ўсё да звання, усё да звання.
1037 Знаеш, чуў я ад Агаты
1042 Ну, а дзе наша бурая?
1047—1048а {Дзе прытулім мы галовы?
Ноч і дзень спаткаем новы?

---

[1] У аўтографе Я. Купала паставіў нават лічбы, якія вызначалі пэўны парадак радкоў, але чамусьці ў далейшым яны не былі ўлічаны.

б *Як у асноўным тэксце*
1055 Чула, чула, сакалочкі,
Пасля 1062 *замест:* Маршалак/Адзін з дружкоў
1066 Пад пажарныя выкрыкі.
1068 Ха-ха, вот сябе чым цешце
Пасля 1074 *замест:* Закоснік/Адзін з дружыны
1082 Найперш з нашых пачалося.
1083—1088 *Адсутнічаюць*
1092 То ж не йгрышча вам, здаецца...
1094 Зараз воласць з дымам пойдзе
Пасля 1094 *замест:* Стары *тут і ўсюды* / Муж
Пасля 1097 *замест:* Старая *тут і ўсюды* / Жонка
1103 Каб стаў сам, як гэта сажа...
1106—1109 *Адсутнічаюць*
1130 Мне ўжо: сонца, месяц, кветкі
1135 Я сапраўды не жартую...
1150 Толькі спрытна, толькі шыбка.
1155 Не дарую як панежэ:
1161 Ты са мной яго злучыла,
1170 Мест людзей тут заразаці,
1182а Толькі як жа тут з вяночкам
б *Як у асноўным тэксце*
1195, 1197, 1201 Гоп-чух!
1219а Вас усіх сясцёр і брацціяў.
б *Як у асноўным тэксце*
1223 Няхай тут мазгі пасуша.
1226а На начлезе быў сягоння.
б *Як у асноўным тэксце*
1230 Мо' хоць пояс хто пажыча,
1243 Усіх вас чыста ад пажару.
1246 А ты, бабка, мей яго на воку.
1270а Бег з сякерай і саломай
б Бег з падпалкай і саломай
в *Як у асноўным тэксце*
1272а А што з намі цяпер будзе?
б А што ж міленькі цяпер будзе?
1280—1281а Яшчэ нас абвінавацяць.
Усім тады нам будзе горай.
б *Як у асноўным тэксце*
1283а Наверх праўда выйсці мусе.
б *Як у асноўным тэксце*

1291 Пакуль хто зноў прывандруе
1313а Хто заслужа не заслужа
б *Як у аснойным тэксце*
1314 Перарэжу ўсіх як дужа
1315 Ну, а гэтаю ігрушу
1338 Будзеш мо за бацьку сведкай.
1382 Што на ваша даў прашэнне
1385 У хадакі сын ісці можа
1391 Віш, на ножаньках не ўстоіць.
Пасля 1394 І мяне з ім забярыце,
З жыццём лепей разлучыце

1400—1409а *Першы варыянт маналога* С т а р ц а *ў аўтографе закрэслены*[1]. *У ім адсутнічае апошні радок.*

б
Вырві, маці, з грудзей сэрца,
Сушы, маці, яго ў печцы,
Злі кіпучаю смалою
Сэрца высахшае тое,
І ці ночкай, ці дзянькох
Падпалі сухой лучынкай
І з ім прайдзі свет як з паходняй
І так заўтра як сягоння.
Ты не нойдзеш праўды, маці,
Хоць шукай яе век цэлы
Ні за хатаю, ні ў хаце.

в
Вазьмі, маці, пяску жменю,
Пасей, маці, на каменю,
Як дажджэш з яго усходу.
Сын твой вернецца з паходу.

г
Вырві, маці, з грудзі сэрца,
Сушы, маці, яго ў печцы,
А як высахне, смалою
Злі кіпучай сэрца тое,
Падпалі сухой лучынкай,
Каб гарэла безупынку,
Як пажар гарэў сягоння,
І ідзі ў свет як з паходняй
У свет з ім праўды йдзі шукаці
Ты не нойдзеш яе, маці.

---

[1] Тэкст маналога як асобны верш быў надрукаваны ў «Нашай ніве» (1910, № 26, 24 чэрв.) пад назваю «На Купалле» з датай 5.VI.1910. і прызначаўся да свята Купалля (6—7 ліп.).

1428 Яшчэ сягоння дачакаеш,
1429 Хай стужа добра толькі змора
1434 Табе кішэнь, як віш, спагонюць.
1444 Што за пракляты сівер пранец
1445а Аж косці ў круг, як шчэпкі, круце!
б Аж косці ў крук, як шчэпкі, ломе!
в *Як у асноўным тэксце*
1453 Дух касцянее, як з пракляцця
1455—1458 Няхай ваша там удружа
А ты, шынкар, ты, ведай дзела.
Каб аж трашчэлі ўсе стужы путы,
Каб уся душа як сталь затрашчэла.
1466 Як топяць шкло у печы тутняй,
1469 Упіўся ў шыю вострым жалам
1470а Як звер авечку рве галодны
б *Як у асноўным тэксце*
1471 А ну на стол жывей прынаду
1473 А каб была мацней ад яду
1479 Таей з вясёласцяй шакаляй
1480а У шалёным вымешаўшы зеллі
б У шалёным выкупанай зеллі.
1487 А ну не будзьце скупы ў мерцы,—
1496—1497 І вочы дымам засланяла.
За гібель лепшых светлых далей,
1507 Былі ва ўсіх пуцях засадай,
1511 Пі, як канюх з расы на лузе,—
1518 Як кола зломанай машыны?
1520а Як бы зямля дражыць пад шынай.
б Як дзе зямля дрыжыць пад шынай.
1540 І нас тут звабілі смактаці!
1548 І думай, што з сястрой гуляеш.
1552а А што чутно на божым
б *Як у асноўным тэксце*
1554а А што? народ, бач, грэецца, як можа:
б А што? Люд грэецца як можа:
1555а Кастры раскладывае ўсюды
б *Як у асноўным тэксце*
1565 Каб сам пражыць мог лепш у норах.
1567а Ў куты наклаў абноскаў, рызаў
б *Як у асноўным тэксце*
1569 А дзверы насцеж расчыняе.
1578 Замала сівер яшчэ хухаў
Паміж 1579—1580 І столькі слёз плыве хаўтурных,
1588 На пазабытыя законы?

1593—1595 А дзетак імасць калыхала,
Крывёй грудзей сваіх карміла?
А сонца ўсходу выглядала
1605 Вот вясковая вам хата,
1626 Мужычком пабудаваны:
1631—1633 Стогне стужа, лес пакутай,
Як бы звон адвечных путаў.
А вот могілкі шарамі.
1642 Цяпер мне за труд што ласка:
1648—1743 *Адсутнічаюць*
1744 Вырвалі сэрца, вырвалі вочы,
1755 З імі прад імі пракляцце.
1757 Як з цела кроў камар п'ём,
1768 Хто лепш ярмом нас цісне, прыдаве —
1779 Як рублем, купленыя суддзі медзяй
1782 Як пуля, пушчаная ў птушку.
1787 А так пякуча, так халерне,
1789а Іграйце п'яна рэжце звонка;
б Іграйце п'яна, п'яна-звонка;
1790 Пякло яшчэ каб ад маланкі
1791а Як гэтыя шклянкі і фляжкі,
б *Як у асноўным тэксце*
1800 Замерзла тутка пад дзвярамі.

### *На папасе*

*Варыянты аўтографа:*
65 А можа хто яшчэ пад'едзе
77 Цурком дождж льецца як із луба;
143 Вы, братцы, сядзьце ў кружок,
147 Начаць вам думкі весяліць?
167 А выходзіў — слязамі свет значыўся.
188 Груганы на дабычу злятаюцца.
191 Не ў руку, што Лявон прачухаецца.
214 Паводзі коням я папраўлю.
250 Што ты?! Ці ж мы такія?
270 Я ёю думкі ўсё апутаў:
274 Свайго жыцця я від зеў марнасць,
291 За годам выплаканьшы год.
307 З пустынных ніў, з пакутных гор,
*Пасля 311 радок закрэслены:*
Пайшлі хадзіць па свеце чуткі,
335 Чапае могілак крыжы.
385 Сюдою путнік шоў адзін?
390 Паедзем дальшэ, тут нічога

*Варыянт «Нашай нівы»:*

198 Ляжыць, дрэмець Лявон,

*Урывак з драматычнай паэмы*

*Варыянты аўтографа:*

1 Небнаму дому,
2а Сонцу святому,
б *Як у асноўным тэксце*
4 Модлы мы творым,
5а Хай чуе нас свет як вялік!
б *Як у асноўным тэксце*
18 Ясным крыніцам
19а Нашым сястрыцам,
б І тым сястрыцам,
20—21 Светлым русалкам,
Божым забаўкам
22а Так шчыра, так вабна, як сон.
б *Як у асноўным тэксце*
30—31а О сонца! З неба глянь, з высот —
Твой моліцца табе народ.
б *Як у асноўным тэксце*
35а У вечнай сваей ласцы,
б *Як у асноўным тэксце*
40а Хто веры не забыў святой,
б *Як у асноўным тэксце*
44 На плечы хоча нам улесьць
45а Бог новы ў згон старым багам.
б *Як у асноўным тэксце*
46—47а Край захаду вялікі захапіў,
Паўдзённай часць зямлі ён затапіў
б *Як у асноўным тэксце*
54 Ужо адзін такі слуга пасол
Паміж 63—64 Засвята
За ўвагу дзякуй міла брата.
69 Згубіш песню. Знойдзе песня.
77 Штось таіш ад нашых вочаў.
Паміж 79—80 За табой з людзьмі, з бязлюддзем
Мы ішлі ідзем і будзем.
87 *Адсутнічае*
88 Няўзіра кажа праўду ⟨неразб.⟩
89а Душы пакратаці зярно...
б У душы заглянуць зярно...
105а Ты маеш гожую дачку,—

б *Як у асноўным тэксце*
114а Як кажа вестка там и тут —
б А як нясе весць там і тут —
119 І новым богам аплаціў.
Паміж 127—128 І слова будзе мець з бацькамі
Пасля 129 Двух будзеш мець да выбару
На выбар мець меж двух зя⟨цёў⟩
130а Зяцёў двух мець меж на выбар
б Мець выбар прыйдзецца тугі
150 Развеім думак цёмну хмару,
154а На тайны яр, на рэчны вір,
б На лесны яр, на рэчны вір,
156—164 *Адсутнічаюць*
Пасля 167 Слава іх нам!
172а Суджаны дары,
б *Як у асноўным тэксце*
Паміж 172—173а Рвала ■ кветкі,
Росы ссыпала,
б Кветкі я рвала,
Падалі росы,
174а *Як у асноўным тэксце*
б Там, на пагонцы
176а Зоркі і сонца.
б *Як у асноўным тэксце*
181а Белыя лебедзі ў лугі,
б *Як у асноўным тэксце*
195—196а Гэтакай кветкі не стрэціш,
Хіба на небе шукаці!
б *Як у асноўным тэксце*
197а Месяц да зоркі ў сваты
б Месяц ноч кожну да зоркі
в Месяц сваю зорку любу
г Месяц да любай, да зоркі
198а Ходзіць на небе ў сваты
б Сочыць на небе ноч кожну
в *Як у асноўным тэксце*
200 Два дзецюкі, як арляты.
201—202 Кожны агністае сэрца —
Сэрца і золата груду кахання
204 Будзе чакаці прысуду.
206а На каго гляне Лунянка
б *Як у асноўным тэксце*
208а Хто атрымае вяночак.

б Даці вяночак дзявочы.
214 Гэта заслужыла?
217—220 *У першапачатковым варыянце гэтыя радкі змешчаны пасля радка 260. Апошні радок страфы адрозніваецца ад асноўнага тэксту:* Дзе долю схавала.
234а У сэрцы у душы
б *Як у асноўным тэксце*
245а А над імі, на паверсе
б А над імі паверх лесу
246 Ястраб лётае ў затоні і сочыць ⟨неразб.⟩
248а І ў крыўду не папусце
І ад крыўды дасць схаванне.

## П'ЕСЫ

### *Паўлінка*

*Варыянты чарнавога аўтографа:*
*С. 140:*

4—6 Ён арэ поле валамі∞валамі. /
Занясу п яму есці
Ці не скажа ён мне сесці
Занясу я яму есці
9 Даліпантачкі аніяк не магу / Аніяк не магу
31—34 Селі яны, палі∞цяпер перасталі.— *Адсутнічае*

*С. 141:*

4 *Пасля:* прыйсці. / Ведае ж добра, што бацькі паехалі з торгам і позна вернуцца.
5—7 З таго часу∞між імі перабегла. / З таго часу, як схадзілі ўдвух у гэтыя паганыя Пруткі, дык як чорная кошка між імі перабегла.— *Закрэслена*
8 жыўцом бы яго з'еў. / жыўцом бы яго спаліў.
31—38 Якраз.∞чытае. /
Якім. А калі ведаеш, дык скарэй жа скажы дома ці не?
Паўлінка. Не, не, няма. Паехалі абое на торг і пэўне позна прыедуць, бо маюць трохі ўсяго сяго-таго да прадання і сякія-такія мусяць зрабіць пакупкі. Заўтра маніцца трох гасцей быць з кірмашу. *(Садзяцца. Паўлінка шые.)*

*С. 142:* 6 як бы хто там палын засеяў — *адсутнічае*

17 Якім. / Паўлюк.

*С. 143:*

6—7 і так лёганька, лёганька на сэрцы, што...— *Адсутнічае*

10 як нямая рыба.— *Адсутнічае*

14—17 Вельмі ∞ трудна. / Чуў жа ты хіба не раз, што бацька вычварае, як даведаўся, што и з табой дужа блізкае знаёмства забрала...

18—26 Трудна ∞ пажаніціся. / А ўсё-такі ён нічога не зробіць гэтай сваей злосцю. *(Горача.)* Я ўсе свае сілы ўлажу, жыцця не пашкадую, буду чэрвем перад ім поўзаць; горкімі слязамі вымалю ў яго цябе, мая ненаглядная зорачка...

32—40 «На парог, кажа ∞ адпусціцца. / Ці ж ты сам не ведаеш, што ён на цябе вычварае. Татка мой родны, каб мог, дык на першай галіне павесіў бы. Ці ж не ведаеш?
Якім. Ой, чаму не ведаю.— *Закрэслена*

39—41 Але я неяк ∞ памагаў. / А ўсё-такі надзеі не трачу,— а ну ж адпусціцца. Такі ж ён некалі мяне любіў... Быў час, што і ў бядзе мне памагаў.

42 вадою сплыў. / прахам сплыў.

42—45 Памагаў ∞ фанабэрыя. — *Адсутнічае*

*С. 144:*

14 *Пасля:* шмат хто... / А палядзі, як жывуць добра.

16—18 Вось мы з табой ∞ добра. / А мы пакуль што самі сабе будзем шчасце будаваць аб гэтым.
Ды як жа ты думаеш, золатца?

32—34 Цяпер і то колькі ∞ не ўдасца.— *Адсутнічае*

37 моцна / крэпка

*С. 145:*

1 як Сора казала / па-твойму.

2 калі ты прыстанеш / калі ты згодзішся

6—10 І даўно ∞ як пятух! / Як толькі ўсе паўкладаюцца, я ўжо ў садзе пад акном буду на цябе чакаць. Ты ваконца адчыніш, лахі пад пахі, гардыробу ў панчохі ды скакель у сад, як пятух.

17—19 Ох, каб гэтак ∞ ахвоту спагоніш.— *Адсутнічае*
20 Ці не едуць толькі нашы з торгу! / Мусіць нашы едуць...
39—41 Марш дадому! ∞ заўтра!.. (*Выходзіць.*) Шагам марш.

*С. 146:*

18—21
Дзе мы едзем ∞ пагуляем. /
Ой, там, на гарэ,
Мужык жонкай арэ,
А другая падбягае:
«Запражы ж ты мяне».— *Закрэслена*

33—34 Ах ты, гнілая качарэжка! / Ах ты, стары мухамор!
34 Яшчэ можа табе чаго захочацца?.. / Яшчэ чаго можа захочацца.

*С. 147:*

16—17
Я і з тым, я і з сім ∞ з кім? /
Я і з тым, ■ і з сім,
Бач, і п'яны ўжо саўсім,
А ты, баба, угадай, з кім.

18 А немач цябе ведае / А прах цябе ведае
23—24 ■ як Сцяпан Крыніцкі, дык з родным / а я з родным
31 слізчэй усё пайшло / гладзей усё пайшло
35—37 Э-э! Я думала ∞ як бізун. / Гэты хлюст, што толькі ездзе ды нюхае, якая дзяўчына пасагу болей мае.

*С. 148:*

6—7 да васпанства заедуся з кірмашу». / к вам з кірмашу прыеду».
7—8 Дзе ж бы яна падзелася?.. / Гдзе гэта люлька?
8—9 Ты, баба ∞ прапала? / Ты, баба, не бачыла?
10—11 А што я, пастушка над тваімі кніжкамі? / А што я з тваей люлькай хаджу?
12—18 (*ідзе к куфру* ∞ такое...! / (*ідзе к куфру, на каторы кінуў бравэрку; дастае адтуль люльку і нейкую кніжку, варочаецца, кладзе кніжку за абраз, дзе Паўлінка палажыла фатаграфію. Садзіцца і закурвае*). Чаго, там, каханенька, родненькая, так вельмі гарачышся; заўтра прыедзе,— як паглядзіш, дык адразу што-другое запяеш: Адным словам хлапец з рызыкай і з уся-

кай далікатнасцяй, каталік і ўсё такое...

27 Ага ∞ баба сала! / Ага, ні села ні пала, баба сала захацела.

33 на яго выкіруецца. / па яго зробіцца.

36—37 Альжбета. Дык гэты ж ∞ Адольф Быкоўшчык.— *Адсутнічае*

*С. 149:*

23—25 не чуў ніколі... ∞ родненькая... / *а)* не чуў ніколі... гэтага сызматыка, гэтага, гэтага шпіцыліста; *б)* не чуў ніколі... гэтага сызматыка, гэтага, гэтага забастоўшчыка.

26—27 Нашто дарэмшчыну ∞ не робіць. / Нашто напрасліну вясці. Ён нікому ніякай забастоўкі не рабіў.

35—36 Каханенькая выганю. / Маўчы. Ато вон з гэтым плюгаўствам і цябе, сука, выганю.

37 што ж гэта, дзядзька, зрабілі? — *Адсутнічае*

*С. 150:*

8—9 ці ж гэта ∞ дамоў! / ці ж гэта п'яніца калі прыедзе дамоў у сваім часе.

12—13 Я, собственно ∞ як раблю. / Вось-цо-да! Я ўсё знаю, што я раблю.

17 тудэма-сюдэма, начніца касавокая, не вытрываў / а гэты чучала, не вытрымаў

31 свянцоных — *адсутнічае*

*С. 151:*

20 вязе. / прывязе.

22 Аж на паветры касцёл вязуць!.. / Аж паветрам касцёл вязуць.

29—30 з гэтым бязбожнікам / з гэтым сызматыкам

34—36 Пайшло такое ∞ ходзіць.— *Адсутнічае*

40 бацька-нябожчык / бацька

41 падумала — *Адсутнічае*

*С. 153—154:*

38—1 пакутаваць не будуць / пакутаваць такжа не будуць

7 пакуль не ўбярэ каторы / пакуль не ўбярэ

8—9 а як убярэ ∞ дудку. / падбярэ пад сябе, тады, тудэма-сюдэма, на другі лад зайграе.

11 праўдзівым ваўком зрабіўся. / праўдзівым тудэма-сюдэма бугаём зрабіўся.

13—14 Кніжкі ∞ любіць / Хораша так аб усём расказываў. Як ён людзей усіх любіць.

17 дарэмшчыны / непатрэбства
22 ненавідзяць адзін другога.— *Адсутнічае*
25—27 Адзін над другім∾ды злыдні».— *Адсутнічае*
33—34 Трэба, дзеткі∾добра будзе. / Трэба пачэкаць, можа адпусціцца.
42 так пад сэрцам баліць, што і жыць неўмагату. / Пад сэрцам так баліць, так баліць, што і сказаць не магу.

*С. 155:*

5 гаварыць і думаць.../ гаварыць і гаварыць...
8 хаты роднай / хаты
8—9 І чаму ж я такая няшчасная? — *Адсутнічае*
11—14 Ціха∾не забудзецца. / Ціха, Паўлінка, не гаруй вельмі. Неяк жа ды будзе. Бог міласэрны, аб тваёй цяжэннай тут долі
16—17 або згіну, каб і следу не засталося.— *Адсутнічае*
18—20 А г а т а. А ўсё ж такі∾з мужыкоў...— *Адсутнічае*
25—26 ды ў гэткую яшчэ цемру.— *Адсутнічае*
27—28 Ужо ж не цябе — *Адсутнічае*
30—31 П р а н ц і с ь *(дастаючы пляшку)*.∾дабрудзею. /
П р а н ц і с ь *(дастаючы бутэльку)*. Німа, німа. Вось-цо-да
32—34 Дык∾хаце! / Дык чаго ж ты, тудэма-сюдэма, засеўся, не свянцоная ты костка.

*С. 156:*

3—5 А божа ж мой∾гэтай / А божа мой, божа мой, нашто мяне Бог пакараў гэтай
11 Бяжыце скарэй дамоў,— пэўна, там / Бяжыце скарэй дамоў
14—15 трухлявую калоду / калоду
16 і з месца не скранецца. / і з мейсца не рушыцца.
22—24 Глупства∾дамоў. / Глупства, глупства. Я ўсё знаю, пане дабрудзею, усё знаю о... о... На табе паеду, на табе, вось-цо-да.
25 Бывайце здаровы! / Бокам перш паедзеш, тудэма-сюдэма. *(Да хатніх.)* Бывай здаровы!
29—30 ужо пазбыўся.— *Адсутнічае*
32 і татка дамоў пехатой прытрапаў? / а татка апоўначы прытрапаў дамоў.

*С. 157:*

3 Паглядзім. / Пабачым.

5 каб мне таго зяця злавіла / каб Быкоўскага злавіла.
7 Што ён конь ці вол / Што ён конь ці кабыла
9 Не конь і не вол. / Не конь і не кабыла,
24 паглядзім праўды. / паглядзім.
25 А гэта што такое? / А гэта адкуль? Хто гэта?
33–36 Паўлінка *(скрозь слёзы),* ∞ шашняў...— *Адсутнічае*

*С. 158:*

1–2 Я вось-цо-да казаў ∞ падзенецца / Я казаў не дзе дзеніцца.
4 пад паветкай / пад паветку
10 На, на! любуйся ∞ дачушка! / На глядзі, якія прэзенты твая дачка атрымлівае.
15–22 Пакажы, пакажы ∞ Якім Сарока. / Пакажы, пакажы, пане дабрудзею.
Сцяпан. Глядзіце, сватка, любуйцеся.
Пранцісь *(глядзіць).* Сарока, Сарока, вось-цо-да.
Сцяпан. Але, ён! Сарока.
Пранцісь. Суд зробім над ім, суд зробім, вось-цо-да. Паліцыю паклікаюць, пане дабрудзею, стражнікаў. О-о-о, я ўсё тонка і цвёрда панімаю, што каму трэба.—*Закрэслена*
27–28 суд зробім... правы і скоры. / суд зробім...
36–38 А такі ∞ вось-цо-да. / А такі, такі пане, дабрудзею, інквізітарскі, вось-цо-да. Па палавіне шась і гатова. *(Працяжна.)* Я разумею, о я ўсё разумею.

*С. 159:*

1–2 Спаць ∞ *(Рве фатаграфію.)* / Адчапіся ад мяне, гіцлёўка, я вам паразводжу тут шашняў.—*Закрэслена*

*С. 160:*

6 *Пасля:* не хочацца. / Адзін з гасцей. Хай паненцы захочацца для маей кумпаніі.
8 *Пасля:* змесціцца. / Адэлька. Ды яно ж змясціцца, то яшчэ змесціцца.
29 *Пасля:* бабохае... / Наловіць рыбы, каб я так жыла.
32–33 *(З насмешкай.)* ∞ заблудзіла. / Ці ж не знаеш яго? Пакуль аб'едзе ўсю аколіцу па асяніне, дык і прыпляцецца сюды каля поўначы.

34—36 Штось сягоння ∞ пахаджывае / Быў сягоння на кірмашы і Якім Дульскі. Такім франтам выглядае.

40—41 Чымся ∞ пазычу. / Чымся там грошы траціць на адзежу, я лепей гэтыя грошы пажычу.

43 закалола. / кальнула.

*С. 161:*

10—13 аб гэтым ∞ не выйдзе./аб гэтай дрэні гаварыць. Не хачу каб і імя гэтага сызматыка, гэтага плюгаўства ў маёй хаце ўспаміналася.

28—29 падсядзьце ∞ музыкаў. / падсядзьце да паненак і пазабаўляйце іх, а я пачастую гарбатай нашых музыкаў.

*С. 162:*

3 а то яшчэ ў дзверы не луча.— *Адсутнічае*

9—11 Адзін з гасцей. Каго так ∞ багатага.—*Адсутнічае*

*Паміж 11—12:*

Тыя ж і Адольф Быкоўскі / Тыя ж і Станіслаў Пустарэвіч[1].

13—14 дарагі госцік ∞ заставіў? / Скідайце свае шаты, ды просім да хаты. Што ж так, каханенькі-родненькі, доўга не было.

20 каля Прытыкаў / каля Мікітава

*С. 163:*

8—9 сходзі паглядзі ∞ Быкоўскага. / сходзі і з канём пана Пустарэвіча зрабі парадак.

16 хацеў разнясці? / хацеў раскідаць?

19—20 як загілююць ∞ не ўгоніш. / як зазыгуюць летам, дык хоць ты немаведама што рабі.

22 гілююць? / зыгуюць?

*С. 164:*

9 за нас / ад нас

11 У мяне жонка ∞ як у ва ўсіх. /
Адзін з гасцей. А па чым пан сёлета сена плаціў пуд?
Адольф. Па тры злоты.
Музыка. А жыта я ад пана танней купіў.
Адольф. Па чом жа вы куплялі?
Музыка. Па пяць злоты.

---

[1] Тут і далей у чарнавым аўтографе замест «Адольф Быкоўскі» было «Станіслаў Пустарэвіч».

Адольф. Ну, я плаціў і з грыўней, але жыта было лепшае.

Паўлінка (*хітравата*). Хто ж з панам Адольфам зраўнуецца. У яго ўсё лепшае.

Адольф. Ого! у мяне жонка і то будзе лепшая як у ва ўсіх.

18—19 Так. Але ∞ на самае вушка. / Пасля, пасля на вушка.

41—42 Толькі да маладых дзяўчат. / Толькі да маладых маю імпэт.

47 быдлё парадашнае. / скаціна парадачная.

*С. 165:*

1—2 Адольф ∞ (*гавора*).— *Адсутнічае*

3 Ага! Кампліменты.— *Адсутнічае*

9 сабраліся / падмацаваліся

9 для паненкі.— *Адсутнічае*

13—14 Гэрц-польку, падзі-спаць, манчыз, падзі-кварту. / Гэрц-польку, падзі-кварту, манчыз падзі пады мяне.

16 Ну, што ж? ∞ папрабуем? /

Адзін з гасцей. А як не пойдзе, што тады вашаць зробіш?

Адольф (*вылазячы з-за стала*). Ого ў мяне ўсё пойдзе. Я да ўсяго маю мэту (*Цалуе ў руку Альжбету, после да Паўлінкі*). А можа мы з паненкай папрабуем?

18—19 Я на ўсе лады выўчу паненку скакаць. / Не бойцеся, я наўчу.

27 панскіх танцаў. / пекных танцаў.

28 Не бядуйце вельмі. / Не бядуйце

*Паміж 34—35: Пасля рэмаркі*

Паўлінка (*задыхаўшыся і смеючыся*). Не такі нічога не выйдзе. Не ўдашна я да навукі.

Адольф (*садзячы яе каля стала*). Гэта толькі паненка не хоча. А каб яшчэ раз, другі, дык бы саўсім выўчылася.— *Закрэслена*

*С. 166:*

2—3 А гэта што такія ∞ доме? / А гэта што за такія выкрутасы, ці як у хваробе святога Валентага, як у цырку, вось-цо-да.

6—8 Можна, можна ∞ вось-цо-да! / Можна, можна далей, вось-цо-да.

22 усю ваколіцу, як пагарэлец / шукаў, як пагарэлец усе закунуркі, дзе гарэлку трымаюць.

23—24 Тудэма-сюдэма ∞ шукаў.— *Адсутнічае*

26 нічога ніколі ∞ спрытны. / нічога не панімаеш, а я ўсё, усё разумею, жонка, вось-цо-да.

29—30 пакуль казінец не ўбіўся ў ногі.— *Адсутнічае*

32—33 Зайграйце, калі ласка, польку / Зайграйце, калі ласка, нам польку

*С. 167:*

*Паміж 14—15:*

Не руш, не чапай,
Я табе не раўня,
Ты мужык махавік
6 Ты шэршань, авадзень
А я Бандароўна.— *Закрэслена*

21—22 З аднэй будзеш ∞ заганяці. / Жонка будзе свіней пасвіць, А ты заганяці.

*С. 168:*

6 *Пасля:* густа. / пане дабрадзею. Маладзічок, маладзічок, вось-цо-да.

9 як латак у млыне! — *Адсутнічае*

15 пакуль гаспадар вон з хаты не гоне, вось-цо-да.— *Адсутнічае*

19 як у іншых. / як у другіх.

25 у пана Адольфа выходзе. / у вас выходзіць.

34 саўсім не буду пець. / саўсім не буду.

39 У мяне няўмысле вылецела слаўцо. / У мяне так сабе вылецела слаўцо.

43—44 яна ў цябе ∞ трубіць. / зусім добра яна ў цябе выходзе, дык [illegible] разумею, вось-цо-да

*С. 169:*

2 перапыніце / пераб'іцё

6 Гляжу я без толку на хладную шаль / Гляджу я без толку на хладную сталь

13—14 калі такія разумныя! — *Адсутнічае*

28—30 Собственно, вось-цо-да ∞ пане дабрудзею, / Вось-цо-да, маладзічок, ты яшчэ маладзічок, калі такой панскай натуры, дык, пане дабрудзею, не слухай.

32 не кратайце яго! / не чапайце яго!

37—38 Глядзець ∞ адбіваць / Глядзець, як я буду махаць рукамі ў тахту.

42—43 Дый чаго ж ты, мой міленькі, задумляешся? — *Адсутнічае*

*С. 170:*

2 «Як жа мне не пець» / «Ой, ляцелі гусі»

11—12 Ну, будзем ∞ гудзець?..» Ну, будзем пець «Ой, ляцелі гусі».

14—19 Пранцісь (*як скончылі*) ∞ семера малых...— *Адсутнічае*

28 паспеюць. / ім не трэба.

34—35 за што і як ∞ не ведаеце. / што рабіць, а то вы нічога не ведаеце, вось-цо-да, а я то ўсё разумею.

40 Ну, дык што, калі закахаўся? / Ну, дык калі закахаўся, што каму за дзела?

*С. 171:*

1 Усе. Лявоніху! Лявоніху! /
Колькі галасоў. Не, не што-небудзь другое.
Паўлінка. Лявоніху, Лявоніху.
Адзін з гасцей. Ну, калі панна Паўлінка так хоча, то, па-мойму, хай сабе будзе Лявоніха.

4 сыпнем / пойдзем

5—6 болей ці ∞ паскакаць. / Болей ці ўдасца нам патанцаваць.

7—8 Калі ўжо так хочаце / Калі ўжо так хочацца панне Паўліне.

9—11 Собственно, рэжце ∞ вось-цо-да!.. / Вось-цо-да, пане дабрудзею, грайце лявоніху. (*Да Альжбеты.*) А мы з сваццяй сыпнем.

14—17 О, Лявоніха ∞ капусткі маей! /

*а*
Адну сотню прагуляў, прагуляў,
А другую недзе маю яшчэ,
А трэцяя пад абораю,
Сам не знаю, пад каторою.

*б*
Адну сотню прагуляў,
А другую маю,
А трэцяя пад аборою,
Сам не знаю, пад каторою.— *Закрэслена*

*С. 172:*

4 *Пасля:* Абы к мілай прыхіліўся.—
Як і скок, так і скок,
Абы к міленькай пад бок.

21 аж дыхавіцу чуць мне не нагнала. / аж дыхавіцу мне нагнала.
26—27 а не з дарэчнымі жанкамі лявоніху ісці. / а не з бабамі лявоніху ісці.
34—35 чымся тое нейкае «падзі-кварта». / як тая гэрцым-полька.

*С. 173:*

4 *Пасля:* матаецца. /
Адна з гасцей. Дзякуй богу і гаспадару, напіліся, наеліся і нагуляліся.
9 яшчэ пазабаўляцца. / яшчэ пазабавіцца.
14 А гэта не шкодзіць. / А што ж, можна.

*С. 174:*

1—2 А ты ∞ не просяць. / А ты не тыцкай носа. куды цябе, тудэма-сюдэма, не просяць. Напіўся, наеўся дык і маўчы.
7—9 Пранцісь. Собственно ∞ пане дабрудзею.— *Адсутнічае*
19 па самую шыю. / па самыя цыцкі.

*С. 175:*

11—19 Адольф. О, важная ∞ ў бакоўку.— *Адсутнічае*

*С. 176:*

15 Гэта, значыцца, у дурня? / Гэта, знакам тым, у дурня?
25—26 хоць каторы і прыкідваецца / хоць і прытвараецца
31 усё ведаеце? / так усё ведае?

*С. 177:*

11 можа пайду. / пайду.
13 нічога аб гэтым не гаварыў. / нічога не пагаварыў.
14 Аб чым — аб гэтым? / Аб чым?
25 каб не замок — *адсутнічае*
31 Тады, як будзем... / Тады вун як будзем...
34 гэтак біць трэба — *адсутнічае*
41—42 Сабраўся-такі нарэшце. / Нарэшце.
43—44 Дабранач ∞ па канчатак. / На відзене панне Паўлінцэ. Проша чэкаць, я прыеду па канец.

*С. 178:*

1 Забярыце лепей яго цяпер! / Забярыце яго лепей сягоння!
3 Ды канчатак той. / Канец той.
4 усё жартуе. / усё з кампліментамі.

8 *Пасля:* А той / такі ж пазбылася, божа, ты мой, божа.

31 *(Рассцілае хустку)* ∞ Хто там? / Каб хаця старыя не прабудзіліся. *(Зніжае агонь у лампе і на цыпачках ідзе ў бакоўку. Выходзе адтуль адзеўшыся.)* А цяпер і сябе трэба выкінуць праз акно. *(Ідзе к акну. Чуваць шэрах у бакоўцы.)* Ай нехта ўстаў.

*С. 179:*

37 Ай, што ж ■ нарабіла!! / Ай, што ж ■ зрабіла!

*С. 180:*

1—2 Цягні, братка, ямчэй! / Якімка, цягні ямчэй!

7 за рукі трымае. / за рукі валачэ.

*С. 181:*

6 гэнага гада / гэтага сызматыка

7—10 Якімку арыштавалі!! ∞ паганіць. /
Агата. А маё ты золатца, тудэма-сюдэма, сват мне не даў сягоння да слова прыйсці. Хацела табе ўсё расказаць.
Сцяпан *(самадавольна)*. Хе-хе-хе, як пагаварыў учора з кім трэба, дык сягоння раз-два і гатова. Гэтае плюгаўства ўжо не будзе нашых сцежак таптаць.

17 але, як злодзей, хацеў праз акно вывалачы! / а як злодзей хацеў сцягнуць праз акно.

20 Собственно / Вось-цо-да

25 Звяры сляпыя!!! / Звяры загубілі нявінную авечку.

*Варыянты белавога аўтографа:*

*С. 140:*

6 *Пасля:* валамі. / Як мы любіліся, як галубкі ў стрэсе, Цяпер разышліся, як дзве сцежкі ў лесе.

*С. 141:*

9 Паглядзім / Папрабуем

18 панне — *адсутнічае*

36—39 *(Абнімае ∞ чытае.) — Адсутнічае*

*С. 142:*

10 пераробіш... / хіба пераробіш...

*С. 143:*

21 не ў злосці / у добрым гумары

26 пажаніціся. / пажаніцца.

35–36 Ну, і дзе ж ∞ перад ім / Ну, вось і як тут наважышся укленчыць перад ім
42 вадою сплыў. / з вадою сплыў.

*С. 144:*
6–7 ці ты надумалася / ці ты не надумалася
32 Цяпер і то / І так

*С. 145:*
1 хай будзе, як Сора казала / хай будзе патвойму.
29 А як жа, прынёс / А як жа, прынёс, прынёс.

*С. 146:*
10–11 чымся ∞ дзяўчыны. / чымся ласаючы тут *(паказвае)* за пазухай у дзяўчыны.

*С. 147:*
16 *Пасля:* з сім / бач, і п'ян ужо саўсім

*С. 149:*
26 *(паірытавана).* / *(з дасадай).*
29–30 Знаць і бачыць / Знаць і ведаць

*С. 150:*
17 не вытрываў / не вытрымаў
26 Хаўтурнага, собственно / Хаўтурнага, хаўтурнага, собственно, вось-цо-да.
35 Лазы трэба / Лазы трэба, лазы

*С. 151:*
5 пакупкі. / клумкі.
7 казалі? / гаварылі?
11–12 ідзе на Барысава ∞ заставіў. / ідзе на Барысаў па шапку і рукавіцы, што калісь там аставіў.
32 Бярозавай ∞ дабрудзею. / Лазы, пане дабрудзею, бярозавай кашы!..
44 клункі. / клумкі.

*С. 152:*
3 каб тое, што было, у памяці не сядзела.— *Адсутнічае*
5 гаручка! / гарушка!
6 гарэлку. / (пляшку).
15 а я за вас / а [illegible] за цябе
25 зяць, зяць! / як яго?.. зяць.

*С. 153:*
9–10 Прыедзьце толькі.— *Адсутнічае*
11 пане дабрудзею. / вось-цо-да.
35 калі бацька / калі гэтага бацька

*С. 154:*
7–8 не ўбярэ каторы дзяўчыны / не ўбярэ дзяўчыны

14 *Пасля:* жыць / як працаваць
19 помстуе. / гаворыць.
31 каб не гэты тата: / толькі бяда з татам:
33 дзеткі — *адсутнічае*
35 цётачка — *адсутнічае*
42—43 так пад сэрцам баліць / так пад сэрцам баліць, так пад сэрцам баліць.

*С. 155:*

1 дрэўкі нашчапае. / дроў прынясе.
5 гаварыць і думаць / гаварыць і гаварыць
19 на яго заеўся? яго не хоча?
28—29 Ужо ж не цябе, вось-цо-да.— *Адсутнічае*

*С. 156:*

4 Нашто мяне пакараў / Нашто мяне бог пакараў
7 мае міленькія? — мае вы міленькія?
25 *Пасля:* Пранціся / . / Тудэма-сюдэма, на сваім жываце перш паедзеш. *(Да хатніх.)*
32 і татка дамоў пехатой прытрапіў? / І татка пехатой апоўначы дамоў прытрапіў?

*С. 157:*

3 Паглядзім. / Пабачым.
7 Што ён конь ці вол / Што ён конь ці кабыла
9 Не конь і не вол / Не конь і не кабыла
20 напэўна — *адсутнічае*
25 *Пасля:* такое? / Хто гэта?

*С. 158:*

37 спраўніку данясці. / паліцыі данясці.

*С. 159:*

1—2 Спаць ∽ знайшла! Спаць! / Спаць пашла, калі гэткага нажыла! Спаць! Спаць!

*С. 160:*

6 *Пасля:* не хочацца. / А д з і н з г а с ц е й. Хай паненцы захочацца для маёй кумпаніі.
29 *Пасля:* бабохае... / Нагоне сабе ахвоты, каб я так жыла.
32 *Пасля:* прыедуць. / Ці ж не знаеш яго. Пакуль аб'едзе ўсю аколіцу па асяніне дык і прыпляцецца сюды пасля поўначы.
36 куды мяне вядзеш / куды мяне не вядзеш
37 П а ў л і н к а. / А д н а з г а с ц е й.

*С. 161:*

5 настаўніцкія / вучыцельскія
11—13 Прыелася ∽ не выйдзе. / Не хачу, каб і імя

гэтага плюгаўства ў маей хаце ўспаміналася.

16 вушы развесіўшы — *адсутнічае*

28 *Пасля*: падсядзьце / і пазабаўляйце паненак

*С. 162:*

10 выглядаеце? / выглядаеш?

13 *Пасля*: госцік! / Скідайце ж свае шаты і просім да хаты.

*С. 163:*

10 добра прывязаў. / моцна прывязаў.

16 разнясці? / раскідаць?

*С. 164:*

7 мы столькі не нажалі. / мы лепей нажалі.

10—11 О, у меня ∞ ва ўсіх. /
А д з і н з г а с ц е й. А пачым пан сёлета сена плаціў пуд?
А д о л ь ф. Па тры злоты.
М у з ы к а. А жыта я ад пана танней купіў.
А д о л ь ф. Пачым жа вы куплялі?
М у з ы к а. Па пяць злоты.
А д о л ь ф. Ну, ■ плаціў і з грыўней, але жыта было лепшае.
*Пасля*: лепшае было:
П а ў л і н к а *(хітравата)*. Хто з панам Адольфам зраўняецца? У яго ўсё лепшае.
А д о л ь ф. Ого! У мяне жонка і то будзе лепшая як у другіх.— *Закрэслена*

16 Гэта, пакуль што, сакрэт. / Гэта сакрэт.

18—19 Так, ∞ вушка. / Пасля, пасля на вушка.

37 такі імпэт / імпэт

40—41 Толькі да маладых дзяўчат. / Толькі да маладых.

42—43 з гэтага не нагоніце на язык? з гэтага не нагоніце?

*С. 165:*

13 падзі-спаць / падыспод

13—14 *Пасля*: падзі-кварту. / падзі пады мяне.— *Закрэслена*
А д з і н з г а с ц е й. А як не пойдзе пад пана? Што тады вашэць зробіш?
А д о л ь ф *(вылазячы з-за стала)*. Ого! у мяне ўсё пойдзе. Я да ўсяго маю мэту. *(Цалуе ў руку.)*

17 ніколі нават / ніколі
21 Музыка. / Адзін з музыкаў.
22 Ну, дык падзі-спаць! / Ну, дык падзі-кварта.
24 А можа падзі-кварту знаеце? / А можа падыспод знаеце?

*С. 166:*

3 ў сумашэдшым доме? / ў вар'яцкім доме?
7 Лявэнтага. / Валявентага.
23—24 усё гары тэй сабе шукаў. / усё гарэлкі шукаў.
26 не кеміш / не панімаеш
27 *Пасля*: дабрудзею / усё тонка панімаю. Я барнашоў, барнашоў, дзе пайшоў там і прайшоў.
29—30 пакуль казінец не ўбіўся ў ногі.— *Адсутнічае*
34 *Пасля*: пайшоў! / Музыкі. Добра, добра! Мы для паненкі пастараемся.

*С. 168:*

19 як у іншых. / як у другіх.
40 няўмысле / няўмысне

*С. 169:*

13—14 калі такія разумныя!— *Адсутнічае*
38 тахты / тахт
42—43 Дый чаго ∞ задумляешся?— *Адсутнічае*

*С. 170:*

17—18 Спарадзіла ∞ малых...— *Адсутнічае*
39 *Пасля*: закахаўся? / Што каму да гэтага за дзела?

*С. 171:*

1—2 Усе. Лявоніху! ∞ мужыцкае! /
Колькі галасоў. Не, не! Што-нібудзь другое...
Паўлінка (*весела*). Лявоніху, лявоніху!
Адзін з гасцей. Ну, калі панна Паўлінка так хоча, дык па-мойму, хай сабе будзе і лявоніха.
8 што ж там надта такое?! / што ж там вельмі такое?!
9—10 Собственно, рэжце, пане дабрудзею! / Собственно, грайце, пане дабрудзею лявоніху, вось-цо-да.

*С. 172:*

4 *Пасля:* прыхіліўся. /

Як і скок, так і скок,
Абы к міленькай пад бок.

32 наш мужыцкі танец? / мужыцкі танец?

*С. 173:*

5 Колькі галасоў. / Другі госць.

9 дык не шкодзіць яшчэ пазабаўляцца. / дык варта яшчэ забавіцца.

11 на адходнае хоць / на адходнае госцікам хоць

14 А гэта не шкодзіць. / А гэта не зашкодзіць.

*С. 174:*

1—2 А ты∞не просяць. / А ты не тыцкай носа, куды цябе, тудэма-сюдэма не просяць.

17 *Пасля*: на тую палавіну!.. / Ён такі да ўсяго мае імпэт.

19 *Пасля*: шыю. / Пранціська. А праўда, собственно, лепш старожэ, як варожэ, пане дабрудзею.— *Закрэслена*

21 чапялу недарэчную! /*а)* трубу Ерыхонскую! *б)* кукарэку!

*С. 175:*

16 Я да ўсякай / Я к усякай асобе.

31 *(Голасна)* / *(Паглядаючы ў вакно.)* І цемра ж страшэнная! *(Услух.)*

*С. 176:*

3 А ўжо∞пайду. / Ну, дык я й пайду.

*С. 177:*

20—21 А што, калі не прыйшоў? / А што будзе, калі не прыйшоў?

41—42 Сабраўся-такі нарэшце. / Нарэшце.

*С. 178:*

25 дралі. / дзёрлі, або пшаніцу прадаўшы.

*С. 181:*

6 за афішкі арыштавалі? / за афішкі сягоння раніцай арыштавалі?!

7—8 Якімку арыштавалі!! Якіма арыштавалі, Якімку арыштавалі...

9 *Пасля*: Хе-хе-хе! / як пагаварыў учора з кім трэба, дык сягоння раз-два і гатова.

25 *Пасля*: сляпыя!!! / разарвалі авечку нявінную.

### *Прымакі*

*Варыянты белавога аўтографа:*

*С. 183:*

1—2 з доўгаю пікаю / з доўгім калком

5 І давялося ж / І собіла-ж

*С. 184:*

20 забараняе. / запрэчае.

*С. 185:*

17 *Пасля:* млосна-млосненька робіцца. / так калені самі і падкашываюцца!

25 за такую маю гутарку. / за такую тут маю гутарку.

*С. 187:*

30—31 *Пасля:* на ложак узабрацца. / Кацярынка. Добра, што толькі на ложак...

*С. 188:*

6 Што я тут бачу? / Што я бачу?

38 галавы сабе / галавы сваей дзе

*С. 189:*

28 пералсыў век / пражылі век

40—41 што ўтапілася / што я ўтапілася

*С. 190:*

25 новы каптур / новы капшук

*С. 198:*

19—20 *Пасля:* на начлезе быў? Га? /
Максім. Надта ж вельмі не тыцкайся з мешалкай. Як я толькі з хаты, дык ты з гэтым гоцы выцінаеш? Га?
Паланея. Гавары мне, дзе цябе ўсю ноч насіла?

25 Бач / Віш

*С. 200:*

34 не разумеем! не панімаем!

*С. 201:*

11 гэты звядзісвет / гэты звадыяш

19 *Пасля:* ваша бродзіе. / І мяне.

31 што аж я мусіў / аж [illegible] мусіў

*С. 203:*

1—2 *Пасля: (Бабы цалуюцца між сабой / мужчыны між сабой)*

11 як вы з цёткай, памірыцца? / як ты з цёткай,— памірыцца?

27 Голас *(з прысутных).* / Голас *(з сабраўшыхся).*

### *Раскіданае гняздо*

*Варыянты белавога аўтографа:*

*Ёсць у ім і эпіграф: «Мусіць трэба было...» (З народнай песні). Але ў надрукаваных выданнях эпіграф адсутнічае.*

*С. 205:*

2 не трэба здавацца. / не трэба духам упадаць.

4 казаць? / гаварыць?

32 час наш / срок нам

*С. 206:*

12 хатніх / дамашніх

29—30 Бяда ∞ ідзе. / А толькі не ўжывай, сынку, яе на што благое.— *Закрэслена*

37 даляць. / даканаць.

*С. 209:*

21 Але які ён прыгожанькі / Але які ён прыгожанькі, які прыгожанькі

24 Не займайся / Не задавайся

*С. 210:*

7 кажа / гавора

28 такія страшныя / такія страшныя, такія страшныя

35 ідзём. / ідзём ды ідзём.

37 так / нам

38 шматкалёрнай / мнагацветнай
уздзіваліся / здуманіліся

41 забраліся / дабраліся

42 цягнемся / пляцёмся

44 гэныя / гэтыя

*С. 211:*

1 харошую / пекную

15а азіраемся / разглядаемся

*б Як у асноўным тэксце*

15 навокал / кругом

*С. 212:*

14 дадзела / надаела

*С. 213:*

26 Суд — вон выганяюць! / Суд — проч убірацца!

33—35 Купіў, купіў! знаеш... / Які ты смешны. Папершае закону не было, а па-другое не было за што.

*С. 214:*

6—7 сон добры сніла. / сон добры бачыла.

8 Тата! Чаго сядзіш? / Тата! Чаго сядзіцё?

16—17 *Пасля*: адбудзе? Га /
Сымон. Я іх пазасякаю усіх,— вось так і адбудзе.

Лявон. А ланцужкамі не хочаш пазваніць? Што? за такую штуку?

33 заб'ю цябе / укамяную цябе.

*С. 215:*

19 *Пасля*: Не трэба! Не йдзі! / Нечага паніжацца перад дачэснікам сільным, бо ён табе за тваё перад ім паніжэнне паскуднай слінай вочы заплюе, а душу і сэрца тваё з балотам змяшае! — *Закрэслена*

*С. 216:*

19—20 нешта будзем рабіць. / нешта будзем радзіць.

*С. 217:*

35 як цёмна і страшна! / як цёпла і весела на свеце, а нам тут холадна і страшна.

*С. 218:*

5 *Пасля*: не прылучылася? / Чаму ты, братка, такі не аднаковы? то хочаш нейкае новае жыццё пачынаць, то каб цябе сцены гэтыя прывалілі...
Сымон (*з рызыкай*). Бо адно з двух: калі жыццё — так жыццё, а калі пагібель — так пагібель! (*Пауза. Трэск усільваецца.*) — *Закрэслена*

*С. 219:*

20 *Пасля*: што ж ты зробіш? / Душачка яго пэўне ужо ў небе і просіць Спаса, каб паслаў нам з неба лепшую хатку, як гэта цяперашняя...— *Закрэслена*

*С. 221:*

27 тапельнік / утопленік
37 капацца ў душы / капацца ў душы і капацца
38 і не раздушаць. / і не раздавяць
а як матылька безабіднага
б як матылька безкрыўднага

*С. 222:*

9 ў той бок / у тую старану
13—14 Нядоўгая з імі. / Нядоўга будзе мець пры сабе іх братнюю дружбу і нядоўгая будзе хадзьба побач з імі.
23—24 як іх падлыжнік і завушнік? / як іх прыхвасцень, як іх падлыжнік?
36 *Пасля*: Супакойся, Сымонка! / Паглядзіш, як час усё вылеча і найбольшыя раны загоіць.— *Закрэслена*

*С. 223:*

40—41 Крамная скура ∞ вочы / Крамная скура падмалёваныя губы і бровы — *закрэслена*

41а лісліваe слінявае зюзюканне / салодкія аблудныя рэчы

44—45 мае сабе ∞ прастоце. / мае сабе бясчэльны самалюбнік з зладзейскімі манерамі ўдаволь свежага і здаровага тавару на нашым чалавечым рынку.

*С. 224:*

2—3 Ці ж яна / Нешта яна

17 жудасны / а) акропны,
б) *Як у асноўным тэксце*

*С. 225:*

7—8 дужым дачаснікам / сільным дачаснікам

*С. 226:*

14 два тыдні / дзве нядзелі

17 не магу. / не ў сілах.

39—40 адлучыцца ад мяне / аддзяліцца ад мяне

*С. 227:*

34 дарагія падаркі / драгацэнныя падаркі

35 бязмежнае мілаванне! / безгранічнае мілаванне!

*С. 229:*

22 Цень будзе жыць / Цень мой будзе жыць

*С. 230:*

24—25 а на сваім ∞ згоніць! / а на божым, і ніхто мяне апроч бога адгэтуль не згоніць!

*С. 232:*

7 *Пасля*: вывелі... / шчыра кудзельку сваю пралі...

*С. 233:*

3 Такая ∞ доля / Так ужо, відаць, нашаму брату на раду напісана

34 бяссорамствам схавацца! / бяссорамствам скрыцца!

35 прадалася ∞ самахоць / прадалася у злыднявы рукі з добрай волі

*С. 234:*

14 нічога не ведае. / нічога не ведаў і не ведае.

*С. 236:*

1 Але сам я самахоць / Але сам я па добрай волі

*С. 237:*

33 Час, дзеткі! / Пара, дзеткі!

*С. 238:*

2—3 мусіць, з працы / мусіць, з трудоў

27—28 бо не ведаюць, чым дасаліць яму / а дзеля таго гэта напэўна, што яму не ведаюць, чым дасаліць — *закрэслена*

35 Да чаго ты ўсё гэта чаўпеш? / К чаму ты ўсё гэта гародзіш?

*С. 239:*

35 галаву сваю гаротную / галаву бесталанную

*С. 242:*

12—13 не так вельмі халодна. / не так вельмі халодна і галодна.

*С. 243:*

36—37 Чаго гэты Сымон хоча ад іх? / Чаго гэта Зося хоча ад іх?

*С. 245:*

8 у крыгу лёду / у брылу лёду

12 *Пасля*: дзеткі, мяне / паслухай сваей над гробам стоючай маткі — *закрэслена*

23 Нездарма з гэтага / Нездарма, як нарадзіўся і грудзей не прыняў і нездарма з гэтага

36 Тыдні тры / Нядзелі тры

*С. 246:*

40 Ад даўнага / Ад нейкага

*С. 248:*

14 *Пасля*: расступалася / а гадзіны слізгучыя віліся каля ног яго!

41 *Пасля*: чароўных / задушэўных

*С. 250:*

3 Маніш! / Лжэш!

*С. 252:*

19 ■ не якая іншая. / а не якая другая.

38 пакінуць / аставіць

44 запраўды / самдзелі

*С. 253:*

29 Куды ж мы пойдзем? / Куды ж мы пойдзем? Куды?

*С. 255:*

28 дужа дрэнна. / дужа дрэнна, дужа дрэнна.

*С. 256:*

25—26 такі∞расце / такое на свеце між людзьмі неспакойства расце

*С. 257:*

40 Такі ўжо парадак / Такое ўжо ўстройства

42 Ну ∞ прыкладам / Ну і добрае ж гэта ўстройства: прымерам

*С. 258:*

12 пачуццё яго чалавечае! / годнасць яго чалавечую!

17 ты кажаш. / ты гаворыш, як і той незнаёмы, што на сход прыходзіў склікаць.— *Закрэслена*

# КАМЕНТАРЫ



У сёмы том увайшлі драматычныя паэмы: «Адвечная песня» (1910), «Сон на кургане» (1912), «На папасе» (1913), «Урывак з драматычнай паэмы» (1910) і п'есы: «Паўлінка» (1912), «Прымакі» (1913), «Раскіданае гняздо» (1919), «Тутэйшыя» (1922).

П'еса «Тутэйшыя» ў пасмяротны Збор твораў уключаецца ўпершыню.

За асноўны тэкст названых твораў прыняты першы Збор твораў, 1925—1932. Для паэм — том IV, 1928; для п'ес — том III, 1927.

Пры ўстанаўленні дакладнага аўтарскага тэксту былі ўлічаны ўсе прыжыццёвыя выданні, а таксама архіўныя матэрыялы, якія захоўваюцца ў ДзЛМЯнК і Беларускім дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва.

1. Збор твораў, т. III, 1932; Збор твораў, т. VI, 1932; Збор твораў, т. II, 1929; «Шляхам жыцця», 1913 і 1923; часоп. «Маладая Беларусь» (серыя I, сш. I. Пецярбург, 1912).

2. Асобныя выданні: «Адвечная песня» (выд. А. Грыневіча, Пецярбург, 1910); «Сон на кургане» (выд. «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург, 1912); «Паўлінка» (выд. «Загляне сонца і ў наша аконца», Пецярбург, 1913); «Паўлінка» (выд. 2-е, Вільня, 1927); «Паўлінка» (Мн., 1937), «Раскіданае гняздо» (выд. Мінскага камісарыята асветы, Вільня, 1919).

3. Чарнавыя і белавыя аўтографы, аўтарская карэктура зб «Шляхам жыцця», 1913.

Дзякуючы аналітычнай зверцы тэкстаў удалося выявіць і выправіць недакладнасці і друкарскія памылкі, што сустракаліся як у прыжыццёвых, так і ў пасмяротных выданнях.

У параўнанні з папярэднім Зборам твораў (1972—1976) у дадзеным томе значна пашыраны каментарый, павялічана колькасць варыянтаў, прыведзены водгукі сучаснікаў Я. Купалы на яго творы, а таксама звесткі аб сцэнічным увасабленні п'ес і драматычных паэм. Упершыню ў Збор твораў уключаны матэрыялы Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, якія датычацца п'есы «Тутэйшыя».

## ДРАМАТЫЧНЫЯ ПАЭМЫ

*Адвечная песня* (с. 7)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. IV з папраўкамі па першаму асобнаму выданню. У асноўным тэксце было:

47 Як ночай, хай будзе па дню,—
61 У сваёй хаце, і пры матцы
87 Як там служба, як там сіла,
178 Чысты слёзы і бяда!
201 Ўжо стаю, ўжо іду,
343 Шчасце ходзіць рады у гады,
369 Век звініш, свішчаш,
440 З дабром так, аж трашчыць,
453 Пры стале ж сядзе спорна
501 Што ты там бурчыш пад нос?
523 Каб за тыдзень непраменна
535 Аддаць мусіш непраменна
541 Як жыў, як жыў, як маешся?
589 Тады ў краі далёкія,
692 Пракляцця разносіцца стогн.

Упершыню — асобным выданнем: Адвечная песня ў XII праявах.— Выд. А. Грыневіча. Пецярбург, 1910. Пад тэкстам памета: Бароўцы, 1908 г., 22 серпня.

Адна страфа з паэмы (353—356) была апублікавана ў газ. «Вольны сцяг», 1923, № 3, 31 жн. Друкавалася ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Другое асобнае выданне паэмы выйшла ў 1927 г. у Вільні з той жа паметай. На думку даследчыка І. Саламевіча, у ім шмат недахопаў як тэхнічнага, так і графічнага характару. Яно не адпавядала тагачаснай эдыцыйнай практыцы, што дазваляе названае выданне лічыць ненавуковым. Але трэба пагадзіцца з думкай даследчыка: «Пры ўсіх недахопах гэтага ненавуковага выдання яно пашырала знаёмства чытачоў Заходняй Беларусі з выдатным творам Купалы» (Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1985. С. 29)[1].

У другім асобным выданні на адвароце тытульнага ліста змешчана рэдакцыйная заўвага, якая адсутнічала ў першай публікацыі паэмы: «Адвечным завецца тое, што трывае «адвеку», г. зн. век ці некалькі вякоў, а «спрадвечным» завем тое, што ёсць з часу, аб каторым не помне гісторыя, ці, інакш кажучы, спрадвеку».

«Адвечная песня» — першая драматычная паэма Я. Купалы. Адным з тых, хто ў хуткім часе адгукнуўся на выхад з друку паэмы, быў У. Самойла («Наша ніва». 1910. 16 верас.). Высока ацэньваючы паэзію Я. Купалы, якая мае значэнне «як нацыянальнае, так і агульналюдскае», аўтар вызначыў самае галоўнае ў паэме. У. Самойла пісаў: «Паэма Купалы прымушае нас моцна задумацца над пытаннем, як выйсці з гэтага палажэння (маецца на ўвазе цяжкая доля мужыка). Жыць так, як дагэтуль, у поўнай залежнасці ад прыроды і ад сляпой сілы прыпадку, ужо няма змогі, трэба жывой, свядомай энергіяй чалавека зваяваць «голад і холад» мужычага жыцця, трэба новай працай палажыць канец панаванню прыпадку, панаванню «царыцы-бяды», каторая папраўдзі скрозь запанавала на нашых вёсках, заўладала старым, «адвечным жыццём...»

У 1910 г. з паэмай пазнаёміўся і М. Горкі. У той час ён знаходзіўся ў Італіі на востраве Капры. Пра творчасць Я. Купалы яму раска-

---

[1] У далейшым — ЭД.

заў А. Ф. Посах, які ў складзе дэлегацыі беларускіх настаўнікаў прыязджаў у Італію і наведаў рускага пісьменніка. М. Горкі зацікавіўся творчасцю маладога паэта, і ў лісце да А. С. Чарамнова (не пазней 4 снежня 1910 г.) ён пісаў: «У Купалы есть небольшая поэмка «Адвечная песня» — вот бы перевести ее на великорусский язык»[1].

І ў далейшым паэма не заставалася па-за ўвагай даследчыкаў і крытыкаў. М. Багдановіч у артыкуле «Глыбы і слаі», надрукаваным у некалькіх нумарах газ. «Наша ніва» за 1911 г. (№ 3—5, 20 і 27 студз., 3 лют.), адзначыў блізкасць паэмы да зб. «Жалейка», разам з тым падкрэсліваючы, што яна больш дасканалая ў мастацкіх адносінах. Асаблівую ўвагу паэт звярнуў на песімістычную танальнасць твора: «Безвыходнасць, безнадзейнасць — вось што чуваць ва ўсёй паэме, што цяжкім камянём кладзецца на душу чытача пасля кожнай праявы»[2]. Як мяркуе М. Багдановіч, пэўны ўплыў на Купалу акапраў Л. Андрэеў як прадстаўнік сімвалізму (маецца на ўвазе п'еса «Жыццё чалавека», 1907).

Іншай думкі прытрымліваўся польскі крытык С. Руднянскі (псеўданім Рубер), які лічыў, што, нягледзячы на песімістычную канцоўку паэмы, ёсць «спадзяванне на лепшы дзень, і грамадскае пачуццё выступае ў паэме як сіла, якую не можа перамагчы нават смерць», а пытанне «што зроблена для мужыка, што зроблена для ўздыму людской годнасці, абуджэння жыццёвай энергіі чалавека? — пакідае незабыўны след у свядомасці і накіроўвае думку ў адпаведным кірунку»[3].

М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» (1920) тлумачыць песімістычнае гучанне паэмы тым, што «Купала пісаў «Адвечную песню» ў часы чорнай рэакцыі, у часы нацыянальнага й сацыяльнага ўціску ў нашым краі», выклікаючы «абурэнне, гнеў, жаданне лепшага, імкненне зрабіць жыццё на іншы лад»[4].

Звярнуў увагу М. Гарэцкі і на стылістыку паэмы. Параўноўваючы яе з паэмай Ф. Багушэвіча «Кепска будзе», ён не аддае перавагу рэалізму над сімвалізмам. М. Гарэцкі падкрэсліваў, «што мастацкіх спосабаў многа, кожны добры мастак любіць больш той ці іншы спосаб, і калі ён дасягае свае мэты гэтым спосабам, дык заганы ўжо няма»[5].

Але былі і адмоўныя водгукі на паэму. Польскі крытык Зенон Пяткевіч у газ. «Prawda» (1910, № 39) у артыкуле «Адвечная песня» Купалы» не толькі не ўбачыў вартасці твора, але, па сутнасці, адмовіў беларускай літаратуры ў яе існаванні, прадракаючы «нацыянальную смерць жывога народа».

Яшчэ адзін польскі крытык — Чэслаў Янкоўскі — падтрымаў адмоўную ацэнку З. Пяткевіча[6]. Ён выступіў супраць паказу ў творы сацыяльных супярэчнасцей. І Ч. Янкоўскаму і З. Пяткевічу «хацелася, каб паэт жыў у згодзе з існуючым ладам»[7].

Беларускі крытык А. Бульба на старонках «Нашай нівы» (1910.

---

[1] Горький М. Собр. соч.: В 30-и т. М., 1955. Т. 29. С. 144.

[2] Багдановіч М. Поўны збор твораў: У 3-х т. Мн., 1993. Т. 2. С. 187.

[3] Nowe Życie (Новае жыццё). Вільня, 1911. № 35.

[4] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. Мн., 1992. С. 327.

[5] Тамсама.

[6] Александровіч А. Паэма Янкі Купалы «Адвечная песня» // Беларусь. 1947. № 6. С. 13.

[7] Тамсама.

№ 38, 16 верас.) у аглядзе газет спыніўся на артыкуле З. Пяткевіча і пераканаўча даказаў беспадстаўнасць меркаванняў польскага крытыка, мэта якога — зганьбіць беларускі рух і зменшыць грамадзянскі пафас беларускай літаратуры.

Гаворка аб беларускім руху, выкліканая водгукам З. Пяткевіча, працягвалася на старонках «Нашай нівы» ад 11 лістапада 1910 г. У адказе на ліст З. Пяткевіча ў «Нашу ніву» А. Бульба яшчэ раз пацвердзіў, што аўтар ліста дрэнна ведае беларускі рух, таму і памыляецца ў асвятленні становішча на Беларусі і не бачыць тых культурна-грамадскіх зрухаў, якія там адбываюцца.

Пазней, рэцэнзуючы ў 1928 г. IV т. першага Збору твораў Я. Купалы, Язэп Пушча спыняецца на аналізе драматычных паэм. Аўтар сцвярджае, што «купалаўскі сімвалізм — гэта не салагубаўскі, не Вячаслава Іванава»[1]. На думку Я. Пушчы, светаразуменне Я. Купалы «не прадумана ў плане сімвалічным да яго лагічнага канца, а таму яго і светаадчуванне ўсё ж афарбована больш у рэалістычныя тоны». Наяўнасць у паэмах «Адвечная песня» і «На папасе» двух планаў (містычнага і рэалістычнага), дзе пераважае другі, як вызначае Я. Пушча, вядзе да большай заглыбленасці і мастацкай пераканальнасці.

Крытык прыходзіць да вываду, што Я. Купала ў названых паэмах выступае як драматычны паэт, і лічыць, што драматычны жанр Купалу «не зусім удаўся таму, што гэтыя рэчы распрацаваны ўсё ж у плане сімвалічным...». Я. Пушча дапускае, што наяўнасць двух планаў садзейнічала «ўзлёту творчай фантазіі паэта». Але менавіта алегарычнасць і містыка абмежавалі паэта ў разгортванні дзеі «ў драматычнай роўніцы».

Аналізуючы мастацкія асаблівасці паэм і падсумоўваючы выказаныя ў артыкуле меркаванні, Я. Пушча задаецца пытаннем, «наколькі даўгавечны гэтыя творы Купалы, які іх лёс чакае ў новыя эпохі... ці расчытаюць нашы патомкі ў іх тое, чаго мы сягоння не ўмеем расчытваць? Гэта пакідаю без адказу...»[2].

У 1921 г. паэма ўпершыню ставілася на сцэне БДТ-1. Аб гэтым паведаміла «Савецкая Беларусь» 18 ліпеня 1921 г. Урыўкі з паэмы былі інсцэніраваны на самадзейных сцэнах 22 красавіка 1922 г. у Беларускім рабочым клубе.

2 верасня 1922 г. у Мінску для настаўнікаў беларускіх курсаў самадзейным калектывам дзіцячага дома № 3 была пастаўлена інсцэніроўка «Адвечнай песні»[3].

У жніўні 1914 г. у Вільні Купала меў сустрэчу з В. Брусавым, якому падараваў першае выданне паэмы («Адвечная песня». Пецярбург, 1910) з дароўным надпісам: «На памятку Валерыю Якаўлевічу Брусаву. Янка Купала. Вільня 18/VIII — 1914 г.». Гэты экземпляр кнігі, на старонках якой В. Брусаў пакінуў свае паметы, захоўваецца ў ДзЛМЯнК (КП 737-а, кн. 10). Магчыма, ён меркаваў перакласці паэму на рускую мову.

Пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на балгарскую — Х. Папоў.

---

[1] Пушча Я. Збор твораў: У 2-х т. Мн., 1994. Т. 2. С. 310.

[2] Пушча Я. Т. 2. С. 310—311.

[3] Сав. Беларусь. 1922. 5 верас.

*Сон на кургане* (с. 34)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. IV з папраўкамі па аўтографе і першай публікацыі[1]. У асноўным тэксце было:

145—146 Узялі, павялі,
Не сказалі — чаго
224 Наклаўшы ламоў...
453 Днём пагубляў ты даўно лік.
492 Колькі ўжо ночак, колькі ўжо раз
611 Дам я табе тут напасу,
616 Круг абвесці толькі ўмела!
620 Толькі б не зняцца трывогай.
873 Узялі ўсё — дам апошні:
1037 Знаеш, чуў я ад Агаты:
1095 Я сказаў вам, што заблізка —
1098 Стаўма гэта каля дзічкі.
1175 На пассі, на, дзіцянятка!
1419 Паўкварты, кварты, дзе там соткі!
1457—1458 Каб аж трашчэлі сковы сцюжы
І ўсё, ўнутры што накіпела,
1578 Замала сівер яшчэ хухаў,
1760 Звязаны рукі, душы ў балоце,

Упершыню — альманах «Маладая Беларусь», серыя І, сш. 1 (Пецярбург, 1912, выд. «Загляне сонца і ў наша аконца»).

Асобным выданнем выйшла ў 1912 г. у тым жа выдавецтве з прысвячэннем: «Памяці свайго бацькі і брата. Аўтар». Пад тэкстам: Пецярбург. 8.VIII.1910. Бацька паэта, Дамінік Ануфрыевіч, нарадзіўся ў 1846 г., памёр у 1902 г. Брат Казімір, 1891 г. нараджэння, памёр ад шкарлятыны ў тым жа, 1902 годзе.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца чарнавы аўтограф і літаграфскі экземпляр паэмы.

Чарнавы аўтограф (адз. зах. 347) уяўляе сабой канторскі сшытак памерам 24×38 см., які складаецца з 51-й с.

Упершыню гэты рукапісны тэкст паэмы быў расчытаны І. Гарэцкім пры падрыхтоўцы Зб. тв. Я. Купалы ў 6-і тамах. У далейшым тэкстолаг Р. Гульман, рыхтуючы наступны Зб. тв. у 7-і т., значна пашырыла каментарый да паэмы: павялічана колькасць варыянтаў чарнавога аўтографа, упершыню прадстаўлены спіс дзеючых асоб і іх характарыстыка.

Рукапіс паэмы мае аналагічную гісторыю з рукапісным варыянтам зб. «Шляхам жыцця». Я. Купала перадаў сшытак з рукапісным тэкстам паэмы К. Душэўскаму, які зложыў яго ў дэпазіт Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Ёсць прозвішча таго, хто прыняў рукапіс. Гэта — Антон Луцкевіч. Побач з пячаткай Беларускага музея пастаўлена дакладная дата: 6.1 1930 г.

На асобнай старонцы рукапісу назва паэмы: «Сон на кургане». У 4-х адслонах.

У сшытку пачатак паэмы даецца ў двух варыянтах. У першым — аўтарскае жанравае вызначэнне: драма — казка. Тут жа ідзе пералік дзеючых асоб з характарыстыкай.

«Асобы:

1. Світавід — хто ён, скуль і з якога часу немаведама; рост,

[1] Рэдкалегія дадзенага выдання пагадзілася з папраўкамі, прынятымі складальнікамі папярэдняга Збору твораў у 7-і тамах.

век, род і званне яго немаведама якія, таксама няведама, добры ён ці благі, выгляд усё-такі чалавечы.

2. Славіра — павеўнае стварэнне, у кабечым вобразе, чуткая, як пылінка цвету на ўсякі павеў ветру, прыгажосць не апісаная, не земская, убор яе як тканая з золата паўцінка, усыпаная брыльянтамі; на цёмна-залацістых валасах — вечны вянок з незабудак і жытніх каласкоў.

3. Звычайны чалавек — малады (лет 20—30), мае ў сабе вялікую надзею ў шчасце негаданае як для сябе, так і для цэлага жыцця людскога, але <ідзе> сваёй дарогай, мучыць яго цяперашняя доля чалавека на зямлі.

4. Паланея — маладая дзяўчына, сэрца мае добрае, любячае, па-простаму любіць жыццё, людзей і цэлы свет божы; але выдае сваімі думкамі, што калі б пакахала лепей ад усіх якога-небудзь мілавіда, то не здабраваць самой, калі б той не адплачываўся тым самым; убор яе звычайны дзявочы.

5. Кабета-вар'ятка — уся растрапаная, паяўляецца найболей, дзе яе менш усяго спадзяваюцца, у нязвыклым відзе і пляце нестваранья рэчы; часам з яе смяюцца, а часам баяцца, і дражнююць, і ўцякаюць ад яе.

6. Мікітка — дурнаваты, апранаецца неяк смешна; на галаве капялюш, на нагах старыя расхляпаныя камашы, на целе нагавіцы і кашуля зрэбныя; бляшку нейкую носе замест гадзінніка, на пальцах заместа пярсцёнкаў кольцы ад набeрадкаў конскіх. Смяецца сам з усіх і з усяго, і ўсе з яго смяюцца, пакуль у злосць не ўвядзе».

У другім варыянце першы абраз спачатку меў назву «Пралог». Але тут жа дапісана простым алоўкам канчатковая назва — «У пушчы».

Першыя тры абразы пазначаны датамі. Дзве даты ў пачатку і ў канцы першага абраза: 20.VII 1910 і 22.VII 1910 г. Пад тэкстам другога — 26.VII.1910 г., трэцяга — 28.VII.1910 г.

На старонках сшытка ёсць чарнавыя накіды з розных актаў паэмы. Асаблівую цікавасць прадстаўляе наступны запіс, які можна лічыць дадаткам да характарыстыкі дзеючых асоб:

[7] жыд — мужчыну і кабету
[8] Духоўнік — Кабета на [неразб.]
[1] Законадацель — взятку
[2] Законааберацель — за горла вымагае
[3] Пан — Мужыка-старога
[4] Фабрыкант — рабочага маладога
[5] Гандляр водкай — 3 падростка, маладога і старога.
[6] У сурдуце — маладую дзяўчыну

У рукапісе 4-ы раздзел паэмы не меў назвы.

Маналог Старца ў аўтографе мае некалькі варыянтаў. Першы — закрэслены. Тэкст маналога як асобны твор быў надрукаваны ў «Нашай ніве» (1910, № 26, 24 чэрв.) пад назвай «На Купалле». Пад публікацыяй дата: 5.VI 1910 г. Паколькі першая дата ў аўтографе паэмы 20 ліпеня 1910 г., відавочна, што маналог Старца быў напісаны і апублікаваны раней за драматычную паэму. Публікацыя верша была прымеркавана да свята Купалле.

Працуючы над рукапісам паэмы, складальнікі папярэдняга Збору твораў не заўважылі рукапісны варыянт верша «Мая думка» (1910). Аўтограф уяўляе сабой чарнавы накід першых дзвюх строф без назвы і поўны варыянт верша, напісаны простым алоўкам. Некаторыя радкі

і праўкі зроблены чорным чарнілам. Да гэтага часу быў вядомы толькі машынапісны тэкст верша, які знаходзіцца ў сшытку № 2 Б. І. Эпімах-Шыпілы ў ДзЛМЯнК (ф. А, воп. 1, адз. зах. 15). Машынапіс датуецца 19/8.1910 г. Але даты, пастаўленыя ў рукапісе паэмы «Сон на кургане», больш раннія (20.VII—28.VII 1910), што дае падставы аднесці стварэнне верша да ліпеня.

Наяўнасць чарнавога накіда, поўнага рукапіснага тэксту верша і машынапісу дазваляе прасачыць за працэсам нараджэння твора, вызначыць характар і напрамак аўтарскіх перапрацовак на шляху ўдасканальвання тэксту.

Рукапісны тэкст верша «Мая думка» ўпершыню быў выяўлены і расчытаны ўжо тады, калі II том (вершы 1908—1910 гг.) быў здадзены ў друк. І таму апісанне яго даецца ў дадзеным томе.

«Сон на кургане» — самая буйная з драматычных паэм. М. Багдановіч назваў яе драмай, напісанай рыфмовым вершам[1].

У артыкуле «Белорусское возрождение» М. Багдановіч вызначыў галоўную асаблівасць паэзіі Купалы — незвычайную рытмічнасць: «Его буйные, стремительные ритмы захватывают, гипнотизируют читателя, не дают ему задержаться, опомниться, покоряют его своей власти. Ими обусловлены и все достоинства, равно как и недостатки...»[2]

Паказальна, што малады паэт адзін з першых звярнуў увагу чытача на майстэрства Купалы, які з цягам часу пашыраў «кола сваіх тэм, форм і стыляў». З'яўленне такіх твораў, якія ўвайшлі ў зборнік вершаў «Шляхам жыцця», п'есы «Паўлінка» і лірычнай паэмы «Сон на кургане», далі падставы М. Багдановічу сказаць пра паспяховую працу Я. Купалы «над общей архитектурой произведения, конструкцией строфы, комбинациями рифм и т. п.»[3].

Найбольш дэталёвы аналіз паэмы даў М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» ў раздзеле, прысвечаным творчасці Я. Купалы[4]. М. Гарэцкі лічыў, што ўлетку 1910 г. паэт «знаходзіўся пад вялікім уплывам сусветнае і расійскае літаратуры». З паэмай жа М. Гарэцкі звязвае другі перыяд творчасці Я. Купалы, «калі ў яго пачаўся працэс самастойнага, індывідуальнага агляду спрадвечных, праклятых пытанняў, калі ён падвадзіў свой ранейшы масава-сялянскі светагляд пад шырокія рамкі свядома ўспрынятых сусветных ідэй». Падкрэсліваючы артыстызм паэмы, які, на яго думку, стасуецца з «Адвечнай песняй», даследчык ахарактарызаваў «Сон на кургане» як далейшае развіццё «Адвечнай песні» ў плане «духовасці». М. Гарэцкі слушна заўважае, што рэальнае, праўдзівае жыццё стылізавана ў сімвалічных вобразах. Аналізуючы паэму з мастацкага боку, аўтар «Гісторыі...» зазначыў, што для Я. Купалы галоўнае ў паэме не сюжэт, а «спосаб звязаць у больш-менш суцэльны выгляд яго думкі, вылітыя ў глыбока пераżытых лірычных эпізодах»[5]. Адсюль «нейкая нязвязанасць і неаднароднасць частак». Але тут жа дадае, што такое ўражанне складваецца толькі пры першым чытанні: «...багацце думак і вольнасць форм таксама абцяжваюць пры першым чытанні паэмы яе зразуменне і сеюць думку аб нязвязанасці частак. Але паэма ўжо

---

[1] Багдановіч М. Т. 2. С. 224.
[2] Тамсама. С. 279.
[3] Тамсама. С. 280.
[4] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 330.
[5] Тамсама. С. 331.

адразу захоплівае магічнасцю свайго мастацтва кожнага чытача, а далей яна ўжо разлічае на чытача сур'ёзнага і дае яму вялікую эстэтычную насалоду»[1]. Разглядаючы змест паэмы і яе ідэйную накіраванасць, М. Гарэцкі лічыць, што галоўны герой паэмы «Сам — гэта сам аўтар, сам беларускі народ, сам кожны беларус, каторы жыве духовым жыццём свайго народа»[2]. І далей, працягваючы думку, даследчык упэўнены, што «Сам — сімвал лепшых сыноў народа, змагальнікаў за адраджэнне...».

На рускую мову паэму пераклаў М. Браўн.

Па матывах паэмы В. Нікановіч-Сахарава напісала п'есу «На полацкім замчышчы», да якой К. Галкоўскі зрабіў 6 музычных ілюстрацый. Ілюстраваў паэму У. Сакалоў.

*На папасе* (с. 112)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. IV, за выключэннем радка 211, які падаецца па белавым аўтографе. У асноўным тэксце было: *Што трохі аб жыцці тваём.*

Упершыню — зб. «Шляхам жыцця» (Пецярбург, 1913).

Датуецца годам апублікавання.

Урывак з паэмы як самастойны твор пад назвай «Лявон» быў апублікаваны ў «Нашай ніве», 1908, № 17, 15 жн. з жанравым вызначэннем «Песня-казка». Пад тэкстам подпіс: І. Л.

Друкавалася ў зб. «Шляхам жыцця» (1923, 1935), «Безназоўнае» (1925, 1928) і ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Аўтограф — у рукапісным зборніку «Шляхам жыцця» (адз. зах. 118, л. 272—294).

Наяўнасць варыянтаў аўтографа дае магчымасць прасачыць за зменамі ў тэксце. Першыя папраўкі Я. Купала ўнёс ужо ў карэктуру:

Радкі 65 А можа хто яшчэ пад'едзе
167 А выходзіў — слязамі свет значыўся
214 Паводзі коням я папраўлю
250 Што ты?! Ці ж мы такія?
307 З пустынных ніў, з пакутных гор
Пасля 311 Пайшлі хадзіць па свеце чуткі,—

закрэслена і пастаўлена шматкроп'е.

Далей, пры падрыхтоўцы другога выдання зборніка «Шляхам жыцця» (1923), паэт перапрацаваў наступныя радкі:

77 Цурком дождж льецца як із луба;
143 Вы, братцы, сядзьце у кружок,
147 Начаць вам думкі весяліць?
270 Я ёю думкі ўсё апутаў:
335 Чапае могілак крыжы.
385 Сюдою путнік шоў адзін?
390 Паедзем дальшэ, тут нічога

Рыхтуючы зборнік «Безназоўнае» (1925), Я. Купала ізноў вярнуўся да тэксту паэмы:

188 Груганы на дабычу злятаюцца
191 Не ў руку, што Лявон прачухаецца,
274 Свайго жыцця я відзеў марнасць,
291 За годам выплаканьшы год.

---

[1] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 331.
[2] Тамсама. С. 332.

У першай публікацыі аўтар назваў паэму «Абразком», тым самым падкрэсліўшы яе жанравыя асаблівасці. У далейшым у зборніку «Безназоўнае» Я. Купала больш дакладна вызначыў час, у які адбываюцца падзеі ў паэме: «Абразок з 1906 года».

У 1928 г., пасля выхаду ў свет IV т. першага Збору твораў Я. Купалы, Язэп Пушча ў сваім артыкуле аб творах, якія ўвайшлі ў названы том, пісаў: «На папасе» — рэч самая аўтабіяграфічная з усіх, змешчаных у IV томе. Тут адразу пад Незнаёмым пазнаем мы Янку Купалу, які гаруе над праклятай доляй беларускага народа і які добра ўсё ж разумее, як гэты народ у такую цяжкую гістарычную пару ацэньвае і ўспрымае яго песню...»[1]

На думку даследчыка Р. Семашкевіча, «вобраз Незнаёмага — выразны алегарычна-сімвалічны вобраз». Ёсць меркаванне, што на з'яўленне дадзенага вобраза паўплывала рамантычная плынь польскага драматурга С. Выспянскага. Магчыма, Я. Купала бачыў віленскую пастаноўку п'есы С. Выспянскага «Вяселле» (ЭД. С. 418).

Паэма «На папасе» больш за іншыя драматычныя паэмы ставілася ў Заходняй Беларусі аматарамі драмгурткоў беларускіх школ і маладзёжнымі клубамі. Аб гэтым сведчыць В. Таўлай, які прысутнічаў на адным са спектакляў: «Выдатны драматычны абразок Янкі Купалы з 1906 года «На папасе», які часта ставіўся на аматарскай сцэне, пераклікаўся з новай сапраўднасцю... Песня Лявона гучала і на волі і ў астрогах»[2].

У Заходняй Беларусі песня пра Лявона стала народнай, пазней У. Тэраўскі зрабіў яе апрацоўку.

Зараз ужо ёсць дакладныя звесткі, дзе, калі і якімі калектывамі ажыццяўляліся сцэнічныя пастаноўкі паэмы «На папасе»: у 1922 г. вучнямі Віленскай беларускай гімназіі (15.VI) і Радашковіцкай беларускай гімназіяй (верасень); у 1924 г. паэма была пастаўлена калектывам Беларускай драматычнай майстроўні ў Вільні (25. III)[3], і ў 1926 г.— у Полацку самадзейнымі артыстамі (май)[4].

Паэма карысталася папулярнасцю і ў 30-я гады, аб чым сведчаць архіўныя матэрыялы. У ДзЛМЯнК захоўваецца «Запрашальны білет на ўрачысты вечар, прысвечаны 25-гадоваму юбілею літаратурнай творчасці Прарока адраджэння Беларускага народа Янкі Купалы, каторы адбудзецца дня 27.IX.30 г. у залі Віленскай беларускай гімназіі. У праграме вечара «На папасе». 20 лістапада 1932 г. у Латвіі, на вечары, прысвечаным 50-годдзю Я. Купалы і Я. Коласа, пастаноўку паэмы ажыццявілі вучні Дзвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі.

Удзельнік канферэнцыі «Янка Купала-публіцыст» (20—21 кастр. 1997 г.) Вітаўт Кіпель у сваім выступленні нагадаў, што беларускія эмігранты ў Амерыцы на кожнае нацыянальнае свята ставілі «На папасе»[5].

Пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў і С. Родаў, на англійскую (урывак «Лявон») — А. Пракоф'ева.

*Урывак з драматычнай паэмы* (с. 127)

Друкуецца па Зб. тв., т. VI з папраўкай па аўтографе радка 150. У асноўным тэксце было: *Развесім думак чорных хмару.*

---

[1] Пушча Я. Т. 2. С. 311.

[2] Янка Купала. Зб. матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці народнага паэта БССР. Мн., 1952. С. 160.

[3] Сав. Беларусь. 1924. 9 крас.

[4] Чырвоная Полаччына. 1926. 13 мая.

[5] Кіпель В. (н. 1927) — вучоны, літаратуразнавец, грамадска-палітычны дзеяч.

Датуецца 1911 г.

У далейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6 з датай: 1910.

Высветліць дакладную дату напісання пакуль што не ўяўляецца магчымым, паколькі адсутнічаюць архіўныя матэрыялы, якія пацвердзілі б адну з прыведзеных дат. Можна меркаваць, што прастаўленая ў часоп. «Полымя» дата больш дакладная. Атрымаўшы ад Б. Эпімах-Шыпілы частку рукапісаў, якія ніколі не друкаваліся, Я. Купала сам рыхтаваў тэксты да першай публікацыі.

У лісце да Л. Клейнбарта ад 25 чэрвеня 1929 г. паэт падкрэсліў, што знойдзеныя рукапісы ўсе датаваныя.

«Урывак з драматычнай паэмы», змешчаны ў т. VI Зб. тв. (1932), з'яўляецца звычайнай перадрукоўкай з першай публікацыі. Таму дату, пастаўленую ў Зборы твораў, ёсць падставы лічыць недакладнай.

Чарнавы рукапіс (адз. зах. 128-а, л. 1—8) складаецца з 8-мі невялікіх блакнотных лісткоў, якія пранумараваны з аднаго боку арабскімі лічбамі, з другога — рымскімі. Тэкст напісаны чарнілам і простым алоўкам. Усе лісткі перакрэслены, і таму можна з упэўненасцю сцвярджаць, што перад першай публікацыяй тэкст перапісваўся і перапрацоўваўся, аб чым сведчаць тэкстуальныя розначытанні чарнавога аўтографа і часопіснай публікацыі.

Твор застаўся незавершаным, але ідэя яго, своеасаблівая стылістыка і вобразная сістэма сведчаць аб «арыгінальнасці і маштабнасці няздзейсненай задумы» (ЭД. С. 617). Урывак з драматычнай паэмы не ўвайшоў у першы пасмяротны Збор твораў, 1951—1954. І толькі праз 30 гадоў пасля выхаду ў свет VI т. Зб. тв. (1932) незавершаны твор заняў сваё месца сярод драматычных паэм.

## П'ЕСЫ

### *Паўлінка* (с. 139)

Друкуецца па Зб. тв., 1927, т. III з улікам некаторых змен, унесеных аўтарам у выданне 1937 г. (Паўлінка. Камедыя ў двух актах. Мн., 1937).

Упершыню — асобным выданнем у 1913 г. у Пецярбурзе літаграфскім спосабам у выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца» (85 с.) з падзагалоўкам: «Сцэны з шляхоцкага жыцця ў 2-х актах». Пад тэкстам: Акопы, 3.VI 1912 г.

На адвароце тытульнага ліста надпіс: «На арыгінале напісана: «Къ представленію дозволено за № 15679 С.-Петербургъ 23 ноября 1912 года. За цензора драматическихъ сочиненій Ребровъ» (КП 883-а/кн. 148).

Адзін з першых экземпляраў выдадзенай п'есы Я. Купала падараваў Ластоўскаму В. з надпісам: «Даражэнькаму Власту шчыра адданы аўтар. СПб, 14/II 1913 г.». (КП 17123/кн. 1208).

П'еса друкавалася ў 1927 г. у Вільні (Выданне другое. Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, выдавец — І. Мятла). Пад тэкстам памета з недакладнай датай: 5 мая 1912 г. «Паўлінка» ўваходзіла і ў Збор твораў, 1932, т. III.

У выданне 1937 г. Я. Купала ўнёс некаторыя змены: зроблены значныя скарачэнні, перапрацавана заключная частка. Перапрацоўкі былі выкліканы патрабаваннямі самадзейнай сцэны.

У ДзЛМЯнК захоўваюцца чарнавы і белавы аўтографы. У белавым — памета: Акопы. 3/VI 1912 г. (ф. А., воп. 1, адз. зах. 348, л. 1—106).

Параўноўваючы асноўны тэкст з чарнавым і белавым аўтографамі, можна заўважыць, што перапрацоўкі насілі моўна-стылёвы характар. Паэт настойліва шукаў тыя словы, якія найбольш адпавядалі паводзінам герояў і іх учынкам.

Рукапісныя тэксты знаходзяцца ў канторскім сшытку памерам 24×38 см. Ён мае аналагічную гісторыю з рукапісным зборнікам «Шляхам жыцця» і рукапісам паэмы «Сон на кургане». Я. Купала перадаў праз К. Душэўскага ў дэпазіт Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні сшытак, які быў зарэгістраваны А. Луцкевічам 6.1.1930, аб чым сведчыць пячатка Беларускага музея.

Аб завяршэнні працы над п'есай Янка Купала адразу паведаміў свайму сябру праф. Б. І. Эпімах-Шыпілу ў лісце ад 5 чэрвеня 1912 г.: «Напісаў у двух актах камедыю, каторую чытаў пану Лявіцкаму[1], і ён сказаў, што напісана дарэчы. Камедыя называецца «Паўлінка», напісана прозай, з шляхоцкага жыцця. Калі мне ўдасца перапісаць на машынцы ў колькі экземплярах, то дарагому п. прафесару прышлю адзін экземпляр для прагляду» (гл. пісьмо ад 5 чэрвеня 1912 г. у т. VII папярэдняга Збору твораў).

Камедыя «Паўлінка» мае своеасаблівую творчую гісторыю. Спачатку Я. Купала меркаваў напісаць празаічны твор пад назвай «А вербы шумелі...». У сшытку разам з чарнавым і перарobленым варыянтамі п'есы знаходзяцца рукапісныя старонкі, дзе апавядаецца пра нешчаслівае каханне Паўлінкі і Міколы. У далейшым іх дыялог быў цалкам уключаны ў камедыю. Але герой твора Мікола ў п'есе носіць імя Якім Сарока.

Аб тым, што існавала апавяданне «А вербы шумелі...», стала вядома ў 1937 г., калі 4 красавіка на паседжанні літаратурна-мастацкай секцыі Беларускага Навуковага Таварыства Антон Луцкевіч зрабіў даклад «З нязнаных рукапісаў Я. Купалы». Даклад складаўся з 2 раздзелаў: 1. Няскончаная паэма «Гарыслава» і 2. Пачатковая форма камедыі «Паўлінка». Адзначалася, што матэрыялы ўзяты з Беларускага музея імя І. Луцкевіча ў Вільні.

Рукапісны тэкст прачытанай лекцыі захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (ф. 3, «Н. Н.», воп. 1, адз. зах. 273). А. Луцкевіч пісаў: «Відаць, Купала, які не мае нахілу да апавяданняў у прозе, захапіўшыся ідэяй «Паўлінкі», зараз жа перайшоў з формы апавядання на форму драматычную. І гэтак паўстала камедыя «Паўлінка». Лекцыя была напісана 25.VII<19>36 г.

Трэба адзначыць, што дата завяршэння п'есы ў А. Луцкевіча недакладная: 3 мая 1912 г. Гэтая памылка перайшла ў матэрыялы лекцыі А. Луцкевіча з прыгаданага выдання п'есы ў 1927 г. Што датычыцца апавядання, то дакладная дата яго напісання адсутнічае. Таму можна пагадзіцца з меркаваннем А. Луцкевіча, што «адрывак незакончанага апавядання быў напісаны крыху раней — напрыканцы зімы ці ў раннюю вясну 1912 г.». У дакладзе было адзначана, што апавяданне не друкавалася.

Рукапісныя варыянты п'есы «Паўлінка» трапілі ў ДзЛМЯнК у канцы 40-х гадоў з Беларускага музея імя І. Луцкевіча дзякуючы намаганням У. Ф. Луцэвіч. Упершыню звесткі пра іх былі выкладзе-

[1] Лявіцкі Антон Іванавіч (1869—1922), літ. псеўд. Ядвігін Ш.

ны ў Зборы твораў (1952—1954). Але змест апавядання па невядомай прычыне не быў уключаны ў каментарыі. У наступным Зборы твораў (1961—1963) апавяданне ўпершыню было надрукавана цалкам.

Прыводзім гэты тэкст:

«...А вербы шумелі, шумелі, як яны ўдваёчку хадзілі над рэчкай, прыглядаліся ў люстры бліскучай вадзіцы, бегалі, збіралі на зялёнай сенажаці кветкі-пралескі, пасля садзіліся ўдваёчку пад зялёнымі галінамі, а вербы над імі шумелі, шумелі.

Вясна была. Наша крывіцкая зямелька ўмее сябе ў часе вясны харошыць зеленню і кветкамі. Не бачуць толькі гэтага хараства сыны, родныя дзеці гэтай няшчаснай старонкі-пакутніцы. Слёзы і кроў залілі сінія беларускія вочы, слёзы і кроў... Паслеплі на службе батрацкай, у працы крывавай паднявольнай...

Вясна... Цвітуць яблыні... белыя яблыні цвітуць, плёскочуць, бурляцца рэчкі-крыніцы, шуміць лес, голасна зялёны лес шуміць, жаліцца, плача...

Гэта ўжо другая ці трэцяя вясна ішла, як яны спазніліся, як яны адно другому да сэрца прыпалі. Другая ці трэцяя вясна, а ўсё нічога не выходзіла. Бацькі яе насупроці ішлі, каб яны з сабою пабраліся. А яны так любілі адно другога, так любілі...

Сядзяць пад вербамі. Рады, што ніхто іх не бача, ніхто ім не замінае. Адно толькі неба сіняе ды агністае сонца ім прыглядаюцца, любуюцца. А вербы зялёныя шумяць, шалясцяць лісточкамі, як бы штосьці соладка-мілае нашэптываюць ім, ненаглядным.

— І дакуль жа гэта ўсё будзе цягнуцца,— адазваўся прыглушаным голасам першы ён.— Дакуль будзе сухавей сушыць і мучыць нас? Калі ўжо надойдзе тая часінка, што нас злучыць навекі, і мы ўжо ніколі не расстанемся... Калі, калі?..

— Ха-ха-ха! На святое ніколі,— засмяялася неяк дзіўна.— Чуў жа ты хіба не раз, што бацькі вытвараюць, як даведаліся, што я з сваім Міколкам дужа блізкае знаёмства забрала...

— А ўсё-такі нічога яны не зробяць гэтай сваёй злосцю. Я ўсе свае сілы ўлажу, жыцця не пажалею, буду чарвяком перад імі поўзаць, горкімі слязьмі вымалю ў іх цябе, мая ненаглядная зорачка...

— Э! не туды, мой дурненькі Міколка, паехаў. Уедзеш гэтак у нерад, што ні ўзад ні ўперад... Вельмі ўжо старыя заеліся, і хоць ты ім кол на галаве чашы — нічога не выдзяўбеш. Ці ж ты і сам не ведаеш, што яны, а найболей бацька вычвараюць на цябе. Татка мой родны, каб мог, дык на першай галіне цябе павесіў бы... Ці ж не ведаеш?..

— Ой, чаму не ведаю... А ўсё-такі надзеі не трачу... А вось адпусціцца... Такі ж ён некалі мяне любіў... Быў час, што і ў бядзе памагаў мне...

— Быў час, быў, але прахам сплыў. Другую песню цяпер татка мой пяе... Нож на цябе точыць, востра точыць нож на таго, каго калісь сам любіў і каго я палюбіла і вечна любіць буду,— закончыла яна з нейкай сумнай рызыкай.

— А ведаеш што, Паўлінка,— адазваўся да яе, памаўчаўшы трохі, Мікола.— Калі нічога просьба не паможа, мы ўцячом з табой».

У першапачатковых варыянтах п'есы, акрамя вядомых персанажаў, былі названы яшчэ дзве дзеючыя асобы: Кастуся, 20-гадовая сястра Паўлінкі, і Мікіта Кутас, 23 гадоў, сусед Крыніцкіх.

Сярод шматлікіх водгукаў на драматургічныя творы Купалы звяртаюць на сябе ўвагу старонкі ў «Гісторыі беларускае літаратуры» М. Гарэцкага, якія прысвечаны п'есам. Аўтар, аналізуючы «Паўлінку»

і «Раскіданае гняздо», падкрэсліў вялікую розніцу між імі, нягледзячы на тое, што першая напісана ў чэрвені 1912 г., а другая — у лістападзе 1913 г.

На думку М. Гарэцкага, «Паўлінка» належыць да першага перыяду ў творчасці паэта, а «Раскіданае гняздо» — да другога. «У першым — прастата і свежасць зборніка «Жалейка», у другім — артыстызм і сімвалізм паэмы «Сон на кургане».

Адзначыўшы поспех, які маюць п'есы на беларускай сцэне, М. Гарэцкі падкрэсліў і іх літаратурныя вартасці. Ён пісаў аб «Паўлінцы»: «Шляхоцкае жыццё змалёвана тут дужа яскрава, жыва й проста. Можна думаць, што аўтар спісаў сваіх герояў з сапраўднага жыцця». Дзеючыя асобы п'есы сапраўды мелі сваіх прататыпаў. Па ўспамінах сястры паэта Ганны, прататыпам Паўлінкі была Ядзя Аблачымская, «прыгожая дзяўчына з цудоўным голасам», у якую быў закаханы і сам Купала. Якім Сарока быў напісаны з Мечыслава Багдановіча, настаўніка, стрыечнага брата Ядзі, што жыў у сям'і Гілярыя Аблачымскага, які стаў прататыпам Сцяпана Крыніцкага[1].

М. Гарэцкі адзначыў, што бытавыя малюнкі ўдаліся аўтару найболей, а «духовая старана — слабей, псіхіка дзеючых асоб толькі злёгку закранута; яна паказана ў такой меры, у якой праходзіць прад вачмі звычайнага чалавека»[2].

Асаблівую ўвагу звярнуў аўтар даследавання на вобраз Паўлінкі, падкрэсліўшы яго тыповасць: «...партрэт Паўлінкі выглядае мастацкім тыпам, і беларускія дзяўчаты з шляхоцкіх ваколіц могуць пазнаць у ім шмат свайго характару»[3]. У заключэнні М. Гарэцкі выказаў шкадаванне, што ў драме адсутнічае трэці акт і мала сказана і «аб новым чалавеку беларускага жыцця — Якіме Сароку».

Вядомы драматург і рэжысёр Ф. Аляхновіч у кнізе «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924) пісаў: «Паяўленне на свет «Паўлінкі» было важным здарэннем у жыцці беларускага тэатра, а прэм'ера п'есы была мастацкім святам»[4]. Што датычыцца дзеючых асобаў і развязкі, то тут яго ацэнка цалкам супадала з меркаваннямі М. Гарэцкага на гэты конт. Ф. Аляхновіч лічыў, што псіхалогія характараў распрацавана павярхоўна, «развязка нейкая няўдалая». Але драматург не спыняецца на недахопах п'есы, падкрэсліваючы, як жыва напісаны сцэны,і наяўнасць «няхітрага простага беларускага юмару». Не засталіся незаўважанымі і рысы карыкатурнасці ў абмалёўцы характараў. І гэта, на думку Ф. Аляхновіча, адна з прычынаў заслужанага поспеху, якім п'еса карыстаецца на беларускіх сцэнах. Але пры гэтым ён сцвярджаў, што з мастацкага боку як драматычны твор п'еса не скончана. Менавіта такое меркаванне штурхнула Ф. Аляхновіча да напісання п'есы «Заручыны Паўлінкі» з іншым фіналам. Тэатразнавец У. Няфёд пісаў: «Калі ў Купалы фінал гучыць драматычна, нягледзячы на тое, што папярэдняе развіццё падзей мае камедыйны характар, дык у Аляхновіча ён традыцыйна забаўляльны, шчаслівы»[5]. Як успрыняў Я. Купала дапіску Ф. Аляхновіча? Па гэтым пытанні і па сённяшні дзень спрачаюцца тэатразнаўцы і даследчыкі творчасці паэта. Я. Рамановіч, які быў знаёмы з Я. Купалам і Ф. Алях-

---

[1] ЭД. С. 463.
[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 337.
[3] Тамсама.
[4] Аляхновіч Ф. Беларускі тэатр. Вільня, 1924. С. 96.
[5] Няфёд У. Францішак Аляхновіч. Мн., 1996. С. 48.

новічам, прыгадвае размову паміж Я. Міровічам, Я. Купалам і Ф. Ждановічам наконт пастаноўкі «Паўлінкі» ў пачатку 20-х гадоў у БДТ-1: «Міровіч прасіў Купалу, каб ён перарабіў канцоўку камеды... што ў сітуацыі п'есы роспач Паўлінкі не зробіць сцэну драматычнай, а можа выклікаць непаразуменне і знізіць пад канец вясёлы тонус гледача, а гэта непажадана»[1]. І тады Ждановіч прапанаваў паставіць трэці акт па Аляхновічу. Але Я. Купала катэгарычна не прыняў такую прапанову і, паводле Я. Рамановіча, выказаўся вельмі рэзка ў адрас Ф. Аляхновіча: «...гэты палітычны авантурыст хоць і быў спрактыкаваным драматургам, але і тут без авантуры не абышоўся!» У адказ на гэта Я. Міровіч сказаў: «Мы паставім «Паўлінку» так, як яна напісана»[2]. Прыгадваючы прэм'еру дадзенай пастаноўкі, Я. Рамановіч адзначыў, што ў параўнанні з «Паўлінкай» Ф. Ждановіча яна «вызначалася больш глыбокім рэалістычным раскрыццём характараў, большай жыццёвай дакладнасцю»[3].

У хуткім часе пасля Вялікай Айчыннай вайны ў гутарцы з У. Няфёдам У. Луцэвіч прыгадала: «Добра памятаю, як Янка абураўся дапіскай Аляхновіча. І гэта прывяло да разрыву ўсякіх стасункаў паміж імі»[4].

Ва ўспамінах У. Луцэвіч насцярожвае, аднак, яе імкненне падкрэсліць, нібыта Я. Купала не меў ніякіх сувязей з Ф. Аляхновічам. Ведаючы пра трагічны лёс драматурга і адносіны да яго афіцыйных уладаў у той час, можна дапусціць, што У. Луцэвіч вымушана была зрабіць падобную заяву.

Іншай думкі прытрымліваецца тэатразнавец А. Сабалеўскі, калі піша пра п'есу Ф. Аляхновіча «Заручыны Паўлінкі». Ён сцвярджае, што «...абвінавачванні Аляхновіча за тое, што ён сказіў камедыю Янкі Купалы, яе ідэю, аблягчае канфлікт, не толькі беспадстаўныя, а і проста недарэчныя!..»[5] Той факт, што Ф. Аляхновіч у прысвячэнні сваёй п'есы напісаў: «Ахвярую Купале», гаворыць пра вялікую павагу, з якой аўтар ставіўся да Купалы. На думку А. Сабалеўскага, пры адсутнасці дакументальных фактаў няма ніякіх падстаў лічыць, «што Я. Купала не прыняў гэтага дару».

Як вядома, пытанні развіцця нацыянальнай драматургіі ў 20-я гады аказаліся ў цэнтры ўвагі даследчыкаў і творчай інтэлігенцыі.

У лістападзе 1924 г. прайшла дыскусія на тэму «Аб шляхах беларускай драматургіі», арганізаваная культаддзелам работнікаў мастацтва (Рабіс) і культкамісіяй БДТ-1. Сярод абмеркаваных твораў была і п'еса «Тутэйшыя»[6].

Тэатральная дыскусія, якая пачалася артыкулам Т. Глыбоцкага ў газ. «Савецкая Беларусь» (1927, 27 кастр.), працягвалася да 24 лістапада. У ёй прынялі ўдзел М. Зарэцкі, З. Жылуновіч, А. Александровіч, А. Вольны, І. Цвікевіч, В. Ластоўскі, І. Васілевіч, А. Адамовіч і інш. Бюро ЦК КП(б)Б прыняло 17 снежня «Пастанову аб выніках дыскусіі па тэатральных пытаннях»[7]. Прадметам грунтоўнага аналізу з'явілася драматургія Я. Купалы ў артыкуле І. Замоціна «Беларуская

---

[1] Рамановіч Я. Знаёмыя сілуэты. Мн., 1974. С. 16.
[2] Тамсама. С. 16.
[3] Тамсама. С. 17.
[4] Няфёд У. Францішак Аляхновіч. С. 49—50.
[5] Тэатральная Беларусь. 1992. № 3.
[6] Звязда. 1924. 23 лістап.
[7] Бальшавік Беларусі. 1927. № 12. С. 97—98.

драматургія», змешчаным у часоп. «Узвышша» (1927, № 1). Аўтар даследавання адзначае, што, нягледзячы на недахопы ў «драматургічнай архітэктоніцы», п'еса «Паўлінка» дае шэраг яскравых тыповых зарысовак і вобразаў». Да станоўчых момантаў твора І. Замоцін адносіць і «экспазіцыю характараў», «яго героі трапна і яскрава характарызуюць самі сябе і адзін другога ў сваіх размовах і дзеяннях». Не засталіся па-за ўвагай даследчыка і дыялогі камедыі, сіла якіх у яе «маляўнічай і эмацыянальнай мове». Шкадаванне аўтара выклікае незавершанасць п'есы. На яго думку, яна «засталася незакончанай...». Але ў пастаноўцы, «дзякуючы шматлікім спевам і танцам у другім акце», камедыя ператварылася ў вадэвіль, «замест таго, каб вырасці ў яскравую бытавую п'есу».

З асобнымі крытычнымі заўвагамі І. Замоціна можна часткова пагадзіцца. Але трэба мець на ўвазе, што на погляды даследчыка ў той час ужо аказвала ўплыў вульгарна-сацыялагічная крытыка. Засталася не адзначанай І. Замоціным нацыянальная самабытнасць і непаўторнасць Я. Купалы-драматурга.

Сярод купалаўскіх п'ес «Паўлінка» мае самую багатую сцэнічную гісторыю.

Першую пастаноўку п'есы ажыццявіў Беларускі музыкальна-драматычны гурток у Вільні ў зале «Сокал» 27 студзеня 1913 г. Кіраўніком гурта быў Б. Даніловіч, у бібліятэцы якога ў 1908—1909 гг. працаваў Я. Купала. Газета «Наша ніва» адразу адгукнулася на пастаноўку ў нататцы «Беларуская вечарынка»: «Вечарынка 27 студзеня была незвычайная: ставілі на сцэне першы раз «Паўлінку», сцэнічны абразок у двух актах Янкі Купалы. Перад публікай праходзілі тыпы дробнай засцянковай шляхты, каторых аўтар патрапіў жыва выразіць, выказаўшы гэтым вялікую знаёмасць жыцця беларускага сялянства; чуваць было, што гэта не робленыя, а жывыя тыпы нашай вёскі... На вечарынку гэту сумысна прыехаў здалёку аўтар яе Янка Купала. Аўтара публіка выклікала на сцэну і, надзяляючы густымі воплескамі, падала яму памятку-падарак ад віленскіх беларусаў — залаты гадзіннік з надпісам: «Аўтару «Паўлінкі» віленскія беларусы 27 студзеня 1913 г.». Артыстцы, каторая іграла ролю Паўлінкі, п. Маркевічанцы, аўтар падаў на сцэну букет з жывых кветак».

Другая пастаноўка п'есы адбылася ў Пецярбургу 9 лютага 1913 г. Яе падрыхтавалі члены гуртка беларускіх студэнтаў. Паставіў спектакль артыст Александрынскага тэатра К. Бэкін-Драздоў.

Я. Купала, які з восені 1912 г. знаходзіўся ў Пецярбургу, прымаў непасрэдны ўдзел у рабоце над спектаклем у якасці кансультанта. У галоўнай ролі выступіла Паўліна Мядзёлка[1]. Газета «Наша ніва» ад 20 лютага 1913 г. змясціла нататку А. Гурло «Беларускае ігрышча ў Пецярбургу». Аўтар водгуку пісаў: «Паўлінку» ў Пецярбургу прыняла публіка дужа прыхільна, як нават і не спадзяваліся ўстраіцелі вечарынкі. Артысты блізка што ўсе сыгралі добра, а публіка біла ў ладкі не толькі ў канцы з'яў, але і ў часе некаторых мейсц ігры камедыі, асабліва Паўлінкі і Адольфа, а такжа ў часе танцаў на сцэне».

Аб тым, з якім энтузіязмам і захапленнем сустрэла публіка пастаноўку п'есы, пазней прыгадвала і П. Мядзёлка: «...Спектакль ішоў гладка, без запінак. А як скончыўся,— гром воплескаў, крыкі прымусілі нас не раз выходзіць на сцэну і кланяцца. Асабліва доўга выклікалі

---

[1] Мядзёлка П. (1893—1974) — заслужаны дзеяч культуры, мемуарыстка, артыстка.

аўтара. Разоў з дзесяць Янка, узяўшы за руку мяне, выходзіў на сцэну»[1].

У 1913 г. Янка Купала перадаў тэкст п'есы членам драмгуртка ў Мінску. Заснавальнікамі гэтага калектыву былі Ф. Ждановіч, І. Буйніцкі, А. Бурбіс і У. Фальскі. Яны меркавалі адкрыць у Мінску беларускі прафесійны тэатр, але афіцыйныя ўлады не далі дазволу. Менавіта сіламі драмгуртка пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча быў пастаўлены спектакль па п'есе «Паўлінка». Але пастаноўка была забаронена. І толькі дзякуючы намаганням Я. Купалы і А. Уласава быў атрыманы дазвол на паказ спектакля ў Радашковічах, які адбыўся 15 жніўня 1913 г. у будынку мясцовай пажарнай дружыны. На ім прысутнічаў аўтар. Аб тым, як прайшоў спектакль, газ. «Наша ніва» паведаміла 5 верасня 1913 г. у нататцы М. Явара «Беларуская вечарына ў Радашковічах»: «Публіка горача біла «брава», вітала і дзякавала, як сваім найдаражэйшым і наймілейшым сваякам. І чулася, што гэтае «брава» было падзякай не за адну толькі добрую ігру, але і за сваё, за роднае, за пагарджанае вякамі беларускае слова».

Чацвёрты раз «Паўлінку» ставіў у пачатку верасня 1913 г. Беларускі музычна-драматычны гурток у Вільні. Пастаноўку аднавілі пры непасрэдным удзеле Я. Купалы.

Названыя пастаноўкі станоўча ўплывалі на развіццё нацыянальнага тэатральнага мастацтва. Гэты працэс знайшоў адлюстраванне на старонках газ. «Наша ніва», якая «тэарэтычна абгрунтавала эстэтычную патрэбу народа ў нацыянальным мастацтве, сілу яго ўздзеяння на станаўленне беларусаў як нацыі»[2].

У далейшым сцэнічны лёс «Паўлінкі» быў цесна звязаны з калектывам Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, які адыграў вялікую ролю ў станаўленні беларускага тэатральнага мастацтва ў перыяд з 1917-га па 1920 г. На першым прадстаўленні, арганізаваным таварыствам 23 красавіка 1917 г., была паказана «Паўлінка», пастаноўку якой узнавіў Ф. Ждановіч. Яе гледачамі былі ўдзельнікі Першага з'езда сялянскіх дэпутатаў Мінскай і Віленскай губерній. На працягу 1917 г. п'еса была паказана ў Бабруйску, Магілёве, Жлобіне, Радашковічах, Оршы і Слуцку.

Паказвалася «Паўлінка» і ў час нямецкай інтэрвенцыі (2.4.1918 г.), калі трупа атрымала дазвол на адкрыццё ў Мінску клуба «Беларуская хатка»[3].

Пры польскай акупацыі, у 1919 г., п'есы Я. Купалы былі забаронены. Пасля вызвалення Другая беларуская трупа (Вандроўны тэатр) пад кіраўніцтвам У. Галубка паставіла п'есу «Паўлінка» ў клубе чыгуначнікаў 25 лютага 1923 г.[4]

У 20-я гады «Паўлінка» ставілася і за межамі Беларусі. 29 красавіка 1923 г. у Люцынскай гімназіі (Латвія) адбылася беларуская вечарынка, на якой была паказана «Паўлінка»[5]. Вучні Дзвінскай Беларускай урадавай гімназіі пад кіраўніцтвам настаўніцы П. Мядзёлкі-Грыб ажыццявілі 10 сакавіка 1924 г. пастаноўку п'есы[6].

---

[1] Янка Купала ў беларускім мастацтве. Мн., 1958. С. 41.

[2] Гаробчанка Т. Купалаўскія вобразы на беларускай сцэне. Мн., 1976. С. 31.

[3] Беларускі шлях. 1918. 4 крас.

[4] Сав. Беларусь. 1923. 1 сак.

[5] Новае жыццё. Вільня, 1923. № 11.

[6] Голас беларуса. 1924. 25 сак.

24 сакавіка 1928 г. на адкрыцці Беларускага народнага тэатра ў Рызе ішоў спектакль «Паўлінка»[1].

Сярод шматлікіх пастановак п'есы прафесійнымі і самадзейнымі калектывамі ў 1920—1930 гг. асаблівую ўвагу заслугоўвае спектакль «Вечар беларускіх вадэвіляў» («Паўлінка», «Прымакі» і «Пінская шляхта»), які ажыццявіў БДТ-2 у Бабруйску, што адбыўся 12 чэрвеня 1936 г. На спектаклі прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас і М. Зарэцкі. Аўтар прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы пастаноўкі: прысутнічаў на рэпетыцыях, раіўся з акцёрамі і рэжысёрам П. Малчанавым.

Важна адзначыць, што ў працэсе падрыхтоўкі спектакля Я. Купала ўнёс некаторыя змены ў тэкст, якія былі выкліканы сцэнічнымі патрабаваннямі. На той перыяд вельмі істотнай з'яўлялася ўстаўка аб чытанні Якімам Сарокам «Песні аб сокале» М. Горкага. Усе зробленыя папраўкі былі ўлічаны пры выданні п'есы ў 1937 г. Беларускі пісьменнік І. Гурскі, які быў рэдактарам гэтага выдання п'есы, пісаў: «У 1937 г. Беларускаму аддзяленню Усесаюзнага Дома народнай творчасці імя Н. К. Крупскай было даручана выданне для самадзейнасці рада п'ес. Да мяне як старшыні секцыі драматургаў звярнуліся працаўнікі Дома за дапамогай. Я параіў у першую чаргу выдаць «Паўлінку». Мяне папрасілі пагаварыць з Іванам Дамінікавічам аб выданні яго п'есы, што ■ і зрабіў. Янка Купала ахвотна згадзіўся, пры гэтым зазначыў, што варта было б на тытульнай старонцы напісаць «з рэпертуару БДТ-2». Праз некалькі дзён ён прынёс экземпляр і папрасіў мяне быць рэдактарам п'есы. Я сказаў, што «можа, не рэдактарам, а адказным за выданне, таму што рэдагаваць няма патрэбы...». Я, зразумела, нічога не правіў, падпісаў да друку ў такім выглядзе, у якім яна мне была прынесена. Парады Янкі Купалы аб тым, каб напісаць «з рэпертуару БДТ-2», ■ выканаў. Помню, была ў мяне размова аб «Песні аб сокале» М. Горкага, чаго ў ранейшых выданнях не было. Янка Купала сказаў, што гэтага не было па цэнзурных меркаваннях». 20.V.1961 г. (ДзЛМЯнК, ф. I, воп. 5, адз. зах. 39, л.1).

Спектакль «Вечар беларускіх вадэвіляў» быў станоўча ацэнены аўтарам і крытыкамі. Першай інфармацыю аб прэм'еры дала газета «Літаратура і мастацтва» 17 ліпеня. Свае заўвагі пра пастаноўку выказаў мастак Б. Малкін на старонках гэтай жа газеты 26 ліпеня.

Не застаўся ўбаку і рэжысёр П. Малчанаў, які так пісаў аб гэтай падзеі: «Трэба проста сказаць: браўся я ставіць вадэвілі з некаторым хваляваннем. Па-першае, зайграны яны былі ў свой час і тэатрамі і гурткамі дашчэнту. Зложылася пэўная традыцыя, як трэба іграць «Паўлінку». Вядома, што Я. Купала да гэтага часу не заўсёды быў задаволены пастаноўкамі сваіх п'ес. Таму вельмі важнай з'явілася яго ацэнка рэжысёрскай трактоўкі П. Малчанавым зместу п'есы, якую Я. Купала выказаў на сустрэчы з супрацоўнікамі газеты «Камуніст»[2].

Сваімі ўражаннямі і слушнымі заўвагамі падзяліўся на старонках газ. «Літаратура і мастацтва» ад 26 ліпеня 1936 г. пісьменнік Б. Мікуліч.

У далейшым п'есе «Паўлінка» было наканавана доўгае сцэнічнае жыццё. Нават у гады Вялікай Айчыннай вайны БДТ-1 ажыццявіў пастаноўку п'ес «Паўлінка» і «Прымакі». Прэм'ера першай адбылася 23 мая 1944 г. у Томску, дзе тэатр знаходзіўся ў эвакуацыі.

---

[1] Полымя. 1928. № 3. С. 244.

[2] Камуніст. 1936. 16 мая.

У гады акупацыі «Паўлінка» была забаронена нямецкімі ўладамі. Захаваўся дакумент, які датычыцца праверкі п'есы[1]. У ім даецца пераказ зместу і выкладаюцца падставы з 3 пунктаў, з якіх робіцца вывад, што п'еса не можа быць пастаўлена.

Пасля вайны «Паўлінка» ішла ў пастаноўцы рэжысёра Л. Літвінава, дэкарацыі мастака Б. Малкіна, музычнае афармленне Я. Цікоцкага. Усе наступныя гады Беларускі акадэмічны тэатр імя Я. Купалы свой кожны тэатральны сезон пачынае з п'есы «Паўлінка», якаяператварылася ў своеасаблівы сімвал нацыянальнага мастацтва.

У 1952 г. на экраны выйшаў фільм-спектакль «Паўлінка» вытворчасці студыі «Беларусьфільм» (рэж. А. Зархі, сцэнарны план М. Лужаніна, мастак Е. Ганкін, кампазітары Я. Цікоцкі, Ю. Бяльзацкі, аператар А. Гінцбург).

На аснове п'есы ў 1973 г. Беларускім тэлебачаннем пастаўлены фільм «Пасля кірмашу» (рэж. Ю. Цвяткоў, сцэнарый А. Макаёнка).

На лібрэта А. Бачылы кампазітар Ю. Семяняка напісаў аперэту (1973).

Пераклалі: на рускую мову — І. Пікулеў, Л. Ракоўскі, на ўкраінскую — П. Тычына разам з Т. Масэнкам, на латышскую — У. Пігулеўскі, на чувашскую — Г. Яфімаў, на балгарскую — С. Уладзіміраў, на верхнялужыцкую — А. Наўка і К. Лоранц.

*Прымакі* (с. 182)

Друкуецца па Зб. тв., 1927, т. III з папраўкай у 26 радку на с. 183 па аўтографе. У асноўным тэксце было: *А яна — тут успамінаючы.*

Упершыню — газ. «Рунь», 1920, № 5—6, 7—8. Пад тэкстам: 31.VII.1913 г.

Друкавалася ў Зб. тв., 1932, т. III. Асобным выданнем п'еса выйшла ў 1936 г. (Усесаюзны дом народнай творчасці).

Захоўваюцца белавы аўтограф і машынапісны тэкст з аўтарскімі праўкамі (адз. зах. 351, л. 1—19; адз. зах. 352, л. 1—27). Пад тэкстам аўтографа і машынапісу дата: 31.VII.1913 г. Праўкі ў машынапісе зроблены чырвоным алоўкам: узноўлены пропускі, пастаўлены пытальнікі, клічнікі, літара «ў», кропкі над літарай «е».

Першапачаткова Я. Купала вызначыў жанр твора як «Жарт у 1-м акце». У далейшым (Зб. тв., 1927, т. III) — як сцэнічны жарт.

Як успамінаюць удзельнікі самадзейнасці, першыя пастаноўкі па п'есе адбыліся ў 1917 г. Але дакладныя звесткі пра гэта адсутнічаюць.

Іншыя звесткі аб пастаноўцы спектакля па п'есе адносяцца да 1922 г. Газ. «Савецкая Беларусь» ад 16 ліпеня паведаміла, што 9 ліпеня ў тэатры «Беларуская зорка» ў Мінску ставіліся «Прымакі» (рэцэнзія на спектакль Р. А. «Уражанні правінцыяла»).

У наступным годзе слухачы настаўніцкіх курсаў у Барысаве 16 ліпеня ажыццявілі пастаноўку п'есы (Сав. Беларусь. 1923. 20 ліп.).

10 лютага 1924 г. спектакль па п'есе паказаў культурна-асветніцкі гурток імя Я. Коласа вёскі Вялікая Ухалода Глівінскай воласці. Значнай падзеяй з'явілася прэм'ера ў БДТ-2 пад назвай «Вечар беларускіх вадэвіляў», якая адбылася 12 чэрвеня 1936 г. у Бабруйску. Тэатр ставіў п'есу «Паўлінка» і сцэнічны жарт «Прымакі». 13 мая ў складзе дэлегацыі беларускіх пісьменнікаў у Бабруйск прыехаў Я. Купала. Падчас знаёмства з творчай групай спектакля —

---

[1] Нацыянальны архіў РБ, фонд генеральнага камісарыята, спр. 401, л. 10. Пер. з ням. мовы.

мастакамі Л. Якунінай і Я. Мікалаевым, кампазітарам М. Красевым — аўтару былі паказаны эскізы і макеты дэкарацый. Я. Купала 14 мая наведаў рэдакцыю газ. «Камуніст», дзе выказаў меркаванні наконт маючага быць спектакля: «Прысутнічаючы на рэпетыцыі маіх п'ес у Другім беларускім тэатры, слухаючы музыку да іх, я мяркую, што спектакль будзе ўдачны. Акцёры для выканання падабраны ўдала. Рэжысёр Малчанаў правільна трактуе змест п'есы. Адчуваецца, што ў яго пастаноўцы спектакль будзе гучаць паўнакроўнасцю вобразаў» (Камуніст. 1936. 16 мая).

Прэм'ера адбылася 12 чэрвеня. Як паведамляла газ. «Літ. і мастацтва» ад 17 чэрвеня 1936 г., на ёй прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас і М. Зарэцкі. У праграме вечара вадэвіляў, акрамя п'ес Я. Купалы, была і «Пінская шляхта» В. Дуніна-Марцінкевіча.

Тагачасная прэса станоўча ацаніла прэм'еру «Вечар беларускіх вадэвіляў». Сваімі ўражаннямі падзяліліся на старонках газ. «Літ. і мастацтва» ад 26 ліпеня 1936 г. мастак Б. Малкін, пісьменнік Б. Мікуліч і рэжысёр пастаноўкі П. Малчанаў.

Адгукнулася на прэм'еру і газета «Чырвоная змена» ад 21 ліпеня 1936 г. (П-ў. «Вечар вадэвіляў у БДТ-2»).

Пераклалі: на рускую мову — А. Пракоф'еў, на польскую — С. Артоўскі.

### *Раскіданае гняздо (с. 204)*

Друкуецца па Зб. тв., 1927, т. III з праўкамі па белавым аўтографе.

*С. 213*

18 толькі трохі нагу прыпсаваў *замест* толькі нагу прыпсаваў

37 на вечныя мукі, вечныя здзекі *замест* на вечныя мукі, здзекі

*С. 217*

27 выхаду ніякага павек сабе не знойдзе *замест* выхаду павек сабе не знойдзе

*С. 235*

12—13 Мы не прыблуды якія, што чужым потам жыўлюцца, *замест* Мы не прыблуды якія.

*С. 239*

24—25 Звядуць гэтыя ночы, гэтыя чорныя птушкі *замест* Звядуць гэтыя чорныя птушкі.

*С. 258*

7 сцежкай няпраўды і бяспраўя *замест* сцежкай няпраўды

Гэтыя праўкі былі ўнесены ў тэкст п'есы ўпершыню складальнікамі папярэдняга Збору твораў (1972—1976). Рэдкалегія дадзенага выдання пагадзілася з унесенымі зменамі. Аналіз правак паказаў, што недакладнасці з'яўляліся друкарскімі памылкамі ў першым асобным выданні п'есы, якія затым перайшлі ў Збор твораў, 1927, т. III.

Упершыню — асобнай кнігай: «Раскіданае гняздо». Вільня: Выдавецтва Менскага камісарыята асветы, 1919. Пад тэкстам: Акопы. 4.IX 1913 г.

У першадруку драмы ёсць наступная аўтарская разгорнутая характарыстыка дзеючых асоб:

«Лявон Зяблік — пажылы гаспадар, кульгавы, гадоў пад 50.

Марыля — яго жонка, нараклівая, але станаўкая кабеціна, замучаная жыццём, худая, гадоў 48.

Дзеці Зябліка ў:

Сымон — 24 г. Дужы і здаровы мужчына, у самым расцвеце лет. Горды і адважны. Знае сабе цану і верыць у сваю сілу і моц. Відаць

з усяго, што ён трымаў гаспадарку ўсю ў сваіх руках. Зямля для яго ўсім чыста на свеце, і за гэту зямлю гатоў пайсці на самыя страшныя рэчы. Калі з паднятай галавешкай ідзе ў свет, кажучы апошнія словы: «Па Бацькаўшчыну!», то здаецца, што гэта волат-асілак узняўся з зямлі, каб цэлым светам здрыгануць.

Зоська — 18 г. Кволая дзяўчынка, пранікнутая містычнасцяй, меланхалічная, як бы ад свету гэтага адарваная. Гаворыць часта тое, што і сама добра не разумее, як бы ў экстазе ці ў паўсне якім. Любіць яснату і кветкі. Душа ўражлівая, неадгадная. Не можа пагадзіць акружаючага, будняга і трывожнага жыцця з сваімі думкамі-снамі напаўдзяцінымі. Носіць беларускую вопратку.

Данілка — 14 г. Разумны хлопец не па сваіх гадах, чамусьці лічаць яго скарэй за дурнаватага, чымся за разумнага. Цікавіцца ўсім чыста, але часта неўпапад задае пытанні. Яму ўсе патураюць, мала зварочваюць на яго асобу ўвагу.

Аленка 7 г. і Юрка 6 г. — Худзенькія, босыя, толькі ў кашульках дзеці. Ува ўсіх актах драмы найбольш нема паміж сабой гуляюць або спяць.

Старац — гадоў 70. Абчапаны торбамі. Відаць, што ўсе яго любяць і шчыра вітаюць. Дабрата і спакой б'е з яго твару. Крыху згорбіўшыся ад старасці. Гаворыць проста, без лішняй жабрацкай жаласлівасці.

Паніч — гадоў 23, адзеўшыся па-панску, не брыдкі. Відаць, што многа аб сабе думае. Ходзіць з палкай у руках, якой у часе гутаркі памахвае.

Незнаёмы — гадоў 35. Крапячы мужчына. Вопратка на ім чорная, крамная. Гаворыць крыху, з палачкай, з суважнай павагай, цвёрда. Верыць у тое, што гаворыць, і ў голасе чутно, што не нагаварвае, а скарэй загадвае. З усяго відаць, што чалавек ён поўны ідэі, у якую сам верыць і якой хацеў бы, каб цэлы свет напоўніўся.

Двое дворных людзей».

У канцы характарыстыкі дзеючых асоб ёсць допіска: «Рэч дзеецца ў 1905 г. Першы акт у хаце, а рэшта чатыры — на руіне тае-ж самае хаты».

У Дзяржаўным Літаратурным музеі Я. Купалы захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 353, л. 1—51). Пад тэкстам памета: Акопы, 4/IX 1913 г. У аўтографе даецца пералік дзеючых асоб без падрабязнай характарыстыкі.

У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 13.IV 1919 г. Я. Купала пісаў: «Служу ў Камісарыяце асветы бібліятэкарам пры Беларускім народным доме. Літаратурна-выдавецкі аддзел узяў у друк маё «Раскіданае гняздо» (ужо друкуецца ў Вільні)».

Асобнае выданне п'есы з'явілася да чэрвеня 1919 г., аб чым сведчыць першы водгук на п'есу за подпісам: А-віч, які быў змешчаны ў газ. «Беларускае жыццё» (1919, 5 чэрв.). Публікацыя п'есы была адзначана і газетай «Звязда» ад 11 красавіка 1921 г.

Адным з першых, хто адгукнуўся на выданне п'есы, быў З. Бядуля (Беларусь. 1919. № 33 (60), 28 лістап.)[1].

Свае разважанні наконт п'есы З. Бядуля пачынае з агульнай заўвагі аб тым, «што паэту-лірыку рэдка калі ўдаюцца драматычныя

[1] Гэты артыкул не трапіў у апошні Збор твораў З. Бядулі ў 5-і тамах.

творы». Таму аўтар лічыць п'есу не драмай, а паэмай, пры гэтым адзначаючы як станоўчую якасць «бясспрэчна мастацкага твора» той факт, што ў ім лірыка і сімволіка «вытрымана болей гарманічна, як ва ўсіх другіх творах нашага паэта». Асаблівую ўвагу З. Бядуля звяртае на мову дзеючых асоб, у гутарках якіх «іскравяць праўдзівыя перлы Купалаўскай паэзіі». І далей працягвае: «Хто ведае псіхіку беларуса-селяніна, той добра знае, якія паэтычныя творы льюцца вольна з душы беларуса ў часе гора, або вяселля... Дзеючыя асобы «Раскіданага гнязда» ўжываюць тыя самыя цудоўныя орнаменты вобразных параўнанняў, як і ў нашай народнай паэзіі». На думку аўтара артыкула, «...драма Я. Купалы напоўнена гэткай паэзіяй у прозе». Нават з прыведзеных урыўкаў можна зрабіць вывад, што ў п'есе «Купала-лірык пераважае над Купалай-драматургам».

У канцы артыкула З. Бядуля звяртае ўвагу на сацыяльны аспект п'есы: «У гэтай драме мы выразна бачым эмблему «раскіданага гнязда» ўсяго беларускага народа; знішчана наша слаўная мінуўшчына, растоптана гаспода наша нагамі чужынцаў, і здзекуюцца суседзі над нашай нацыянальнай душой. Але сярод хмар і буры, як волат, устае наш Прарок».

Разважанні З. Бядулі наконт п'есы пэўным чынам пераклікаюцца з меркаваннямі М. Гарэцкага, выкладзенымі ім у «Гісторыі беларускае літаратуры» (1922). Даследчык адносіць «Раскіданае гняздо» да другога творчага перыяду, які вызначаўся артыстызмам і сімвалізмам паэмы «Сон на кургане». «Змест для драмы аўтар узяў з рэальнага жыцця, але кожны вобраз і кожную гутарку зрабіў сімвалічнымі». Далей М. Гарэцкі, як і З. Бядуля, звяртае ўвагу на паэтычную, сімволіка-вобразную мову дзеючых асоб, якая вызначаецца музыкальнасцю, рытмічнасцю і купалаўскім лірызмам. «Усё гэта,— на думку пісьменніка,— складае вялікія мастацкія вартасці твора». Назву п'есы М. Гарэцкі разглядаў як «сімвал раскіданай Беларусі з часоў пярэдадня сусветнай вайны і сацыяльнай рэвалюцыі». Ён аддае належнае рэвалюцыйнай прадбачлівасці Купалы, але лічыць, што паэт «не мог даць у сваёй драме ідэйнага правадырства, роўнага ў поўнай меры яе артыстызму»[1].

Грунтоўны аналіз п'есы зрабіў І. Замоцін у прыгаданым вышэй артыкуле «Беларуская драматургія. Драматычныя творы Я. Купалы». Вызначыўшы тэму драмы як тэму «вялікага сацыяльнага зместу» і «высокай драматычнай вартасці», аўтар звярнуў увагу на адсутнасць драматургічнай кампазіцыі. І. Замоцін пісаў: «...у п'есе няма яскрава выражанай завязкі, кульмінацыйнага ўздыму дзеяння і яго развязкі». Названыя пралікі ў кампазіцыйнай пабудове п'есы, на думку аўтара, робяць яе «не зусім сцэнічнай».

Доўгае сцэнічнае жыццё п'есы ў далейшым абвергла сумненні І. Замоціна наконт яе сцэнічнасці. Вяртаючыся да тэмы драмы, аўтар артыкула выказаў думку аб тым, што «...п'еса не толькі ставіць вялікую сацыяльную тэму, але і развівае яе да межаў аналізу цёмных бакоў дарэвалюцыйнага сацыяльнага быту». Не засталася па-за ўвагай І. Замоціна і мова п'есы: «...нягледзячы на некаторую складанасць стылю, п'еса зацікаўлівае багаццем лексікі, яскравай і жывой народнай фразеалогіяй, вобразнасцю і задушэўнасцю мовы». Паводле стылю І. Замоцін лічыць п'есу сімвалічнай, але «не па драматургічнай архітэктоніцы»[2]. Гэтая асаблівасць робіць яе бліжэй да п'ес Чэхава, чым да п'ес Салагуба або Андрэева.

---

[1] Гарэцкі М. Гісторыя беларускае літаратуры. С. 338.
[2] Узвышша. 1927. № 1.

Сцэнічнае жыццё п'есы пачалося ў Мінску ў ліпені 1917 г., на 2 гады раней за яе выхад у свет. Пастаноўку драмы ажыццявіла Першае беларускае таварыства драмы і камедыі па аўтарскім рукапісе (рэжысёр Ф. Ждановіч). Другая пастаноўка адбылася ў 1919 г. у Вільні для беларускага славянскага з'езда Гродзеншчыны і Віленшчыны. Спектакль быў паказаны тым жа калектывам.

14 красавіка 1921 г. Беларускі дзяржаўны тэатр (у далейшым тэатр імя Я. Купалы) паказаў прэм'еру п'есы. На пастаноўку п'есы адразу адгукнулася газ. «Звязда» (1921, 16 крас.): «Цудоўная п'еса, якая ідзе цяпер у Беларускім дзяржаўным тэатры лепшага беларускага паэта Я. Купалы, глядзіцца з глыбокай увагай... Яго твор, паэтычныя вобразы з іх тонкімі душэўнымі хваляваннямі клічуць да нянавісці і пагарды».

П'еса карысталася поспехам у самадзейных і аматарскіх калектывах. Так, у 20-я гады ў Латвіі Дзвінскі беларускі народны тэатр ставіў яе некалькі разоў.

У 30-я гады ў тэатрах змяніліся ідэалагічныя арыенціры, і п'еса выпала з рэпертуару нацыянальных тэатраў.

Я. Купала балюча ўспрымаў недаацэнку яго твора. У 1937 г. пры сустрэчы ў Гомелі з акцёрам Другога беларускага дзяржаўнага тэатра Ц. Сяргейчыкам паэт сказаў: «Ты, Цімашок, калі-небудзь успомніш мае словы. Я памру, але «Раскіданае гняздо» займе яшчэ на сцэне сваё пачэснае месца і загаворыць на поўны голас. Я ўклаў у гэтую п'есу лепшае, што было ў маёй паэзіі і прозе»[1].

Цікавасць грамадскасці да драматургіі Я. Купалы праявілася ізноў ужо ў 1940 г. Адначасова ў газ. «Літаратура і мастацтва» і «Віцебскі рабочы» ад 8 снежня 1940 г. з'явіліся артыкулы І. Гутарава і І. Дорскага. Раней у часоп. «Полымя рэвалюцыі», № 1 (М. Модэль. Агляд беларускай драматургіі) падкрэслівалася значэнне купалаўскай драматургіі і яе месца ў развіцці гэтага жанру. Не выключана, што БДТ-2 меў намер ажыццявіць пастаноўку п'есы. Але гэтаму перашкодзіла вайна. І толькі 30 снежня 1951 г. адбылося новае нараджэнне драмы ў Віцебску на сцэне Беларускага дзяржаўнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Ролю Лявона Зябліка выконваў Ц. Сяргейчык. Спектакль быў прысвечаны 25-годдзю тэатра. У 1955 г. у час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве п'еса была паказана гэтым жа тэатрам.

90-годдзе з дня нараджэння Я. Купалы (1972) Беларускі дзяржаўны ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічны тэатр імя Я. Купалы адзначыў пастаноўкай п'есы. Сталічная і абласная прэса на сваіх старонках змясціла артыкулы, прысвечаныя спектаклю.

Паводле п'есы ў 1981 г. на студыі «Беларусьфільм» быў пастаўлены фільм «Раскіданае гняздо». Аўтары сцэнарыя Б. Луцэнка і Г. Бекарэвіч. Пастаноўка Б. Луцэнкі, аператар Ю. Елхаў, мастак В. Назараў, кампазітар С. Картэс.

*Тутэйшыя* (с. 263)

Друкуецца па Зб. тв., 1927, т. III.

Упершыню — Полымя, 1924, № 2, 3 з аўтарскім вызначэннем: «Трагічна-смяшлівыя сцэны ў 4-х дзеях». Пад тэкстам: Акопы. 31.VIII 1922 г. Да публікацыі ў часопісе Я. Купала зрабіў заўвагу: «Перадрук і пастаноўка на сцэне без згоды аўтара забараняецца».

---

[1] Сяргейчык Ц. Нататкі акцёра. Мн., 1973. С. 247.

Трэці том першага Збору твораў, 1927 г. у хуткім часе пасля выхаду быў забаронены. У другім Зборы твораў, 1928—1940 гг. п'еса ўжо не трапіла ў адпаведны том і пры жыцці паэта больш не друкавалася.

Першае паведамленне аб тым, што Я. Купала напісаў новую камедыю «Тутэйшыя», з'явілася ў часоп. «Полымя» (№ 1) яшчэ ў 1922 г. А 30 верасня 1923 г. газ. «Савецкая Беларусь» паведамляла, што ў сярэдзіне тэатральнага сезона будзе пастаўлена п'еса Я. Купалы «Тутэйшыя». У наступным годзе Саюз працаўнікоў мастацтва разам з гуртком самадзейнасці БДТ-1 ужо абмяркоўвалі п'есу з мэтай яе пастаноўкі.

У Беларускім дзяржаўным тэатры адносіны да твора былі розныя, вакол яго разгарэліся спрэчкі. «Група акцёраў на чале з рэжысёрам Е. Міровічам выступала супраць пастаноўкі камедыі, матывуючы сваё рашэнне яе несцэнічнасцю. Шэраг беларускіх пісьменнікаў, увогуле дзеячаў культуры, настойваў на тым, каб «Тутэйшыя» набылі тэатральнае жыццё...»[1]

Нарэшце тэатр уключыў п'есу ў свой рэпертуар. За пастаноўку п'есы ўзяўся вядомы рускі рэжысёр М. А. Папоў, які ў 1925—1926 гг. узначальваў БДТ-1.

У 1932 г. у Маскве А. Есакоў, будучы студэнтам Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва імя А. В. Луначарскага, запісаў гутарку з М. А. Паповым. Рэжысёр таксама прыгадваў, «што ў калектыве тэатра да купалаўскай п'есы адносіліся па-рознаму. Адны лічылі яе цікавым, але не сцэнічным літаратурным творам, другія выказвалі думкі, быццам п'есу не варта ставіць»[2].

У Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва (ЦГАЛИ, Масква) захоўваецца рэжысёрскі экземпляр п'есы, падараваны аўтарам рэжысёру М. А. Папову з подпісам на тытульным лісце: «Шчыра паважанаму т. М. А. Папову на добры ўспамін. 26.VII 26 г. Менск».

Па ініцыятыве У. Ф. Луцэвіч усе рэжысёрскія паметкі і купюры былі перанесены ў III т. Збору твораў, 1927 з наступным запісам: «Купюры з рэжысёрскага экземпляра М. А. Папова 1926 г. БДТ-1, дзе ён ставіў гэтую п'есу. ЦГАЛИ, ф. 837, опись № 2, единица хранения № 10». У названай кнізе ёсць яшчэ адна заўвага: «Простым алоўкам адзнакі рэжысёрскага экземпляра Папова, чырвоным — А. Есакова»[3].

Відавочна, што заўвагі і купюры, зробленыя М. А. Паповым, перанёс у кнігу А. Есакоў, які дэталёва вывучыў матэрыялы асабістага архіва рэжысёра, аб чым сведчыць падрабязнае іх апісанне ў кнізе «Янка Купала і беларускі тэатр».

Трэці том Збору твораў (1927), куды былі перанесены рэжысёрскія паметы і заўвагі, А. Есакоў называе копіяй маскоўскай кнігі. З такім вызначэннем нельга пагадзіцца, бо на самай справе гэта не фотакопія і не ксеракопія. Але бясспрэчна толькі тое, што кніга з'яўляецца важным крыніцазнаўчым дакументам, значэнне якога цяжка пераацаніць.

Першыя паметкі датычацца спіса дзеючых асоб, дзе пазначаны прозвішчы акцёраў, якім рэжысёр меркаваў даручыць выкананне ролі пэўных персанажаў. Так, Мікіту Зносака павінен быў іграць Г. Грыго-

---

[1] Полымя. 1988. № 9. С. 17.

[2] Есакоў А. Янка Купала і беларускі тэатр. Мн., 1972. С. 118—119.

[3] Кніга захоўваецца ў ДзЛМЯнК (КП 519-д/кн. 66).

ніс, Янку Здольніка — У. Крыловіч, Алёну — Грамыка. У астатніх ролях: У. Уладамірскі, А. Ілынскі, Б. Платонаў, Э. Шапко і інш.

Аналізуючы рэжысёрскія адзнакі і скарачэнні, можна зрабіць вывад, што М. А. Папоў нядрэнна разбіраўся ў грамадска-палітычнай абстаноўцы і добра разумеў ідэалагічныя ўстаноўкі тагачаснай улады, якая распачынала вострую барацьбу з так званай нацдэмаўшчынай за чысціню пралетарскай культуры. Вось некалькі прыкладаў рэжысёрскіх купюр:

«Янка. Мы як бы пачынаем ужо адплюшчваць вочы і паўставаць проці тэй паганай маны, што мы не ёсць мы. Але яшчэ хістаемся то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты не можам сабе ўявіць. А мэта ў нас адна: калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасць, напісалі на сваім сцягу несмяротныя словы: «Амэрыка для амэрыканцаў». І гэта памагло: сягоння Амэрыка вольная. Павінны пайсці і мы па яе слядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сцягу: «Беларусь...»

«Янка. Якімі б раскошамі матэрыяльнымі нас ні надзялялі, ніколі яшчэ не будзем шчаслівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага не было, мы павінны растаптаць, зніштожыць доўгавечную ману, якая вучыць, што мы не ёсць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім «я», у сваёй самабытнасці і смела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім «я».

«Мікіта. ...Не маючы што рабіць, інтэрнацыянальная інтэлігенцыя выдумала гэты нейкі нацыянальны беларускі язык, а вы хацелі б заставіць нас, руска-існіную, меджду протчым, інтэлігенцыю сушыць над ім свае апошнія мазгі».

Прыведзеныя купюры робяць справядлівым вывад даследчыка І. Жука, што п'еса «... прадзіралася да тэатральных падмосткаў праз шматлікія і адвольныя праўкі, купюры, зробленыя пастаноўшчыкамі»[1].

Тэатразнавец А. Сабалеўскі выказаў нават меркаванне аб тым, што няўдача пастаноўкі магла быць выклікана значнымі скарачэннямі, якія «чамусьці рабіў намеснік дырэктара тэатра нехта А. Матусаў»[2].

Пытанне аб няўдачы пастаноўкі больш складанае, чым можа паказацца на першы погляд. І тут найбольш цікавымі з'яўляюцца выказванні самога рэжысёра М. А. Папова: «Выпадак з «Тутэйшымі» паказаў мне, што ўздзеянне сцэнічнае можа быць ацэнена толькі тады, калі п'еса ўжо ідзе — у гэтым сіла паказу: да спектакля ўсе, хто чытаў п'есу, лічылі яе не толькі нязначнай па змесце, але нават не сцэнічнай. Я ж рэжысёр, які не мае нічога агульнага з беларускім нацыяналізмам, даў плоць і кроў персанажам Янкі Купалы... даў у сваёй пастаноўцы такую дзейсную сцэнічную карціну, якая іграла на руку нацыяналістам...»[3]

Такім чынам, няма неабходнасці тлумачыць ліст Ф. М. Ждановіча да М. А. Папова ад 14 студзеня 1927 г., у якім ён паведамляе аб тым, што п'еса знята, і дадае: «Купала будзе яе перарабляць»[4].

---

[1] Жук І. У перакрэсці гісторыі /Назіранні вакол «Тутэйшых» праз літаратурныя ацэнкі 20-х гадоў // Рэспубліканскія Купалаўскія чытанні / Матэрыялы навуковай канферэнцыі. Гродна, 1996. С. 87.

[2] Полымя. 1988. № 9. С. 18.

[3] Есакоў А. Янка Купала і беларускі тэатр. С. 123.

[4] Тамсама. С. 125.

Паводле адзінадушнага прызнання гісторыкаў, літаратуразнаўцаў і крытыкаў, сцэнічны лёс п'есы аказаўся вельмі складаным і пакутлівым. На працягу больш дзесяці гадоў п'еса не сыходзіла са старонак закрытых сакрэтных партыйных дакументаў.

Афіцыйная крытыка адразу абвінаваціла Я. Купалу ў значных ідэйных недахопах і праявах «дробнабуржуазнага народніцтва»[1].

П'еса ператварылася ў знакавы твор, які ўвасабляў негатыўныя з'явы ў літаратуры, мастацтве і, наогул, у культуры.

Адным з першых водгукаў на п'есу быў артыкул У. Дзяржынскага (У. Чаржынскага), змешчаны ў першых двух нумарах часоп. «Полымя» за 1925 г. Ужо ў гэтым артыкуле адчувалася неадназначнасць у ацэнцы п'есы. На думку У. Чаржынскага, крытычныя заўвагі ў адрас п'есы маглі быць як з боку літаратараў-наватараў, так і тых, хто прытрымліваўся класічных форм.

Нягледзячы на тое, што п'еса пабудавана па схемах, даследчык упэўнены ў тым, што гэтая схематычнасць не шкодзіць ёй. У. Чаржынскі ўбачыў у «драматычнай будове» твора ўплыў «мальераўскага генія на глебе беларускага пісьменства»[2].

Лейтматывам п'есы аўтар даследавання лічыў «бічаванне смехам нашага недалёкага мінулага, а часткай мо і сучаснага»[3].

У. Чаржынскі выразна акрэсліў кола спрэчных пытанняў, звязаных з так званымі недахопамі твора. Гэта перш за ўсё залішняя карыкатурнасць, рэзанёрства, якое нібыта пераважае над жывой дзеяй, і наогул несцэнічнасць п'есы. Але апошні недахоп, паводле слушнага меркавання аўтара, «справа больш тэатральная, чымся літаратурная»[4].

Падкрэсліваючы станоўчыя моманты ў п'есе, У. Чаржынскі справядліва адзначыў: «З літаратурнага боку п'еса цікавая, багатая, а што найважней, цалкам арыгінальная па сваёй драматычнай канцэпцыі на беларускай глебе».

Даследчык прыйшоў да высновы, што і ў п'есе Я. Купала застаўся на пазіцыях «мастацкага рэалізму» і элементы неакласіцызму не паўплывалі негатыўна на твор, бо яны «бліжэй да рэалізму, чымся да рамантыкі»[5].

Выказванні У. Чаржынскага выклікалі спрэчкі з боку крытыка-маладнякоўца А. Бабарэкі, які «не прымаў не столькі Я. Купалу, колькі саму ідэю У. Чаржынскага лічыць «Тутэйшых» беларускай сучаснасцю»[6]. Выступаючы супраць «адраджанізму», прадстаўніком якога, на думку крытыка, з'яўляўся Я. Купала, А. Бабарэка адстойваў новы кірунак у развіцці савецкай літаратуры — «маладнякізм», якому ўласцівы іншы погляд на сучаснасць. Трэба адзначыць, што ў спрэчках вакол п'есы пераважалі не ацэнкі мастацкіх вартасцей твора, а погляды на мастацтва прадстаўнікоў розных літаратурных груповак.

Рыхтуючы чацвёртае выданне «Гісторыі беларускае літаратуры», 1926 г., М. Гарэцкі да характарыстыкі драматургічных твораў Я. Ку-

---

[1] Звязда. 1922. 17 верас.

[2] Полымя. 1925. № 1. С. 159.

[3] Тамсама. С. 152—153.

[4] Тамсама.

[5] Тамсама. С. 153.

[6] Жук І. У перакрэсці гісторыі / Назіранні вакол «Тутэйшых» праз літаратурныя ацэнкі 20-х гадоў // Рэспубліканскія купалаўскія чытанні. С. 88.

палы дапісаў некалькі слоў пра п'есу «Тутэйшыя», дзе вызначыў яе жанр як камедыя: «У гэтай камедыі Янка Купала малюе жыццё на Беларусі за перыяд вайны, акупацый, рэвалюцыі. Тут ён дае класічныя карыкатуры «ўсходняга» і «заходняга» вучонага, мастацкія тыпы свядомых настаўнікаў-адраджэнцаў, чыноўнікаў, рэнегатаў і да т. п.»[1]. У дакладзе на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу (1926) пісьменнік яшчэ раз спыніўся на гэтым творы, адзначыўшы, у які перыяд Я. Купала пісаў сваю камедыю «Тутэйшыя». М. Гарэцкі падкрэсліў, што аўтар праводзіць у п'есе «ідэі беларусізацыі», але ў ёй адсутнічае «гераізм эпохі». І далей працягвае: «...і я думаю — не толькі таму, што ў гэтым жанры ён не можа быць, бо Я. Купала раней ужо паказаў сябе ў драме п'есаю «Раскіданае гняздо». У 1924 г., з далучэннем да БССР Усходняе Беларусі, Я. Купала зноў гарыць полымем творчасці. Злосць яго супроць ворагаў нацыянальнай беларускай культуры змяншаецца, і ён піша нізку вершаў «Безназоўнае»[2].

Відаць, М. Гарэцкі ведаў, якія «хмары» збіраліся над п'есай. Вось чаму ў яго выступленні яўна адчувалася жаданне, гаворачы сучаснай мовай, вывесці Я. Купалу з-пад удару ці па магчымасці зменшыць яго сілу.

Разгорнуты аналіз п'есы даў І. Замоцін. Спачатку аўтар артыкула спыніўся на сюжэце п'есы, які «павінен быць прызнаны блізкім да жыцця, хоць у дэталях ён можа паказацца вельмі надуманым...». І прычына, як сцвярджаў І. Замоцін, у тым, што гэтыя дэталі апрацаваны «не заўсёды жыццёва».

Пасля няўдалай пастаноўкі п'есы на сцэне твор выклікаў шэраг сур'ёзных крытычных заўваг, якія, паводле меркавання аўтара, датычацца «ідэалагічнага асвятлення» тых гістарычных падзей, што адбываліся на Беларусі ў перыяд 1918—1920 гг. Адным з істотных недахопаў І. Замоцін лічыў адсутнасць станоўчага героя, бо, «паказваючы адмоўныя бакі дарэвалюцыйнага быту, аўтар не паставіў супроць ім даволі выразна дадатных бакоў новага быту, і чытач, высмейваючы разам з аўтарам старое, не бачыць новага ў яго значных праявах»[3].

Не адмаўляючы п'есе ў мастацкасці, І. Замоцін адзначыў таленавітую манеру Я. Купалы «маляваць жывыя характары, яскравыя сцэны, глыбокія настроі». Але, на думку аўтара даследавання, драматургу не зусім удалася спроба пабудаваць сатырычную камедыю ў карыкатурна-фарсавых танах. У заключэнні І. Замоцін выказаў шкадаванне, што «з-пад пяра Я. Купалы да гэтага часу не з'явілася вялікай рэальна-бытавой драмы або камедыі». Так І. Замоцін завяршыў свой артыкул «Беларуская драматургія. Драматычныя творы Я. Купалы». Пад тэкстам стаяла дата: 14.XI 1926. А 16 лістапада г.г. п'еса была знята з рэпертуару тэатра. Артыкул быў апублікаваны ў 1927 г. у № 1 часоп. «Узвышша» і непасрэднага ўздзеяння на забарону спектакля, магчыма, і не аказаў. Але адмоўныя водгукі і крытычныя заўвагі ў адрас пастаноўкі п'есы спрыялі той шырокамаштабнай ідэалагічнай кампаніі, якая знайшла сваё адлюстраванне ў неапублікаваных у той час партыйных дакументах і пастановах.

Дзякуючы карпатлівай рабоце Р. Платонава ў Нацыянальным архіве сёння ёсць магчымасць уявіць дакументальную хроніку забароны Купалавай п'есы, якую аўтар зафіксаваў у кнізе «Лёсы».

---

[1] Гэтыя сказы ў кнізе набраны дробным шрыфтам.

[2] Сав. Беларусь. 1926. 20 лістап.

[3] Узвышша. 1927. № 1.

Вось што ён піша: «...Драма неўзабаве пасля яе пастаноўкі ў Першым Беларускім драматычным тэатры ў 1926 г. была знята з рэпертуару. Знята Галоўлітам раптоўна, без папярэдніх узгадненняў з Наркамасветы, чыёй структурай Галоўліт з'яўляўся»[1]. Адбылося гэта ў час работы Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі, якая пачала сваю работу 14 лістапада, а п'есу цэнзура зняла 16 лістапада, у ёй «былі ўбачаны мастацка-афармленыя элементы нацыянал-дэмакратызму»[2].

19 лістапада 1926 г. адбылося папярэдняе абмеркаванне п'есы на пашыраным пасяджэнні калегіі аддзела друку ЦК КП(б)Б. Гэта быў апошні дзень работы Акадэмічнай канферэнцыі. Р. Платонаў прыводзіць тэкст «Протокола № 29 расширенного заседания коллегии отдела печати ЦК КП(б)Б от 19 ноября 1926 г.»[3]. У ім адзначалася, што пасля першай пастаноўкі п'есы «Тутэйшыя» калегія Галоўліта была вымушана зняць яе з прычыны неадпаведнага зместу. У пастанове, якая мела 8 пунктаў, падкрэслівалася, што прыняцце да пастаноўкі п'есы ў такім выглядзе, у якім яна была напісана, з'яўляецца значнай памылкай. Яшчэ большай памылкай была механічная забарона п'есы пасля таго, як адзін спектакль ужо адбыўся. Адзначалася, што гэта акцыя часовая і будзе дзейнічаць да радыкальнай перапрацоўкі п'есы, якую лічаць неабходнай. Рэкамендавана аўтару перапрацаваць п'есу і «дамагчыся, каб адпаведнае пісьмо Я. Купалы з'явілася на старонках нашага друку».

Вельмі істотным у пастанове з'яўляўся пункт, у якім указвалася на неабходнасць перапрацоўкі п'есы і яе далейшай пастаноўкі на сцэне ў бліжэйшы час.

Аналізуючы выступленні прысутных на калегіі, можна заўважыць, што існавалі розныя погляды на п'есу. Аб гэтым гаварылася і ў палітычнай справаздачы ЦК X з'езду КП(б)Б.

На пасяджэнні бюро ЦК 3 снежня 1926 г. не ўдалося прыняць пастанову па п'есе «Тутэйшыя» па прычыне «ўвязкі» пытання «са становішчам на літаратурным фронце наогул і літаратурнай палітыкай партыі ў сувязі з ажыўленнем дробнабуржуазнага нацыяналізму ва ўмовах «разгорнутага НЭПа». Пастанова разглядалася разам з вынікамі Акадэмічнай канферэнцыі і справай галоўнага рэдактара газеты «Беларуская вёска».

17 снежня 1926 г. дапрацаваная рэзалюцыя па «Тутэйшых» была прынята. Вось некалькі пунктаў з яе: «Признать, что постановкой пьесы «Тутэйшыя», которая заключает в себе элементы национал-демократизма, Наркомпрос, ГПП, Главлит и театр допустили политическую ошибку» і «Считать возможным постановку пьесы на сцене после ее радикальной переработки автором и после того, как переработанная пьеса будет принята к постановке соответствующими органами»[4].

Здавалася, што далейшы лёс п'есы вызначаны і пытанне будзе знята з парадку дня. Але ў гэты час барацьба з праявамі так званага нацыянал-дэмакратызму пачала абвастрацца. І ў 1928 г. п'еса ізноў з'явілася ў партыйных дакументах.

30 сакавіка 1928 г. адбылося пасяджэнне бюро ЦК КП(б)Б. Вось вытрымкі з даклада Галоўліта: «Тутэйшыя» — сатырычныя сцэнкі

---

[1] Платонаў Р. Лёсы. Мн., 1998. С. 9.
[2] Тамсама. С. 10.
[3] Нацыянальны архіў, ф. 4, воп. 16, спр. 22, л. 66—68.
[4] Нацыянальны архіў, ф 4, воп. 16, спр. 33, л. 173.

з менскага жыцця ў перыяд 1918—1920 гг. На фоне цэлага шэрагу адмоўных тыпаў (быўшы паліцэйскі, быўшы чыноўнік, поп, дама і г. д.) адзіны станоўчы тып, рэзанёр Янка Здольнік, беларускі народны настаўнік. Гэты герой з моцна выражанай народніцкай афарбоўкай не пазбаўлены моцнага нацыяналістычнага духу. Палітычныя перакананні яго крайне падазроныя. Уся п'еса перапоўнена як замаскіраванымі, так і яўнымі выпадамі супроць Савецкае ўлады».

Адносна зняцця гэтае п'есы з рэпертуару БДТ-1 было шмат спрэчак. Аб гэтай п'есе стаяла пытанне на бюро ЦК КП(б)Б, дзе прызналі, што рашэнне Галоўліта было правільным.

А крытыка працягвала абмяркоўваць твор на старонках рэспубліканскага друку. У прыватнасці крытык Тодар Глыбоцкі, які засяродзіў увагу на праблеме мяшчанства. Разам з тым Т. Глыбоцкі адзначыў актуальнасць п'есы, бо, сапраўды, існуе беларуская тутэйшасць. Аналізуючы вобраз Мікіты Зносака як зборны тып «тутэйшых», у якім увасобіўся «калектыўны партрэт беларускіх «тутэйшых»[1], крытык вызначыў найбольш важную іх рысу: жывучасць. У гэтым крытык бачыў сур'ёзную небяспеку для беларускай літаратуры, беларускага мастацтва, на якіх «тутэйшыя» ўжо «вядуць наступ». Недахопам п'есы Т. Глыбоцкі лічыў адсутнасць у ёй «дадатных тыпаў». Тое, што крытык не ўбачыў у творы станоўчага тыпа, можна растлумачыць, на думку даследчыка І. Жука, аб'ектыўнай прычынай: «Станоўчым тыпам у той час... мог лічыцца толькі тып пралетарыя — рабочага. А яго ў Купалавай п'есе не было».

Ішоў 1929 год. І пра п'есу, яе сацыяльнае гучанне і ідэалагічную скіраванасць загаварылі ў Маскве. Загадчык культпрома ЦК КП(б)Б А. А. Сянкевіч у дакладзе ў Камуністычнай акадэміі, палемізуючы з крытыкам У. Чаржынскім наконт сучаснасці п'есы, сказаў: «Паглядзім, якую сучаснасць бічуе сваім смехам Я. Купала ў «Тутэйшых». «Тутэйшыя» даюць малюнак акупацыі Беларусі, прычым Купала падводзіць час побыту бальшавікоў на Беларусі пад паняцце акупацыі. Значыць, у драме «Тутэйшыя» ён бічуе нашу савецкую рэчаіснасць, ён падымае на шчыт свайго смеху бальшавікоў, якіх ён у гэтым творы ставіць на адну дошку з польскімі акупантамі». Такое абвінавачванне не магло застацца без вынікаў. Падзеі наступнага года з'явіліся лагічным працягам цкавання народнага паэта.

Я. Купала ў 1930 г. быў выкліканы ў ДПУ на допыт. У сваіх паказаннях наконт п'есы «Тутэйшыя» паэт напісаў: «В 1922 г. мною была написана пьеса «Тутэйшыя», в которой я задавался целью высмеять приспособляющегося чиновника и отобразить в шутливой форме некоторые моменты переходного времени. Пьеса эта была поставлена в театре наспех и непродумана и прошла незаметно. Возможно, не все места в ней и я сам как следует оформил. Вообще пьеса эта не удалась мне»[2].

Што датычыцца абвінавачванняў у прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі, Янка Купала катэгарычна адвяргаў: «Я яшчэ раз заяўляю, што да ніякай контррэвалюцыйнай арганізацыі не належаў і не збіраюся належаць»[3]. Гэтыя паказанні паэта датуюцца 15 лістапада 1930 г., а праз некалькі дзён Янка Купала спрабуе разві-

---

[1] Глыбоцкі Т. Пра нашы літаратурныя справы. Мн.: БДВ, 1928. С. 223.
[2] ДзЛМЯнК (КП 15994 / А 610).
[3] Тамсама.

таццa з жыццём. Вось што пісаў ён 20 лістапада ў лісце да Старшыні ЦВК СССР і БССР т. А. Чарвякова: «Уміраю, прымаючы тое, што лепей смерць фізічная, чымся незаслужаная смерць палітычная. Відаць, такая доля паэтаў»[1].

З 1927 г. п'еса не друкавалася, а з 1926 г. не ставілася. У 1982 г. да стагоддзя з дня нараджэння Янкі Купалы ў Магілёўскім абласным драматычным тэатры рэжысёр В. Маслюк зрабіў спробу інсцэніраваць п'есу разам з драматычнай паэмай «Адвечная песня». «П'еса займала другі план кампазіцыі, а яе тэкст быў значна скарочаны»[2]. Спектакль ставіўся ў Мінску і Магілёве адзін раз. Нягледзячы на станоўчыя водгукі ў рэспубліканскім друку (А. Сабалеўскага, К. Кузняцовай, В. Ракіцкага, Т. Гаробчанкі), пастаноўку ў той час забаранілі[3].

У пачатку 80-х гадоў рэдкалегія зборніка «Спадчына» зрабіла спробу апублікаваць п'есу «Тутэйшыя» з прадмовай А. Макаёнка. Але гатовы да друку набор зборніка ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» быў раскіданы[4].

Публікацыя п'есы пасля амаль 60-гадовага перапынку адбылася толькі ў 1988 г. у часоп. «Полымя», № 9. Уступны артыкул належаў тэатразнаўцу А. Сабалеўскаму.

Сучасныя даследчыкі імкнуліся глыбей пранікнуць у аўтарскі замысел, адказаць на шматлікія пытанні, звязаныя з трагічным лёсам п'есы. Забарона з 1926 г. негалосна працягвала існаваць: «Ізноў мы сустракаемся з феноменам «дзіўнай напаўзабароны» твора...»[5] — пісаў крытык П. Васючэнка.

Па вызначэнні В. Каваленкі, «гэта асаблівая забарона». Даследчык справядліва адзначыў, што забарона «ўзнікла ў выніку скажэння мэт і задач усёй літаратурнай думкі і склалася ў выніку спалучэння прафесійнай некампетэнтнасці, татальнай баязлівасці і разліковага кар'ерызму». На думку даследчыка, «нявіннае быццам замоўчванне таксама ўмацоўвала сітуацыю забароны»[6].

У наступным годзе п'еса была ўключана ў кнігу «Янка Купала. Паэмы. Драматычныя творы» (Мн., 1989). Значнае месца ў пасляслоўі, напісаным В. Каваленкам, займае разгляд п'есы «Тутэйшыя». Даследчык з уласцівай яму глыбінёй прааналізаваў твор. Прыйшоў час даць твору аб'ектыўную ацэнку: «Думаецца, аб'ектыўнаму разуменню зместу «Тутэйшых» у нейкай меры перашкаджала і не зусім дакладнае вызначэнне іх жанравай формы. Жанр п'есы чамусьці лічыўся сатырычнай камедыяй, хоць сам Янка Купала падкрэсліваў трагедыйны лад п'есы, назваўшы яе «трагічна-смяшлівымі сцэнамі»[7].

Выказанае меркаванне падтрымаў і даследчык П. Васючэнка, падкрэсліўшы, што калі аўтар назваў п'есу «трагічна-смяшлівымі сцэнамі», то ўжо наспела неабходнасць высветліць, «адкуль, дзеля чаго гэты пануры, трагічны смех?». І адказвае на пастаўленае пытанне наступным чынам: «Гістарычныя падзеі, адбітыя ў творы, пазнаюцца,

---

[1] ДзЛМЯнК (КП 15993 / А 609).

[2] Роднае слова. 1998. № 10—11. С. 61—62.

[3] Васючэнка П. Драматычная спадчына Янкі Купалы. Мн., 1994. С. 146.

[4] Рагойша В. Вяршыні. Мн., 1991. С. 64—65.

[5] Васючэнка П. Драматычная спадчына Янкі Купалы. С. 145.

[6] Каваленка В. Эпічная сіла паэтычнага слова // Янка Купала. Паэмы. Драматычныя творы. Мн., 1989. С. 486.

[7] Тамсама. С. 492.

што называецца, у твар. Але вось рух гэтых падзеяў... У той знарочыстай манатоннасці, з якой чаргуюцца «палітычныя сытуацыі», з якой малююцца наступы і адступленні акупантаў, праглядаецца якаясьці злавесная бясконцасць, на якую нібыта заведзены гадзіннік гісторыі»[1].

Разглядаючы праблему «тутэйшасці» як з'яву сацыяльную, даследчык справядліва сцвярджае, што «тутэйшасць» у тым выглядзе, у якім яна паўстае ў п'есе «Тутэйшыя»,— гэта ўжо дэфармацыя, у выніку якой унутраны змест дадатнай якасці памяняўся на негатыўны, звыродлівы»[2].

У 1989—1990 гг. літаратуразнаўцы і крытыкі са значным спазненнем ацанілі твор як значную з'яву мастацтва і адзінадушна прызналі, што, нягледзячы на тое, што «праблема нацыянальнага самавызначэння» стаіць у Купалы ў цэнтры твора, няма ніякіх падстаў лічыць п'есу «Тутэйшыя» нацыяналістычным творам». І. Навуменка справядліва падкрэсліў: «Купалу ўвогуле ніколі не быў уласцівы вузкі, нацыяналістычны пагляд на жыццё, было чужым пачуццё нацыянальнай нянавісці, варожасці да іншых народаў»[3].

У 1990 г. да 70-гадовага юбілею тэатра імя Янкі Купалы рэжысёр М. Пінігін ажыццявіў пастаноўку п'есы «Тутэйшыя». Прэм'ера адбылася 17 кастрычніка і прайшла з вялікім поспехам.

На ўкраінскую мову п'есу пераклаў В. Сідарэнка.

---

[1] Васючэнка П. Драматургічная спадчына Янкі Купалы. С. 153.

[2] Тамсама. С. 150.

[3] Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. Мн., 1999. С. 164.

# АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК[1]





[1] Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ЗМЕСТ[1]



### ДРАМАТЫЧНЫЯ ПАЭМЫ



### П'ЕСЫ



---

[1] **Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.**

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў: У 9 т. Т. 7. Драм. паэмы і п'есы.— Мн., Маст. літ., 2001.— 399 с. [4] л. іл.

ISBN 985-02-0269-6.

У сёмы том Збору твораў Янкі Купалы ўвайшлі драматычныя паэмы і п'есы.

**УДК 882.6-1**
**ББК 84(4Беи6)**



Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў у дзевяці тамах*

**Том 7**

*Драматычныя паэмы і п'есы*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч.* Мастак *М. Р. Казлоў.* Мастацкі рэдактар *Л. І. Мележ.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктары *Н. І. Мірончык, Я. Ф. Харко, Я. А. Бебель.*

Здадзена ў набор 12.07.2000. Падпісана да друку 04.01.2001. Фармат $84\times108^{1}/_{32}$. Папера афсетная № 1. Гарнітура Літаратурная. Высокі друк з ФПФ. Умоўн. друк. арк. 21,00+0,42 укл. Улік.-выд. арк. 20,46. Тыраж 5800 экз. Заказ 1269.

Падатковая льгота — Агульнадзяржаўны класіфікатар Рэспублікі Беларусь АКРБ 007-98, ч. 1; 11.11.300.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 11.09.2000. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Паліграфкамбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, Чырвоная, 23.

ISBN 985-02-0269-6

